16+

# МАЛАДОСЦЬ

падпісныя індэксы
індывідуальны - 74957
ведамасны - 749572
льготны - 00731
льготны
для настаўнікаў - 00592

ISSN 0131 2308
07/2017



Маладосць 07/2017

Таму, хто думае

у нумары:

**«Золак...» Янкі Брыля**
Эвалюцыя ідэі

**Псіхалагічнае наватарства Кнута Гамсуна**
З нагоды серыі «Noblesse Oblige»

**Гродна для Зоф'і Налкоўскай**
і Гродзеншчына ў лістах Элізы Ажэшкі

**Канцэпцыя руху наперад**
Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы



*Адукацыя – найлепшае багацце!*

УА «Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы»
УНП 500037559

**Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы**




07

16+

**Штомесячны літаратурна-мастацкі**
**і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**(764) ЛІПЕНЬ, 2017**

**Выдаецца з 1953 года**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ**

Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013,
Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005,
Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэл.: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.
maladost@zviazda.by

**http://zviazda.by/be/edition/maladosc**
**Група VK: https://vk.com/club75787481**

*ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:*

*00592 — індывідуальны льготны для настаўнікаў*

*74957 — індывідуальны*

*749572 — ведамасны*

*00731 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 16 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец:

рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»

Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: *Н.І. САВЕЛЬЕВА*
Дызайн вокладкі: *Н.І. САВЕЛЬЕВА*
Стылістычны рэдактар: *Г.І. ВЕРАБЕЙ*
Падпісана да друку 13.07.2017. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$.
Папера лёгкамелаваная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк.17,12. Тыраж 1642 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП №02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск,
Рэспубліка Беларусь

Змест

## КАЛУМНІСТЫКА



## ПАЭЗІЯ



## ПРОЗА



## КРЫТЫКА



## ПУБЛІЦЫСТЫКА



## ПРАЕКТ «ВАРШТАТ» *Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання*



## З БОГАМ


Гродна. Гарадская забудова. Фота Уладзіміра Цвіркі.

Трэба падрыхтавацца да таго, што, трапіўшы ў гэты горад, можна ім не натхніцца. Не палюбіць яго, не захварэць ім, як іншыя, што былі тут да вас.

Занадта ён складаны, непрадказальны, з норавам. Занадта жывы. Як чалавек, з якім вы можаце не супасці.

Будзеце шукаць патрэбнае месца — абавязкова заблукаеце: ён заблытае вас у сваіх вулках, жартуючы, смеючыся. Захочаце ўбачыць у ім як мага больш цікавага (Стары і Новы замкі, Каложа, Фара, аптэка-музей, заапарк, дом Ажэшкі…) — абавязкова нешта не паспееце і шмат не паспееце: ён, зноў жартуючы, смеючыся, ссуне межы часу, да немагчымага хутка прыспешыўшы ваш ад’езд.

Хочаце перавесці вашы з ім стасункі ў плоскасць прыязнасці і рамантычнага хвалявання? Тады чытайце тут, як ставіцца да яго без лішніх сантыментаў (як Эліза Ажэшка ставілася), як наталіць сваю творчасць яго нават самай маркотнай праўдай (як Зоф’я Налкоўская наталіла), як існаваць у ім не сёння, а ўчора і пазаўчора (на прыкладзе гісторыка-археалагічнага музея), як быць у ім акцёрам (раўненне на драмтэатр), як у ім вучыцца (разгарніце старонкі пра тутэйшы ўніверсітэт і адну вельмі ўтульную школку), як у ім працаваць (як мы ў ім папрацавалі, рыхтуючы гэты нумар) і як кахаць. Апошняе — скразная лінія: без кахання не ствараецца ніводзін нумар «М».

*Закаханыя «М»ы*



**Дзмітрый Шулюк**

## Смык ля скроні

*«...Лепш бы нарадзіліся не мы,*
*а зязюлі».*
***Вальжына Морт***

Вар'яцкая скрыпка даследуе вушныя ракавіны. Спрабуе пракапа́ць новыя каналы-звіліны, пакінуўшы на карце памяці старыя. Вар'яцкая скрыпка звязвае мае рукі струнамі. Разрывае вены на маленькія сінія трубачкі. Застаецца хвалямі ў лужыне — чырвонай, быццам морс. А я сціскаю пальцы на гэтых гуках. Сціскаю так, што адчуваю касцявы мозг. Сціскаю так, што вырываю сябе ў свет. Я — раб гэтай музыкі. Я — фанатык гурта Garmarna. Вар'яцкая скрыпка ўзяла мяне ў палон. Прыставіла смык да скроні. А я ў адказ усміхаюся. Усё мацней прыціскаю скронь да смыка. Усё мацней. З любоўю да тых рук, што трымаюць яго, трымаюць мяне. Гэта мой стакгольмскі сіндром.

Стакгольмскі сіндром. Магчыма, хтосьці не ведае, пра што размова. Што я маю на ўвазе. Пад дадзеным тэрмінам хаваецца ўзаемная ці аднабаковая сімпатыя, якая ўзнікае паміж ахвярай і агрэсарам у працэсе захопу і выкарыстання (ці пагрозы выкарыстання) гвалту. Пад уздзеяннем моцнага шоку заложнікі пачынаюць спачуваць сваім захопнікам, апраўдваць іх дзеянні, атаясамліваць сябе з імі, пераймаючы іх ідэі і лічачы сваю ахвяру «неабходнай» для дасягнення «агульнай» мэты.

Жыў-быў сабака Тарзан. Добры быў сабака. Разумны. Любіў свайго гаспадара. Пасвіў яму жывёлу, калі той не мог. Вартаваў пакінутыя без догляду рэчы. Брахаў на мінакоў, якія выглядалі падазрона нахабна альбо гарэлі жаданнем увайсці ў двор. А гаспадар у падзяку біў яго палкай. Моцна біў. У падзяку ж. Не проста так. Біў так, што часам сабака ледзь поўзаў па зямлі. Але любіў свайго гаспадара. Гатовы быў за яго каго хочаш загрызці. Шчаслівы быў ад любой праявы пяшчоты, ад любога дотыку. Не палкай. Рукой. Памёр Тарзан у васямнаццаць гадоў. Старым сабакам. Старым шчаслівым сабакам. Шчаслівым ад таго, што гаспадар побач. Што ён можа працаваць на гаспадара. Што гаспадар заўважае яго. Б'е.

Стакгольмскі сіндром — механізм псіхалагічнай абароны, заснаваны на спадзяваннях ахвяры на тое, што атрымаеш паблажку ад агрэсара пры ўмове безумоўнага выканання ўсіх яго патрабаванняў. Таму палонны намагаецца прадэманстраваць паслухмянства, лагічна апраўдаць дзеянні захопніка, атрымаць ад яго пахвалу і заступніцтва.

Жыў-быў хлопчык Валерка. Добры быў хлопчык. Ціхі. Любіў сваіх сяброў. Апляваны, пабіты, аблаяны. Бегаў за імі. Куды ж яму без іх. Што ж ён адзін. Якое ж жыццё без стасункаў з грамадствам. Нават калі гэтыя стасункі — пляўкі, удары, лаянка. Затое часам не было пляўкоў. Часам не было ўдараў. Часам не было лаянкі. Вось гэта было сапраўднае шчасце. Гэта было сапраўднае жыццё. Валерка ў такія моманты (імгненні) дзякаваў Богу за тое, што той паслаў яму такіх сяброў. І, не прагаворваючы ўголас, дзякаваў сябрам за тое, што церпяць яго. Апошні раз я бачыў Валерку, калі яму было васямнаццаць. Ён быццам не змяніўся. Быў з сябрамі. Ціхі. Шчаслівы.

Са школы мы памятаем дзіўную птушку зязюлю. Памятаем, што ў ёй такое дзіўнае. Памятаем, што цікавая яна не толькі сваім «ку-ку», якім, здаецца, адлічвае тэрміны нашых жыццяў.

Цікавая асаблівымі адносінамі да тэмы «бацькі і дзеці». Зязюля падкідвае свае яйкі ў чужое гняздо. І зязюліных дзяцей сустракае на гэтым свеце іншая маці. Маці, якая будзе іх карміць, гэтых выродлівых вялізных птушанят. Зязюля ж не думае пра тое, што гаспадыня гнязда, будучая маці зязюліных дзяцей, — маленькая птушачка. Зязюля інстынктыўна ведае, што так правільна. Што яна ўсё робіць правільна. А тая маленькая птушачка таксама ведае, што ўсё робіць правільна. І корміць монстра, не зважаючы на тое, што яе сапраўдных дзетак ён выкінуў, каб атрымаць больш. Яна лётае вакол. Хвалюецца. Магчыма, нават разумее: штосьці не так. Але яна павінна гэтаму агрэсару. Яна павінна быць яго палоннай. Бо другога жыцця няма.

Жыла-была дзяўчынка Света. Добрая была дзяўчынка. Разумная. Кніжкі любіла чытаць. І тату любіла. Хоць і часцей казала сабе адваротнае. Казала, што вырасце і ўцячэ абавязкова. Будзе жыць у горадзе. Гомелі ці Мінску. І ніколі больш не вернецца да яго. Тата быў мужчынам. Сапраўдным мужчынам. Такім, што і да слупа прыдзяўбецца, і ў карове жанчыну ўбачыць, калі іншай паблізу не знойдзе. Тата дачку амаль не біў. Крыху. Затое ціснуў на яе моцна. Дысцыпліна павінна быць дысцыплінай. Тата дачку амаль не біў. А калі біў, то наносіў толькі адзін моцны ўдар, каб ведала, і баялася, і паважала. Тата ведаў, што «страх» і «павага» — гэта словы-сінонімы. Апошні раз я бачыў Свету, калі ёй было васямнаццаць. Мы разам ехалі ў аўтобусе. Яна да таты з торцікам, а я да сяброў. Яна казала, што тата радуецца, калі яна прыязджае, што тое, што было ў дзяцінстве, — не трэба згадваць, што ўсё ў іх добра. Але я не верыў. І зараз не веру.

Мне здаецца, што мы зборышча звязаных між сабой марыянетак. Быццам усе мітусімся, варушымся, штосьці робім, а насамрэч гэта вецер. І ўсе мы залежым ад ветру. Няма ветру — няма руху. Вецер — прымус. Пад прымусам рухаюцца ўсе. Рухаюцца пад прымусам, бо інакш не ўмеюць. Толькі ўсе разам. Без ніякіх жаданняў, мэт, амбіцый. З любоўю да ветру, які рве на кавалкі, разрывае рукі і ногі, цягне да прорвы, кідае аб сцены, аб зямлю, адно аб адно.

Жыў-быў адзін народ. Добры народ. Са сваімі святымі і злодзеямі. Са сваімі тыранамі і мудрымі кіраўнікамі. Са сваімі пісьменнікамі і мастакамі, багатымі і беднымі. Са сваімі традыцыямі і наватарствам. Са сваёй культурай і мовай. І трапіў гэты народ выпадкова ў пастку. Адразу ў адну, пасля ў другую, пасля ў трэцюю. Быў народ народам, а зрабіўся часткай чагосьці вялікага, «сапраўднага». Трапіў у палон да гаспадара, таты, сяброў. І ўвесь народ быў абрабаваны і пазбаўлены нават права звацца народам. Пазбаўлены права на сваіх святых і злодзеяў, тыранаў і мудрых кіраўнікоў, пісьменнікаў і мастакоў, багатых і бедных, традыцыі і наватарства, культуру і мову. Сёння гэты народ зноў незалежны. Незалежны. Бачыць сны пра той час, калі ён быў часткай чагосьці вялікага, «сапраўднага». Глядзіць на фотаздымкі і відэазапісы з палону і марыць вярнуцца туды, у той час.

Вар'яцкая скрыпка адрывае мне галаву. Вар'яцкая скрыпка ператвараецца ў вецер. Дзесяць мільёнаў марыянетак танцуе, ствараючы віхраслуп. У цэнтры яго — мая галава. І смык. Смык ля скроні. Прыціскаецца ўсё мацней да скуры. Смык ля скроні. Прыціскаецца ўсё мацней да чэрапа. Смык ля скроні. Прыціскаецца ўсё бліжэй да мозга. Угрызаецца ў маю свядомасць. Высмоктвае яе. Змешвае з гукам. Вылівае маю свядомасць на віхраслуп з марыянетак. Я раблюся імі, а яны — мной. Я ніколі не сыду. Я застануся тут.

Sitter som på vakt
På en väg förutan ände
Vakar över allt som blivit sagt
Skådar över hav
Land och vida stränder
Blickar over skepp som gå i kvav

*Garmarna — шведскі фолк-рок-квінтэт. Іх мелодыі шалёныя, голас Эмы Хердэрлін нагадвае часам скрыпку, а скрыпка часам нагадвае голас. Незвычайнасць, нетрадыцыйнасць, інавацыйнасць прыкрывае скандынаўскія міфы, прымушае іх жыць па-новаму, а слухача аддаць сябе добраахвотна ў рабства гэтай музыцы.*



**Анхела Эспіноса Руіз**

## Слаўнае слова на літару «Ф»

Футбол. Так-так, дарагія чытачы, правільна вы прачыталі. Не фанабэрыя, нават не фемінізм (ну, не сёння), а футбол. Гэтым разам я хачу напісаць менавіта пра яго. Насамрэч ужо некалькі месяцаў планую такі тэкст і нарэшце адважылася рэалізаваць свой план.

Я цікаўлюся футболам. Не, гэта не жарсць майго жыцця, і я не ведаю кожнага футбаліста кожнага клуба, кожны нумар кожнага гульца. Я мяркую, што гэта, хоць і няблага, неабавязкова для таго, каб любіць футбол пасапраўднаму. Я разумею правілы (можаце даравацъ сабе сэксісцкі жарт пра *offside*: я ведаю, што гэта такое і калі наступае) і, самае галоўнае, адчуваю эмоцыі гульні. У Іспаніі, дзе я нарадзілася, футбол называюць каралём усіх відаў спорту, ён істотная частка нашай культуры. Падыміце руку, хто думае пра некультурных хуліганаў, калі гаворка ідзе пра футбол, а не пра паэтак. Ну і дарма!

Першыя ўспаміны пра футбол у мяне звязаныя з маім нябожчыкам дзядулем. Чалавек хварэў за Бэтыс, а гэта, кожны іспанец ведае, значыць, што ён хутка прывык да паразы. Але для яго, як і для мяне, самай галоўнай падзеяй быў Чэмпіянат свету. Напэўна, калі вы думаеце пра іспанскі футбол, вам прыходзіць у галаву тая легендарная каманда, у якой быў і гэты чэмпіянат, і два еўрапейскія адзін за другім. А нам — не. Ну, мне крышку, але не бацькам з дзядулем. Яны перажывалі за тую Іспанію, якая, нібы праклятая, ніколі не праходзіла далей за чвэрцьфінал.

Ну, а як думаеце, мой дзядуля быў хуліганам? А вось і не! Калі памятаеце папярэднія калонкі, то ведаеце: дзядуля Нікалас працаваў у міжнародным выдавецтве, жыў у Калумбіі пяць гадоў, чытаў (як і бабуля) неверагодна шмат кніг і быў чалавекам вялікай культуры. Нават скажу больш: маляваў ён таксама чароўна, быў чэмпіёнам у шахматах і фехтаванні. «Дзіўна», — нехта мог бы сказаць, — «што такі чалавек губляў свой час на тое, каб глядзець футбол». А футбол, *my friend*, таксама ёсць культура. Футбол, як і любы від спорту, аб'ядноўвае людзей, дае ім радасць нават у цяжкасцях. Дзядуля ніколі не пераставаў хварэць за любімы Бэтыс, нават у апошнія дні свайго жыцця.

Футбол, як казаў Том Брэдзі, — гэта безумоўная любоў. Гэта камандная праца, калектыўны поспех. Гэта ўсмешка падчас паразы, здольнасць паціснуць руку тым, хто сёння гуляў лепш, альбо каму капрызнае Шчасце сёння ўсміхнулася, як бывае. Для некаторых дзяцей (падумайце пра бразільскія фавэлы) футбол — гэта шанец на лепшае жыццё, годнае жытло для бацькоў, якасную ежу, ды й не толькі. Гэта доказ таго, што няважна, адкуль ты і ці нарадзіўся бедным і нязначным: можна дасягнуць і вялікіх грошай, і славы. І зразумейце мяне: грошы і слава — не галоўнае тут, а менавіта магчымасць іх атрымаць. Вера ў тое, што ўсё дасягальнае. Абсалютна ўсё. У іншых асяродках, для дарослых людзей, футбол можа азначаць фізічную актыўнасць і лепшае здароўе (мой дзядзька вельмі доўга гуляў у футбол), сустрэчы з сябрамі, пазітыўныя эмоцыі. У жыцці і так дужа шмат негатыва. Асабліва сярод дарослых, якія ўжо не супрацiўляюцца маральнай старасці. Іх, на вялікі жаль, многа нават сярод дваццацігадовых. А маленькая доля радасці ад гульні ніколі не зашкодзіць, праўда? Часам яна можа і выратаваць жыццё.

Я казала, што іспанская футбольная каманда знаходзілася пад дзіўным праклёнам і заўжды вярталася дадому пасля чвэрцьфіналу, няважна, якія

былі статыстычныя разлікі перад чаканым усімі *Mundial de fútbol*. А давайце паразмаўляем пра той раз, калі Іспанія прайшла далей. Я заўжды буду памятаць чэмпіянат у Паўднёвай Афрыцы. Быў 2010 год нашай эры, а ў Іспаніі было горача, як ніколі. І ў простым сэнсе, і ў фігуральным. Пасля перамогі ў Еўропе (я знаходзілася ў ЗША падчас фіналу супраць Нямеччыны) людзі пачалі верыць у тую цудоўную каманду. У самыя цяжкія моманты эканамічнага крызісу, калі шмат людзей згубіла працу, дом і надзею, здалося, што толькі яны, футбалісты, маглі перамагчы і вярнуць хоць крышку магіі дзяцінства ў жыццё простых людзей.

Ва ўсялякім разе іспанцы (у тым ліку і я) здзіўляліся кожнай сусветнай перамозе. Чэмпіянат Еўропы, канешне, гэта добра, і файна, і супер, але да Паўднёвай Афрыкі ўсе еўрапейскія краіны падрыхтаваліся лепей, даехалі Аргентына, Бразілія... Бразілія ж! Ну, а іспанскі праклён наўрад ці проста знік. Альбо..?

Магу сказаць з упэўненасцю, што іспанскія перамогі былі важныя не толькі для іспанцаў, а для ўсіх фанатаў якаснага, эмацыйнага футбола. Быў (і ёсць) у мяне адзін беларускі сябар, які тады працаваў у Венесуэле па размеркаванні. Ён там апынуўся, бо цудоўна ведаў іспанскую мову (мы насамрэч пачалі камунікаваць на ёй), англійскую і іншыя замежныя, вось і перакладаў розныя дакументы для фірмы. Гэта неістотна. Істотна тое, што ён знаходзіўся далёка ад сваёй сям'і і сяброў. Памятаю, падчас чэмпіянату ён яшчэ і трошкі хварэў, сумаваў. Але на чвэрцьфінал Іспанія-Парагвай устаў з ложка, патэлефанаваў па скайпе ды глядзеў разам са мной і маёй сям'ёй. Мяркую, і ён не забыў яшчэ легендарнае «штанга-штанга-ГОЛ!» Давіда Вільї на 83-й хвіліне гульні, якім Іспанія канчаткова пазбавілася старажытных забабонаў.

Што ж я магу сказаць пра фінал? Пра фінал, падчас якога мы ўсёй сям'ёй смяяліся і плакалі (так, мы вельмі эмацыйная сям'я!). Мы разумелі, што гэта гістарычны момант для краіны, нягледзячы на вынік матча. Весяліліся і пакутавалі ўсе 117 хвілін. Не ведаю, ці памятаеце, але матч быў доўгі (для нас — тым больш!). Я прыходзіла і адыходзіла (на кухню нешта паесці, у пакой пайграць на піяніна), глядзела фрагментарна, бо нервы мяне елі. Помню, тата сядзеў нібы спакойна і

Не мае значэння, хто галасаваў апошні раз за сацыял-дэмакратаў, хто за праваліберальных; хто слухаў рок, хто джаз, а хто рэгетон (не гугліце гэта, яно жудаснае); не мае значэння, хто верыў у Бога, хто ў Алаха, а хто проста ў добры футбол. Усе былі разам. Усе думалі: «Мы пераможам»

глядзеў. Перад канцом афіцыйных 90 хвілін ён звярнуўся да мяне з братам (брату было тады толькі 12 гадоў) і сказаў: «Я ведаю, што мы пераможам». Менавіта «мы». Так. Уся краіна білася, як адно вялікае сэрца. Не мае значэння, хто галасаваў апошні раз за сацыял-дэмакратаў, хто за праваліберальных; хто слухаў рок, хто джаз, а хто рэгетон (не гугліце гэта, яно жудаснае); не мае значэння, хто верыў у Бога, хто ў Алаха, а хто проста ў добры футбол. Усе былі разам. Усе думалі: «Мы пераможам». І дзякуючы выдатнай стратэгіі Іньесты так і было — мы перамаглі. Уяўляеце, якое свята было на вуліцы? Натуральна, тата потым прызнаўся, што нічога ён не ведаў і ніякай упэўненасці ён не меў, але перад дзецьмі выглядаў фантастычна, ці не так? Ён быў для нас той так патрэбнай бацькоўскай фігурай, якая з вопыту пацвярджае, што вера ў найлепшае — станоўчая якасць.

Дзядуля пайшоў з жыцця занадта рана. Ён не пачуў крыкі «ГОЛ!» з суседніх дамоў. Не бачыў таго моманту, калі гудзелі машыны пасля доўгай, цяжкай гульні. Не бачыў феерверкі ў небе над цёплым морам нашага горада. А можа, і бачыў. Скажу вам па сакрэту: у той дзень я заўважыла, як мой бацька, перакананы атэіст, паглядзеў на неба, туды, дзе, кажуць, свецяць зоркі — душы тых, каго з намі ўжо няма. Паглядзеў уверх і прашаптаў: «Тата, мы перамаглі».

І тады ўсе іспанцы зразумелі, што калі каманда здолела перамагчы, яны таксама здолеюць знайсці новую працу, здаць апошнія іспыты ў верасні, вырасці і стаць лекарамі, астранаўтамі, вучонымі. Зразумелі, што параза — гэта толькі досвед, які дапаможа ў шляху да поспеху. Зразумелі, што мары і надзеі маюць сэнс...




Канстанцін Касяк

## Ліхтар, які вісіць на рагу вуліцы

Я люблю юбілеі, але не свае. Мне вельмі падабаецца шырокі размах! Сёлета гораду, у якім я нарадзіўся і вырас, спаўняецца 950 гадоў, а футбольнаму клубу, колерам якога я адданы, — 90 гадоў. Мне ж стукнула ўсяго толькі 30.

Па гістарычных мерках — імгненне. Але пагаварыць ужо ёсць пра што. Хоць я і стараюся не адзначаць свае «дні народзін»: ужо шмат гадоў запар імкнуся не прагінацца пад ціскам сяброў ды знаёмых. І часам гэта добра ўдаецца. Гэтым разам планую не здраджваць уласнай традыцыі. Хоць гэта, безумоўна, не так лёгка…

Зараз мне больш падабаюцца не шумныя кампаніі і гармідар, а адзінота — калі ёсць мажлівасць і час спыніцца на гадзіну-другую, падумаць. Спакойна азірнуцца вакол сябе і непрадузята ацаніць сваё месца ў свеце.

Хто б мог падумаць,
што жыццё — гэта хутка?

Нават калі ўсе вакол круцяць
пальцам ля скроні — трэба ісці
сваім шляхам

Люблю выйсці на праспект увечары, каб прайсціся начным горадам. Пасядзець у цэнтры на алейцы. Можна і не тэлефанаваць — абавязкова каго-небудзь сустрэнеш. Цяпер па вечарах у горадзе шматлюдна. Гуляюць маладзейшыя, шукаюць прыгод…

Як хутка бяжыць жыццё — чым далей, тым болей яно набірае разгон. Здаецца, толькі нядаўна адбылося нешта, а задумаешся — дык ужо і дзесяць гадоў прабегла. Як імгненне. Мы змяніліся, сталі дарослымі, у многіх з'явіліся ўласныя сем'і. Хто б мог падумаць, што ***жыццё — гэта хутка***?

Не так даўно адзін мой знаёмы адлічбаваў мне некалькі відэакасет. На іх былі сямейныя запісы. Яшчэ з тых дагістарычных часоў, калі ў модзе былі відзікі. Цяперашняя моладзь і не ведае, відаць, пра такі агрэгат.

Сярод іншага — я ў чацвёртым класе, а потым праз пяць гадоў — ужо ў дзявятым, першы выпускны. Цікава глянуць на сябе самога праз такі адрэзак часу. На сваіх сяброў і аднакласнікаў.

Калісьці, гадоў 15 таму, у Малінаўцы жыла мая дзяўчына. Я ездзіў да яе на спатканні амаль праз увесь горад на тралейбусе. Бачыліся мы ці не штодня, таму ў мяне было шмат часу і магчымасцей, каб добра разглядзець навакольны ландшафт. Шкада, не было сваёй камеры — добрае б зняў кіно! Потым мы разышліся, былі іншыя дзяўчаты, будучая жонка, вяселле. А не так даўно жыццё зноў закінула ў гэты раён. Выйшаў на Пятроўшчыне — і не пазнаў. Змяніўся Паўднёвы Захад кардынальна. І не толькі ён. Вельмі добра гэта бачна з Галерэі TUT.BY, калі завітаць туды на якую літаратурную імпрэзу.

Я вырас на іншым ускрайку горада. Не жыву там прыкладна столькі ж,

колькі пражыў, і бываю там вельмі рэдка. На полі каля маёй першай школы, у якой я некалі малым набіраўся жыццёвага досведу, выраслі сучасныя гмахі.

Зусім побач, у двары дома, дзе жылі мае сябры, стаялі металічныя сталы для настольнага тэніса. Па вечарах ля іх збіралася процьма народу: хтосьці прыходзіў гуляць, нехта проста паглядзець. За гаражамі, па якіх мы гойсалі і гулялі ў квача, таксама паўсталі гмахі. Выраслі новыя дрэвы, старыя спілілі. Змяніліся жыхары. Усё гэта не захапіла камера аператара, які нас здымаў...

Цяпер усё дагары нагамі. Выходзячы на прабежку, стаўлю ў плэеры рэп. Раней і падумаць пра такое не мог. Натуральна, што я часта вяртаюся ў думках у часы юнацтва. Не, не пакутую на настальгію. Хаця і без яе не абыходзіцца. Я проста згадваю, *што было* і *ніколі ўжо* не ўдасца вярнуць, пражыць нанова. Бо ў адну раку, як вядома…

Мае сябры… Адных ужо няма, другія вельмі далёка. Няпроста з імі звязацца, нялёгка іх адшукаць. Надзейна схаваліся ў сацыяльных сетках. Не выхапіць з людскога патоку нават пры вялікім жаданні. Сціраюцца з памяці твары, забываюцца падзеі, мінаюць дні…

Цаніць сапраўднае сяброўства я навучыўся толькі цяпер. Калі сапраўдных сяброў засталося некалькі чалавек. Не так шмат засталося і добрых знаёмых, з якімі прыемна выпадкова сустрэцца ў горадзе ды перакінуцца парай слоў або каму прыемна напісаць добры ліст. Гады ў рады бачыш, але ўсё адно адчуваеш, ці застаўся чалавек сваім. Гэта важна!

Але яшчэ больш важна: не губляць веры ў мару, ідэю. Без яе жыццё губляе яркасць. Ператвараецца ў проста існаванне, пазбаўленае сэнсу. Няма куды расці, няма да чаго імкнуцца. Нават калі ўсе вакол круцяць пальцам ля скроні — трэба ісці сваім шляхам.

Па праўдзе кажучы, я шкадую пра многае. Напрыклад, што не вучыў у школе французскую мову належным чынам. Мог бы цяпер чытаць французскую класіку ў арыгінале. Ну, хаця б Селіна! У яго, безумоўна, ёсць чаму павучыцца…

Я ніколі не быў у Парыжы, але адчуванне таго, што я з яго не выязджаў, не пакідае мяне. У на-

Paris найперш асацыіруецца
з рэчамі агульнапрынятымі:
каханнем, творчасцю,
рамантыкай,
настальгіяй, успамінамі.
І ўсё ж — гэта не проста горад

шай культуры гэты горад займае такое ж месца, як «вечныя» Вавілон або Рым. Пра яго, Paris, напісаны мае любімыя кнігі маіх жа любімых аўтараў — Эрнэста Хемінгуэя, Луі Фердынанда Селіна. У іх горад паўстае крыху іншым, не такім стэрэатыпным і рафінаваным. І менавіта таму цікавым. Але ж чалавек — істота слабая, схільная да агульнага меркавання. Так і ў мяне Paris найперш асацыіруецца з рэчамі агульнапрынятымі: каханнем, творчасцю, рамантыкай, настальгіяй, успамінамі. І ўсё ж — гэта не проста горад мастакоў, пісьменнікаў, кавярняў, парфумы і круасанаў. Ёсць і нешта яшчэ…

Мяне не пакідае думка напісаць што-небудзь і пра свой горад, пра Мінск, які запомніўся мне. Добра захавалася ў памяці, як святкавалі яго ўгодкі 20 гадоў таму. Добрая рэклама, ці што? «Мінску — 930 гадоў» — здаецца, на кожнай вуліцы была рэклама гэтай даты. І можа, калі-небудзь я распавяду сваю версію тых падзей. Сваю гісторыю. Якую некалі бачыў я сам, сваімі вачыма, а не з пераказу іншых. Зрэшты, я ўжо цяпер ведаю, што ніхто не паверыць у напісанае. Падумаюць, што гэта чарговая прыдумка. І такі Мінск не існуе і не існаваў ніколі…

Нездарма ж пісаў той самы Луі Фердынанд Селін, якога я не чытаў пакуль што ў арыгінале: «Вашы ўспаміны — усяго толькі стары ліхтар, які вісіць на рагу вуліцы, дзе больш амаль ніхто не ходзіць».

І тое, відаць, чыстая праўда… ■

Я ўжо цяпер ведаю, што ніхто
не паверыць у напісанае.
Падумаюць, што гэта чарговая
прыдумка. І такі Мінск не існуе
і не існаваў ніколі…

## На Нямізе…



«На Нямізе снапы сцелюць галовамі, малоцяць цапамі сталёвымі, жыццё кладуць на таку, душу веюць ад цела». Хайяйяйяо. «Нямігі крывавыя берагі не дабром былі засеяны, засеяны былі касцямі сыноў рускіх». Хайяйяйяо. Прывітанне, мой пастаянны чытач ці чытачка, слухач ці слухачка. Сёння я вяду свой рэпартаж з дзіўнага-дзіўнага месца. Няміга. Што тут дзіўнага? Клас, падыміце рукі, хто ведае, што такое Няміга? Правільна, невядомы аўтар. Няміга мела берагі, то бок, Няміга — рэчка. Толькі дзе тая рэчка? Дзе тая глыбокая? Дзе тая блакітная? Сядай, невядомы аўтар. Стаўлю табе «двойку». Давай дзённік. Няміга — гэта вуліца. Няміга — гэта станцыя метро. Няміга — гэта слова з шасці літар. Гэта назва. Гэта гісторыя. Гэта забітае ўчора, ад якога засталіся толькі сімвалы. Вуліца як сімвал ракі. Станцыя метро як сімвал ракі.

Няміга схавалася, затаілася. Няміга — першая рака-драпежнік. Глыбока пад падэшвамі вашага абутку я чую яе сляды. Вы, прымагнічаныя да тратуарнай пліткі. Вы, нялдольныя падняць дзве нагі аднрачасова і завіснуць у паветры. Няміга дае вам шанец быць вышэй. Вы над ракой. Як заўсёды — без намаганняў, без свайго на тое жадання. Проста і раптоўна. Вось вы проста на зямлі, а зробіце крок — і ўжо над ракой. Але я ўсё адно вышэй. Я двойчы над Нямігай. Я над Нямігай у квадраце, у кубе, у трубах. Я над ёй і над вамі махаю сваімі крыламі, валодаю вашымі снамі, бачу праз сталь і камень. Бачу яе берагі. На беразе рэчкі стаяць чалавечкі. Зоркі, бы свечкі, ім свецяць, і свецяць, і свецяць.

Ноч. Няміга. Дождж. Куды хаваюцца птушкі ад дажджу? Не ведаю, я не птушка. Куды хаваюцца звяры ад дажджу? Не ведаю, я не звер. Не звер, не птушка. Не вецер, не здань, не… Я толькі назва, гісторыя, забітае ўчора, ад якога засталіся сімвалы. Я сімвал. Твой сімвал. А куды схаваешся ты ад дажджу? Куды пабяжыш ад кропель вады з неба? У Нямігу. Ад вады ды ў ваду. Натоўпам ад вады ды ў ваду. Па галовах, па рэбрах, па руках. «На Нямізе снапы сцелюць галовамі, малоцяць цапамі сталёвымі, жыццё кладуць на таку, душу веюць ад цела». Хайяйяйяо. «Нямігі крывавыя берагі не дабром былі засеяны, засеяны былі касцямі сыноў рускіх». Хайяйяйяо.

Ноч. Няміга. Дождж. Ты памятаеш? Ноч. Няміга. Дождж. Няміга. Дождж кроплямі спрабуе дабрацца да кропель. Зліцца з ракой у бездакорным танцы. Тым самым, які бачылі вашы далёкія продкі, у якіх не было метро, каб схавацца. Яны слухалі Перуна, бачылі кажана. Вы бачыце толькі свае парасоны. І цемру. І шум. І сябе. Далёкім ценем. Незнаёмым сілуэтам. Чужародным элементам. Ідэальным манекенам.

Ноч. Няміга. Дождж. Нейкі юнак смела крочыць у ноч, па Нямізе, праз дождж. Яго вочы нядольныя заплюшчыцца, яго ўсмешка ззяе маланкай сярод хмарасонаў-парасонаў шэрых змрочных людзей. Магчыма, ён спявае. Магчыма, ён смяецца. Ён ідзе па Нямізе. А я… Я звычайны кажан. Я лячу над Нямігай, над Свіслаччу, над Чыжоўскім вадасховішчам. А ён чараўнік. Ён ідзе па Нямізе. Я зайздрошчу яму. Зайздрошчу праз гэтыя кроплі дажджу, якія — я веру — абавязкова сустрэнуцца з ёй. Прыгажуняй, якую нельга схаваць, нельга забыць, нельга забіць. Дождж зліецца з ракой, і стане ракой, і праз тысячу год паўторыць ёй зноў... «На Нямізе снапы сцелюць галовамі, малоцяць цапамі сталёвымі, жыццё кладуць на таку, душу веюць ад цела». Хайяйяйяо. «Нямігі крывавыя берагі не дабром былі засеяны, засеяны былі касцямі сыноў рускіх». Хайяйяйяо.



Ігар Палынскі

## што бывае, калі скончыць універсітэт

**вазьміце і напішыце дыплом! ачмурэць, праўда?.. шэсць гадоў мяне вучылі пісаць журналісцкія тэксты. шэсць гадоў я шліфаваў публіцыстычныя скілы ў самых розных выданнях (нават зараз). чаму тады ацэньваюць тое, наколькі я варты лічыцца чалавекам з вышэйшай журналісцкай адукацыяй па тэксце зусім іншага кшталту, абсалютна іншага стылю, адназначна нікому не патрэбнаму?!**

не, сам ёлупень. прыдумаў сабе: музычная журналістыка ў СМІ полацкага рэгіёна!.. узяць і дасканала прааналізаваць падшыўкі дзвюх газет за цэлы год, гадавы лог радыёстанцыі, эфір тэлеканала і публікацыі на сайце за год. знайсці і выбраць усе матэрыялы, звязаныя з музыкай (іх атрымалася амаль 250), распісаць кожны, прааналізаваць і зрабіць высновы… а можна было такую тэму прыдумаць, што гугл, тыдзень — і гатова.

пасля абароны думкі завіравалі зусім іншыя. яшчэ б — абараніцца на 10 балаў!

кіраўніком дыпломнай работы была Ганна Іванаўна Басава — дэкан факультэта павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі Інстытута журналістыкі БДУ. Ганна Іванаўна любіць працаваць з дыпломнікамі вочна — я ж пабачыўся з ёй толькі зімой, калі падпісваў заданне на дыплом, і напрыканцы мая, калі прывёз гатовую работу на водгук. нягледзячы на тое, што зрабіў усё не так, як любіць Ганна Іванаўна, атрымаў за работу «дзявятку». «глядзіце, абараняйцеся добра!» — з такім наказам ішоў пераплятаць дыплом.

рэцэнзент Альбіна Рышардаўна Хромчанка таксама прапанавала 9 балаў. камісія на абароне павысіла адзнаку да максімальнай… і я перастаў быць студэнтам.

першыя гадзіны ў галаве адбываўся такі трэш, што словамі не перадаць. асэнсаваць гэта ўсё атрымалася наогул пасля трэцяга кубка піва (вядома, пайшлі з аднагрупнікамі святкаваць абарону). і ведаеце, што зразумеў?..

што бясконца ўдзячны ўніверу за тыя 6 гадоў, што ён цярпеў мяне, абібока-завочніка. за тое, што дараваў усе касякі. што ён звёў мяне ў часе і прасторы з бясконца цікавымі людзьмі — аднагрупнікамі і выкладчыкамі.

да апошняга моманту я крычаў: ат, журфак — паперку атрымаю, усё адно практыка вырашае!.. ды не. Інстытут журналістыкі выканаў ролю гэткага кампілятара, скаапераваў у маёй галаве тыя рэчы, якія мне падаваліся прапіснымі ісцінамі, і прымусіў **асэнсаваць** сябе журналістам (а не проста быць перакананым, што я і так усё ўмею).

і вось здадзены дзяржіспыт, абаронены дыплом — усё, лічы, адукацыю атрымаў, «ідзём далей». але вось гэтыя дні дзіўнага лета нейкія пуставатыя. ведаеце, нібыта выдалілі нейкі зуб, які непакоіў, але да якога неверагодна прывык. так, не трэба больш думаць пра спіс літаратуры, рыхтавацца да залікаў, думаць пра айчынны рытарычны ідэал з гледзішча прафесара Іўчанкава… нічога больш не трэба, і гэта дзіўна.

за 6 гадоў (наш набор завочнікаў быў апошні, хто вучыўся па поўнай праграме) неверагодна прывык да гэтых калідораў, аўдыторый з крэсламі-стрэльбамі, дэканата на чацвёртым паверсе, лабаранткі Кацярыны на кафедры, паліцы буккросінга ля бібліятэкі, аднагрупнікаў і выкладчыкаў, думак «а што ў падвале?», дурацкай музыкі ў сталоўцы, курылкі, будаўнікоў метро за вокнамі… што будзе цяпер? мне падавалася, што скончу ўнівер і ўздыхну на поўныя грудзі, накіруюся ў прафесійнае журналісцкае жыццё без агляду на іспыты, нарэшце патрачу адпачынак на адпачынак, а не сесіі. але вось прайшло колькі дзён, і нешта пакуль не дыхаецца так, як чакалася.

але наперадзе — цэлае жыццё. паглядзім, што там ды як.



**Святлана Курганава**

## Тэкст улюбёнага ў Смерць

Тытул сэра ніхто не атрымлівае проста так.

Тытул сэра носяць з годнасцю, як гэта рабіў сэр Тэры Пратчат, рыцар-бакалаўр, афіцэр ордэна Брытанскай імперыі. Гучны тытул і ўражвае, ці не так?

Але ўражвае і сам сэр Тэры.

Гэта пісьменнік — прафесійны пісьменнік — які меў добрае пачуццё гумару, тонкую самаіронію і дакладна ведаў, што нікога не цікавіць твая біяграфія на вокладках тваіх жа кніг.

Тэры Пратчат пачынаў сваю кар’еру як журналіст. Праца ўдала звяла яго з выдаўцом, і пісьменнік пачаў актыўна ў яго публікавацца. Ён змяніў яшчэ шмат прафесій, пакуль не знайшоў нарэшце сваё прызванне.

У чым сутнасць журналістыкі? Пазначыць праблему, паведаміць пра яе, закрычаць, каб яе заўважылі і пачалі з гэтым нешта рабіць. Чымсьці падобным займаўся ў сваёй літаратурнай творчасці і Пратчат. Ён вывеў на святло заганы нашага свету, стварыў ірэальнае адлюстраванне існуючага грамадства. Ён стварыў Плоскі свет як антыдот сучаснасці: свае заганы свет заўважае толькі ў сатыры.

*«Навукоўцы падлічылі, што шанцы рэальнага існавання гэтакага адкрыта абсурднага свету — адзін на мільён. Аднак чараўнікі падлічылі, што шанец «адзін на мільён» выпадае ў дзевяці выпадках з дзесяці».*

Пагаворым пра кнігі, прысвечаныя Смерці. Гэта цікавы спадар, які размаўляе ТОЛЬКІ ТАК і мае сваю рэальнасць у плоскім свеце. Смерць з’яўляецца ў іншых раманах пра гэты свет, застаючыся не названым, але вы заўсёды давedaецеся, што гэта — ён, пазнаўшы па голасу (у нашым жа выпадку — СТЫЛЮ НАПІСАННЯ). Смерць — высакародны, галантны, бездакорны, я б сказала, джэнтльмен, нягледзячы на тое, што гэта двухметровы шкілет у чорным плашчы і з самай сапраўднай касой. **Не** гледзячы, бо дакладна яго могуць бачыць толькі чараўнікі, ведзьмы і каты. Для астатніх жа ён практычна нябачны.

*«О, зразумеў. Людзі ніколі не бачаць тое, існаванне чаго ім здаецца немагчымым».*

Цыкл пра Смерць павінен распавядаць пра смерці. Але ён прысвечаны не толькі самому персанажу, але і смерці як з’яве, паміранню як частцы жыцця. І ў той жа час гэта — неверагодна жыццялюбівыя тэксты.

Першая кніга цыкла — «Мор, вучань Смерці» — не толькі пра спадара, які суправаджае чужыя душы ў Нябыт, але і пра людзей наогул. Кнігі Пратчата перапоўненыя спасылкамі, зразумелымі ўсім і кожнаму: Плоскі свет — вытанчаная постмадэрнісцкая рэальнасць. І тут жа аўтар стварае свой Сусвет, са сваім голасам, сваёй філасофіяй. І Смерць прымушае нас думаць пра наша жыццё, прычым на значна больш забаўляльны манер, чым прамыя павучанні.

*«— Вось яны — смяротныя, — працягваў Смерць. — усё, што у іх ёсць, — зусім крыху гадоў у гэтым свеце. І яны праводзяць каштоўныя гады*

*жыцця за ўскладненнем усяго, да чаго дакранаюцца. Чароўныя. Пакаштуй карнішоны».*

Мор — гэта даволі пасрэдны хлопец даволі пасрэднага паходжання і даволі пасрэдных (насамрэч — не) разумовых здольнасцей. Не будзем разважаць пра гульню слоў, бо **не** зразумець, як Мор адносіцца да смерці, цяжка.

*«Карацей кажучы, Мор належаў да катэгорыі людзей больш небяспечных, чым мяшок, набіты грымучымі змеямі. Ён быў поўны рашучасці дакапацца да лагічнай асновы сусвету. План, пры ўсёй сваёй пахвальнасці, наўрад ці выканальны, паколькі логікай тут і не пахла. Збіраючы свет, Стваральнік выдаў на-гара масу арыгінальных і наогул выдатных ідэй.*

*Аднак зрабіць свет разумным у яго задачу не ўваходзіла».*

Гэта кніга пра чалавека, які быў Смерцю, які мог гаварыць: «СПРАВЯДЛІВАСЦІ НЯМА. ЁСЦЬ ТОЛЬКІ Я». Мор з'яўляецца выдатным узорам таго, як чалавек можа (ці не можа) ствараць чужы лёс (у тым ліку лёс Свету). Яго жыццё — гэта станаўленне чалавека, які робіць выбар і ўпарта ідзе да яго.

Кніга вельмі мазаічная — гэта і асаблівасць стылю аўтара, і даніна эпосе кліпавага мыслення. Мы глядзім на Мора, на Мора і Смерць, потым на Мора, потым на Смерць і г. д. Як Мор спазнае нейтральнасць (*спрабуе*), так Смерць спазнае чалавечнасць і чалавечае жыццё (*спрабуе*). Можна ўявіць, колькі ўсяго губляецца ў перакладзе і наколькі больш вытанчаныя былі моўныя гульні.

Але і ў перакладзе хапае таго, ад чаго можна атрымаць асалоду.

*«— Як гэта называецца, калі ў цябе усярэдзіне цёпла, ты ўсім задаволены і хочаш, каб усё заставалася так, як ёсць?*

*— Мяркую, гэта называецца шчасцем, — адказаў Харга».*

У гэтай кнізе мы бачым пародыю на любоўныя раманы, дзяўчат, якія імі зачытваюцца, і хлопцаў, якія, страціўшы галаву, здольныя закахацца ў першую прынцэсу, якая трапіла пад руку. Але гэта не пра падлеткавы бунт, а пра тое, як знайсці сябе, імкнуцца да чагосьці і адказваць за тое, што зрабіў.

Пратчат — гэта тое, што пераварочвае ваша ўяўленне пра свет і даводзіць, што гэта нармальна, — як нармальным лічыцца ўяўленне пра Зямлю на трох сланах. І якая для вас смерць? Па-першае, тут гэта мужчына, а па-другое: *«Вы не маеце рацыю, ён зусім не такі, яго не хвалюе, добрыя людзі ці дрэнныя, абы толькі былі пунктуальныя. А яшчэ ён добры да коцікаў».*

У чым сутнасць журналістыкі? Пазначыць праблему, паведаміць пра яе, закрычаць, каб яе заўважылі і пачалі з гэтым нешта рабіць. Чымсьці падобным займаўся ў сваёй літаратурнай творчасці і Пратчат

Чытайце, атрымлівайце асалоду, думайце, смейцеся. І абавязкова чытайце Заўвагі: у гэтага аўтара яны таксама цікавыя.

І будзьце ласкавыя да коцікаў, на той выпадак, калі за вамі калі-небудзь прыйдзе менавіта ЁН.

***

Сэр Тэры змагаўся апошнія восем гадоў з рэдкай формай хваробы Альцгеймера.

У 2015 годзе ён пайшоў з жыцця: брытанскія пісьменнікі занадта чароўныя, каб жыць у рэальнасці, як простыя смяротныя. Таму яго забраў і правёў у апошнюю дарогу сам Смерць. Зрэшты, Тэры Пратчат варты таго, каб застацца ў свеце сваё міфалогіі — Плоскім свеце.

Апошнія радкі, якія ад яго атрымаў наш свет пры яго жыцці (твітар):

«Гэта ўсё, сэр Тэры, зараз мы павінны пайсці разам» («AT LAST, SIR TERRY, WE MUST WALK TOGETHER»).

«Terry took Death's arm and followed him through the doors and on to the black desert under the endless night».

(«Тэры ўзяў Смерць за руку і рушыў услед за ім скрозь дзверы ў чорнай пустцы бясконцай ночы»).

«*The End*».

# Берагам сноў каляровых…

*Вершы паэтаў Гродзеншчыны*

## Анатоль Брусевіч

***

Ты — нібы яблык,
А я… Я — зямля.
Чакаю, азяблы,
Што вось-вось з галля
Спадзеш у абдымкі мае.
Я ведаю, многія хочуць
Бачыць цябе на стале,
Я ж — толькі зямля,
Але, ёсць добрае слова «але»…

***

Мы з табою ніхто — ні сябры, ні каханкі.
Ты — гарэзлівы вецер, я — стомлены дождж.
І таму лабірынтамі прывідных замкаў
Мы шукаем адно аднаго, але ноч
Не дае нам адказаў на нашы пытанні,
І яны зноў над намі вісяць, як нажы.
Лабірынтамі прывідных замкаў блукаем
І не хочам ні плакаць, ні верыць, ні жыць.

***

Ты напоўніла мой неспакой
Непагаснай мелодыяй флейты,
І, сляпы, я пайшоў за табой
У краіну праклятых паэтаў.

І каханне, і роспач, і злосць,
І надзею, і розум, і сорам
Мы ўзялі і прабілі наскрозь
Металёвымі стрыжнямі зораў.

І нябёсы зваліліся ў дол,
Каб памерці, змяшаўшыся з пылам,
І ўваскрэснуць між нашых слядоў,
Між імхоў на бацькоўскіх магілах.

Хай заплача нарэшце Пан Бог
Над пустэчай пакінутых храмаў,
Над крыжамі сцяжын і дарог,
Што вядуць ад зачыненай брамы.

***

Хто мы? Сімвалы гэтай самотнай, няскончанай восені?
А і Б, што сядзяць на трубе і гатовыя знікнуць, як дым?
А быць можа, я той перакулены човен ля возера,
Што чакае цябе — аксамітную хвалю вады?

А калі не чакае, дык проста ляжыць і любуецца
На адбіткі аблокаў, што спяць у тваёй глыбіні,
На прыгожыя мары, якія ніколі не збудуцца
І наўрад ці забудуцца, зблытаўшы ночы і дні.

Я хацеў бы паплыць па табе, абдымаючы словамі-вёсламі,
Я хацеў бы адчуць пад сабою тваё залацістае дно,
Але мы – толькі сімвалы гэтай няскончанай восені,
А і Б, што сядзяць на трубе, папіваючы з вішні віно…

***

Ты скрала мяне,
Зблытала карты, законы, каноны.
Ціха, бы ў сне,
Памерла жаданне быць вольным.
На выцвілым дне
Стаіліся новыя содні.
Ты скрала мяне —
Зрабіла мой голас бясплодным…

***

На вуснах тваіх —водар здрады.
На вуснах маіх — весялосць.
І ведаеш, я нават рады,
Што ты для мяне толькі госць.

Ты — госць маіх чорных сакрэтаў
І танных, штодзённых прыгод,
Каханка прадажных паэтаў,
Русалка юрлівых балот.

Кахаю цябе? Не кахаю?
Хто ведае? Толькі туман,
Які нашы вусны хавае,
І слёзы, і словаў падман.

Нябачныя больш далягляды.
Пяшчоту змяніўшы на злосць,
Смяецца ў вачах маіх здрада,
І плача ў тваіх весялосць.

***

Берагам сноў каляровых
Крочым з табою праз лета.
Фарбамі страчаных мрояў
Нашыя думкі сагрэты.

Следам у край асалоды
Сунуцца змрочныя цені.
Мы аддалі ім свабоду —
Самі таго не хацелі.

Бачыш — няма больш нічога,
Што б затрымала ў дарозе.
Не азірайся на Бога —
Бог нас назад не запросіць.

***

Тонкія німбы бакалаў
Поўняцца белым віном.
Гэтага нібы і мала:
Проста сядзець за сталом,

Проста глядзець у бяздонне
Вінных нявінных вачэй,
Дзе, перапоўнены стомай,
Тоне спакою каўчэг,

Бачыць, як хвалі трывогі
Б'юцца на шалях тугі,
Як сярод дзён каляровых
Белыя ўюцца сцягі.

Проста напіцца да шалу
Жарсцю хвілёвых удач…
Гэтага, можа, і мала.
Болей не маю. Прабач.

## Марыя Цітарчук

### Да маладога месяца

Я стала тваёй Галатэяй,
А ты, няўдзячны,
Мяне абудзіў.
Я стала тваім працягам,
Але ты падарыў мне больш,
Чым я прасіла.
Я марыла аб лёгкім
Пацалунку. Але ты,
Жорсткі,
Пацалаваў мяне навылет,
Каб сцерці ўсе ўспаміны,
Акрамя аднаго.
Я выходжу на балкон. Ноч
(Ці ужо раніца?).
Не спіцца.
Я адчыняю акно. Блакітныя
Прыцемкі ператвараюцца
У бездань, і я
Гляджу ў яе
Калодзеж,
Але там замест вужакоў
У залатых каронах
Знаходжу толькі тваё
Прыжмуранае вока.
Ты ўсміхаешся, бо адчуваеш
Сябе Марсам-пераможцам.
А я — твая
Вечная паланянка.
Але ці хочацца мне іншага?
Вяртаюся ў пакой.
Не спіцца.
І мы сустракаем
Світанак
Утраіх:
Ты, я і адзінота.

## Аліна Паўлоўская

### Не пакідай мяне

Сэрца, прымі любоў,
Сцішаны сум, трывогу.
Голас кахання зноў
Кліча мяне ў дарогу.

Сэрца святло — Максім —
Сіні агонь нязгасны,
Богу аддаНы сын,
ЗморанЫ марай-казкай,

Не адпускай мяне.
Хай вырастаюць крылы.
Я за табой услед
Ціхі пакіну вырай.

Не пакідай мяне.
Не пакідай без Веры.
Дай узысці мне ў сне
Зоркай тваёй — Венерай.

***

Разбіваюцца хвіліны
Аб задумлівыя скалы,
Выгінае месяц спіну,
Закругляецца памалу.

Сонца коціцца няспынна
Дагары, згары, згарае...
Чалавек сядзіць ля млына,
А душа — за небакраем.

*******

Закаханае сэрца не спіць.
Закаханае сэрца не дрэмле.
Закаханае сэрца трымціць,
Нібы лісце на восеньскім дрэве.
Закаханае сэрца ліе
І ў хусцінку, як скарбы, збірае
Слёзы болю — твае і мае —
Аб здабытым і страчаным раі.

### Паэзія

Паэзія, пасланніца нябёсаў,
Ты клікала мяне у свой палон,
І басанож ляцела я па росах
Тваім няўлоўным мроям наўздагон.

Мяне ласкала хмара песняй слёзнай,
Загорнутай у шэрую нуду.
Паэзія, пасланніца нябёсаў,
Чакай мяне, я да цябе іду!

## Наталля Цвірко

### Кошык  спелых зорак

Поўны кошык спелых зорак
Жнівень высыпаў на дол,
І у гэтым зорным моры
Патануў увесь прастор.

Светла так ісці між зорак,
Ззяюць зоркі і ў душы.
Ў зорным казачным прасторы
Да цябе мой шлях ляжыць.

***

Ты ведай — я буду заўсёды з табою,
Калі тваё сэрца застыне ад болю,
Ты толькі пакліч — я прыду без сумнення,
З табой падзялю і гады, і імгненні.

Хай яснаю зоркай нам свеціць надзея!
Няхай абыходзяць нас злыя завеі!
Ты ведай — я буду заўсёды з табою,
Каб сэрца тваё не застыла ад болю.

***

Насустрач зорнаму світанню,
Ў абдымкі сонечнай вясны!
Пакуль жыве ў душы каханне,
Жывём у гэтым свеце мы.
Мінаюць крыўды і трывогі,
А радасць, шчасце — не мінуць.
Усе шляхі, усе дарогі
Нас да кахання зноў вядуць.

## Уладзімір Гайдук

### Клін

Кахаю, смяюся, плачу —
Запознены ў небе клін.
Кірунак узяў за ўдачай,
І мроіцца мне, што ў ім
Лячу я у невядомасць.
У ёй бы сябе знайсці,
Пакінуць зямную стому
Ды тое, што так карціць,
Ды тое, што так балела
І споўніцца не магло.
Узяў трапяткую смеласць
Махнуць на ўсё крылом,
Спаткацца каб з новым ветрам
Ды рэхам сябе адчуць...
У новых мясцінах светлых
У свет небыліц лячу!
А клін — ну, зусім вось блізка,
Ды мары мае дарма:
Здаецца, вось слёзы пырснуць —
Між птушак мяне няма.

### Жанчына нашага краю

*Да паэмы Адама Міцкевіча «Гражына»*

Змагацца за край — гэта справа мужчыны,
Ды думкі такой не прымала Гражына.
Даспехі прылеглі да зграбнага стану:
«Ты будзеш, чужынец, мячом пакараны».
Іржуць ужо коні… Наваградка плошча.
Вятры над сталіцай харугвы палошчуць.
Вядзе за сабою у князевым ўбранні
Жанчына ў паход на крыжацкія зграі.
Характар няўрымснай ліцвінкі — цвярдыня.
З ліслівасцю мужнасць яе не астыне,
Ваярству жаноцкасць прыйшлася да месца,
Аж ворагу млосна, жахліва і цесна.
І б'ецца яна аж за трох акружэнцаў,
Аддасць за радзіму гарачае сэрца,
Хоць ворагаў процьма — упэўнена ў сіле,
І меч яе немца рашуча касіў бы…
Ды рукі здранцвелі, намулялі латы.
Тут — меч па-зладзейску
чужынцаў заклятых…
І падае лёгка красуняй-лябёдкай,
Пакінуўшы поле і славы салодкасць…
І сёння легенды жывуць аб жанчыне,
Літоўкай[1] вяночкі плывуць
Ўсё ад той жа Гражыны.

[1] Літоўка — возера у Наваградскім раёне. Ёсць меркаванне, што на гэтым возеры пісалася паэма.

### Чырвонае на белым

Шырэе між намі мяжа,
Абветраны словы кахання.
А ружы на снезе дрыжаць,
Бы сведкі балючых расстанняў.

Так прыкра і сумна гдядзець:
Чырвонае месціцца з белым.
Куды, ночка, нас завядзеш?
Снягі кветкі ў вэлюм адзелі.

Вы сёння — дарункам зіме,
Яна не разлюбіць, не здрадзіць.
Я мроі, надзеі ўсё меў,
У мару паверыў — мо зладзім!..

Сябе вінавачу, і змрок
Твой след да мяне засцілае.
Шкадую: не змог, не збярог.
Маўчу, спадзяюся, кахаю!

### Невідушчая дзяўчынка

Зусім як ранняя вясна,
Дзяўчынка — мілы стан.
Яна стаяла ля акна,
Ніхто не замінаў.

Стаяла моўчкі, а затым
На воблака сувой
Паліўся голас залаты,
Бы свежы сырадой.

Трывожным рухам да грудзей
Схіліўшы голаў-сум,
Яна не чула, хто ідзе,
За ясным звонам струн.

А спеўны вецер калыхаў
Фіранкавую ноч,
І мовай кветкаваю гай
Шаптаў у цемру воч.

…Я доўга слухаў, сквапна піў
Яе анёльскі спеў —
І ад сардэчнай слепаты
Я ратаваў сябе…

## Вікторыя Смолка

***

Беражыце, анёлы, анёлкаў,
Змрокам моляцца вочы да сноў,
Ахінаюцца зорамі зёлкі,
Звонка дыхае ціша званоў.

Калыханкавым голасам песня
Долу лье арабінавы сум,
На пялёстку ад самага сэрца
Немаўляткавы лёс я нясу.

Я нясу матыльковае пёрка
Па сцяжыне, размытай дажджом.
Беражыце, анёлы, анёлкаў,
Пакуль вас у душы беражом!

***

Думкі гадую смелыя —
Толькі зусім не лягчэй.
Крылы анёлаў белыя
Сцішыліся ля плячэй.

Шчодра сцякаюць колеры
Долу на белы снег…
Хто адрачыся здолее —
Любіць услых мяне.

Толькі адна, маўклівая,
Слухаю пра любоў.
Бела-святой хвілінаю
Вочы цалуюць боль.

***

Бялёсую бярозку абдымаю,
Распальваю, раскрыльваю душу,
Лісток зялёны за руку трымаю —
Не адлятаць да выраю прашу.

Але не гоіць голас мой, не грэе —
Праменьчыкі бярозавых лісткоў
Зрываюцца і па скрыжалях рэек
Бягуць за вераснёвым цягнікам...

## Юлія Петрулевіч

***

Паэтычна ў маркотнай цішы
Ападае пажоўклае лісце,
Як ахоўныя латы з душы,
Як лісты, што пісалі калісьці.
Нада мною ляцяць журавы,
Патанаюць ў асеннім дурмане —
Паштальёны халоднай журбы,
Што блукаюць у думак тумане.
У якой ты цяпер цішыні,
І ці часта мяне ўспамінаеш?
Дзверы ў сэрца сваё адчыні,
Можа, вобраз мой зноў прыгадаеш.
Не вярнуцца нам ў летнюю плынь —
Бачыш, восень ужо наступіла.
І празрыстасць нябесных вышынь
Аблажнымі дажджамі размыла.
Як дайсці да цябе, падкажы?!
Ты цяпер невыносна далёка.
Як праз слёзы — так праз капяжы
Жураўліны мне чуецца клёкат.
І гляджу, як у сумнай цішы
Ападае пажоўклае лісце,
Як ахоўныя латы з душы,
Як лісты, што пісалі калісьці...

## Вікторыя Місюта

***

Я душу адпускаю ў нябёсы,
Распраўляючы крылы надзей.
Стос паперы прасцінай бялёсай
На карычневы брук ападзе.
Дзевяць грамаў схаваю у сэрцы,
Цела прыме халодны свінец.
Дзевяць грамаў… За мову, за веру.
Дзевяць грамаў — і гэта канец.
На каменні — чырвоныя знакі,
Першы снег растварaецца ў іх.
Першы снег на зямлі, і на гмахах,
На апушчаных вейках маіх.
Легкі ветрык падзьме мне на рану —
Не хвалюйся, ужо не баліць.
Я шчаслівая. Я не ўміраю —
Я у вершах працягваю жыць.

## Кацярына Каляга

### Радзіме

Па-над Нёманам ветрык гуляе,
Пахне мёдам у полі ячмень,
Птушка песню світанню спявае,
Пачынаючы радасцю дзень,
Хутка сонейка хмары разгоніць,
Адкрываючы шлях сіняве,
І жыццё навакол загамоніць,
І раса заблішчыць на траве.
Добра ў вёсцы у летнюю спёку:
Выйшаў ў поле, ў разоры прысеў —
І пачуеш далёка-далёка
Салаўіны спакуслівы спеў.
Вецер твар ахінае прыветна,
І так добра душой адчуваць,
Як лунае любоў у паветры,
Як далёкія песні звіняць.



Таццяна Лашук

**нарадзілася 27 лютага 1983 года ў Лідзе. Працуе настаўнікам гісторыі ў Гродне, магістр гістарычных навук. Піша публіцыстыку, паэзію і прозу на рускай і беларускай мовах. Перакладае з англійскай паэзію Уайета, Расэці, Тэнісана. Літаратура і гісторыя як навука захапляюць яе з дзяцінства.**

## Засеўкі

*Памяці маёй бабулі Валянціны прысвячаю*

Сядлуха той ноччу ніяк не засынаў. Проста ляжаў нерухома на спіне і глядзеў у цемру сухімі, стомленымі ад бяссоніцы вачыма. Гэта ж так было яму нязвыкла, бо заўжды выконваў сваё жыццёвае правіла: калі лёг — дык і спі, а калі падняўся — ідзі і працуй. Гадзіннік дробненька адлічваў яму час сваім паспешлівым і асабліва гучным у цішыні мармытаннем. Цікава, што Сядлуха раней нават і не заўважаў, як гучыць гадзіннік ў яго хаце. Так і дваццаць гадоў непрыкметна прайшло ў гэтых сценах, а здаецца, што толькі ўчора пачалі ставіць уласную хату, забілі першы цвік, паклалі на вугал першага вянца манету: каб быў дабрабыт у сям'і. Дзякуй за ўсё Богу, і сапраўды добры час пражылі, бо ніхто цяжка не захварэў, і жывёла была здаровая, і ралля плоданасіла гаспадару на ўцеху. Толькі аднойчы бяда накінулася ззаду і ўжо як секанула дык секанула па бацькоўскай душы: так было, калі малыя дочкі-блізняткі зваліліся з палацяў і забіліся да смерці. Тады жыццё нямілым падалося, але толькі няспынная праца і ўратавала ад чорнага болю. Але ж Паўліна, маладая яшчэ жонка, раптоўна састарэла і болей нарадзіць не змагла, таму і застаўся ім на суцяшэнне адзіны сынок, першанароджаны Сцяпан.

А ў гэты год шчодра адсвяткавалі Вялікдзень. У каморы высока пад столлю (каб не дабралася пранырлівая котка) яшчэ дагэтуль віселі смачныя рэшткі разгавення: доўгія паляндвіцы і закручаныя ў колы каўбаскі. Пасля свята пачыналася пара нястомнай працы, бо чакала ўжо ад гаспадара насення забаранаваная ралля. Сёння і дзень быў адпаведны — субота, і ўначы была на небе поўня — самае то, каб і ў полі нахіліўся поўны колас.

Надыходзіў досвітак. Паўліна пад бокам мужа заварушылася, крыху паляжала і пачала ўставаць з ложка: ёй, гаспадыні, трэба было ўставаць раней за усіх, ставіць у печ хлеб.

Паснедалі заціркай і пачалі са Сцяпанам збірацца на засеўкі. Сядлуха на такую ўрачыстасць апрануў новы кажух і картуз узяў святочны, але ж на ногі нацягнуў старыя стаптаныя боты: усё-ткі па гразі ступаць. Паўліна падала мужу яшчэ гарачы хлеб, загорнуты ў белы абрус — каб благаславіць раллю. З хлебам і з плеценай сявенькай Сядлуха пайшоў на двор, дзе спрытны Сцяпан ужо запрог каня і накідаў на калёсы мяшкі з насеннем.

Сядлуха хацеў ужо і сам заскочыць на калёсы, калі адчынілася суседская калітка. Выйшаў сусед, самы заможны на вёсцы гаспадар, Адамовіч (два кані, тры кароўкі з цялём, вялікае гумно, камора,

вяндлярня, і нават свая лазня мелася, куды Сядлухі па-суседску хадзілі мыцца). Дзеля Адамовіча Сядлуха не стаў спяшацца лезці на калёсы, а з прыязнай усмешкай стаяў і чакаў, калі той першы сам падыдзе і павітаецца. Хлеб ласкава прытуліўся да Сядлухавых грудзей сваім цёплым мяккім бокам і прыемна падвяваў ў нос духмяным салодкім водарам.

— Што, сусед, на засеўкі сабраўся? — спытаўся Адамовіч, падыходзячы бліжэй.

— А як жа, кажуць нездарма ў народзе: «Сей авёс у гразь — і будзеш князь», — бадзёра адказаў яму Сядлуха. — А ты калі збіраешся, сусед?

Пакуль яны віталіся і паціскалі адно аднаму рукі, над Адамовічавым плотам раптоўна ўзнік прыгожы дзявочы твар, апраўлены белымі крыламі хусткі. Маладая дзяўчына развесіла на плоце коўдру і так старанна пачала выбіваць з яе пыл пранікам[1], што зразумела было: гэта відовішча — дзеля кагосьці.

— А мы, можа, у аўторак і збяромся. Рогач абяцаў мне сваго Восіпа ў парабкі аддаць. Я пагадзіўся, але зараз вагаюся: браць ці не браць…

— А што ж такое? Восіп, здаецца, хлопец цвярозы, працавіты…

Адамовіч хітравата прыжмурыўся, пагладзіў на грудзях сваю дабротна пашытую світку:

— Дык пачуў тут пра яго, што крыж зняў, і кажа, што Бога няма…

Сядлуха засмяяўся:

— Вось жа ёлуп цара нябеснага! Ойча яму на хрэсьбінах крыж на лоб алеем прымазаў дык навекі там і прыпячатаў, а ён дурэе… Ну, то глядзі сам, ці трэба табе ў хаце нячыстая сіла…

— Дык вось і я пра тое. Аддай мне лепш свайго Сцяпана ў парабкі. А, Сцяпан, ці пойдзеш да мяне?

Сцяпан расчырванеўся і ціха адказаў з-за морды каня, дзе дагэтуль хаваўся:

— Як бацькава воля будзе…

— Не, не аддам. І мне самому ў хаце такі хлопец патрэбны: паслухмяны, разумны, з галавой і рукамі, як кажуць… Адзіны сын у мяне, але ж удалы атрымаўся…

— А ў меня дзве дачкі, тварам прыгожыя, але ж з твару вады не піць. Ці, можа, мне сапраўды ўжо пачынаць гарэлку з калінкамі рыхтаваць, каб на Пакровы пагуляць з душой?..

Бацькі пасмяяліся, добра разумеючы прыхаваны сэнс сваёй размовы.

— Заходзь сёння да мяне засеўкі святкаваць. Паўліна мая верашчакі зробіць з блінамі, то і пасядзім крыху…

— Добра, можа, і зайду…

Суседзі развіталіся. Калі Сядлухі ўжо ад'ехалі, Адамовіч з добрай усмешкай на вуснах запытаў у дачкі:

— Што, Ганначка, пусціла хлопцу пыл у вочы?..

Дзяўчына ўспыхнула румянцам і са штучнай злосцю сцягнула коўдру:

— Ну, тата, вам бы толькі пасмяяцца з кагосьці! Патрэбны мне ваш гэты Сцяпан, вось ужо навыдумлялі для забаўкі…

***

Сала шкварчэла, і ішоў ад яго, дражнячы страўнік, найпрыемнейшы пах… На талерцы роўнай высокай горкай наваліліся адно на аднаго жоўценькія бліны, і быццам бы урачыстым святлом свяціўся разасланы бялюткі абрус.

— Ну, дык і дзе там сусед, ці прыйдзе? Верашчака астыне… — не вытрымала Паўліна.

— А зараз яго бутэлечка пакліча, — паабяцаў Сядлуха, ставячы на стол бутэль с белаватай вадкасцю. — Ну, чытаем «Ойча наш»…

[1]Пранік — драўлянае прыстасаванне з ручкай, служыла для выбівання бялізны.

— Здаецца, я чуў быццам на вуліцы матор, — занепакоена заўважыў Сцяпан.

Яны прыслухаліся. Сапраўды, нешта надта нервова лаялі дваровыя сабакі, а потым загучалі на высокай ноце і галасы.

— Пайшлі мо паглядзім, што там робіцца…— разгублена прапанаваў хлопец.

Ужо са свайго ганка яны адразу пачулі роспачны жаночы плач, што ляцеў з суседскага двара.

На вуліцы стаяў цягач. Ля яго з абыякавым відам курылі самакруткі дружыннікі. Калітка Адамовічаў была адчынена.

Сядлуха пазнаў высокага хударлявага чалавека ў картузе, нацягнутым на самыя вочы, і ў дабротным кажусе, які быў хаця і новы, але чамусьці з занадта кароткімі рукавамі: то быў — райупаўнаважаны Яўхім Баранчык. Дарэчы, ён адзін тут сядзеў, пры чым сядзеў на венскім танканогім стуле, які Сядлуха таксама прызнаў з хатняй мэблі Адамовічаў.

— Божачкі, яны па Адамовічаў прыйшлі… — сказала, прыкрыўшы вусны рукою, збянтэжаная Паўліна.

І з суседніх двароў, з калітак і вокнаў таксама глядзелі аднавяскоўцы: жанчыны ціхенька і спачувальна ўсхліпвалі, мужчыны пераважна стаялі і разгублена маўчалі. З месяц таму ўжо пайшла гаворка пра тое, што двары будуць раскулачваць, але страшная рэч дагэтуль неяк іх вёску абмінула.

З каліткі выйшаў пачарнелы з твару і непазнавальна згорблены Адамовіч, закінуў у кузаў дзве коўдры з завязанымі ў вузлы падушкамі.

— Табе падушкі навошта? — з’едліва пацікавіўся Баранчык. — Ты там  не адпачываць на пярынах будзеш, а працаваць на карысць рабоча-сялянскага класа… Я табе яшчэ раз зачытаю…

Баранчык дастаў з кішэні зацёртую змятую паперу, разгарнуў яе і манатонна пачаў зачытваць:

— Значыцца, так… «При отправке выселяемых… разрешается брать с собой имущество и продовольствие в пределах нормы. Обязать выселяемые кулацкие семьи, в части средств производства, брать с собой топоры, пилы, лопаты, плотничьи инструменты, по возможности, хомуты и шлеи и продовольствие из расчета на два месяца, общим весом не больше 25—30 пудов на семью»…

— А ты мне не ўказвай, я сваё сам дабро нажыў, у цябе не браў анічога… — агрызнуўся Адамовіч. — На Божым судзе ўсе сустрэнемся…

— Ты не божкай, час не цягні, бо матор чакае…

— А ты мой стул аддавай, я яго таксама забіраю «в пределах нормы»…

Баранчык моўчкі падняўся са стула, але усмешка яго нічога добрага не абяцала. Адамовіч дэманстратыўна паставіў стул у кузаў. Між тым дружыннікі пацягнулі са двара занепакоеную карову, якая мыкала, і коней.

— Жывёла твая канфіскуецца, — з помстай у голасе прамовіў Баранчык. — Усё па закону, зараз вопіс складаць будзем…

…пайшла са двара сям’я. Старая Адамовічыха цяжка ступала, падцягваючы хворую нагу, урачыста нясла на грудзях Божую маці, быццам збіралася на хрэсны ход. Нявестка Адамовічаў вынесла на руках захутанае, быццам бярвенчык, немаўля, якое салодка спала. Старэйшыя дзеці спалохана маўчалі і, як прывязаныя, круціліся ля маці. Адамовіч-малодшы падняў дзяцей і жонку ў кузаў, моўчкі сеў побач і знерухомеў.

Апошнімі ішлі дзве малодшыя дачкі Адамовіча. Менавіта Ганначку і выглядаў Сцяпан.

А яна ішла апранутая ў найлепшае сваё адзенне, тое ўрачыстае, якое рыхтавала кожная вясковая дзяўчына з самага дзяцінства: па вышыванцы, па стужачцы, па халсцінцы збіраючы свой пасаг у куфар. Белая вышываная спадніца, новы кажушок і зграбныя боцікі, каляровая хустка, і на шыі нават чырвоныя пацеркі… Такая яна была прыгожая, што Сцяпан на імгненне нават перастаў дыхаць ад захаплення і роспачы, а потым…

Потым у яго вачах быццам пацямнела, і ён апантана падляцеў да Баранчыка:

— Адпусці іх, я кажу табе, адпусці! Ну?!

— Ну — што? Грамадзянін Сядлуха, не перашкаджай працэсу высялення кулацкага элемента. Ну, адыдзі!..

Баранчык з сілай пхнуў хлопца у грудзі. Сцяпан схапіў райупаўнаважанага за каўнер і пачаў душыць. Але дружыннікі зграяй наляцелі ззаду і скруцілі яму рукі.

— Ну, Сядлуха, ты мне за такое адкажаш... Я бачу, тут кулацкі згавор выспявае…

Паўліна з воем кінулася да Баранчыка, ухапіла яго за рукі і залямантавала, захінаючы сабой сына:

— Ды Божачка ж мой, ён яшчэ дзіця! Не хапае розуму дурню, таварыш, ты ж не крыўдуй, ты ж за яго разумнейшы!..

— Ды цьфу на вас, — сплюнуў на зямлю Баранчык. — Адпусціце яго… Зараз на вас часу няма, але я яшчэ вярнуся… Ваша сям'я пойдзе на разгляд тройкі[2], так што рыхтуйцеся на выезд…

— Ідзі дадому, — штурхаў сына ў спіну Сядлуха. — Я табе кажу, ідзі хутчэй!..

— Куды вы іх?.. Куды вы іх павезяце?.. — надрываўся Сцяпан, вырываючыся з бацькоўскіх абдымкаў.

Баранчык нічога не адказаў. Толькі сеў да шафёра ў кабіну, і машына кранулася.

— Я цябе знайду! Ганначка, я адшукаю, вер мне! Ты чуеш, дзе б ні была, я прыйду і знайду!... — з адчаем пракрычаў Сцяпан.

***

Старая, зацёртая нагамі падлога выглядала асабліва ўбога, калі, як цяпер, на яе падалі залатыя сонечныя плямы. А сонца ў кабінеце было шмат, таму што вясновыя промні свабодна ліліся праз высокія здвоеныя вокны былога памешчыцкага маёнтка.

Баранчык сядзеў у сваім кабінеце за сталом, заваленым паперамі. Чырвоным алоўкам раз-пораз падкрэсліваў слепенькія літары. Калі патрэбна было, старанна прыціскаў пячатку і ставіў свой доўгі, з росчыркамі, подпіс.

У суседнім кабінеце стракатала пішучая машынка і галасна звінеў тэлефон.

Раптам дзверы адчыніліся, і ўвайшоў з пакетам у руцэ сакратар Лупень:

— Яўхім Міхайлавіч, атрымалі з адзнакай «сакрэтна і тэрмінова». Вам пад подпіс азнаёміцца і ўсім сельсаветам копіі разаслаць…

Баранчык цяжка ўздыхнуў і разарваў пакет. Прачытаў і незадаволена застагнаў:

— Не, ну вось як гэта разумець… То я ім план павінен выканаць аж на пяць соцень кулацкага элемента, то ўжо не патрэбна столькі… Ты паслухай: «Предупреждаю о недопущении «левых» перегибов на местах, о недопущении превращения раскулачивания в рассереднячивание… Виновных предавать суду...» Значыцца, ён учора быў кулак, а сёння ён ужо серадняк і высяленню не падлягае! Дзе мой спіс? Так працаваць немагчыма!..

Баранчык выхапіў паперу і раззлавана пачаў яе рваць. Потым нервова закурыў. Лупень пакашляў, паправіў свае круглыя акуляры на пераноссі і спачувальным тонам запытаўся:

— То, можа, я пайду? Мне трэба яшчэ копіі надрукаваць…

Баранчык моўчкі кіўнуў, зацягваючыся дымам.

За сцяной, як звычайна, хутка стракатала пішучая машынка.

Баранчык незадаволена азірнуўся, калі дзверы зноў адчыніліся. Ціхенька, асцярожна пераступіў парог Сядлуха:

— Яўхім Міхайлавіч, ці можна да вас?..

— А-а, аднавясковец завітаў… Праходзь, даражэнькі.

[2]Тройка — упаўнаважаная камісія з трох чалавек, якая разглядала пытанні раскулачвання.

Падбадзёраны прывітаннем Сядлуха затопаў па кабінеце — у руцэ яго быў цяжкаваты мяшок.

— То сядай…

— Дзякую, таварыш Баранчык…

Сядлуха нясмела прысеў за стол, прынесены мяшок неяк уладкаваў на каленях.

— Ну, дзядзька Сядлуха, што скажаш? Можа, пойдзеш да нас у калгас?

Сядлуха паёрзаў на стуле і адказаў:

— Ну, дык калі трэба і ўсе пойдуць, то і я пайду… Дык я наконт сына свайго, Сцяпанкі… ты ўжо там не сярдуй на яго, таварыш Баранчык… Ён Адамовічаву дачку пакахаў, таму так і злаваўся. Маладосць, што зробіш!...

Баранчык закурыў другую самакрутку, пускаючы дым свайму субяседніку проста ў твар:

— Маладосць-маладосць, а сваей галавой думаць трэба… Тут знявага і спроба перашкодзіць высяленню маецца на ўвазе. Ды і наогул, падазроны ты, дзядзька Сядлуха!.. Вунь у суседнім раёне, ведаеш, па якіх прыкметах у кулакі людзей запісвалі?

Змярцвелы Сядлуха толькі паматаў галавой.

— Калі самавар у хаце есць ці страха новая, то і дастаткова!

— У мяне самавара дома няма… Яўхім Міхайлавіч, даражэнькі ж ты мой! Што ж ты робіш… Твой жа бацька-нябожчык маёй Паўліны хросны бацька быў… Я цябе ж сам маленькім ведаў, бачыў, як ты гадаваўся… А ў мяне Сцяпанка — адзіны сын — я за яго усё аддам, нічога не пашкадую.

— Ну, добра, дзядзька Сядлуха, што ты мне пацеры[3] чытаеш! Ты вось адкажы мне: з родных ці сваякоў у цябе хто-небудзь белагвардзейцам служыў?

— А Божа ж мой, ніхто!

— А ты у гэтым ці мінулым годзе парабкаў наймаў?

— Ды нікога я не наймаў ніколі! Сам працую, Сцяпанка мой працуе…

— Ну, дык і запішам цябе у серадням… Які ж ты кулак, дзядзька Сядлуха? Ідзі і жыві сабе спакойна… толькі ў калгас заяву напішы…

Сядлуха радасна ўсхапіўся, але потым успомніў пра свае галоўныя аргументы:

— Дай жа Бог табе, таварыш, здароўя і добрага жыцця! А мая Паўліна тут вось табе і паклон паслала: паляндвічкі нашай свежай ці каўбаскі паспрабуй… І сала, такое ружовае, мяккае!.. На здароўе, на здароўе!

— Ну, дзякуй, цётцы Паўлінцы перадавай маю падзяку!

Сядлуха быццам бы на крылах вылецеў у двор. Адвязаў хутчэй каня, сеў на калёсы і паехаў назад у вёску.

Сонейка свяціла ў небе, і душа  Сядлухі ўдзячна гудзела да Бога:

— Божачка, святы Мікалай з Багародзіцай, во дапамаглі! Жылі добра, нікога не чапалі і вось дачакаліся бяды… Ледзь-ледзь уратаваліся, што за час такі цяжкі…

Крыху шкада яму было аддадзеных прысмакаў, але пра гэтую страту ён пазбягаў і думаць. Галоўнае, што свайго сына абараніў, захіліў ад бяды ды і сам з жонкай цудам выратаваўся. А ў калгас хоць і прыйдзецца пайсці, але ж гэта толькі калі і астатнія пойдуць… Коніка свайго аддаваць трэба і кароўку, а жывёла ж такая добрая…

Так, пра непрыемнае лепш зараз не думаць. Вось надвор'е сёння добрае, і зямля на раллі гаспадара чакае… Трэба працаваць, пакуль зручна…

З бадзёрым настроем ен заехаў дадому. Радасна расказаў пра сваю гутарку з райупаўнаважаным усхваляванай Паўліне. Потым запытаўся пра Сцяпана. Яны паклікалі сына, занепакоіліся, пачалі яго шукаць.

Але Сцяпана чамусьці нідзе не было відаць.

[3] Пацеры — малітвы.

Крысціна Гарвер



**нарадзілася 4 красавіка 1995 года ў Валожыне. Скончыла факультэт міжнародных адносін БДУ. Неаднойчы перамагала ў розных намінацыях паэтычнага конкурсу «Маладыя галасы», уваходзіць у літаратурна-мастацкае аб'яднанне «Рунь». Захапляецца маляваннем і олдскульнымі камп'ютарнымі гульнямі, вывучае тры замежныя мовы. Пры гэтым ні паэтам, ні мастаком, ні геймерам, ні перакладчыкам сябе не лічыць.**

# Мост да астральнага свету

## Буда

Буда выходзіць цішком са свайго павільёна,
Буда праходзіць і тысячы лі, і мільёны,
Трохі стамляецца — і, узнімаючы веі,
Моўчкі глядзіць, як захад перад ім ружавее.

Сонца чырвонай крывёй аздабляе вяршыні,
Буда далей басанож крочыць па канюшыне.
Ён да мяне зазірае амаль кожны вечар,
Ціха кладзе мне маленькія рукі на плечы.

Я адчуваю яго цёплы подых на скроні,
Разам мы позіркам ловім апошнія промні,
Разам малюем сузор'ямі ў хмарах калматых,
Потым сядзім на падлозе за кубкам гарбаты.

Буда жартуе, нібыта мне прыгатаваны
Бесперашкодны, прамы шлях да вечнай нірваны:
Там акурат і патрэбна дурніца такая…
Раніцай Буда ўстае і павольна знікае.

Вечарам зноў для яго адмыкаю я дзверы,
Хоць я, прызнацца, у Буду ні кроплі не веру.
Не існую я для Буды таксама, дарэчы —
Толькі ўсё роўна ідзе ён сюды кожны вечар.

## Шаманская хвароба

Прачынаюся зноў уначы,
Маё цела зноў рвуць крумкачы,
Мяне будзіць пранізлівы боль.
Пазіраю скрозь цемру у столь.

Я баюся заснуць: да мяне
Нехта лезе па цёмнай сцяне.
Нехта кліча мяне ў трэці раз,
Патрабуе на штосьці адказ.

А інакш — мае скончаны дні,
Мяне цягнуць уніз карані.
Невялікі мой выбар, аднак.
Сцяўшы зубы, кажу яму: «Так».

І ляціць да мяне легіён
Такіх самых нябачных, як ён,
З кожнай спрытнай нябачнай рукі
Маю плоць пратыкаюць крукі.

Бы жывёлу, што трапіла ў пастку,
Раздзіраюць крукамі на часткі,
Са скалечанай плоці душу
Вырывае вялізны каршун

І нясе яе ў лапішчы левай
На Сусветнае вечнае дрэва,
Там душа мая ў яйка лягла,
Бы Кашчэевай смерці ігла.

На галіне мяне будзе гушкаць,
Бы сваё птушаня, маці-птушка.
Я вылупліваюся ў гняздзе —
Я паўсюль і тым часам нідзе.

У мяне сто вачэй і сто рук,
Я хутчэй за святло і за гук,
У мяне сотня ног і вушэй,
Я за горы, аблокі вышэй.

Распрамлюся стралой ва ўвесь рост.
Я — да свету астральнага мост,
Я — зямлі маёй голас і кроў,
Пераемнік памерлых багоў.

Так вяртаюся ў новае цела.
Задрыжэла зямля, затрымцела,
На ўвесь свет прагрымеў барабан —
Уначы нарадзіўся шаман…

***

Маё сэрца — дзіўная пустэча,
Чорнай дзіркі прагная вантроба.
Колькі праглынула яно рэчаў —
Палічыць нат не раблю я спробы.

Смокча неба, сонца, подых ветра,
Кожны гук, які трапляе ў вушы,
І хавае ў ненаедных нетрах
Вочы чалавечыя і душы.

Ў тую бездань чорную, здаецца,
Цэлы свет праваліцца свабодна.
Толькі вось нязменна застанецца
Сэрца зноў пустым і зноў галодным.

## Сымон

**1**

Світальнае свежае неба зіхціць крышталёва.
Па восеньскай вуліцы зноў шамацеў ліставей.
Зноў блыталіся прамяні між тваіх доўгіх вей.
Зноў слухалі мы, як гучала нямецкая мова.

Спрабую я словы навобмацак, смак і на слых,
Па складу, па літары, гуку — іх прагна глытаю.
І кожнае слова, як лёгкая птушка, ўзлятае,
Нібыта з гняздзечка, з пяшчотнейшых вуснаў тваіх.

Ўзлятае імкліва і дзесьці лунае пад столлю,
Дрыготкімі крыламі дробна ў паветры стракоча,
Кранаецца твараў і нам зазірае у вочы
І са скразняком вылятае праз вокны на волю.

На волю, дзе свежае неба зіхціць крышталёва,
Дзе восенню ўтульна ўвесь дзень шамаціць ліставей,
Дзе ўздых кожны робіцца быццам лягчэй і глыбей,
Дзе птушкай сапраўднаю робіцца кожнае слова.

**2**

Я стала бачыць надта многа:
Як сохнуць кропелькі расы,
Расце трава, бяжыць дарога,
Твае сівеюць валасы.

Я раптам чуць выразна стала,
Як кіт спявае пад вадой,
Пылінка на падлогу ўпала,
Гучыць пяшчотней голас твой.

Я адчуваю ўсёю скурай
Узмахі крылцаў матылька,
Паветра лёгкую тэкстуру,
Гарачыню ў тваіх руках.

Я — боства здольнасцей каштоўных
І адчуваць, і бачыць, чуць…
Але згубіла дар свой моўны:
Ўсё разумею і — маўчу.

***

Зірнула на зоры.
Зоры, як змрочныя
звяры:
зараз зарыкаюць,
загрызуць, але
заўтра зранку
здрадзяць
звярынай зграі,
задрыжаць у
зоркіх зрэнках
зубра ці
зграбнай зебры,
збяруцца на зброі
зморанага змагара,
зернем
зарыюцца ў зарыва —
замруць.

## Кіты

У небе плывуць кіты
Добрыя, як і ты,
Сумныя, як і я.
З імі — душа мая.

Песні пяюць яны
Дзіўныя, як і сны,
Звонкія, як і лёд,
З імі — душы палёт.

Чуеш? І клічуць нас,
Нібы ў апошні раз.
Ціха плывуць кіты,
З імі — і я, і ты.





Віктар Шніп

**нарадзіўся 26 сакавіка 1960 года ў вёсцы Пугачы Валожынскага раёна. Паэт. Працуе галоўным рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура».**
**У дванаццаць гадоў закахаўся ў Снягурку, якую пабачыў па тэлевізары, і доўгі час пісаў для яе вершы. У дзённікавым рамане паэта «Заўтра была адліга» (2015) змешчана апавяданне «Закаханы ў Снягурку», што сведчыць: першае каханне яшчэ жыве ў душы паэта.**

## Анёл з мокрымі крыламі

***

ты ў сне пераходзіш праз Лету
нібы чарапаха праз лета
дзе сонца як прыклееены мядзяк
на ілбе ў бясхмарнага анёла
які ляціць над зямлёй
дзе ўсе на яго спадзяюцца
а ты спіш
і ў сне пераходзіш праз Лету
як суровы палкаводзец праз Альпы
дзе снег і лёд як вечнасць
у якой застаюцца героі і баязліўцы
засынаючы на хвіліну бясконцую
ці падаючы ў белую прорву
дзе жыве рэха
якому ўсё роўна хто яго абуджае
на шляху дзе ты пераходзіш Лету
на краі белага света
на краі белага снегу
на краі белай ночы
дзе жыве паэзія
няспешная як чарапаха
і ты прачынаешся
каб нічога не ўспомніць

***

жывеш тут спакойна
і раптам
табе хочацца ў грыбы
у лес дзе ты даўно не быў
цэлую вечнасць
якая ў расінцы вісіць
на адзінокай павуціне
сярод пажаўцелай травы
праз якую сцяжына цячэ ў бярэзнік
дзе ў хвалях лістоты
самота і радасць
светлыя-светлыя
як тваё жаданне
выбрацца ў грыбы
нібы ўслых прызнацца ў любові
шэраму павучку
што на лістку бярозавым
як на залатым чаўне
плыве праз туман
як праз пачатак эпохі
у якой абавязкова будзе
грыбное стагоддзе.

## Апошні прамень

апошні прамень залаты
як апошні грош
і ён тая сцяжына
па якой у неба вяртаюцца
анёлы што стаміліся
лётаць па-над намі
па-над нашымі будынкамі
дзе дошкамі забіты вокны
дзе зафарбаваны дымам зоркі
каб неба не бачыла
што ў травяным палоне
наша мінулае
дзе апошні прамень
як апошні шанец
успомніць
што ёсць сонца
якое ніколі не заходзіць

## Анёл з мокрымі крыламі

анёл з мокрымі крыламі
не можа вярнуцца на неба
і ён не будзе вяртацца
бо яго там ніхто не чакае
бо анёл адзінокі
як той чалавек
якога ён ахоўваў
у час навальніцы
якая магла стаць
пачаткам новага патопу
калі б не гэты анёл
у якога цяпер мокрыя крылы
і вялікія як наша вера
у Бога і яго анёлаў.

## Прыпынак

прыпынак прыпыняе непазбежнасць
але сонца ўсходзіць і заходзіць
не спыняючыся
і няма знакаў прыпынку
як у белым вершы
на Шляху Млечным
і ніхто на ім не спыняецца
акрамя нашых позіркаў
і ты стаіш на прыпынку
як на краі свету
і ты можаш яшчэ вярнуцца
пакуль ты на прыпынку
і ў кожнага будзе свой прыпынак
калі спыніцца сэрца

## Залатое і чырвонае

у нашай крыві ёсць золата
а ў золаце ёсць кроў
і плыве над намі сонца
створанае з золата і крыві
каб залатое і чырвонае
было заўсёды з намі
як неба і зямля
паміж якімі мы
як паміж жорнамі
залатое і чырвонае
дзе ў залатым ёсць чырвонае
дзе ў чырвоным ёсць залатое
і мы ідзём па пяску
як па золаце
і ўсход перад намі чырвоны
як віно чырвонае
у залатым паціры

***

як лямпачку ты сонца разаб'еш
і стане бы ў пад'ездзе цёмна ў свеце
запаліш свечку зоркай назавеш
няхай яна пакуль гарыць пасвеціць
прысяду ля цябе налью віна
а ты адмовішся нібыта хворы
і ноч нібы кітайская сцяна
прад намі будзе і не будуць зоры
з нябёсаў падаць быццам бы клапы
на нашы адзінокія галовы
рабы — не мы з табой мы не рабы
у горлах нашых скасцянеюць словы
і пашкадуеш сонца што разбіў
нібыта лямпачку ў пад'ездзе нашым
я светлы свет не менш цябе любіў
але пра гэта мы людзям не скажам
мы створым сонца хай гарыць яно
і заглядае ў кожнае акно

***

Вясновых дзён анёльскае цяпло
На дрэвах ціха лісцем прарастае,
Каб першых кветак дрогкае святло
У мёд пчала збірала залатая,
Каб сонцам напаўнялася душа,
Як ветразь напаўняецца вятрамі
У акіяне, дзе вадой мяжа,
Размытая між вечнасцю і днямі,
Дзе мы жывём, не скардзімся, што мы
Самотныя, як кветкі палявыя,
Што нарадзіліся пасля зімы
І зацвілі, і сёння мы жывыя,
Як дзён вясновых першае цяпло,
Якое кожны з нас штодня чакае.
Над намі сонца кветкай узышло
І ўжо на захадзе, як зніч, знікае…

***

Ты можаш, як падстрэлены, упасці,
Успомніўшы, што гэты белы свет
Зусім не знае, што такое шчасце,
Бо шчасце выдумаў п'яны паэт.
І мы цяпер шчаслівыя з табою,
Бо сонца бачым, можам піць віно
І любім снег марознаю зімою,
З кватэры цёплай гледзячы ў вакно.
А нехта мерзне і кляне завею,
Што замяла дарогі і дамы,
І толькі ён адзін і разумее,
На колькі ўсё ж няшчасныя тут мы,
Бо мы сядзім, схаваўшыся ў кватэры,
І толькі снег мы бачым праз акно,
І неба, як блакітныя шпалеры,
Счарнела, невясёлае, даўно.
Нядаўна маладзік зрабіўся поўняй
І па начах, як мерзлы ліст, дрыжыць.
І што такое шчасце, ты прыпомніў —
Няма найболей шчасця — проста жыць
І думаць, што няма на свеце шчасця,
Бо шчасце выдумаў п'яны паэт,
Які мог з неба, як з гары, упасці
І, як сняжынка, не разбіцца ўшчэнт…

***

Ты прачынаешся ў старым Парыжы,
Нібыта ў небе, дзе жывуць анёлы,
Дзе зоры — кроплі залатое цішы,
Якую мастакі парыжскай школы
Бяруць і ў фарбы дабаўляюць смела,
Малюючы Парыж, дзе ты не жыў,
Дзе над Парыжам уначы ляцела
Пылаючая Жанна на крыжы…
Ты прачынаешся ў старым Парыжы,
І напаўняецца святлом Парыж,
Нібы віном, і сонца, нібы глыж,
Ляціць табе ў вакно, і ты крычыш:
«Парыж! Парыж! Парыж!..»

# Ганна Чакур



**нарадзілася 21 сакавіка 1959 года ў Астраўцы. Вырасла, закончыла школу, інстытут… Праца, сям'я — усё сярэднестатыстычнае, як ва ўсіх. А што сваё? Можа, пошукі…**

*Гэта не зусім сучаснае жаданне зразумець. Шкельца да шкельца ўсё жыццё спрабаваць скласці мазаічны атлас уласнага свету, каб там, ужо за 50-гадовым гарызонтам, асэнсаваць дарэмнасць сваіх высілкаў. Дарасці да высновы, што шукаць мэту — пустое! Што самы-самы пазбаўлены сэнсу занятак — шукаць сэнс жыцця. Што няма ніякага сэнсу.*

*Жывеш, бо цябе нарадзілі. І ўсё. Застаецца хіба што зрабіць прастору свайго існавання як мага больш змястоўнай і незанудлівай.*

*Таму трэба шукаць спосабы «ўцікаўлення» жыцця. Самы перспектыўны шлях — ствараць самому сабе невялічкія радасці, ад прагулкі ў лесе, сустрэчы з сябрам да падарожжа ў невядомыя раней краіны.*

*Трэба імкнуцца асвятляць не асабліва радужную палітру ўласнай жыццёвай прасторы агеньчыкамі дробных радасцей.*

*І калі ёсць жаданне і магчымасць, падзяліцца гэтымі агеньчыкамі з іншымі. Ну, хоць бы ў форме «заўважынак»…*

*Ганна Чакур*

*З ліста аўтаркі:*

«*Заўважынкі* пішу даўно, гадоў каля пятнаццаці. Іх набралася ўжо шмат. Вы спыталіся, чаму пачала пісаць іх, і я крыху разгубілася. А сапраўды — чаму? У першую чаргу таму, што я, відаць, дрэнная апавядальніца, людзі не слухаюць мяне. Вось, да прыкладу, не так даўно я была больш за тыдзень у Беластоку, сустракалася там з цікавымі людзьмі, аблазіла горад уздоўж і ўпоперак. Вярнулася дадому, і аказалася, што дзве мае прыяцелькі таксама з'ездзілі ў гэты горад. Праўда, толькі на адзін дзень. У выніку яны расказвалі мне пра сваё падарожжа бясконца, а мае ўражанні слухаць не захацелі — перабілі ў зародку.

І так адбываецца чамусьці заўсёды. Але ж мне таксама карціць падзяліцца ўбачаным, перадуманым, пачутым. Вось я і стала пісаць *заўважынкі*.

Гэта мой спосаб быць пачутай».




# Заўважынкі з падарожжаў

## Дзень нараджэння Старога Ольсы

*І я там была, мёд-піва піла…*

Наконт піва гэта я, канечне, «загнула» — у апошнія часы (і дзякуй Богу!) так званыя масавыя гулянні сталі безалкагольнымі. Цяпер напоі з градусам не проста не прадаюцца на падобных фестывалях — міліцыя ў кожнага, хто ўваходзіць, правярае сумачкі-пакеты на прадмет «кантрабанднага» пранясення алкаголю. Трэба сказаць, што не вельмі прыемна, калі два міліцыянеры адначасова корпаюцца ў тваім рыдыкюлі. Асабліва пасля таго, як табе толькі што прыйшлося заплаціць 20 тысяч рублёў за білет на народнае гулянне, уваход на якія спакон веку быў бясплатны.

Якое бы вясёлое ні было свята, ты (калі толькі што на ўваходзе добра-такі падпсавалі настрой) без асаблівых цяжкасцей зможаш адшукаць яго слабыя бакі. А тут і шукаць не прыйшлося — а сямнаццатай гадзіне на фестывалі «Гальшанскі замак», арганізатарамі якога выступіў Ашмянскі райвыканкам і агенцтва «Гісторыя-Тур», было… аніяк.

Канечне, усе звычайныя атрыбуты мелі месца быць: шашлык ад мясцовага спажыўтаварыства, вырабы з саломы, бісеру і гліны — ад народных умельцаў, папкорн і цукровая вата — ад прыватных прадпрымальнікаў. У цэнтры на невялічкай калдобістай пляцоўцы жадаючыя за грошы каталіся вярхом. Што тычыцца калдобістасці, то, відаць, па задуме арганізатараў яна з'яўлялася галоўным атракцыёнам гуляння — роўнай на ўсёй прызначанай для свята тэрыторыі была толькі парачка вузенькіх дарожак, пасыпаных тоўстым слоем злейшага ворага абцасаў — буйнога шчэбню.

Злева перад замкам, дакладней, перад тым, што засталося ад адной з самых прыгожых старажытных пабудоў Беларусі — Гальшанскага замка, была зладжана сцэна. Перад ёй — лаўкі для гледачоў, на якіх апошнія елі ўзгаданыя ўжо шашлыкі і вату, запіваючы (толькі самая прадпрымальная частка публікі) пранесеным насуперак пільнаму догляду алкаголем.

Што рабіць, назваўся груздом… Мы прайшліся па гандлёвых радах, набылі нейкія сувеніры, папілі гарбаты. Зноў прайшліся па радах, пасядзелі перад сцэнай, і ад суму ў трэці раз пацягнуліся да выставы нардных промыслаў. На чацвёртым крузе ў нашай кампаніі пачало выспяваць рашэнне, нягледзячы на «выкінутыя на вецер» грошы, вярнуцца ў Астравец. Калі да яго ажыццяўлення заставалася паўкроку, сцэна нарэшце ажыла…

Тут трэба вярнуцца ў самы пачатак артыкула і сказаць, што фестываль «Гальшанскі замак» быў прысвечаны 10-годдзю стварэння гурта «Стары Ольса». Без сумненняў, у апошнія гады самага самабытнага і таленавітага калектыву ў Беларусі, вядомага знаўцам добрай музыкі ва ўсім свеце.

Імяніннік сам выбіраў сабе гасцей, таму ў гэты вечар на гальшанскай імправізаванай сцэне выступалі гурты, у аснове рэпертуару якіх ляжыць старажытная музыка: «Унія», «Келіх Кола», «Testament Terrae». Музыканты гралі, а перад сцэнай танцоры маладзёжных тэатраў з Мінска выконвалі старажытныя танцы. І кожны жадаючы мог далучыцца да танцуючых і паспрабаваць асвоіць няпростыя «па» сярэдневяковых менуэтаў, полечак, урачыстых шэсцяў…

Пад музыку «Testament Terrae» так ці інакш прыплясвала добрая палова гледачоў. І ўсё ж у паветры лунала нецярпенне: усе чакалі «Старога Ольсу».

Яны выйшлі. І зайгралі. «Полацкі сшытак», адшукаць які ім дапамог наш зямляк прафесар Адам Мальдзіс. Песню пра ваяра-ліцвіна, «Карамбамбулю», «У карчме»…

Больш за дзве гадзіны доўжыўся канцэрт, больш за дзве гадзіны дзве з паловай тысячы гледачоў жылі ў адным рытме, на адной пупавіне з артыстамі.

У перапынках паміж песнямі кіраўнік гурта Зміцер Сасноўскі расказваў пра гісторыю Гальшанскага замка і Вялікага Княства Літоўскага, пра перамогі Вітаўта і ракавое вяселле Ягайлы…

«С днём рожденья!», — на нейкім этапе пачалі скандзіраваць маладыя галасы ў гушчыні публікі.

— Не ганьбіце гэтыя сцены, — перабіў іх Зміцер. — Яшчэ 200 гадоў таму на такой мове пад імі размаўлялі толькі палонныя.

І добрая тысяча галасоў закрычала на мове колішніх пераможцаў: «*З на-ра-джэн-нем!*»

А калі галасы нарэшце сціхлі, Сасноўскі, нібы працягваючы з нейкім размову, сказаў: «Вось я і кажу: навошта гэтыя мітынгі, ад якіх нараджаецца толькі жорсткасць? Прыходзьце на беларускія канцэрты, арганізоўвайце туры па Беларусі, шырока адкрытымі вачыма глядзіце на нашы храмы, замкі, на нашы лясы і палі, шчодра палітыя крывёй продкаў, слухайце спеў і легенды нашых бабуль, вывучайце гісторыю і ганарыцеся… Чуеце? Ганарыцеся, што мы з вамі — **беларусы**!»

Іх доўга не адпускалі са сцэны — бісіравалі, свісталі, дудзелі…

Апошняй кропкай фестывалю стала фаер-шоу: выступалі пажыральнікі агню. Напаўголы негр, які вадзіў запаленым факелам па сваім смуглым целе, светлавалосая дзяўчына, юнак на хадулях, з рота якога час ад часу выбухвала воблака агню. Ад шматлікіх факелаў паваліў густы дым. Упрост на бакавую правую вежу.

Дым заплыў у, здавалася, мёртвыя вачаніцы вокнаў, і вежа, удыхнуўшы прывычны за стагоддзі нападаў і пажарышчаў пах, ажыла. Напружылася. Рэшткамі сваіх сіл падрыхтавалася даць хутчэй за ўсё апошні для сябе бой.

І шматлікія прывіды Гальшанскага замка загрымелі зброяй на яго ўсходняй сцяне.

Ці гэта проста пачаўся феерверк?...

## Мая прыкмета (Балтыка)

Перад кожным чалавекам, які нараджаецца на свет, ставіцца (цікава, а кім?) першапачатковая задача: пабудаваць дом, пасадзіць дрэва і выгадаваць сына. Гэта, так бы мовіць, праграма-мінімум, разнастаіць якую кожны з нас, сапіенсаў, мае права на свой густ. Можна, да прыкладу, сачыніць песню, выткаць дыван з райскімі кветкамі, выпіць цыстэрну (за жыццё) гарэлкі, мільён разоў прачытаць «Ойча наш», напісаць раман або карціну... Або, як я, прыдумаць прыкмету. Мая тычыцца надвор'я: калі ў красавіку выскоквае анамальная спёка, чакай халоднае лета…

Такім быў красавік 75-га. Гарачыня стаяла яшчэ тая. 19 красавіка Кацярына Мікалаеўна, наша біялагічка, вырашыла правесці чарговы ўрок на ўлонні прыроды і, маючы намер непасрэдна на натуры прадэманстраваць усялякія там пестыкі і тычынкі, павяла нас «пад Шылу».

Урок, вядомая справа, не атрымаўся: на беразе Кавалькі нашы хлопцы дружна паскідалі штаны і заскакалі з дамбы — салдацікам, бомбачкай, ластаўкай. Узвіцца ластаўкай, зрэшты, удавалася нямногім — большасць «давала брухача» — гучнага і, думаецца, вельмі балючага. Прынамсі, няўдалыя ластавачнікі выходзілі на бераг з чырвонымі ад сутыкнення з вадой жыватамі…

Той красавік быў спякотны, а лета, нібы для таго, каб не дай Бог не выбіцца з рамкаў сярэднестатыстычнага тэмпературнага «ліста» рэгіёна, усе тры выдзеленыя яму месяцы так і прарумзала. Пушкінскае «О, лето красное! Любил бы я тебя, когда б не зной, не пыль, не комары да мухи…» успрымалася не без іроніі. Маўляў, адарваўся б сёлета Сяргеевіч — ні спёкі табе, ні пылу…

Затое… Г-м-м… Затое летам 75-га я ўпершыню пацалавалася з хлопцам…

*Пабудаваць дом…*

Толькі ты не ўспрымай гэта занадта канкрэтна — маўляў, калі такая справа, не толькі дом, а яшчэ і кааператыўную кватэру забабахаю! Бабахай, канечне, але тут маецца на ўвазе крыху іншае. І пабудаваць яго нашмат цяжэй. Гэта нават не сцены — проста твая асабістая прастора. Гэта месца, у якім табе цёпленька і ўтульна. У якім ты — цалкам без маскі. Гэта месца, дзе ты — заўсёды дарэчы. Такі, які ты ёсць. З грахамі, з памылкамі, у адчаі ці ў эйфарыі. Гэта месца, у якім ты можаш смяяцца і плакаць, маўчаць або гаварыць некалькі гадзін запар. І ніхто не скажа табе: фі…

Па сутнасці, кожнаму з нас трэба пабудаваць сваю радзіму — вялікую ці маленькую. Не механічна надаць гэта імя месцу, дзе мы нарадзіліся, а выбраць яго і ўсё жыццё будаваць. А заадно будаваць самога сябе…

Калі сёлетні красавік разагрэў сам сябе да 32 градусаў і цюльпаны ад нязноснасці спёкі сталі па-жывому раздзіраць на сабе турбаны, мая прыкмета падняла галаву. Было з чаго: май і чэрвень давялося пражыць у паліто. Ад штодзённых дажджоў галовы бардовых руж ламаліся, павісалі бяссільнымі плячамі, як рукі павешаных. Сапраўдны кастрычнік, сцвярджалі адны. Пачатак лістапада, не згаджаліся другія…

А потым, нібы віно ў галаву, раптам ударыла лета. Ды такое, што, ўсімі праўдамі і няпраўдамі выпрасіўшы (насуперак складзенаму яшчэ зімой графіку) у начальства два тыдні чарговага адпачынку, парассоўваўшы па шматлікіх кішэнях чамадана на калёсіках пару палак каўбасы, паўгалоўкі любімага, без дзірак, сыру… Ціха, паспееш з сырам — не забыць бы купальнікі, каб не было, як тады…

Зрэшты, нічога страшнага «тады» не здарылася, проста за два дні адпачынку на Каймінe мая белая бялізна, якой з нагоды пакінутага дома купальніка давялося часова перакваліфікавацца ў «оный», набыла некалькі, я б сказала, смелы колер зямлістага адцення. І кожны раз, калі я ў імправізаваным, моцна завэдзганым купальным касцюме выбіралася з возера на бераг, самыя нервовыя адпачываючыя палохаліся да слёз: колер маёй бялізны асацыяваўся ў іх хваравітым уяўленні з целам тапельца, што прабыло ў вадзе добры тыдзень…

Аглядаючыся назад, я ўспамінаю той каймінскі адпачынак не без задавальнення: ніколі яшчэ мая сціплая асоба не выклікала ў навакольнага асяроддзя ажно такой зацікаўленасці...

Сыр… Каўбаса… Купальнікі… Крэм ад (ці для?) загару… Выпрасіўшы два вольныя тыдні і пакідаўшы ў валізку неабходныя рэчы, саджуся ў віленскі цягнік — нібы станаўлюся на першую прыступку нябачнай лесвіцы, па якой змагу дабрацца да мора. Да марачка-морка. Якое мяне зачакалася…

Мінулым летам з-за шэрагу прычын на Балтыку я не выбралася.

*Пасадзіць дрэва…*

І ў літаральным сэнсе, вядома, таксама. Але так вось, калі браць наогул, гэта дрэва мае больш ёмістую назву — прырода. Адчуй сябе яе часцінкай, пусці карані ў яе ўлонне. І проста жыві па спрадвечных яе законах.

На Куршскай касе, амаль на ўскраіне Ёдкранцаў — на арэндаваных веласіпедах мы даехалі туды за пяць хвілін — жывуць кармараны. Злавесныя птушкі. Вялікія, чорныя, з загнутымі дзюбамі і гартаннымі галасамі. Яны пасяляюцца на верхавіне высокага дрэва — жывога і здаровага. І яно ад іх атрутных экскрэментаў вельмі хутка гіне. І тады на яго ўжо мёртвых суку́х віюць свае гнёзды іншыя пары кармаранаў. Чорных птушак пад Ёдкранцамі — больш за тысячу пар. І жывуць яны ў мёртвым лесе.

Брыдзеш па вясёлым прыбалтыйскім бары, поўным сонца, зеляніны, саленаватага ветру і раптам… Востраў сотні загінуўшых соснаў. Абсалютна шэрых. Цалкам без кары, нібы абвараных кіпнем. І сярод іх мёртвых сукоў незлічоныя гнёзды злавесна-чорных птушак…

**З даведніка:** *Кармаран (вялікі баклан)* — важны фактар экалагічнага балансу ў экасістэмах вадаёмаў, які ўдзельнічае ў пераносе біягенаў з вады ў глебу. Іх памёт (гуана) — неацэнны скарб. Азоту ў ім больш, чым у любым іншым (у параўнанні з каровіным гноем — у 30 разоў). Лепшага ўгнаення прырода не стварыла. У некаторых краінах кармараны ахоўваюцца, а ў Перу, да прыкладу, на грошы ад экспарту гэтага ўгнаення паднялі эканоміку.

Не будзь кармаранам — не гадзь. Нават калі твой памёт вельмі каштоўны. І тады, можа стацца, жыццё табе будзе залічана і без прадвызначанай пасадкі праслаўтага дрэва.

На гэты раз мора прыкідвалася возерам — за два дні на яго гладкай паверхні не нарадзілася ні хвалькі. Так не бывае на Балтыцы, не можа быць апрыёры, але вецер цалкам адсутнічаў. У дзюнах можна было задыхнуцца ад спёкі, і народ пад пракатнымі парасонамі разлёгся ля самай вады. Сёлетняе рэдкае цяпло хацелася выкарыстаць напоўніцу, і большасць людзей не пакінула пляж, пакуль сонца з галавой не акунулася ў пафарбаваны ў чырвань, старанна падсолены далягляд.

Раніца трэцяга дня была двайніком папярэдніх — штыль і штыль, таму ветразі чыёйсці яхты, заякаранай непадалёк у заліве, абвіслі, як грудзі старой какоткі.

Пад вечар, бліжэй да шасці гадзін, неба пачало цямнець, і недзе далёка на захадзе затанчылі зарніцы. «Навальніца ідзе», — абрадаваліся стомленыя задухай людзі. Маланкі над морам — напэўна, гэта прыгожа, вырашылі ўсе, і здрадзіць пляжу рашыліся толькі адзінкі.

Блізкая навальніца нарадзіла доўгачаканы ветрык. Яго прахалодны павеў апаленая скура ўспрыняла, як пяшчоту. Хвіліна-другая — і вецер разросся, загаспадарыў над морам, узняў у паветра сяваючыя пясчынкі пляжнага покрыва. Людзі замітусіліся, паспешліва кідаючы ў сумкі сабраныя за дзень каменьчыкі, недаразгаданыя красворды, мокрыя купальнікі і ручнікі...

І не паспелі. Вецер накінуўся на наваколле, як звар'яцелы. Яшчэ нядаўна цалкам прыручаны, паслухмяны адбіткам тваіх слядоў пясок прыбалтыйскіх дзюн стаў секчы, нібы шрапнеллю. Уголас заплакалі дзеці, закрычалі спалохана дарослыя. Пра рэчы раптам забыліся — і над пляжам залёталі мячы, гумовыя сандалеты, пакеты з недаедзенымі бутэрбродамі, пластыкавыя бутэлькі… А людзі беглі ў бок выратавальнага лесу. І кожны крок даваўся праз сілу, як гэта бывае ў кашмарным сне. На мастках, каб не знесла, трэба было моцна трымацца за поручні. Дзяўчынка гадоў дзевяці не ўтрымалася — і вецер скінуў яе ўніз. Пакуль бацька дабег да яе, малую добра прысыпала пяском…

Самыя цяжкія былі апошнія метры — здавалася, лес уцякае. А калі ён нарэшце ўпусціў у свае ўладанні, людзей агарнуў жах: шквальныя парывы ветру згіналі сосны ледзь не да зямлі. Дрэвы ламаліся, як запалкі. Усё трашчала, падала, рушылася. І адступаць не было куды…

Тыя 20 хвілін бегу праз пáдаючы лес са мной і сёння…

Ёдкранцам моцна дасталася: увесь гарадок быў завалены зламанымі сукáмі. На адзінай дарозе да парома, якую ў некалькіх месцах перакрылі паваленыя старыя ясені, утварыліся аўтамабільныя пробкі. Недзе надрыўна крычала «хуткая дапамога»…

У вячэрніх тэленавінах расказалі, што падчас урагану ў суседняй з Ёдкранцамі Нідзе загінулі два чалавекі…

*Выгадаваць сына…*

Мой бацька, у якога былі тры дачкі («Тры сястры» і «Дзядзя Ваня» — усё па Чэхаву), моцна, выказваючыся сучаснай мовай, камплексаваў з нагоды адсутнасці гэтага самага сына. Да такой ступені, што малодшую дачку (не мяне!) браў у мужчынскую лазню. Прытрымліваўся пры гэтым наступнай стратэгіі: малую пакідаў нераспранутай у прылазніку, а сам бег у лазню, напускаў ваду ў балею (у часы майго дзяцінства ў лазні меліся спецыяльныя ночвы для мыцця дзяцей), вяртаўся, распранаў дачушку і, моцна прытуляючы да сябе, нёс яе ў мыйную залу, каб адразу апусціць у непразрыста-мыльную ваду. Люду ён у лазні называў Людвікам. Так доўжылася да таго часу, пакуль аднойчы дачка не пацікавілася ў бацькі, а што гэта такое незвычайнае вісіць у дзядзькі, суседа па лаўцы? «Навяла па сабе», — вярнуўшыся з лазні, папракнуў ён маму. І панура перадаў Людку ў… жаночае аддзяленне…

Не знайшлося ў мяне часу — ды што там!— жадання, каб растлумачыць гаротнаму татку, што выгадаваць сына, па вялікім рахунку, гэта пакінуць на зямлі свой след. Свае справы, свае думкі. І каб у іх быў прадаўжальнік. Прычым зусім неабавязкова, каб ён быў родным па крыві — па-сапраўднаму блізкія людзі (не магу не пагадзіцца з Рычардам Бахам) рэдка нараджаюцца пад адным дахам.

У Нідзе, на крутым беразе заліва, знаходзіцца сядзіба Томаса Мана, нямецкага пісьменніка, лаўрэата Нобелеўскай прэміі. Сёння яна — дом-музей. І сам музей, і старанна дагледжаная тэрыторыя вакол яго, ды і, па сутнасці, уся Ніда літаральна запруджана турыстамі з Нямеччыны: немцы чытаюць кнігі Мана і сёння. Раздумваюць над яго словамі, спрабуюць зразумець яго тайныя прадказанні… Ман выгадаваў свайго сына.

Канечне, не кожны можа стаць Нобелеўскім лаўрэатам, але кожны можа паспрабаваць знайсці сэнс у гэтым жыцці, каб, знайшоўшы, падзяліцца ўласным адкрыццём з тым, хто здольны

зразумець, хто ўспрымае свет з падобнага пункту погляду. Або проста перадаць сакрэт свайго прафесійнага майстэрства: як лепш узараць поле, раскроіць сукенку, выткаць дыван з райскімі птушкамі, сачыніць песню ці выпіць (за жыццё) цыстэрну гарэлкі…

У рэшце рэшт, кожны сам гадуе свайго сына…

## Заўважынкі з Германіі

*У спісе гарадоў свету, у якіх маю намер пабываць, Дрэздэн, сталіца Саксоніі, стаіць (стаяў!) у ліку першачарговых. Нават не ведаю, адкуль растуць карані падобнага прыцягнення, але магнетызм гэтага горада я адчувала на сабе многія гады.*

*І вось ён, Дрэздэн, нарэшце расхінуў мне насустрач свае абдымкі…*

Перабольшваю, канечне. Звычайная лістападаўская раніца ў пакуль абсалютна чужым горадзе… Так ужо і звычайная? А дрэвы? У Беларусі ад пышнай прыгажосці іх лістоты не засталося і следу, а тут — бач ты! — многія яшчэ выхваляюцца па-летняму шыкоўнай зелянінай сваіх футраў.

З ніадкуль узнікае рэўнасць: вясна ў Германіі пачынаецца на месяц раней, а восень ў параўнанні з нашай спазняецца таксама не менш як на месяц. Штогод два дадатковыя месяцы непамірання прыроды — хіба гэта справядліва?!…

І пакуль нос зайздросна шморгае, вочы, не ведаючы, на чым затрымацца, кідаюцца, як благі конь у баразне, ва ўсе бакі адначасова!

А навокал пануе архітэктура. Класіцызм, лаканічны геаметр, стаіць у абдымку з пышнацелай готыкай, а тая строіць вочкі рэнесансу — строгія архітэктурныя лініі суседнічаюць з шыкоўнай ляпнінай, выкананай, на мой дылетанцкі погляд, у стылі ракако, багата аздобленыя незлічонымі фігуркамі амураў, анёлкаў, упрыгожаныя чародкамі німф, што з вышыні палацавых франтонаў наўмысна-сарамліва прапаноўваюць прахожым спакуслівую выпукласць уласнай аголенасці…

Палацы, храмы, адных музеяў — ажно 44! А яшчэ 56 галерэй, 30 з хвосцікам тэатраў і канцэртных зал. І гэта багацце разлічана ўсяго на 600 тысяч жыхароў горада? Не зусім. Дакладней, не толькі, таму што ў накірунку Тэатральнай плошчы з боку Эльбы, на беразе якой абсталявана стаянка турыстычных аўтобусаў, цячэ бясконцы паток экскурсантаў. Тэатрплац — сэрца Дрэздэна, вакол якога «тусуецца» ўвесь астатні яго архітэктурны «бамонд». Пацямнелыя пад подыхам стагоддзяў сцены цудоўных палацаў, кірхаў, галерэй — маўклівыя сведкі падзей даўно мінулых дзён. Гісторыя Еўропы выглядвае тут літаральна з кожнага аконнага праёма… Дарэчы, стан іх бездакорнай захаванасці не можа не здзіўляць — ва ўсіх жа даведніках чорным па белым напісана: «Падчас вайны Дрэздэн быў поўнасцю зруйнаваны авіяцыяй саюзнікаў». Выходзіць, не поўнасцю? Цэнтр нейкім цудам захаваўся?

— Пасля бамбёжкі ў горадзе не засталося ніводнага некранутага будынка. Прынамсі, у цэнтры. Дрэздэн ператварыўся у суцэльныя руіны, — адказвае гід. — Існавала нават думка не аднаўляць горад: прасцей было пабудаваць новы. Аднак паступова, год за годам адна за другой пабудовы сталі ўздымацца з попелу. Аднаўленне апошняй закончылася сем гадоў таму.

— Але ж сцены, пацямнелыя пад подыхам гісторыі… — не здаюся я. — Гісторыя ў аконных праёмах…

— Пацямнелы від адноўленыя архітэктурныя помнікі маюць таму, што пабудаваныя яны з пясчаніка, моцна схільнага да атмасфернага ўплыву. Час ад часу, калі будынкі робяцца зусім чорнымі, гарадскія ўлады арганізоўваюць іх мыццё…

Ад механічнай праўдзівасці слоў гіда дыханне горада раптам мяняецца. Так, прыгажэнныя палацы, храмы, 46 музеяў і 56 галерэй… Так, стометровае пано «Парад курфюстаў» на гарадской сцяне, на якім стаяць, ідуць, едуць усе прадстаўнікі дынастыі Вітын. Так, пазалочаны

гадзіннік з фарфоравымі званочкамі, меладычны напеў якіх — нібы хор анёлаў… Усё ёсць, і гэтае «ўсё» прыгожае і дагледжанае — але крыху *несапраўднае*, таму што пазбаўлена самай вялікай каштоўнасці — памяці. Тады, у пачатку 1945-га, авіяцыя зруйнавала не толькі горад — бомбы разарвалі пупавіну з'яднанасці пакаленняў, на якую стагоддзе за стагоддзем нанізвалася жыццё супольнасці…

Стараючыся не думаць, што і аўтэнтыка касцёла была страчана ў 1945 годзе, заходжу ў яго бакавыя дзверы. Гэта катэдра — галоўны каталіцкі храм Саксоніі, рэлігійнае жыццё якой, як вядома, прадстаўлена галоўным чынам пратэстантызмам. Але ў сярэдзіне XVIII стагоддзя курфюст, які прыняў каталіцтва, запрасіў італьянскіх майстроў для патаемнага будаўніцтва касцёла.

Храм здзіўляе сваімі памерамі ў 5000 м$^2$ (гэта таму, што ў Германіі забаронены працэсіі, і католікі ў святочныя дні вымушаны ладзіць іх унутры касцёла). І выдатным архітэктурным вырашэннем. Унутранае ўбранне, зрэшты, таксама ўражвае. Асабліва незвычайны левы бакавы алтар, прысвечаны святарам, загінуўшым падчас Другой сусветнай вайны. Яго журботным аздабленнем сталі драўляныя фігуркі людзей, стылізаваныя пад прымітывізм. Раздзёртыя ад крыку раты, прапалены выбухам жывот, кульці замест ног і рукі-крылы, узнятыя ў адчайнай малітве: «Ойча, чаму ж нас пакінуў?!»

Кафедра і стол для прынясення ахвяры таксама ўнікальныя — з блакітнага крышталю. Амбон трымае кампанія пуцатых анёлкаў. Спрабую палічыць іх — і на дваццаць другім збіваюся… Раблю яшчэ некалькі здымкаў і кіруюся да дзвярэй. «Пад Тваю апеку ўцякаю…» — шапчу ўжо ў бабінцы…

А ў горадзе кіпіць жыццё. Бойкія прадаўцы спяшаюцца «ўлюліць» экскурсантам шматлікія сувеніры з выявамі знакамітых мясцін горада. На фасадзе адной з кафэшак (відаць, для прыцягнення турыстаў) намаляваны нацыянальныя сцягі краін. Наш беларускі размешчаны першым справа (ці апошнім злева?).

Туды-сюды сноўдаюць двухпавярховыя аўтобусы, аблепленыя рэкламай. З самага краю дарогі цокае капытамі пара коней, упражаная — ну, не ведаю, як назваць — можа, у дыліжанс? Прыглядваюся: на баку гэтай дарожнай карэты красуецца парадкавы нумар. Праз нейкі час ў полі зроку з'яўляецца яшчэ адна… І яшчэ. Здаецца, у Дрэздэне разам з сучаснымі камфартабельнымі сродкамі грамадскага транспарту дзейнічае сетка, так бы мовіць, гужавой перавозкі людзей. Карыстаюцца ёй, вядома ж, пераважна турысты, але не грэбуюць праехаць на коніку і мясцовыя аматары рамантыкі…

Каля Фраўэнкірхе (Лютэранскага сабора Маці Божай) тоненькая дзяўчынка грае на флейце. Перад ёй сподачак, у які прахожыя час ад часу кідаюць звонкія манеткі еўрацэнтаў. На Тэатральнай плошчы малады чалавек, з ног да галавы пакрыты «серабранкай», якой мы фарбуем нашы печкі і помнікі на могілках, стаіць нерухома — прыкідваецца статуяй. Але дастаткова было падняць фотаапарат, каб «нерухомасць» ажыла. Малады чалавек адварочваецца ад майго аб'ектыва і на міжнароднай мове жэстаў тлумачыць: хочаш зрабіць здымак — плаці…

Не буду — тым больш што няхай сабе і ў профіль, але ён ужо трапіў ў зону майго аб'ектыва: на Дрэздэнскіх вуліцах цікава і без жывых помнікаў. Вось прыгожая пара пажылых людзей: ён у нейкай абсалютна дваранскага фасону крылатцы, яна — у бейсболцы з чорнага драпу і свабодным паліто з гэткай жа тканіны. «Нашчадкі курфюстаў», — вырашаю для сябе.

Стыль адзення дрэздэнцаў па-еўрапейску дэмакратычны: поўная адсутнасць высокіх абцасаў і слядоў касметыкі на тварах, камфортныя цёплыя курткі, зручныя штаны (жанчына ў спадніцы — з'ява рэдкая). Адценне элегантнасці надаюць хіба што прыгожа задрапіраваныя шарфы і сумкі, вытрыманыя ў модных гэтай восенню тонах.

Але час кіравацца ў эпіцэнтр майго падарожжа — у Дрэздэнскую карцінную галерэю.

Тут мушу крыху патлумачыць. У далёкім дзяцінстве пры ўсёй мізэрнасці нашага сямейнага дабрабыту мама на працягу многіх гадоў умудралася выпісваць часопіс «Работница», у якім на перадапошняй старонцы часта друкавалі рэпрадукцыі карцін сусветна вядомых майстроў, аб'яднаных адной тэмай: партрэт жанчыны. Мы са старэйшай сястрой Марыськай акуратна выразалі іх і прымацоўвалі на сцены нашага агульнага пакоя. Як іншыя прымацоўваюць фатаграфіі любімых акцёраў ці музычных калектываў. Не адзін год рабіць хатнія заданні нам дапамагала «Джаконда» да Вінчы і «Дзяўчынка з персікамі» Сярова, «Невядомая» Крамскога і «Дама ў блакітным» Гейнсбаро, «Лапухіна» Баравікоўскага і «Венера» Бацічэлі… І паколькі часопіс суправаджаў іх рэпрадукцыі кароткай, так бы мовіць, біяграфіяй, мы ведалі, у якім музеі захоўваецца тая ці іншая карціна…

Стоп! Дык вось, аказваецца, чым кіравалася мая свядомасць, складаючы спіс гарадоў для наведвання! Спачатку быў Эрмітаж, потым — Луўр, а цяпер — Дрэздэнская галерэя… Ну, канечне ж! На сцяне нашага з сястрой пакоя шмат гадоў жыла яе «Шакаладніца» Жана Ліатара і «Сікстынская Мадонна» Рафаэля…

…Да білетных акенцаў карціннай галерэі змяяцца доўгія чэргі. Навокал — выключна руская мова.

— У тебя есть мелкие купюры?

— А для ребёнка тут делают скидки?

— Ты представляешь, повесить пальто в гардероб стоит 50 центов. Обнаглели!

Купляю білет, здаю паліто, хапаю праграмку і па масіўнай лесвіцы спяшаюся на другі паверх. Канечне, можна было ўзяць аўдыёгіда (гэта своеасаблівая тэлефонная трубка, гатовая загадзя запісаным голасам расказаць пра кожную з карцін), але яго механічны нудзёж (плавалі — ведаем!) хутка надакучвае.

Дэжавю накрыла ў першай жа зале. Нібы вярнулася да даўніх знаёмых: рэмбрантаўскі малыш, якога вось ужо чатырыста гадоў трымае ў кіпцюрах драпежная птушка. Венера Джарджоне, якую ён (вось жа памятаю, аказваецца!) з-за раптоўнай смерці не паспеў дапісаць, і яе заканчваў яго малады і нікому тады невядомы вучань Тыцыян. «Дынарый кесара» — адна з самых знакамітых работ ужо самога Тыцыяна. Дзяўчына Вермеера, якая стагоддзе за стагоддзем чытае ліст, — і яна «жыла» ў нашым з Марыськай пакоі… Зала за залай, карціна за карцінай — і адна за другой успышкі радаснага пазнавання…

Так ужо, відаць, уладкавана людская свядомасць, што пры ўсім нашым імкненні да новага найвялікшую радасць мы адчуваем ад сустрэчы з вядомым. На канцэрце: «О, дык гэта ж Вівальдзі!» У кіно: «Няўжо сам маэстра Мастраяні?..»

…У музеях у мяне свая стратэгія: ад работы, якая зацікавіла, далёка не адыходжу і, калі ля яе спыняецца чарговая група турыстаў, непрыкметна далучаюся, каб паслухаць «жывога» экскурсавода. Калі ж яго расповед не задавальняе, чакаю наступную групу... У Дрэздэнскай галерэі (балазе, публіка тут амаль выключна рускамоўная) свой трук праварочваю двойчы. Мяне зацікавіла карціна Рэмбрандта «Аўтапартрэт з Саскіяй на каленях». У разрэз з назвай два гіды па чарзе заявілі: ніякая гэта не жонка мастака, гэта жанчына вольных паводзін, знешне падобная да яе.

Але на маім баку вопыт пражытых гадоў: далёка не заўсёды я гатова прыняць афіцыйную версію. Пасля старраннага параўнання выявы жанчыны з партрэтам Саскіі, што вісіць паблізу (і чаму Рэмбрант так часта выпісваў на палатне сам сябе і сваіх жонак? Так моцна кахаў? Не меў грошай на натуршчыц?), упарта бурчу сабе пад нос: і ўсё ж такі гэта Саскія!

Дрэздэнская галерэя, хоць і лічыцца адной з самых знакамітых у свеце, размяшчаецца ўсяго ў васьмі залах. У параўнанні з Луўрам — маленькая. Але яе энергетыка цяжкаватая. Нейкая занадта бюргерская, цалкам прыземленая. Гэтыя горы ўкормленай чалавечай плоці праз пэўны час пачынаюць прыгнятаць. Асабліва ў зале Рубенса.

Ратавацца ад засілля тоўстых сцёгнаў бягу да «Шакаладніцы» — пасля разбэшчаных німф і п'яных гераклаў яе падкрэсленая закрытасць, як глыток крынічнай вады. І чаму карціну размясцілі неяк збоку?

«Сіксцінская мадонна»? Вядома ж, і ёй была аддадзена даніна павагі. І самой Мадонне, і яе Сыну, і шасціпаламу Святому Айцу. Цудоўная работа, цёплая, шматсэнсоўная. Карціна-прымірыцелька, ураўнаважніца гармоніі…

Далей была выстава фарфору — сапраўднага, саксонскага. Сакрэт яго вырабу курфюсты старанна захоўвалі і, дзякуючы гэтаму, жылі ў раскошы. Сёння яна, гэтая самая раскоша — фамільныя каштоўнасці роду — выстаўлена ў музеі «Зялёныя зводы». Шмат бляску, безліч багацця і добрага густу, але вочы ўжо стаміліся і адмаўляюцца ўспрымаць гэты бляск — слізгаюць толькі па яго паверхні…

А вуліцы між тым ужо пачынаюць губляць выразнасць ліній — з «балкона Еўропы» пацягнула вячэрняй вільгаццю. У выпадковай кавярні афіцыянтка, відавочна, в'етнамскага паходжання пасля папярэдніх перамоў на немагчымай трасянцы з англійска-нямецка-рускіх слоў прыносіць гарбату з лёдам. А я ж так старанна паўтарала ключавое слова: «Hot, bitte. Hot tea»…

Пасля ледзянога «tea» заходжу пагрэцца ў бліжэйшы ўнівермаг. У яго абутковым аддзеле ўспамінаю, як па дарозе ў Дрэздэн наша гід вучыла нас жыццю:

— Немкі не носяць батфорты. Жанчын у высокіх ботах тут адносяць да адной з двух катэгорый: прыезджая або прастытутка.

— Значыць, трэба браць, — паўтараю словы сакратаркі з вядомага фільма Эльдара Разанава і кіруюся да паліц.

Выходжу з магазіна з кардоннай каробкай пад пахай. А знадворку, аказваецца, ужо пануюць ліхтары! І ўмелы падсвет вылучыў зусім іншыя, нябачныя днём дэталі архітэктуры старога горада — не налюбавацца. Затое вежу Фраўэнкірхе, на якую нам раілі арыентавацца, было не відаць. «Эльба? — чапляюся да прахожых. — Where is Эльба?» Немцы не валодаюць англійскай нават на маім гора-узроўні, але назва рэчкі — нібы пароль. Праз паўгадзіны паспяхова дабіраюся да стаянкі турыстычнага транспарту.

Да адпраўлення аўтобуса яшчэ цэлых 20 хвілін, і я, перайшоўшы дарогу, на акуратным, у бетоннай абгортцы, беразе Эльбы знаходжу ўтульную лаўку. Сядаю. Дастаю з пакета астравецкае яйка, якое мне ў дарогу зварыла мама, і, абабраўшы яго і густа прысыпаўшы соллю, пачынаю смакаваць — нібы падпітвацца Радзімай.

Рака, не звяртаючы ўвагі на маю прысутнасць, нясе свае воды праз анфіладу прыгожых мастоў. А навокал ззяе тысячамі агней Дрэздэн, якому зусім няўцямліва, што сёння ён стаў крышачку і маім горадам.

## Польскія заўважынкі

*Мадэль свету Андрэя Струмілы*

Па-мойму, падчас экскурсіі па Кейданах… А можа, у Каўнасе? Не памятаю… Але калі сваімі разумнымі і не асабліва пытаннямі я вельмі «дастала» Мэтра, ён прапанаваў: «А вы прыязджайце да мяне ў госці. У Мацькову Руду. Гэта непадалёк ад Сувалкаў. Працягнем размову там...»

…Дождж у той дзень быў. У тым сэнсе, што прысутнічаў ён паўсюдна і беcперапынна. Бегаў шпарка. Падаў густа. Зеляніна наталілася вільгаццю і пацяжэла: ніжэй апусцілі свае сукі дрэвы, прытуліліся сцяблінамі да зямлі травы. Коні на абгароджаным жэрдкамі ўзлеску выцягнулі шыі, і з іх на прабор раздзеленых дажджом грыў цуркачыкамі сцякала вада.

Непрыступная каменная агароджа. А вароты ў ёй расчыненыя насцеж. Значыць, можна: заходзь, падарожнік…

У двары паўсюль старыя ліпы. Дождж усмактаўся ў іх кветкі, растварыў малекулы ліпавага водару і стаў медавухай. Няхай сабе і без градусаў.

Злева даўжэзны будынак з цэглы, атынкаваны і акуратна пабелены. Справа — стары драўляны дом. Здаецца, закінуты, нежылы. У цагляным дзверы адчыненыя — і мы, бессэнсоўна патупаўшы пад дажджом, кіруемся да іх.

Нас сустракаюць… сабакі. Тры вялізныя — мне ў пояс — чорныя жывёліны з маленькімі арыстакратычнымі галоўкамі. Абнюхваюць — можна, уваходзьце.

А нам насустрач ужо спяшаецца гаспадар. Пан Андрэй Струміла. Мастак. Філосаф. Паэт. Фатограф. 84-гадовы маэстра з беласнежнымі валасамі:

— Чым магу служыць? А-а, прошэн, пані. Праходзьце.

Аказалася, мы — у майстэрні. З вялізным — быка можна смажыць — камінам у духу караткевічаўскага Альшанскага замка. На сценах з двух бакоў — работы Струмілы. На левай — свежыя (пра іх аўтар расказваў падчас сустрэчы ў Вільні) ілюстрацыі да апошніх вершаў Чэслава Мілаша. На правай — малюнкі «с-пшэд лят». Цяжкая чорна-шэрая палітра і апакаліптычнасць сюжэтаў прыгнятаюць.

Потым, падчас размовы за кубкам кавы, я спытаюся:

— Пан Андрэй, чаму такая змрочная палітра ў большасці вашых работ? Хто вы па жыцці — аптыміст ці яго антыпод?

У адказ ён усміхнецца неяк мімаходзь, нібы не мне, а нейкаму спрадвечнаму свайму апаненту, і скажа:

— Я вельмі люблю жыццё. Жыву і ніяк не магу нажыцца. Бачыце, да якіх гадоў дацягнуў?! Але… Я дакладна ведаю, якое яно цяжкае, гэта жыццё. Так-так, я стары закончаны песіміст…

…У адной палове майстэрні дзяўчаты (гм-м, з Беларусі. Прыехалі спецыяльна, каб падчас канікул займацца конным спортам. У Струмілы — восем пародзістых скакуноў) расстаўляюць чырвоныя мяккія крэслы: вечарам тут адбудзецца канцэрт барокавай музыкі. Гаспадар «упшэймна» запрашае нас на імпрэзу…

***

А «на каву» ён вядзе нас у драўляны дом. Ага, у той «закінуты». І на самым яго парозе накрывае пачуццё, што час нейкім цудам вярнуўся, як мінімум, на сто гадоў. Цёмная нефарбаваная столь з сялянскімі бэлькамі. Гэткая ж падлога. Агромністая — з рэдакцыйны пакой — печ з цэлай сістэмай ляжанак. Калекцыя яўна дарагой конскай збруі. Габляваны стол і самаробныя драўляныя лаўкі. На паліцах старажытных буфетаў цесна ад посуду, на мой непрафесійны погляд, антыкварнага. І толькі на шырокім падаконні дысанансам да агульнага настрою глыток сучаснасці — ноўтбук светла-кафейнага колеру.

А дом, аказваецца, не стары — Струміла пабудаваў яго дваццаць гадоў таму, спецыяльна стылізаваўшы пад даўніну.

У рабочым кабінеце пануюць кнігі. Пан Андрэй бярэ ў рукі «цагліну» — таўшчэзны фаліянт. Гэта сігнальны экзэмпляр — толькі з друкарні — зборніка ілюстрацый яго работ. «Тут ўсё, што я зрабіў за жыццё», — кажа мастак.

— Пакажыце, калі ласка, свае першыя работы, — прашу я.

Нейкі час ён гартае старонкі, а потым, выпрастаўшыся:

— А вось адна з іх — над дзвярыма. Амаль што самая першая.

…У палітры малюнка яшчэ ёсць блакіт, але шэрань ужо перамагае нябесны колер…

***

У доме дзясяткі паліц і палічак — усе яны, як і падаконні, сталы, шафкі густа заселеныя. На адной з іх — зубастыя з непрапарцыянальна доўгімі скіўцамі чарапы. Белыя ад часу і догляду. «Яноты, сабакі, — кажа гаспадар. — Я ўжо і сам не памятаю, чые яны». На другой — прыстасаванні для малявання. Але асноўную прастору займае экзотыка — безліч экспанатаў з Усходу.

— Гэты кілім з Афганістана, — перахапіўшы цікаўны позірк, тлумачыць пан Андрэй. — І гэты на сцяне — таксама. Гэта з Тайланда. Гэтая засушаная кветка? З Японіі. Ці сапраўдныя шаблі? Так. Безумоўна. Я прывёз іх з Індыі. І фігуркі індыйскіх багоў — таксама. У Індыі я быў адзінаццаць разоў. А вось гэтыя філіграннай работы металічныя вазы з Тыбета. Ці быў? Даводзілася. Двойчы некалькі месяцаў жыў у ламаісцкіх кляштарах. Праўда, другі з іх знаходзіцца на тэрыторыі Непала. Потым я выдаў кнігу фатаграфій на гэтую тэму.

— Пан Андрэй, — разліваючы гарбату з тонкага празрыстага імбрычка па фарфоравых філіжанках, пытаецца мая сястра. — Ці праўда, што там, у Тыбеце, унутраны свет чалавека кардынальна мяняецца: аднекуль на яго сыходзяць іншыя веды, іншыя каштоўнасці?.. Што многія вяртаюцца цалкам іншымі людзьмі? Калі наогул вяртаюцца. А многія губляюць розум…

Спачатку бліскае прамень амаль няўлоўнай усмешкі (з тых, што не нам — нябачнаму апаненту), а потым гучыць адказ:

— Можна. Калі ты ўспрымаеш гэта вельмі ўсур'ёз. Калі ты загадзя падрыхтаваў сябе да страты розуму. А наогул… Стагоддзе за стагоддзем манахі сядзелі і думалі — разважалі над нейкімі сакраментальнымі і не вельмі ісцінамі, якія даўно перасталі цікавіць Еўропу. Свет ішоў наперад, не аглядваючыся, а манахі жылі ў сваім уласным свеце, адгарадзіўшыся сцяной тэорыі і медытацый. Свой няўдзел у развіцці свету яны заўважылі толькі нядаўна. Зрэшты, трэба аддаць ім належнае: не асабліва разгубіліся. Прынамсі, менавіта манастыр арганізаваў першае платнае таксі ў перадгор'і…

***

Адзін з сабакаў (два з іх падарожнічалі з намі па хаце крок у крок) па-сяброўску лізнуў мяне ў шчаку і лёг побач, заняўшы амаль усю канапу, так што я аказалася на самым яе краі. Усе астатнія сядзелі ў крэслах. Прыгожых. Самаробных. Але адно з іх вылучалася — яно выглядала, як трон.

— Крэсла нобелеўскага лаўрэата, — заўсміхаўся пан Андрэй. — Калі Чэслаў Мілаш гасцяваў у мяне, за сталом ён заўсёды сядзеў у гэтым крэсле. А дзесяць гадоў таму ў мяне гасцяваў малады чалавек па прозвішчы Камароўскі. Браніслаў Камароўскі. Ён таксама сядзеў у гэтым крэсле. Мне вельмі спадабалася і яго манера разважаць, і шырыня поглядаў, і наватарскі падыход да многіх з'яў палітыкі і эканомікі. «Быць табе, хлопча, прэзідэнтам краіны», — сказаў яму на развітанне. І бачыце? Стаў!

Мае спадарожніцы па чарзе сядаюць у знакамітае крэсла — набіраюцца «нобелеўскасці».

Я адмаўляюся. Нават не ведаю, чаму. Ці не хачу жартаваць з грунтоўных рэчаў? Ці проста выбіраю ўласную дарогу? Да Нобелеўскай прэміі? Не, канечне.

Толькі дарогу праз жыццё.

***

Дождж так і не сціх. Грукацеў і грукацеў па металічным даху аўтамабіля. Можа, і добра. Няхай хоць ён размаўляе — нам не хочацца. Зашмат уражанняў.

Мы едзем у Краснагруду — у толькі што адрамантаваны былы маёнтак цётак Чэслава Мілаша, у якім ён некалі часта адпачываў. Зроблена многа. Дамы адноўленыя. Дахі бялеюць свежай дран-

кай, таму выгляд у будынкаў крыху кітчавы. Нічога, дождж зробіць сваю справу: пацямнеюць, набяруцца сапраўднасці. Мае спадарожніцы заняліся зборам ліпавых кветак: «У Мілашаўскім панадворку яны чыстыя і утрая больш лекавыя!» А мне не хочацца. Я яшчэ там — у струмілаўскім двары.

Пан Андрэй нарадзіўся у Вільні у 1927 годзе. Вырас у Свянцянах. У багатай дваранскай сям'і, якой прыйшлося кінуць усё і шукаць паратунак на Захадзе.

Але вось гэты яго дом, мэбля, сабакі, коні…

Ніяк не магу пазбавіцца думкі… Там, у Мацьковай Рудзе. На сарака гектарах уласнай зямлі Струміла стварыў свой свет. Дакладней, аднавіў страчаны некалі ў дзяцінстве.

Напэўна, кожны з нас спрабуе пабудаваць уласную мадэль свету. Атрымліваецца, праўда, далёка не ва ўсіх — каму не хапае ўяўлення, каму — грошай, каму — проста не хочацца давесці будаўніцтва душы да фіналу. А самыя разумныя баяцца будаваць яго, каб не стаў кляштарам, сцены якога заглушаюць крокі.

Каб не застацца на абочыне існавання. Як манахі Тыбета…

## Заўважынкі па-літоўску

***

Мастакі Вільні стварылі сваю «рэспубліку». Назва — Ужупія (па-нашаму — Зарэчча). Выбралі для гэтага групку старых абшарпаных дамоў на беразе Віленкі.

«Гэта трэба ўбачыць», — кажа мне Наташка. І мы кіруемся на вуліцу Ужупе. На гэта і сапраўды варта падзівіцца! Шэрыя неадрэстаўрыраваныя будыніны пад творчым націскам багемы змянілі свае аблічча. Уласна кажучы, знадворку яны пераcталі быць дамамі — цяпер іх сцены сталі палотнамі, на якіх напісаныя карціны. У самых розных стылях: ад звычайных пейзажаў да сюррэалістычных праяў. Ля кожнага такога дома можна прастаяць, пакуль не забаляць ногі. А калі забалелі, «адпусціць» іх найлепш у кавярні.

Гэтая кавярня стылізавана пад даўніну — з антыкварнай мэбляй, лямпамі, сурвэткамі. Але бавіць цёплы сонечны надвячорак «у сценах» не хочацца, і мы, зрабіўшы заказ, выбіраем сабе столік на вуліцы. Дакладней, на беразе ўсё той жа Віленкі. Дворык кавярні прытуліўся на высокім абрыве — ледзь не на адным узроўні з вежай Гедыміна, якая паглядае на нас з супрацьлеглага боку рачулкі абыякавым каменным вокам. Ды што там вежа! Перад намі — увесь стары горад. З бліскучымі крыжамі шматлікіх храмаў, з востра абведзенымі чарапічнымі дахамі, з верхавінамі дрэў.

Мы п'ём смачнейшую каву і любуемся захадам сонца. «Калі вам холадна, я прынясу пледы», — звяртаецца да нас афіцыянт. Мы адмаўляемся. Нам не да пледаў: сонца ж сядае якраз на касцёл Святой Ганны. Проста на шпіль. А раптам прапора сабе чэраўца і здуецца, быццам паветраны шарык?

У апошні момант сонца ўсё ж вырульвае і застаецца непашкоджаным. Мы даядаем свае піpoжныя і кіруемся ў зваротны шлях.

Мост праз Віленку — «дзяржаўная» мяжа Ужупіі. І яго парэнчы з двух бакоў увешаны замкáмі. Прыгожымі, дарагімі, з гравіраванымі надпісамі і прасцейшымі — такія прадаюцца і на астравецкім рынку. Закаханыя, як аказалася, прыходзяць на гэты мост разам і ў знак вернасці адно аднаму прычапляюць на загагуліны парэнчаў свой замок.

Замыкаюць пачуцці на ключ, які потым кідаюць у Віленку.

***

Мы зноў на могілках. На гэты раз на Росах. Тут спіць непрабудным сном гісторыя Беларушчыны. Вось магіла «вясковага лірніка» Сыракомлі. Непадалёк — ксяндза Уладзіслава Талочкі. А гэта — архітэктара Льва Вітан-Дубейкаўскага, аўтара многіх будынкаў у Вільні і ў Беларусі.

Але ёсць на Росах асаблівыя магілкі. Яны дарагія кожнаму неабыякаваму жыхару Астравеччыны. Два помнікі ў адной агароджы. Двум братам Стаповічам — Канстанціну і Альбіну.

На помніку Альбіна выбіты радкі з верша яго брата: «Не сумуй, хоць льюцца слёзы. Будзь і смелы, і цвярозы. Вер, што Беларусь устане...»

***

І зноў кавярня. Дакладней, цэлы гарадок у Павільні на беразе нейкай дробнай рачулкі.

Як фантастычна ўмеюць выкарыстоўваць гарысты ландшафт літоўцы! Альтанкі, ветраныя млыны, фантаны — зменшаная копія. Два-тры дзясяткі ўсякага роду вазкоў, брычак, карэт. Шарэнга сячкарняў. Добрая сотня драўляных калёс на высокай агароджы. З дзясятак кавярань, аформленых у розных стылях (адна з іх нават з земляной падлогай). «Бельмонд»— так называецца гэтая тэрыторыя.

І, нягледзячы на тое, што мы прыязджаем сюды ў панядзелак, людзей — процьма. Закаханыя, якіх адразу вылічыш у людскім натоўпе па бляску вачэй. Маладыя сем'і з дзецьмі — для апошніх тут раздолле. Пажылыя людзі, якім прыемна на свежым паветры папіць кавы, пагуляць у цяньку дрэў, адпачыць на адной з незлічоных лавачак. Аматары вострых пачуццяў сплаўляюцца на байдарках па рачулцы, якая цячэ праз тэрыторыю «Бельмонда». Непадалёк — конна-спартыўная ферма, дзе можна ўзяць напракат сіўку-бурку...

***

У 2009 годзе Вільня будзе лічыцца культурнай сталіцай Еўропы. Горад старанна рыхтуецца да гэтага. Добраўпарадкоўваецца. Азеляняецца. А яшчэ музыцыруе: на большасці гарадскіх аўтобусаў змешчаны партрэт якога-небудзь кампазітара (Баха, Чурлёніса, Гендэля...) і яго кароценькая біяграфія, а ў салоне аўтобуса гучыць музыка менавіта гэтага кампазітара.

Пасля ўсюдыіснай папсы так прыемна!

## Ольштынскія заўважынкі

*Упачатку замест традыцыйна-біблейскага «слова» быў інтэрнэт. У тым сэнсе, што з прафесарам Мечыславам Яцкевічам мы пазнаёміліся з дапамогай віртуальнай павуціны. Затым адбылося «уцелаўленне»: пан Мечыслаў разам са сваімі калегамі на няпоўныя суткі завітаў у Астравец, каб падчас размовы за кубкам кавы ў «Беларускім кутку» мець неасцярожнасць прапанаваць падарожжа ў Ольштын.*

*Вядома, мяне не прыйшлося доўга ўпрошваць…*

### *Паблукаць па пустыні*

…Вераснёўская золкая раніца, відаць, старанна рыхтавалася да таго, каб адразу ж з першага майго кроку па пероне Ольштына выплюхнуць на мяне ўсю вільготнасць сваёй няўтульнасці. Б-р-р. Хутчэй у таксі і на вуліцу Жаўнерскую, 7. Там у гатэлі «Рэлекс» для мяне зарэзерваваны нумар. «Аднаасабовы, — напярэдадні ад'езду паведаміў пан Мечыслаў. — З аплачаным снеданнем».

Спачатку мяне збіраліся сустрэць.

— Мой сябар сам ўзяўся спаткаць вас на вакзале і адвезці ў гатэль, — падчас бясконцых размоў па (дзякуй Богу і вынаходнікам) бясплатным скайпе сказаў прафесар.

— Але ж, пан Мечыслаў, навошта гэткі гераізм? — старанна спрабую адбіцца ад прапанаваных паслуг невядомага дабрачынца. — Я магу дабрацца самастойна. Пры існуючых сродках камунікацыі гэта нескладана…

— Проста мы, палякі, любім клапаціцца пра прыгожых жанчын.

— Ах, гэта хвалёная польская галантнасць! — прыходжу ў абсалютнае захапленне.

Але калі высвятляецца, што расклад аўтобуса «Вільня-Гданьск» змяніўся і цяпер ён прыбывае ў Ольштын не ў 7.00, як гэта было раней, а ў 4.50, сябар прафесара адразу ж здымае сваю кандыдатуру.

«Ага, — думаю. — Можа, і галантнасць, але без фанатызму».

У гатэль уладкоўваюся без запаўнення звыклых нам ліcткоў прыбыцця. Гарачы душ, пару гадзін сну, снеданне на шведскі манер, і…

— З прыездам, пані Ганна! Выходзім. Вас ужо чакаюць мае калегі, — прафесар Яцкевіч, якому споўнілася 78 гадоў, уражвае сваёй бадзёрасцю.

Мы ідзём у Цэнтр усходніх даследаванняў, дзе запланаваны мой «выстэмп», — я мушу расказаць пра жыццё-быццё Астравецкага раёна. Прычым (і гэта самае страшнае) на польскай мове. Канечне, у мяне быў час на тое, каб загадзя падрыхтавацца да выступлення — напісаць яго і вызубрыць на памяць. Час быў — не было жадання. І цяпер у прадчуванні блізкай ганьбы панура брыду за панам Мечыславам.

Спярша мне прапаноўваюць каву. Можна. У кабінет тым часам заходзіць пажылы мужчына. Палітолаг. Ён садзіцца насупраць мяне і спрабуе высветліць, у якім стане знаходзіцца дэмакратыя ў Беларусі. «У стане развіцця, — адказваю я. — Як і ва ўсім свеце».

— Ну, Беларусь у гэтым сэнсе… — спрабуе разважаць вучоны.

— А хіба існуюць, на думку пана, універсальныя мадэлі дэмакратыі?

— Гм… Калі так падумаць… Амерыканская мадэль у Еўропе не прыжылася. Англійская старажытная, але яна вельмі спецыфічная, закрытая — толькі для вострава. Французская? Так, яна цалкам еўрапейская, але колькі крыві ляжыць у яе аснове! Не, універсальнага рэцэпта дэмакратыі няма — кожнае грамадства павінна ствараць яго для сябе нанова.

…На сустрэчу прыйшлі 36 чалавек. Тры жанчыны і 33 (як у пушкінскай казцы) прадстаўнікі моцнай паловы. Раздаю захопленыя з сабой буклеты пра Астравеччыну. Тлумачу сэнс герба, расказваю пра геаграфічнае становішча, памеры, стан сельскай гаспадаркі і прамысловасці раёна. Расказваю пра прыгажосць нашых лясоў і чысціню рэк. А яшчэ пра нашу культуру — унікальны сімбіёз беларускага, польскага і літоўскага этнасаў. Пра цудоўныя храмы Астравеччыны. Пра нашу працавітасць. Пра змены, якія адбываюцца з нашымі населенымі пунктамі ў апошнія гады…

Расказваю і сама здзіўляюся, адкуль, з якіх нетраў маёй свядомасці сыплюцца польскія словы. Я і не падазравала, што так добра ведаю польскую мову…

Пытанні былі самыя розныя. Пра памер сярэдняй заработнай платы і памер пенсіі. Ці існуе прыватная прамысловасць і прыватная сельская гаспадарка? Колькі зямлі можа мець звычайны жыхар вёскі? На гэтыя і да іх падобныя пытанні адказваю без запінкі. Як раптам…

— Скажыце, чаму вы, беларусы, не размаўляеце па-беларуску? Чаму беларускі народ саромеецца сваёй мовы?

Ну, і што адказаць? Так, каб за ўвесь народ адразу…

Іду «ва-банк».

— Таму што доўга і старанна адвучвалі. Стагоддзямі. У тым ліку і палякі, якія зачынялі беларускія школы, арыштоўвалі беларускіх дэпутатаў у Віленскім сойме, праследавалі святароў, якія

спрабавалі весці набажэнствы па-беларуску. Як нашага Канстанціна Стаповіча (Казіміра Сваяка). Забарона — гэта яшчэ палова справы. Усялякая забарона непазбежна выклікае супрацьдзеянне — таму і нараджаліся такія людзі, як Сваяк. Таму і была такая папулярная газета «Наша Ніва», што выдавалася ў Вільні, у якой працаваў Янка Купала, Максім Багдановіч і іншыя лепшыя сыны Беларусі. Расіяне дзейнічалі хітрэй — яны сталі кпіць з нашай мовы: размаўляеш па-беларуску, значыць, ты — дзікун, глухая вёска, «кэлх». І гэтыя кпіны аказаліся больш дзейснымі, чым забарона.

— Хто-небудзь наогул яшчэ размаўляе па-беларуску ў Беларусі?

— Так. Прычым вельмі палярныя слаі насельніцтва. З аднаго боку, частка інтэлігенцыі, якая дарасла да ўсведамлення каштоўнасці роднай мовы, з другой — пажылыя людзі ў сельскай мясцовасці. Але мова апошніх — гэта так званая «трасянка». Зрэшты, вельмі трапная і маляўнічая, багатая на прымаўкі і метафары.

— А вось вы… Асабіста вы што робіце для таго, каб мова адрадзілася?

— Я на ёй размаўляю.

— На якой мове выходзіць ваша газета?

— На беларускай.

— І які наклад?

— 5,5 тысяч. У пераліку накладу на колькасць жыхароў раёна «Астравецкая праўда» займае другое месца ў Беларусі.

— Ого! Дык чытаць па-беларуску беларусы ўсё ж умеюць…

— Падчас апошняга перапісу насельніцтва 85 працэнтаў жыхароў рэспублікі ў якасці роднай мовы назвалі беларускую.

— Дык чаму ж на ёй не размаўляюць?

— Пачакайце, шаноўнае панства. Абавязкова будуць. Трэба толькі, як племені Маісея, 40 гадоў паблукаць па пустыні.

Можа, камусьці і не спадабалася мая шчырасць, але большасць людзей пасля заканчэння сустрэчы падыходзіла да мяне з падзякамі. Лейтматывам была тэма: жывём побач, а нічога адзін пра другога не ведаем…

А адна пажылая жанчына сказала: «Гэта ўсё праўда, што беларускія школы палякі зачынялі. Я сама родам з Браслаўшчыны — памятаю добра».

## *Значыць, туды нам дарога*

Лідзбарк Вармінскі — гэта гарадок у Ольштынскім ваяводстве (вобласці), які ляжыць на паўднёвым усходзе Польшчы і з'яўляецца цэнтрам павета (раёна).

З лёгкай рукі ўсё ж таго прафесара Яцкевіча Лідзбарк Вармінські і Астравец неўзабаве стануць гарадамі-пабрацімамі. Ужо адбылася сустрэча кіраўніцтва, і рыхтуюцца да падпісання адпаведныя дакументы.

— Мусіш абавязкова наведаць Лідзбарк, — сказаў пан Мечыслаў. — І напісаць пра яго ў сваёй газеце.

Спрачацца з прафесарам — дарэмная справа. Зрэшты, мне і самой цікава. І вось раніцай майго другога «польскага» дня мы з панам Мечыславам кіруемся да адміністрацыйнага будынка ваяводства, дзе па папярэдняй дамоўленасці (Яцкевіча і старасты Лідзбарка (па-нашаму гэта старшыня райвыканкама) пана Марка Хіля) мяне будзе чакаць намеснік старасты.

Ён выскоквае з уваходных дзвярэй ураганам сярэдняй сілы.

— Мяне завуць Ярак, — з вясёлай усмешкай працягвае руку для прывітання. — А цябе? Слухай, Ганна, давай адразу пяройдзем «на ты» — навошта гэтыя цырымоніі!

І за наступныя паўхвіліны Ярак паспявае развітацца з прафесарам, «упакаваць» мяне на пярэдняе сядзенне сваёй машыны, усесціся за руль і завесці рухавік. І вось мы ўжо імчым па вузенькай (Госпадзі, і як яны на такіх дарогах размінаюцца з фурамі?) звілістай шашы. Чорныя, вельмі жывыя вочы майго спадарожніка ўважліва сочаць за дарогай, а сам ён увесь — у расповедзе:

— Робіцца шмат. Вельмі шмат. А планаў — яшчэ больш. Тут галоўнае — умець здабываць грошы. Асноўная крыніца — Еўрасаюз, ці, як мы гаворым, Унія. Але там табе не адваляць суму за «проста так» — ты мусіш прадаставіць ім свой усебакова абгрунтаваны праект, даказаць яго мэтазгоднасць і карыснасць для людзей і прыроды. Некалі ўменне складаць падобныя праекты падавалася нам занадта мудрагелістай навукай. Мы вучыліся гэтаму ў немцаў: ездзілі, глядзелі, цярпліва выслухоўвалі, не саромеючыся лішні раз перапытацца... Цяпер — самі з вусамі. І ўжо мы вучым. Свой вопыт мы гатовы перадаць кожнаму, каму ён цікавы. Вось днямі прыязджае да нас моладзь з Украіны. Цэлы аўтобус. Будуць жыць у лідзбаркскіх сем'ях на працягу 10 дзён. Сустрэнуцца са сваімі аднагодкамі з Польшчы і Германіі. Канечне, іх чакаюць цікавыя экскурсіі і добры адпачынак, але яшчэ і вучоба, і галоўнай мэтай будзе навучыць маладых украінцаў распрацоўваць праекты, фінансаваннем якіх захоча заняцца Еўрасаюз. На гэтую сустрэчу наша стараства выдаткавала 10 тысяч злотых, вядома, атрыманых з Уніі пад спецыяльны праект.

Маладыя павінны бачыць свет пад крыху іншым вуглом. Сваім сынам я заўсёды казаў: «Уласную жыццёвую дарогу вы маеце права выбіраць самастойна, але я, як бацька, патрабую ад вас, каб вы набылі бліскучую адукацыю і бездакорна валодалі замежнымі мовамі». Старэйшы сын некалькі гадоў таму абараніў кандыдацкую дысертацыю, малодшы абараняе яе ў наступны аўторак. Абодва на высокім узроўні ведаюць англійскую і нямецкую мовы…

У гэты час на дошцы прыбораў пачынае пасвістваць мабільнік.

— Во, Марак тэлефануе, — глянуўшы на дысплей, кажа віцэ-староста. — Прывітанне, Марак! Так, едзем. Мы ўжо ля Добрамяста. Не хвалюйся, Ганна размаўляе па-польску.

І, паклаўшы трубку:

— Вось бачыш — сустракаем цябе, як прэзідэнта… Глянь хутчэй налева… Уф, ледзь не праехалі. Тут мы пачынаем будаваць тэрмы. Са свідравіны будуць біць гарачыя тэрмальныя воды, на аснове якіх узнікнуць адразу два (крыты і адкрыты) басейны. Побач, канешне, пабудуем гатэль. Турызм — асноўны накірунак жыцця павета!

## *Лідзбарк. Ды яшчэ і Вармінькі.*

Будынак павятовага стараства не асабліва ўражвае. Прынамсі, наш райвыканкамаўскі — куды саліднейшы. Да таго ж, адно крыло арэндуюць прыватныя прадпрымальнікі. Прыёмная стандартная: справа — кабінет старасты, злева — яго намесніка, у цэнтры — стол сакратаркі.

Яраслаў Когут (з падоранай мне візітоўкі даведваюся поўнае імя віцэ-старасты) адчыняе дзверы кіраўніка павета: «Мы прыбылі».

— Напэўна, трэба накінуць пінжак? — з-за стала нам насустрач падымаецца высокі прыгожы мужчына сярэдніх гадоў. Падыходзіць, падае руку. Прадстаўляецца.

Праз пяць хвілін у старастве пачынаецца нейкі ўнутрыпавятовы сход, а вось праз паўтары гадзіны стараста «бэндзе до дыспазыцыі пані дзеннікаркі». А пакуль можна пазнаёміцца з горадам.

У якасці гіда мне прыкамандзіроўваюць Эдыту, супрацоўніцу стараства. Вядома, экскурсію па Лідзбарку мы распачынаем з яго сэрца — з Замка Вармінскіх біскупаў.

Чырвоная цэгла. Таўстасценная ўваходная брама, ажурны ўнутраны дворык. Судовая і рытуальная залы, капліца… Некалі тут грымелі металічнымі латамі крыжакі, звінелі падковы іх вынослівых коней, шамацеў атлас раскошных строяў сярэднявечных прыгажунь. Сёння гэ-

тыя строі ўпрыгожваюць бяздушныя манекены. Кожны жадаючы можа (папярэдне заплаціўшы абумоўленую суму) выбраць сабе адпаведны яго густу касцюм (хоць біскупа!) і сфатаграфавацца ў ім на памяць.

Гатычны стыль мае і катэдра, будаўніцтва якой датуецца XIV стагоддзем. Яе сцены ўпрыгожваюць пацямнелыя ад прамільгнуўшага часу абразы, напісаныя старажытнымі мастакамі. На адной з лавак у левай бакавой наве надпіс на нямецкай мове — відаць, некалі яна належала заможнай лідзбаркскай сям'і…

У некалькіх месцах горада захаваліся абарончыя сцены і нават галоўная брама горада, якім некалі давялося вытрымаць не адну варожую аблогу…

Старая праваслаўная царква, абшытая чорнымі ад пражытых стагоддзяў дошкамі, не мае ўласцівых архітэктуры праваслаўных храмаў «цыбулінак», і здагадацца пра яе канфесійную прыналежнасць можна толькі па крыжы на фасадзе, а яшчэ — прачытаўшы прымацаваную ля ўвахода шыльду. Пакапаўшыся ў даведніку, знаходжу, што першапачаткова храм будаваўся як пратэстанцкі касцёл.

Старажытны будынак былой пажарнай. Не нашмат маладзейшыя за яго апартаменты бургамістра. Ды і іншыя дамы… Не, Лідзбарк цяжка назваць тыповым польскім горадам — навокал пануе крыжацкая готыка. І знаходзіцца яна (нельга не адзначыць) у добрым стане.

Але годзе разглядацца — нас ужо чакае для размовы стараста павета пан Марак Хіль.

## *Пленэр*

Кіроўца лідзбарскага старасты не ведае, дзе ў Ольштыне знаходзіцца гатэль «Рэлекс», таму я крыху прыпазняюся. А на пляцоўцы перад гатэлем мяне ўжо чакае пан Ежы Флінікоўскі.

— Сядай хутчэй, — кажа ён, адчыняючы дзверцы сваёй «японачкі».

— Я б хацела пераапрануцца…

— Джынсы для багемнага асяроддзя — самае то.

Плюхаюся на сядзенне, і машына кідаецца з месца ў кар'ер: мы спяшаемся за горад — на закрыццё пленэру мастакоў.

Трэба сказаць, што калі на Астравеччыне ладзіліся падобныя імпрэзы, я двойчы была сярод іх арганізатараў. Толькі рабілі мы гэта, лічы, усляпую — не маючы ні малейшага ўсведамлення, як яно павінна быць. У працэсе, так бы мовіць, дзейства сякі-такі досвед з'явіўся, але цікава паглядзець, як гэта робяць іншыя. Тым больш, што пленэр, на закрыццё якога мы едзем, прыватны.

Мы — гэта пан Ежы, пан Януш і я. Юрак (пан Ежы адразу папрасіў называць яго скарочаным варыянтам свайго імя) — акула юрыспрудэнцыі. Яму 70 гадоў, і да гэтага часу ён працуе адвакатам. Яго папулярнасць стала відавочнай яшчэ ўчора падчас экскурсіі па Ольштыну: з Юракам вітаўся не менш як кожны пяты жыхар горада. Асабліва ўважліва да яго ставяцца жанчыны, відаць, таму што пан Ежы — халасцяк.

Пан Януш — госць Юрака. Ён прыехаў з нямецкага горада Кёльна. Выдатна размаўляе па-польску, таму што ў Германію выехаў толькі 30 гадоў таму.

— Кампанія ў нас падабралася — як у анекдоце, — усміхаецца Юрак. — Рускі, немец і паляк…

— Не зусім, — не згаджаюся. — Я — беларуска.

…На закрыццё пленэру сабраліся вярхі ольштынскіх багацеяў. Прыехала нават пані віцэ-маршалак (па-нашаму — намесніца губернатара). Стыль адзення — адпаведны, так што калі гаспадыня па чарзе прадстаўляе мяне гасцям, на сваіх пацёртых джынсах я амаль фізічна адчуваю іх здзіўленыя позіркі.

Гаспадары пленэру, муж і жонка Старкевічы, — вельмі багатыя людзі. Вядомыя ў Ольштыне мецэнаты. Мастацкі пленэр на тэрыторыі іх прыватнага турыстычна-гасцінічнага комплексу праводзіцца ў семнаццаты раз, таму працэдура яго закрыцця (гэта адчуваецца) ідзе па наезджанаму шляху: шмат гумару, узаемных рэверансаў, услаўлення шчодрасці гаспадароў.

У шчодрасці сумнявацца не прыходзіцца — асартымент дэлікатэсных страў, якія прапануюць гасцям бездакорна вышкаленыя афіцыянты, уражвае сваёй пышнасцю…

— Так нас кармілі на працягу ўсяго пленэру, — паўжартам скардзяцца мастакі. — Мы ўшчэнт папсавалі свае фігуры, давядзецца цяпер садзіцца на дыету.

Вядома, на нашых астравецкіх пленэрах такога раскошнага меню не было, але мастацкі ўзровень, па-мойму, атрымліваўся не толькі не ніжэйшы, а калі згадаць работы Кастуся Качана, Алеся Сушы, Тарэсы Варановіч, Бірутэ Куцкайтэ і іншых аўтараў-удзельнікаў пленэру ў Дайноўцы, то на парадак вышэйшы.

Шчыра кажучы, цалкам мне спадабаліся работы толькі адной мастачкі (здаецца, з Харватыі), якая на закрыцці не прысутнічала, — з'ехала на іншы пленэр. Нова, нечакана, эмацыйна.

Ля работ большасці астатніх плэнершчыкаў затрымлівацца надоўга не было сэнсу.

Пасля заканчэння афіцыйнай часткі публіка села за стол, і пра герояў дня — мастакоў — неўзабаве забыліся ўсе.

Найбольш ажыўленая размова ішла на тым канцы стала, дзе сабраліся самыя багатыя жанчыны Ольштына. Прызнаюся: мне карцела даведацца, хто з мастакоў ім асабліва спадабаўся, наогул паслухаць іх разважанні пра сучаснае мастацтва. Падабраўшы адпаведны момант, я падышла — багачкі наперабой распавядалі, дзе яны адпачывалі гэтым летам і што экзатычнае елі.

— Нуварышкі, — на зваротным шляху з лёгкім сарказмам сказаў Януш, якога ў самым пачатку вечара забралі ў сваю кампанію «вяршкі» ольштынскага соцыума.

## *Грунвальд*

Быць у Ольштыне і не ступіць на Грунвальдскае поле — тое самае, што пабываць у Рыме і не пабачыць Папу Рымскага.

Раніцай трэцяга польскага дня мае ольштынскія анёлы-ахоўнікі пан Ежы Флінікоўскі і пан Мечыслаў Яцкевіч павязлі мяне ў Грунвальд.

…Канечне, усё пачынаецца з неад'емнага атрыбута любога турыстычнага аб'екта — гандлёвых радоў з рознага роду сувенірамі, ідучы скрозь якія нельга не страціць першапачатковую пафаснасць настрою. Але шумлівы парад палатак урэшце заканчваецца, і перад намі — поле…

Крыжакі доўга выпрабоўвалі цярпенне славян, некалькі разоў у год нападаючы на іх землі. Рабуючы, забіваючы, палячы. Рыцары Тэўтонскага ордэна пазбавілі Вялікае Княства Лтоўскае і Польшчу выхада да Балтыйскага мора, захапіўшы частку іх зямель.

Першым не вытрымаў Вітаўт, вялікі князь Літоўскі. Ён прапанаваў Ягайле, каралю Польшчы, выступіць разам супраць агрэсіўнага суседа…

І вось 15 ліпеня 1410 года праціўнікі сышліся на раўнінным трохкутніку паміж вёскамі Грунвальд, Таненберг і Людвігсдорф. Войска ордэна пад камандаваннем Вялікага магістра Ульрыха фон Юнгінгена выстраілася фронтам паміж Грунвальдам і Таненбергам у дзве лініі. Саюзнікі — паміж Грунвальдам і Людвігсдорфам — у тры лініі. На левым крыле саюзніцкага фронту стаялі палякі (сумесна з чэхамі, рускімі і іншымі), на левым — войска ліцвінаў пад камандаваннем Вітаўта, на крайнім правым флангу — татарская конніца Джэл-эд-Дзіна.

І вось час ідзе, а кароль Ягайла ўсё не абвяшчае пачатку бітвы. Нецярпліва грымяць зброяй ратнікі,

іржуць асядланыя коні, а кароль маўчыць. Ужо некалькі разоў пад'язджаў да яго Вітаўт: «Давай, кароль! Пачынай бітву, брат!». Маўчанне. На двары — поўдзень, а Ягайла ніяк не можа адважыцца.

Крыжакі, бачачы нерашучасць польскага караля, пасылаюць да яго сваіх парламенцёраў — падносяць яму ў падарунак два агаленыя мячы. Маўляў, калі сваіх мала — бяры нашы. Толькі пачынай, урэшце, бітву.

— Гэй, ліцвіны! — крычыць, не вытрымлівае, пачуўшы пра такую ганьбу, Вітаўт.

— Бог нам раіць! — яму ў адказ равуць тысячы глотак.

І пакуль Ягайла думае, як адказаць Юнгінгену, лёгкая кавалерыя Вялікага Княства Літоўскага распачынае бітву. За ёй рушаць усе астатнія літоўскія харугвы.

Ліцвінаў сустрэлі артылерыйскія залпы, ямы-лавушкі і… цяжкая конніца крыжакоў.

Як потым напіша польскі летапісец Ян Длугаш, што быў сведкам бітвы, «…*праціўнікі перапляліся так цесна, што нельга было кроку ступіць, не знішчыўшы перад сабой ворага. І не стала ні баязліўцаў, ні герояў — усё патанула ў агульным рытме смяротнага бою*».

Той жа Длугаш зазначыць пасля, што «…*і коні, і ўзброенасць ліцвінаў была непараўнальна слабейшая, чым у палякаў*», якія ў той час, калі войска Вялікага Княства захлыналася ў крыві, яшчэ толькі ўступалі ў бітву.

Сілы няроўныя, і літоўская кавалерыя пачынае наўмыснае адступленне. За ёй у пагоню кідаецца цяжкая конніца Валенрода, але па перасечанай мясцовасці яна не можа дагнаць лёгкіх коннікаў. Больш таго, крыжакі сустракаюць моцнае супраціўленне літоўска-рускай пяхоты, пастаўленай паміж літоўскімі і польскімі войскамі. Адну частку тэўтонцы парубалі злёту, але дзве другія стаялі, ашчацініўшы коп'і, — ні з месца. Сярод крыжакоў узнікла замяшанне, а тут яшчэ па радах тэўтонцаў пакацілася: «Ліцвіны вяртаюцца! Літва ідзе!»

І сапраўды, Вітаўт перагрупіраваў свае харугвы і выслаў іх на дапамогу смаленцам. Гэты крок змяніў ход бітвы.

Удар крыжакоў стрымалі Віленская (нашы продкі!), Трокская, Гарадзенская, Смаленская і Жамойцкая харугвы.

Між тым, польскія войскі, адцясніўшы крыжакоў пад кіраўніцтвам Ліхтэнштэйна, пачалі акружаць Валенрода з правага фланга. Юнгінген увёў у бой другую лінію сваёй кавалерыі, але і палякі задзейнічалі свой рэзерв, а тут яшчэ вярнулася ў бітву літоўская конніца Вітаўта…

Вялікі магістр Ульрых фон Юнгінген, убачыўшы, што бітва набыла негатыўны для яго кірунак, вырашыў натхніць войска асабістым прыкладам. Ён падняў свайго каня на дыбкі і кінуўся наперад.

Удар звычайнай рагаціны ў шыю скінуў магістра на зямлю…

Калі бой скончыўся, у абозе Тэўтонскага войска саюзнікі знайшлі каля 10 вазоў, гружаных кандаламі і ланцугамі, якія перадвызначаліся для палонных славян…

500 гадоў пасля Грунвальдскай бітвы (да 1915 года) нага ўзброенага немца не ступала на славянскія землі!..

Кожны год 15 ліпеня на Грунвальдскім полі адбываецца своеасаблівая рэканструкцыя старажытнай бітвы: сучасныя «рыцары», сыходзячыся ў пастановачным баі, аднаўляюць падзеі даўно мінулых дзён.

У наступным годзе — 600-годдзе Грунвальдскай бітвы. Да гэтай вялікай даты ідзе актыўная падрыхтоўка: нанова перабудоўваецца музей, заліваюцца новыя асфальтавыя дарожкі, будуецца кавярня і іншыя сэрвісныя будынкі.

Удзел у юбілейнай рэканструкцыі бітвы прымуць прадстаўнікі ўсіх краін, войскі якіх пралівалі кроў на гэтым полі. Будуць і нашы беларускія «рыцары». І зноў, як 600 гадоў таму, першай панясецца ў бой легкакрылая конніца Вітаўта. І ні на крок не адступяць літоўска-рускія харугвы…

…Ёсць на Грунвальдскім полі неглыбокая лагчынка, якая перасякае яго ўпоперак. Трава ў ёй на тон цямнейшая, чым на ўсім астатнім полі. Менавіта ля гэтага раўчука адбываліся галоўныя падзеі.

Колькі ж тут пралілося крыві, што і праз шэсць стагоддзяў трава ў лагчынцы буяе?..

*P. S.* У канцы верасня 1939 года, калі немцы захапілі Варшаву, яны амаль адразу сталі шукаць карціну Яна Матэйкі «Грунвальдская бітва». У Нацыянальным музеі палатна не аказалася: яно знікла перад самым прыходам фашыстаў, а куды падзелася — пра гэта супрацоўнікі музея маўчалі нават пад пагрозай катавання.

Гітлераўцы распачалі следства, некалькі чалавек, якіх падазравалі ў захаванні карціны, былі расстраляныя, але знайсці яе так і не змаглі.

На так ненавісным немцам палатне Ян Матэйка намаляваў пераломны момант Грунвальд-скай бітвы: калыхнулася і вось-вось зваліцца белы сцяг з гербам Ордэна, а на зямлі ляжыць звергнуты «галоўны рубака» крыжакоў, магістр фон Юнгінген.

Адразу пасля заканчэння вайны «Грунвальдская бітва» Матэйкі вярнулася ў музей.

І яшчэ.

15 ліпеня 1945 года на Грунвальдскае поле выйшлі часці Польскага войска, якія ўдзельнічалі ў Вялікай Айчыннай вайне, да іх далучыліся рускія, беларусы, украінцы, чэхі… Салдаты, што прайшлі праз жудасны горан Другой сусветнай вайны, сабраліся разам, каб адзначыць 535-ю гадавіну Грунвальдскай бітвы. Каб уславіць першую сумесную перамогу над нямецкімі агрэсарамі.

…па дарозе назад, у Ольштын, мы заязджаем папіць кавы ў прыдарожную кавярню.

Размова чамусьці не клеіцца…

## *Апошняя сустрэча*

Яна адбылася на лужку перад вялізным (на тры паверхі) домам пана Флінікоўскага. Юрак толькі тыдзень таму вярнуўся з падарожжа па Харватыі і запрасіў сваіх спадарожнікаў на пікнік. А яшчэ нас, іншаземцаў, — немца Януша і беларуску Ганну. На нейкім этапе да нашай кампаніі далучыліся муж і жонка Старкевічы, гаспадары ўчарашняга пленэру.

На агні сквірчэлі каўбаскі, у бакалах іграла прывезенае з цёплай краіны віно, гучала харвацкая музыка… Усім было весела. І ніхто нават не заўважыў, калі тэма агульнай размовы набыла сур'ёзную афарбоўку.

— Даўно трэба забыць Другую сусветную вайну, — сказаў пан Януш. — Колькі можна палохаць немцамі! Было, прайшло, жывём далей.

— Так, — падтрымала яго адна з жанчын. — Мой унук так і гаворыць: «Не хачу я ведаць пра вашу вайну. Якая мне да яе справа?!»

Павісае агульная паўза.

І тут не вытрымліваю я:

— Так можна адхрысціцца ад усяго… Чаму ж, скажыце, Святы Айцец Ян Павел II не адмовіўся ад спраў амаль тысячагадовай даўнасці і ва ўсяго свету папрасіў прабачэння за гора, якое прынеслі людзям крыжакі, інквізіцыя і так далей?

— Забываць нельга… — падтрымаў мяне гул галасоў.

— Майго тату ў самым пачатку вайны забілі фашысты, — кажа пан Юрак. — Як я магу забыць?

— Майго дзеда, які жыў на Браслаўшчыне, таксама, — ківае галавой пан Старкевіч. — За дапамогу партызанам. Я даўно выношваю ідэю паставіць у Браславе помнік беларуска-польскаму сяброўству.

Немец адчуў сябе ніякавата, і ўсе астатнія пастараліся хуценька змяніць тэму.

Далей я амаль не ўдзельнічаю ў агульнай размове. Можа, таму, што вельмі стамілася за гэтыя тры неверагодныя дні, а можа, таму, што душой я ужо зазбіралася дамоў, — яшчэ гадзінка-дзве, і начны аўтобус панясе мяне на сваіх мяккіх падушках дамоў.

Д-А-М-О-Ў!!!

*Працяг у наступным нумары.*



**Ева Лявонава**

# «Мяне цікавіць душа, якая лунае вольна…»

## Псіхалагічнае наватарства Кнута Гамсуна

У гэтым годзе ў нашай краіне быў заснаваны амбіцыйны і надзвычай актуальны выдавецкі праект — публікацыя перакладаў на беларускую мову твораў замежных пісьменнікаў, чые літаратурныя дасягненні адзначаны Нобелеўскай прэміяй. Рэдактар серыі «Noblesse Oblige» — Сяргей Макарэвіч. Распачата серыя выданнем выбраных твораў класіка нарвежскай літаратуры Кнута Гамсуна (Голад: Збор твораў. — Мінск: выдавец А. М. Янушкевіч, 2017). У кнігу ўвайшлі раннія раманы пісьменніка «Голад» (пераклад Лявона Баршчэўскага), «Пан» і «Вікторыя», а таксама яго Нобелеўская прамова (пераклады Лідзіі Ёхансэн). Хацелася б прыцягнуць увагу да гэтых твораў менавіта маладога чытача, бо якраз да моладзі не стамляўся звяртацца і сам знакаміты пісьменнік. Вось і ў сваёй Нобелеўскай прамове, услаўляючы «ўсіх маладых» і «ўсё маладое ў жыцці», Гамсун гаварыў: «Мне з радасцю ўспамінаецца, як некалі раней, у дні маёй блаславёнай маладосці, мяне магло… падхапіць хваляю і панесці. А ў маладосці з кім такое не здараецца?.. Самае страшнае для моладзі — гэта завязнуць у неабачлівасці і негатыве. Ну, а ўсё астатняе на жыццёвым шляху можа ўзняць нас на хвалі і панесці. Што з таго? Мы ўсё роўна стаім на адным месцы, нам гэта толькі на карысць».

Нарадзіўся Кнут Гамсун (сапраўднае імя — Кнуд Педэрсен) 4 жніўня 1859 года ў сям'і вандроўнага краўца. Пасля заканчэння пачатковай школы ў 1873 годзе зарабляў на жыццё гандляром, докерам, вясковым пісарам, хатнім настаўнікам, дарожным рабочым, пазней — журналістам. Двойчы наведаў ЗША, пабываў у Фінляндыі, Расіі, Персіі, Турцыі, Францыі. Першай значнай яго публікацыяй стала кніга нарысаў «Духоўнае жыццё Амерыкі» (1889). Асабліва плённа ён працаваў у раманнай прозе («Голад» (1890), «Містэрыі» (1892), «Новая зямля» (1893), «Пан» (1894), «Вікторыя» (1898), «Пад восеньскімі зоркамі» (1906), «Вандроўнік грае пад сурдзінку» (1909), «Дзеці свайго часу» (1913), «Плёны зямлі» (1917), «Жанчыны каля студні» (1920), «Бадзягі» (1927), «Кальцо замыкаецца» (1936) і інш.). Гамсун пакінуў таксама заўважны след у навелістыцы, паэзіі, драматургіі (найбольш вядомая яго трылогія — «Каля брамы царства» (1895), «Гульня жыцця» (1896), «Вечаровая зара» (1898)). Апошняй значнай працай аўтара стала аўтабіяграфічная кніга «Па зарослых сцежках» (1949). Памёр пісьменнік у 1952 годзе.

Апошні перыяд жыцця Гамсуна быў азмрочаны яго калабарацыянізмам. Састарэлы пісьменнік падтрымаў лідэра нарвежскіх фашыстаў Квіслінга, а пазней — і акупацыю Нарвегіі гітлераўцамі. У 1948 годзе нарвежскі суд абвінаваціў яго ў здрадзе Радзіме. Як трапна скажа Л. Драньbig-Майсюк у эсэ «Плач без слёз», «Кнут Гамсун пачынаў сваё вялікае жыццё еўрапейскім правінцыялам, а скончыў яго сусветным ізгоем». Аднак вялікая і неаспрэчная правіна Гамсуна не перакрэсліла яго твораў. Яны, кажучы словамі расійскага літаратуразнаўцы Б. Сучкова, «застаюцца, нягледзячы на цяжкія памылкі пісьменніка як чалавека, адной з тых духоўна-эстэтычных каштоўнасцей, без якіх мастацкі кругагляд… быў бы вузейшым, а вопыт — бяднейшым».

Каб зразумець і па вартасці ацаніць эстэтычныя адкрыцці пісьменніка, трэба ўяўляць стан тагачаснай еўрапейскай літаратуры. У другой палове XIX стагоддзя, як ніколі раней, выразна загучала неабходнасць псіхалагізацыі мастацкага слова. Прынцып дастаткова аднабаковага падыходу да асобы, згодна з якім ідэя вышэйшая за індывідуальнасць, часам не задавальняў нават тых пісьменнікаў, у чыіх творах ён пераважаў. Да прыкладу, англійскі празаік Энтані Тролап, маючы на ўвазе гэтак званы тыповы характар, у 1873 годзе пісаў: «Калі такі вобраз ствараецца дзеля таго, каб паказаць, якім чалавек павінен быць, — ён слушны. Але калі ён створаны, каб паказаць, якія людзі насампраўдзе, — ён ілжывы». Паслядоўны рамантык Жорж Санд напрыканцы творчага шляху падзялілася запаветным жаданнем: «Я хачу бачыць чалавека не добрым і не кепскім, а такім, які ён ёсць. Ён і добры, і кепскі адначасова». Хацець хацела, аднак яе ўласных персанажаў — у адпаведнасці з эстэтыкай рамантызму — вызначае нейкая адна пэўная якасць.

Рэалістычны герой у параўнанні з рамантычным стане больш прыземленым, будзённым і

праз тое цікавейшым для шырокага кола чытачоў, бо апошнія маюць з ім больш агульнага, і разам з тым — жывейшым, больш супярэчлівым, індывідуалізаваным. Але ж і рэалістычны персанаж быў дэтэрмінаваны, перш за ўсё — сацыяльным асяроддзем, што не магло не мець сваім вынікам пэўных меж у адлюстраванні душэўнага жыцця, псіхалагічных патэнцый героя і, вядома ж, у мастакоўскім самавыяўленні. Паказальная ў гэтым сэнсе думка Генры Джэймса наконт творчасці Чарльза Дзікенса: «Ён нічога не дадаў да нашага разумення чалавечага характару». Па сутнасці, тое ж самае даследчыкі канстатавалі ў дачыненні да прозы слыннага Анарэ дэ Бальзака. Напрыклад, нямецкі псіхолаг К. Леангард у сваёй кнізе «Акцэнтуіраваныя асобы» звяртае ўвагу на вольнае абыходжанне класіка французскага рэалізму з такім паняццем, як «цэласнасць асобы»: «Ён, магчыма, і добры псіхолаг, бо добра разумее людзей і здольны бліскуча апісаць іх асобныя характаралагічныя рысы. Аднак вобразам яго не ўласціва цэласнасць, героі адметныя чыстай зменай рэакцый. Рэакцыі ж пададзеныя гэткімі, якімі яны патрэбны аўтару для здзяйснення яго сюжэтнай задумы, для стварэння прыдуманых ім яркіх сітуацый, а зусім не для глыбокага раскрыцця псіхалогіі». Гаварылі пра гэта і раней, яшчэ пры жыцці пісьменніка, прычым гаварылі ўсе — ад выдаўцоў да крытыкаў. Натуральна, аддаючы пры гэтым даніну павагі таленту Бальзака, бо агульнапрызнана: да мастацтва пэўнага часу трэба і падыходзіць з адпаведнымі гэтаму часу крытэрыямі.

У скандынаўскіх літаратурах, і нарвежскай таксама, тэндэнцыя да псіхалагічна пераканаўчай абмалёўкі вобраза таксама набыла даволі інтэнсіўны характар, але пазней — у параўнанні з шэрагам іншых еўрапейскіх літаратур; з цягам часу гэтая тэндэнцыя атрымае азначэнне «новы рэалізм». У 1918 годзе нарвежскі пісьменнік і крытык Хрысціян Эльстэр-малодшы падкрэсліць: «…мастак мусіць з цеплынёй ставіцца да жыцця, якое насамрэч багацейшае за тое, што паказвалі пісьменнікі прыземленага рэалізму; яно больш разнастайнае, гэтае няшчаснае, гэтае праклятае чалавечае жыццё. У новым рэалізме прысутнічае пакуль яшчэ слабая праява новага жыццеадчування, новай містыкі… Яны (прыхільнікі новага рэалізму. — *Е. Л.*) вяртаюць пачуццю яго важкасць менавіта як пачуццю, яны схіляюцца перад яго моцай і веліччу таямнічага сэнсу чалавечага жыцця. Простыя рэчы зноў набываюць каштоўнасць… Новы рэалізм вяртаецца да пачуцця».

Аднак вяртанне да пачуцця, да падзей душэўна-духоўных давалася нарвежскай літаратуры нялёгка, і роля Гамсуна ў гэтым працэсе — выключная. Яго канфлікт з традыцыйным «аб'ектыўным аналізам», з традыцыйнымі, «пазнавальнымі» персанажамі-тыпамі быў гэткім катэгарычным, радыкальна-палкім, што і на сённяшні пакідае ўражанне кроўна асабістага. Паводле Гамсуна, нарвежскае мастацтва слова было сацыяльна ангажаваным, на шкоду псіхалагізму, у значна большай меры, чым у іншых літаратурах. У праграмным артыкуле «Псіхалагічная літаратура» (1891) малады аўтар кідае сапраўдны выклік мастакам-суайчыннікам: «Мы да гэтага часу іграем на катрынцы — на трох-чатырох асноўных пачуццях, на якіх граў яшчэ Шэкспір…». Задаючыся пытаннем, чаму ж у такім разе Шэкспір працягвае цікавіць і кранаць, Гамсун выкладае тры асноўныя прычыны: па-першае, Шэкспір мае аўтарытэт; па-другое, ён абавязаны поспехам тэатру, тым больш што ў сцэнічным увасабленні выглядае значна мацнейшым, чым пры чытанні, а гэта ўжо не яго заслуга, а акцёраў; па-трэцяе, яго персанажы апантаныя пачуццямі з ліку «вечных», і гэта вабіць, аднак зусім не робіць Шэкспіра сучасным. Прыкладна гэтак жа ён тлумачыць папулярнасць Дэфо, Дантэ, Гётэ і многіх іншых твораў і творцаў. Пазней, у кнізе нарысаў «У казачным царстве» (1903), Гамсун вынесе прысуд і Льву Талстому — за рэзанёрства і штучнасць: «Філасофія Талстога — гэта сумесь старых банальнасцей і далёкіх ад дасканаласці ўласных ідэй».

Затое Дастаеўскага Кнут Гамсун ставіць вельмі высока — менавіта за яго глыбокае пранікненне ў чалавечую натуру, за «бездакорную псіхалагічную чуйнасць». Ён называе рускага пісьменніка «празорцам» і прызнаецца: «Дастаеўскі — адзіны мастак, у якога я нечаму навучыўся, ён — найвялікшы сярод рускіх гігантаў». Нядзіўна, што кніга «У казачным царстве», напісаная пад уражаннем ад знаёмства з «радзімай Дастаеўскага», выклікала мноства папрокаў у адрас аўтара, самым вызначальным сярод якіх быў папрок у звышсуб'ектыўнасці. Канстатавалася, што такіх суб'ектыўных дарожных нататак літаратура яшчэ не ведала, што Гамсун не столькі пра Расію ці Каўказ распавядае, колькі пра ўласную, у вышэйшай ступені своеасаблівую персону. Прынамсі, відавочна: і рускую класіку пісьменнік выпрабоўвае на псіхалагізм, і тут Гамсунам рухае пошук сапраўдных чалавечых глыбінь. Тое ж ён шукаў — і не знаходзіў — у абшарах амерыканскай літаратуры, наконт якой у кнізе «Духоўнае жыццё Амерыкі» (1889) выказаўся недвухсэнсоўна: «Амерыканская літаратура безнадзейна далёкая і бедная на таленты… няма ў ёй самастойнага жыцця, няма духоўнага руху».

Не знаходзіў Гамсун сапраўднага псіхалагізму і ў айчыннай літаратуры, якая, паводле яго меркавання, развівалася пад знакам мэтра французскага натуралізму Эміля Заля, чый «аналіз душэўных станаў надзвычай нішчымны» і чые кнігі — «быццам таварныя вагоны з прадметамі шырспажыву». Іначай кажучы, нарвежская літаратура заставалася на той час пераважна сацыяльнай. У гэтай сувязі процьму закідаў ад пісьменніка мела нарвежская «вялікая чацвёрка» — Юнас Лі, Аляксандр Х'елан, Б'ёрнстэрнэ Б'ёрнсан і, зразумела, Генрык Ібсен. Як пры жыцці Гамсуна, так і пасля яго смерці адным з улюбёных сюжэтаў шматлікіх прысвечаных яму даследаванняў стаў матыў «Гамсун супраць Ібсена». На сконе жыцця Ібсен, вядома ж, зазвычай чуў хваласпевы. А тут нейкі пачатковец, яшчэ да з'яўлення якога на свет Ібсен паспеў набыць вядомасць як цікавы драматург і рэфарматар сцэны, асмеліўся ў сваім артыкуле «Нарвежская літаратура» (1891) абвінаваціць яго, на той час ужо славутага пісьменніка, у «прамалінейнай адназначнасці» і «ненатуральнай абмежаванасці» вобразаў, калі цалкам выключаецца наяўнасць у іх якіх-небудзь «патойбочных», «неістотных» якасцей. Пазней, у лісце да Георга Брандэса (1898), Гамсун наогул залічыць Ібсена (як і Шэкспіра) у «нязначныя асобы». Адзінае апраўданне ён усё ж для іх знаходзіць: яны — драматургі, а драматургу цяжка праявіць сябе тонкім і праніклівым псіхолагам; аднабаковасць і псіхалагічная павярхоўнасць непазбежныя для драматургіі па азначэнні. «Скупы ў Мальера — толькі скупы, шэкспіраўскі Атэла — толькі раўнівы, Яга — толькі подлы». Вось і атрымліваецца, што звычайны паштальён ці вулічны хлапчук значна цікавейшы за ібсенаўскіх герояў.

Б'ёрнсан? Ну які з яго псіхолаг, разважае Гамсун, калі ён лічыць, што ў Нарвегіі чалавек не пакутуе на «хваравітую блытаніну тэмпераментаў», бо, дзякуй Богу, тут вам не Расія з яе «загадкавай душой», у нарвежца моцныя нервы і наогул усё ў парадку. Аднаго са сваіх персанажаў, распавядае пісьменнік, Б'ёрнсан вырашыў у фінале твора пазбавіць жыцця, але за пакутніка заступілася жонка пісьменніка, фру Б'ёрнсан: як можна, ён жа нікому не зрабіў блага. То добра, пагадзіўся муж, хай сабе жыве. І гэта — псіхалогія?!

Аўтарытэтнасць прызнаных мастакоў не надта палохала Кнута Гамсуна. Ён лічыў супярэчлівасць, дысгармонію чалавечай натуры ад прыроды дадзенымі і марыў пра адпаведных літаратурных герояў. Тым больш само жыццё змянілася і змяніла, ускладніла чалавека: «…наш мозг працуе ліхаманкава, нашы нервы гранічна агаленыя. І калі ўжо людзі сталі складанейшыя, літаратура павінна гэта паказваць». Адэкватнае адлюстраванне асобы Гамсун знаходзіў хіба што ў Дастаеўскага і шведскага пісьменніка Аўгуста Стрындберга.

Вялікі рэзананс меў яго артыкул «Аб несвядомым духоўным жыцці» (1890), напісаны, што паказальна, раней за выхад з друку першай кнігі Фрэйда. Артыкул месціць у сабе і аўтарскія назіранні за працэсамі ва ўласнай свядомасці і падсвядомасці, і невытлумачальныя — са звыклага, «нармальнага» гледзішча — гісторыі, што здараліся з іншымі людзьмі. Гэтая праца набліжае нас да асобы і творчых намаганняў пісьменніка, як, можа, ніводная іншая яго публікацыя. Часам амаль спавядаючыся, часам адасабляючыся, але і ў гэтым выпадку не пакідаючы месца для сумневу, што прадмет мастацкага даследавання для яго — найперш ён сам, уласнай персонай, а не нейкі абстрактны «сучасны чалавек», Гамсун даводзіў,

што расце колькасць тых, хто напружана мысліць, на ўласным вопыце перажывае раптоўныя парыванні, імгненні несвядомай лучнасці з прыродай, загадкавыя псіхалагічныя з'явы і дзіўныя душэўныя станы — «нямы экстаз, прыліў унутранай энергіі, здольнасць пачуць далёкія сігналы з глыбінь паветранай прасторы і марской стыхіі, пакутлівую і дзівосную ў сваёй вастрыні магчымасць успрымаць гукі і нават трымценне невядомых атамаў, пра існаванне якіх толькі здагадваешся…». Пры гэтым Гамсун цалкам усведамляў, што, надаючы больш увагі «стану душы чалавека», літаратура рызыкуе згубіць частку чытачоў — тых, каго ў творы цікавіць знешне-падзейны змест, хто задавальняецца «танным павярхоўным псіхалагізмам» і каму справы нямы да «таямнічых працэсаў, што неўпрыкмет адбываюцца ў перыферыйных сферах чалавечай свядомасці».

Глыбокі мастацкі псіхалагізм азначаў для Кнута Гамсуна «дапытваць душу» чалавека, пранікаць ва ўсе яе падзеі і таямніцы, бо, кажучы словамі яго героя Томаса Глана, «крыніца і гора, і радасці знаходзіцца ў нас саміх». Душа — вось асноўнае месца дзеяння ў творах Гамсуна і асноўны аб'ект яго вывучэння. Душу ён падпільноўвае ў сне і наяве, не пакідае яе ні ў самых няўлоўных мроях, ні ў яе будзённых клопатах, ні ў яе радасці, ні ў смутку: «…Я слядкую за ёй тут, на зямлі, і слепа кідаюся за ёю ў іншасветы, я перасякаю прастору, трапляю ў краіну фантазій, зор, сонечных духаў, пераходжу межы свету і апускаюся да залатога палаца… Усё гэта я раблю з цалкам усвядомленым намерам: высвеціць душу і пранікнуць у яе містэрыі». «Мяне цікавіць душа, якая адчувае і дзейнічае вольна і, быццам непераможная амазонка, лунае над нябёсамі і апраметнай. І таму я слядкую за ёй — неадступна».

Пачуццё ў творах Гамсуна нібы матэрыялізуецца, настолькі адчувальна-бачныя ўсе яго найтанчэйшыя праявы, усе яго паўтоны і адценні, спантанныя рухі — зменлівыя, пералівістыя, незавершаныя. Чалавечае быццё ў адлюстраванні нарвежскага празаіка пазбаўляецца штучнасці і прамінае ў максімальна набліжаных да натуральнасці свядомасных межах. «Кроў падказвае мне, што я знаходжуся ў духоўнай сувязі з Сусветам, са стыхіяй. Можа, аднойчы — у далёкай будучыні — людзі перастануць быць людзьмі і зробяцца такімі істотамі, якія будуць суадносіцца з сучасным чалавекам, як апошні — з аднаклетачнымі, і змогуць любіць не толькі падобных да сябе, але і ваду, агонь, паветра». «Сын сонца» — так невыпадкова назаве пісьменнік, бясспрэчны пантэіст, адно са сваіх апавяданняў.

Тэарэтычныя інвектывы і ўнутраныя памкненні Гамсун суправаджаў адпаведнымі мастацкімі рэалізацыямі. У гэтым сэнсе асабліва паказальныя якраз яго раннія раманы — «Голад», «Пан», «Вікторыя». Менавіта ў гэтых творах напоўніцу раскрылася яго псіхалагічнае наватарства. Нобелеўскай прэміяй мастак быў ўганараваны ў 1920 годзе — за «Плёны зямлі», аднак аўтар, па шматлікіх сведчаннях, не адносіў яго да самых значных сваіх твораў. Менавіта ў ранняй прозе Гамсуна адбываецца сапраўдная душэўная анатомія чалавека, якая пазней у значнай меры саступіць месца сацыяльна-грамадскай праблематыцы (хаця апошняя ўлічвалася пісьменнікам заўсёды, інакш пазбегнуць нарматыўнасці і аднабаковасці было б немагчыма). Меў рацыю. Іванаў, заўважыўшы: «…калі цікавасць да Гамсуна адновіцца, яна закране перадусім «Вікторыю» і «Голад», з якіх пачыналася яго слава».

«Голад» многія сучаснікі ўспрынялі як выключна аўтабіяграфічны раман. Сапраўды, шмат перажытага Гамсунам у юнацтве знайшло адлюстраванне ў гэтым творы. Аднак для самога аўтара было надзвычай важна, каб у «Голадзе» чытач убачыў не толькі ўвасабленне голаду — пра яго дастаткова пісалі і раней. У многіх лістах Гамсун заўважае, што ў «Голад» ён перанёс не так свае фізічныя, як душэўныя пакуты, што яго «цікавіў бясконцы рух душы»: «…мне ўдалося апісаць псіхалагічныя станы, нязвыкласць і навізна якіх, у кожным разе, нікога не могуць стаміць аднастайнасцю. З першай і да апошняй старонкі не паўтараецца ніводнае адчуванне… Я паспрабаваў напісаць кнігу без жаніцьбы, паездак на прыроду і балю ў заможнага гандляра…».

Зрэшты, у наступных творах будуць і пікнікі, і гандляры, і балі; кнігі стануць сюжэтнымі, аднак застануцца ўсё тымі ж, што і «Голад», увасабленнямі душэўных парыванняў або, паводле аўтарскага вызначэння, «нервовымі містэрыямі». Асаблівым багаццем псіхалагічна-пачуццёвай палітры адметнае ў Гамсуна адлюстраванне ўзаемаадносін паміж мужчынам і жанчынай. Гэты спаконвечны матыў

вызначае змест і «Пана», і «Вікторыі», якую ён, па ўласным прызнанні, «пісаў удзень і ўначы» і над якой «плакаў, як вар'ят». «Пан» і «Вікторыя» — па сутнасці, варыяцыі адной драмы. Іх лучыць настраёвая атмасфера, трывожна-напружаная, набрынялая непазбежнай і блізкай трагедыяй; канфлікты твораў, унутраная расстаноўка персанажаў, іх псіхалогія і паводзіны структураваны амаль па адным прынцыпе. Галоўнае ж, што яднае раманы, — гэта тэма кахання. Сусветная літаратура неверагодна багатая на творы пра каханне, аднак няшмат знойдзецца кніг, дзе ўся гама эмоцый апантанага жарсцю чалавека прайгравалася б з такой паўнатой, як у Гамсуна; тут ёсць усе падставы гаварыць не толькі пра паэтыку, але і пра філасофію пачуцця.

Напэўна, залішне даказваць, што любоўная калізія дазваляе раскрыць душу і свядомасць героя гранічна цэласна і шматгранна. У Гамсуна каханне паказана ва ўсіх складовых квантах; яно раздрабняецца, зноў збіраецца ў адно, праяўляецца ва ўсёй працяглгасці свайго ўладарання над чалавекам, калі забірае ўсю яго істоту, не пакідаючы ніводнага вольнага ад сябе куточка душы. Невычэрпны і салодкі, але небяспечны цуд, здольны літаральна знішчыць закаханага, — такім паўстае пачуццё кахання са старонак гамсунаўскіх раманаў. Лейтэнант Томас Глан у «Пане» свядома выкліча ў спадарожніку па паляванні рэўнасць і раз'юшанасць, каб у рэшце рэшт атрымаць жаданую кулю, бо яму нельга быць з Эдвардай і нельга быць без яе; падобна, не толькі цяжкая хвароба, але і немагчымасць злучыць сваё жыццё з жыццём каханага, Юханеса Мёлера, угоніць у магілу Вікторыю.

І ў «Пане», і ў «Вікторыі» перад чытачом — каханне-дуэль, каханне-саперніцтва, каханне-барацьба, у якой няма і не можа быць пераможцы і якой ад самага пачатку наканаваны сумны фінал. І справа не ў вонкавых абставінах, што раз'ядноўваюць закаханых і асуджаюць іх на пакуты і расставанне, не ў сацыяльнай няроўнасці, а ў натуры, у чалавечай прыродзе герояў. Нават у «Вікторыі», дзе сітуацыя сапраўды ўскладнена сацыяльнай падзеленасцю персанажаў: яна — дачка гаспадара замка, ён — плебей, сын млынара. Ды вось, здаецца, знішчаны ўсе бар'еры: Юханес — ужо не «бедны хлопчык з млына», а вядомы пісьменнік, кумір моладзі; трагічна абрываецца жыццё нарачонага Вікторыі, шлюб з якім абяцаў вырátаваць яе бацьку ад банкруцтва; нявеста Юханеса пакахала іншага — але як ніколі раней Вікторыя і Юханес далёкія адно ад аднаго. «Дзіўна ўсведамляць, што я прыйшла на гэты свет адно каб пакахаць Вас і неўзабаве назаўсёды з Вамі развітацца… — прызнаецца Вікторыя ў перадсмяротным лісце. — Я ніколі не паказвала Вам сваіх пачуццяў, багата што гэтаму доўгі час замінала, але найперш — мая ўласная натура».

У абодвух раманах адна-адзіная сапраўдная гераіня — страсць, праз якую Гамсун пасвячае нас у «патаемнае», у глыбіні сэрца і свядомасці. Яго героі — натуры антынамічныя, дваістыя ці нават стэрэаскапічныя, з супакладзенымі ў іх рознымі, часам узаемавыключальнымі, пачаткамі. Свядомасць герояў то бунтуе, то спрабуе адаптавацца, рэагуе то прадказальна, то нечакана; канец жа заўсёды трагічны: ступень індывідуальнасці, суверэннасці, «самасці» персанажа (і Глана, і Юханеса) гэткая, што не можа абсарбіравацца ні грамадскімі, ні прыватнымі стасункамі.

Звяртае на сябе ўвагу і яшчэ адна рыса характараў і паводзін гамсунаўскіх герояў — хваравітасць, разумець якую варта не толькі літаральна, хаця і гэты аспект прысутнічае нязменна: апісанні хвароб, размовы і нават дыскусіі наконт іх займаюць значнае месца ў творах. Справа, аднак, у іншым. Гамсун пачынаў пісаць у эпоху, адзінай перспектывай якой многім бачыўся апакаліпсіс. Хворы час — хворыя людзі. Іх свядомасць і падсвядомасць мусяць віраваць у пошуках калі не шляху, то хаця б выратавальнай сцяжынкі. Прыгадайма «Запіскі з падполля» Дастаеўскага: «Клянуся вам, панове, што зашмат думаць — гэта хвароба…».

Гамсунаўскі «ўскладнёны» чалавек з тонка арганізаванай нервовай сістэмай таксама ў пэўным сэнсе «зашмат думае» і «надта ўсведамляе», ён — не такі, «як усе», белая варона, чужаніца, што не прымае крывадушнасці, залішне мроіць і мысліць. І кахае залішне моцна, аднак пры гэтым упарта не жадаючы прызнаваць сваёй душэўнай падпарадкаванасці іншаму. Пазней Карл Густаў Юнг у кнізе «Псіхалагічныя тыпы» дасць ілюстрацыі да апісанага яшчэ Гераклітам закону, паводле якога ўсё рана ці позна ператвараецца ў сваю процілегласць: Павел прыме хрысціянства, вучоны Сведэнборг стане містыкам і г. д. Падаецца, той жа закон кіруе героямі Гамсуна, і асабліва — гераінямі, у якіх пастаяннае хіба што адно непастаянства: гэтыя «бурыданавы асліцы» ніяк не зробяць апошняга кроку, але і не

адпускаюць, вабяць, але і адштурхоўваюць, абдаюць хвалямі то пяшчоты, то нянавісці, то прызнаюцца ў каханні, то абражаюць і зневажаюць. Нядзіўна, што паводзіны персанажаў аўтара багатыя на неадэкватныя ўчынкі, учынкі-казусы: пакрыўджаны абыякавасцю Эдварды Глан, не валодаючы сабой, пачынае дэманстраваць перад збянтэжанымі паненкамі калекцыю штучных мушак; вось на яго зноў «нешта найшло», і ён на вачах разгубленых спадарожнікаў хапае і кідае ў ваду чаравік Эдварды; а вось Глан пасярод балю, публічна плюе ў вуха свайму суперніку-барону; вось ён, зняважаны Эдвардай, прастрэльвае сабе нагу... (Гэтыя афектыўныя ўчынкі не могуць не выклікаць асацыяцый з Дастаеўскім; згадайма Мікалая Стаўрогіна, які ў дваранскім сходзе за нос праводзіць пана Гаганава праз усю залу).

Філіграннае псіхалагічнае майстэрства пісьменніка закранула ўсе кампаненты яго мастацкай сістэмы. Не ў апошнюю чаргу гэта датычыцца дыялогу. У Гамсуна чалавек адкрываецца ў дыялогах рознага кшталту — з прыродай, Богам, людзьмі, і часта гэтыя дыялогі адбываюцца ў непарыўнай злітнасці аднаго з адным, выконваючы якраз функцыю паглыблення мастацкага псіхалагізму: ахопленыя каханнем героі прамаўляюць зусім не адпаведныя стану словы, а фігуры змаўчання даносяць больш за рытуальны абмен фразамі. Так у яго паэтыцы ўвасабляецца дынаміка свядомасці падсвядомасці, раскрываецца дыялектыка перажывання. Значная ўвага, насуперак традыцыйнаму для таго часу ўзбуйненаму рэалістычнаму малюнку, надаецца дэталі. У вышэйшай ступені адпавядае мастацкаму псіхалагізму Гамсуна яго ўніверсальная апавядальная манера — арганічны сінтэз рэалізму і натуралізму, сімвалізму і найперш імпрэсіянізму, істотнага ў гэтым выпадку прынцыпова і канцэптуальна. Праз гэтыя і многія іншыя навацыі псіхалогія герояў паўстае шматмернай і драматычнай, выведзенай на новы ўзровень мастацкага даследавання, каб з цягам часу пацвердзіць сваю перспектыўнасць і займець развіццё ў пісьменнікаў-наступнікаў — прадстаўнікоў розных краін, школ і напрамкаў.

Гамсун быў вельмі папулярны ў пачатку XX стагоддзя ў Беларусі. Яму прысвячалі артыкулы, даклады, лекцыі. Ва ўплыве яго на ўласную творчасць прызнаваўся Янка Купала, асабліва вылучаючы п’есу Гамсуна «Каля брамы царства». Ю. Пшыркоў, І. Навуменка, У. Сакалоўскі і іншыя даследчыкі пісалі пра глыбокую цікавасць да яго Якуба Коласа. І. Навуменка бачыў агульнае паміж беларускім і нарвежскім класікамі ў натурфіласофскай праблематыцы іх прозы (гл.: І. Я. Навуменка. Якуб Колас: Духоўны воблік героя. — Мінск, 1981. — С. 61—62). Беларускім Гамсунам назваў Якуба Коласа нарвежскі літаратуразнаўца Марцін Наг, параўноўваючы «Плёны зямлі» Кнута Гамсуна з Коласавай «Новай зямлёй». Ю. Пшыркоў у артыкуле «Незабыўныя сустрэчы» распавёў, як здзівіў яго Якуб Колас паведамленнем, што «ў маладосці вельмі захапляўся творчасцю Кнута Гамсуна» (Полымя. — 1967. — № 7. — С. 200—201). Максім Танк у «Лістках календара» пісаў: «Кнута Гамсуна я палюбіў за яго «Голад» і «Вікторыю», бо ведаў, што такое голад і каханне…». Вялікае ўражанне на Максіма Танка зрабіў верш Гамсуна, які трапіўся яму ў польскім перакладзе і які ён з польскай жа пераклаў на беларускую пад назвай «Месца пахавання». Мастацкую манеру нарвежскага раманіста аналізаваў у свой час і У. Дубоўка.

Не знікае цікавасць да Гамсуна і ў нашы дні. На беларускую мову Л. Баршчэўскі пераклаў яшчэ і яго навелу «Царыца Саўская». Даследчыца літаратуры Вольга Уткевіч абараніла кандыдацкую дысертацыю «Тыпалогія нацыянальнага характару ў творчасці Кнута Гамсуна і Максіма Гарэцкага». Тыпалогіі твораў Гамсуна і беларускіх майстроў слова прысвяцілі свае навуковыя артыкулы П. Васючэнка, Т. Тарасава, І. Багдановіч і іншыя літаратуразнаўцы.

Аднак вернемся напрыканцы да ранніх раманаў Кнута Гамсуна — гэтым разам праз пранікнёныя радкі са згаданага вышэй эсэ Л. Дранько-Майсюка «Плач без слёз». Задаючыся пытаннем, які тып раманнага героя будзе асноўным у прозе XXI стагоддзя — амерыканскі, французскі, нямецкі ці, можа, рускі, паэт піша: «Ёсць яшчэ і ранняга́мсунаўскі тып… Чалавек — балючая паэзія. Вандроўнік, які верыць, што абавязкова выкупіць у старызніка ліру і прапяе… самую пяшчотную песню кахання…». Завяршае Л. Дранько-Майсюк сваё эсэ надзвычай паказальным жаданнем, «каб раннегамсунаўскі раманны тып у прозе новай эпохі атрымаў сваю пачуццёвую перамогу». Будзьма спадзявацца на гэта разам з паэтам!

**Валерый Назараў**

# Эвалюцыя ідэі аповесці Янкі Брыля «Золак, убачаны здалёк»

Калі меркаваць па «Сваіх старонках», новую аповесць Янка Брыль пачаў абдумваць напрыканцы 1976-га, а выношваў увесь 1977 год. Запісы новага года ён пачаў цытатай з артыкула Ядвігіна Ш. «Не убивайте их!»: «Не будь аиста да жаворонка, пожалуй, бедному землепашцу и головы незачем было бы ввысь поднимать». А пасля занатаваў уласную думку: «...сказана па-руску і нібы між іншым. А просіцца на эпіграф» [3, с. 369]. Хаця гэтыя радкі і не сталі эпіграфам да новага твора, іх уплыў на 12-ы раздзел аповесці бясспрэчны.

Праз некалькі запісаў пра творчыя планы гаворыцца яшчэ больш выразна: «Маё новае будзе, відаць, зноў жа такі ад першай асобы. Хоць і з мастацкім домыслам і свабадней. Як у "Байдунах"» [3, с. 372]. Сустракаюцца і развагі пра тое, як, у якой форме трэба рэалізоўваць задуму: «…пісаць трэба ўсё-такі як успаміны, з усёй свабодай адступленняў, заглядвання ў пазнейшае, да сённяшніх дзён уключна. Неабавязкова з усімі падрабязнасцямі аўтабіяграфічнага характару, беручы з усёй строгасцю толькі патрэбнае. [...] Не ведаю толькі, не зусім упэўнены, што рашэнне маё, нарэшце, канчатковае» [3, с. 375].

Назва «Золак, убачаны здалёк», безумоўна, правакуе на ўспрыманне аповесці як аўтарскіх успамінаў. Гэтак яе і ацаніла крытыка, што, як ні дзіўна, абурыла Янку Брыля. Бо мемуарнасць аказалася ў выніку ўсяго толькі агульным фонам, патрэбным для выказвання запаветных думак пісьменніка, што пацвярджаецца таксама адсутнасцю храналогіі выкладу падзей. Разважаючы над характарам будучага твора непасрэдна ў накідах да яго, аўтар схіліўся да наступнага меркавання: «Відаць, аповесць-эсэ. Свабодна чаргуючы жывапіс з роздумам. Тое, у чым я мацнейшы...». І яшчэ адно разважанне: «Усё-такі не ўспаміны. [...] Ігар-Юрык мог і не помніць усяго. І — галоўнае — мне не трэба будзе прытрымлівацца «жыційнасці», праўды факта, бо і так усяго да канца не скажаш, дый не трэба» [7, арк. 3, 4]. Адмаўляючыся ад «праўды факта», Янка Брыль тым не менш не адмаўляўся ад фактычнага матэрыялу: як сведчаць нататкі і накіды, амаль усе падзеі ў творы — праўдзівыя жыццёвыя здарэнні. Проста аўтар змяняў імёны, часам спалучаў узятае ад розных асоб у жыцці ці ў вобразе аднаго канкрэтнага героя, пераносіў перажытае ў маладосці ў дзяцінства.

У нататках пісьменніка сустракаюцца дзве ранція назвы аповесці: «Вясёлая падсада» і «Братанне» [7, арк. 2, 5]. Першая, відавочна, з'явілася пад уплывам «Ніжніх Байдуноў», яшчэ да канчатковага афармлення задумы. Другая адлюстравала ўжо больш сур'ёзную мэту пісьменніка, невыпадкова яна ўзнікла пасля прыблізнага акрэслення галоўнай задачы: «*Не адкрыццё нейкае*, а падставіць і свой плячук пад цяжкі воз справы збліжэння людзей — гэтае добра зрабіць, і будзе нямала».

Падзеі на руска-нямецкім фронце ў 1917 годзе (адсюль карані другой ранняй назвы) і лёсы радавых асабліва цікавілі Янку Брыля. Захаваліся выпіскі з кніг, прысвечаных таму перыяду, і ўласныя разважанні, у якіх аўтар прымервае на сябе салдацкі побыт: «Рэальнасць іх цяжкасцей і пакут цяжка ўявіць, не паспытаўшы гэтага ў той ці ў іншай меры самому. Хіба толькі маці адчуе іх сэрцам (народнае: «І мой жа там»). Хіба толькі сапраўдны мастак, адораны сілай сардэчнага пранікнення ў сутнасць жыцця, зможа ўявіць ці сваіх найбліжэйшых, ці самога сябе ў гразкіх, халодных, галодных, вашывых акопах, пад артылерыйскім агнём, пад кулямі ў чыстаполіцы, у пакутах раненняў, на подступах да смерці. Гэта будзе не поўнасцю тое, што трэба, каб па-сапраўднаму ўявіць жахлівую праўду вайны, не кожны з пісьменнікаў можа сказаць пра сябе ўслед за Міцкевічам: «Завуць мяне мільён, бо я за мільёны цярпець катаванні мушу». Аднак пра гэта трэба думаць і дбаць кожнаму з нас, бо інакш наша слова будзе пустацветам, пустаколасам» [8, арк. 2—3]. Гэтыя думкі не знікнуць з твора, хаця ў далейшым аўтар і падкарэкціруе канцэпцыю, амаль цалкам адмовіўшыся ад следавання зробленым выпіскам.

Ранні аўтограф, пазначаны нумарам 1, мае назву «Братанне». На арк. 161 ёсць агульная дата: *16. I. — 14. II. 1978*. Ужо ў гэтай ранняй крыніцы пісьменнік адмовіўся ад яўнай аўтабіяграфічнасці: выдаліў згадку пра тое, што братоў у сям'і было чатыры, зняў апісанне старэйшага на тры гады Жэні і яго мастацкіх практыкаванняў. З тэксту знікла і звязанае з апошнім назіранне, якое не зусім адпавядала абранаму і адлюстраванаму ў эпіграфе прынцыпу падачы матэрыялу: «Што такое аўтапартрэт, я, такім чынам, уведаў рана і доўга лічыў, што з гэтым у кожнага мастака звязана такое ж, як у Жэні, самалюбаванне. З гадамі, з розумам, сваім, даспелым, і набытым з кніг, прыйшло другое — я ўбачыў, што аўтапартрэт — зусім не абавязкова тое «ніяк не нагледзішся», ці ў мастака, ці ў пісьменніка, які піша «ад першай асобы», а то і зусім пра самога сябе» [1, арк. 19—20]. На раннім этапе было выкраслена таксама фрывольнае апісанне пагоні дзеда Богуша за мясцовай дурной Пашай, паведамленне пра тое, што Роха да смерці мужа была карчмаркай і пісала пад дыктоўку вясковых жанчын лісты да іх мужоў, што знаходзіліся на заработках.

У аўтографе, пазначаным нумарам 2, захавалася ранейшая назва, на апошнім аркушы дата *«Студзень-сакавік 1978 года»* выпраўлена: *«1978»*. Тэкст твора ўжо не мае сцэны звадкі суперніц, рашуча выкраслена таксама наступнае разважанне: «Не памятаю, ці ў школе яшчэ, ці ўжо на сваім самавуцкім шляху, калі не ведаеш, дзе і калі ты што-небудзь добрае знойдзеш, прачытаў я аднойчы на лістку праваслаўнага адрыўнога календара такія словы Дастаеўскага: «Низкая душа, вырвавшись из-под гнета, сама гнетет». Пазней, ужо ў студэнцкай маладосці, я прачытаў і Марксава: «Не может быть свободен народ, угнетающий другие народы», не проста па абавязку знаёміўся, але з захапленнем чытаў ленінскія працы па нацыянальнаму пытанню, аднак тое, з маленства, пра нізкую душу — запала ў памяць найлепей і найясней. І цяжка мне цяпер вышалушыць з усяго пазнейшага маё дзіцячае разуменне дабра і зла, праўды і маны ў расказах настаўніка і папа — як я тады іх успрымаў» [2, арк. 100—101]. Гэтыя вобразы ўжо ў аўтографе прадстаўлены як шматфарбныя: героі знаходзяць час на далучэнне вучняў да скарбаў сусветнай, польскай і рускай літаратур, выяўляюць веданне жыцця, хаця ў той самы час абодва знаходзяцца пад моцным уплывам розных ідэалагічных схем. Да таго ж не зусім па-савецку выглядала адзначаная перавага Дастаеўскага над Марксам і Леніным. Аднак самае галоўнае — пісьменнік палічыў непатрэбным рыхтаваць чытача да таго, што і так вынікала з тэксту твора: не павінна быць прыгнёту адной нацыі другой.

Ранні машынапіс, пазначаны нумарам 3, з канчатковай назвай, быў падрыхтаваны для першай публікацыі. У яе тэксце, аднак, рэдактар ці сам аўтар выдаліў наяўныя ў машынапісе непрыстойнасці і палітычны жарт: два апошнія радкі «вясельнай песні» пра кабылу, «сырое» дзеда Богуша, прыпеўку пра папа і яго ўдалую расшыфроўку слова «камуна». У фрагменце з апісаннем зверстваў казакаў быў зменены парадак сказаў, з-за чаго іх дзеянні страцілі некаторую матываванасць.

У 1979-м ці пачатку 1980-га года Янка Брыль пачаў рыхтаваць аповесць да ўключэння ў другі том Збору твораў у пяці тамах, для чаго перагледзеў машынапісны тэкст і з улікам унесеных правак падрыхтаваў новы машынапіс (пазначаны нумарам 4). Прыняўшы частку карэктурных правак з першай публікацыі, аўтар тым не менш адмовіўся ад зробленых у ёй скарачэнняў. У далейшым тэкст твора быў вычытаны некалькі разоў, пра што сведчаць шматлікія выпраўленні, зробленыя чырвоным, чорным і сінім стрыжнем, простым і чырвоным алоўкам (на адным з этапаў працы яны ўносіліся ў тэксты абодвух машынапісаў сінхронна). Але ў гэтых крыніцах яшчэ няма тых найважнейшых аўтарскіх выпраўленняў, якія, уласна, і адрозніваюць асноўны тэкст ад тэксту першай публікацыі. Відавочна, яны былі ўнесеныя ў твор на этапе карэктуры.

Рыхтуючы твор для пяцітомнага выдання, аўтар змякчыў у ім многія ранейшыя ацэначныя характарыстыкі. Народная цемра, забітасць, нерызыкоўнасць, грубасць перасталі ўспрымацца Янкам Брылём як апрыёрныя: цяпер ён па-новаму асэнсаваў іх прычыны, якія хаваліся ў адсутнасці нармальных умоў існавання, у пастаянным ціску з боку то Расійскай, то Польскай дзяржавы, у пазбаўленасці добрай навукі і годных настаўнікаў, вартых пераймання жыццё-

вых прыкладаў. Было перагледжана і асабістае стаўленне да традыцыйнай міфапаэтычнай свядомасці: у апаведзе пра з'яўленне Багародзіцы пісьменнік перастаў бачыць дзядзькаву недалёкасць, акцэнт перамясціўся на прызнанне асаблівай, дзіцячай вобразнасці яго казачных гісторый. Паказальна, што ў раннім аўтографе, на арк. 152, замест недалёкасці фігуравала адурманенасць, але ў друк гэта слова не трапіла нават пры першай публікацыі твора. Таксама зменшылася патрабавальнасць пісьменніка да жанчын, прыгнечаных жыццёвай няўладжанасцю і безабароннасцю нават перад такімі ж нешчаслівымі мужчынамі:

| | |
|---|---|
| *па даўняму ды суроваму акрэсленню цемры* [4, с. 17] | *па тагачаснаму акрэсленню* [3, с. 116] |
| *не здолелі пераступіць цераз сваю вясковую абмежаванасць* [4, с. 20] | *не змаглі асмеліцца на такое незвычайнае,* [3, с. 119] |
| *пра самадзейны няўдалы аборт* [4, с. 39] | *пра тое, як тая ці іншая няўдала скінула* [3, с. 145] |
| *быў і мат, зусім нягеглы ў вуснах жанчын* [4, с. 40] | *быў і мат, нейкі нягеглы ў вуснах жанчын* [3, с. 146] |
| *такі не наш, не вясковы, і такі... ну, па-іншаму такі самы* [4, с. 57] | *такі не наш, не вясковы, і такі... ну, па-іншаму свой* [3, с. 168] |
| *усіх вясковых называлі хамамі* [4, с. 58] | *усіх вясковых лічылі хамамі* [3, с. 169] |
| *Папрывыкалі, сволачы, людзей у гарадах нагайкамі хвастаць. А то і шашкамі... Калі на дэманстрацыях...* [4, с. 77] | *Папрывыкалі, сволачы, людзей у гарадах нагайкамі хвастаць. Калі на дэманстрацыях. А то і шашкамі...* [3, с. 196] |
| *І ў гэта верылася мне, нават і блізка не мог я спачатку падумаць пра дзядзькаву недалёкасць, бо* [4, с. 78] | *Нават і ў гэта верылася мне,* [3, с. 197] |

Для публікацыі ў трэцім томе Выбраных твораў аўтар яшчэ раз перагледзеў тэкст, зрабіўшы апошнія, на гэты раз нязначныя, удакладненні. Так, галоўны герой раней «добра», а пасля проста «памятаў, што есці ў чужых не трэба» [3, с. 117]; выкапаная труна са старой нябожчыцай стаяла ў хаце каля сцяны «старчаком, абапёртая аб сцяну»; грозная нямецкая тэхніка, што спрычынілася да гібелі мясцовага вар'ята, рухалася «на ўсход» [3, с. 160, 161].

Варыянт назвы «Братанне» быў нарэшце адхілены, бо пісьменнік вырашыў дакрануцца «да самых цяжкіх ваенных ран», якія зрабілі немагчымай веру ва ўсеагульнае прымірэнне. Сапраўды, маленства герояў — «гульні па бачных-нябачных могілках і пажарышчах», спасціжэнне часта страшных, жахлівых жыццёвых рэалій, наступстваў не так даўно скончанай вайны. Даследчыца творчасці Янкі Брыля В. Б. Нікіфарава пранікліва адчула: «Вайна разлучыла бацькоў Тоні Латышкі, замуціла розум Салаўя, забрала бацьку Зямы, а потым і іншых яго сваякоў. Страшныя ваенныя «цацкі» скалечылі Маню Варону і Шуру. Каб не вайна, дык, відаць, шчаслівейшым быў бы лёс Каці і Жэні. Іх дзеці нарадзіліся байструкамі падчас Першай сусветнай — на Другой сусветнай вайне абодва злажылі галовы» [10, с. 518].

Аднак не толькі гэта цікавіла пісьменніка. Яго твор — яшчэ і тонкае даследаванне шляхоў узнікнення агрэсіі. Нават лепшыя, найбольш культурныя і выхаваныя падлеткі гатовы — дзеля задавальнення зрэшты зусім здаровай цікаўнасці — накінуцца «па двух ці трох на адну», каб праверыць, «ці ўсё ў яе ўжо, як у дзевак» [3, с. 149], або каб паказацца перад дзяўчатамі, смакуючы першынство ў гульні, спрытна ўкідваць у рот пераможанаму камячкі зямлі. Дзеля смеху магчыма стравіць на бойку яшчэ зусім малых хлопчыкаў, далёка не ваякаў. А што ўжо казаць пра бойкі дарослых мужчын, якія адбываюцца часам і зусім без прычыны, проста з-за нежадання ўступіць адно аднаму, і пра не менш агідныя сваркі жанчын: здзекі з сірот і састарэлых, што засталіся на іх утрыманні, кпіны і злы смех з тых, што страцілі дзявоцтва, звадкі суперніц.

Разам з гэтым пэўная ўвага аўтара аддадзена такім момантам, калі цалкам апраўданая агрэсія раптам не ўзнікае альбо не знаходзіць выйсця. За патраўлены каровамі лапік аўсянага поля дзед Богуш не пакараў соннага пастушка, хаця ва ўмовах беднасці і нястачы меў на гэта права. Аднак «Кульба ў яго руцэ засталася толькі падпоркай» [3, с. 146], стары нават не накрычаў, а толькі спагадліва паўшчуваў малога. Не самы лепшы настаўнік пан Сатурнін раптам раскрыў перад старэйшым вучнем сваю прымакоўскую мудрасць, замест натацыі параіўшы яму не ісці на адкрыты канфлікт з непаслухмянай малодшай вучаніцай. Народная літасць была праяўлена да следчага па палітычных справах, якога ў 1905 годзе людзі адпусцілі, пашкадаваўшы з-за малых дзяцей і яго абяцання заняцца святарскай дзейнасцю; таксама ніхто не збіў і не забіў вар'ята,

што часам адкапваў і прыносіў з могілак труны з нябожчыкамі. Яшчэ зусім дзіця, галоўны герой не кінуў у прыступе злосці вялікі замок у прыяцеля, які зачапіўся з ім, бо ўбачыў яго спалох і следам сам спалохаўся таго, што мог бы зрабіць.

Асаблівую сэнсавую нагрузку ў тэксце твора нясуць фрагменты, дзе гаворыцца пра неабходнасць умення ставіць сябе на месца іншага, нават і ворага, — каб цвяроза ацэньваць становішча і не кідацца з галавой у крывавы вір. Ігар-Юрка, атаясаміўшы сябе з Салаўём, пачаў адчуваць той разбуральны жах, які назаўсёды папсаваў розум няшчаснага прапаршчыка. І герою сапраўды адкрылася бездань гэтага пачуцця. Справа ў тым, што ў бойні ўдзельнічаюць іншыя людзі, але іх індывідуальнасці сцёртыя. Усе яны ідуць на смерць строем і, бадзёрачыся, гарлапаняць прымітыўную заліхвацкую вайсковую песню. Іх жыцці страчваюць сваю ўнікальнасць і каштоўнасць, бо ўсе яны — толькі шрубкі ваеннай машыны, непрыкметныя паасобку ахвяры злога лёсу. Аднак адчуванне адзінства з калектывам патрэбна і герою, дзеля смеласці, і ён разам з усімі пачынае мармытаць словы песні, адначасова заўважаючы, што як быццам ужо нікога не чуе. Такое растварэнне яго асобы ў калектыўнай бойні, адчуванне мізэрнасці незлічонай колькасці жыццяў, а на гэтым фоне і свайго, можа стаць шляхам да ўвасобленай у глухаце вечнай цемры свядомасці, з якой дарогі назад ужо не будзе, як не было яе для Салаўя.

Амаль ва ўнісон з дзіцячай фантазіяй гучаць словы дзядзькі героя, Алеся, калі той асуджае беспрычынныя бойкі аднавяскоўцаў: «У акопы б другога або на «ўра», уштыкавую ці на кулямёт, — скора нацешыўся б! Уся храбрасць прайшла б...» [3, с. 195—196]. Георгіеўскі кавалер таксама глыбока разумее прычыны расчалавечвання. З аднаго боку, гэта адчуванне прыналежнасці да вышэйшай касты, кланавасць і кругавая парука. Апавядаючы пра зверствы казакаў, ён адзначыў: «А дружныя, адзін за аднаго, не зачапі» [3, с. 196]. З другога боку, гэта прымус злачыннага ўрада. У апісанні франтавога братання 1917 года герой зрабіў наступны вывад пра праціўнікаў: «Людзі — як людзі. Каб начальства не гнала — і ён не пайшоў бы. А то ж і абдурваюць нашага брата...» [3, с. 197].

Наколькі глыбокі падтэкст мае апошняе назіранне героя, сведчаць занатаваныя пісьменнікам уласныя думкі, выкарыстаныя пазней у іншых творах.

«Друз у кузаве грузавіка, а зверху рэшткі вялікай бронзавай нагі «бацькі народаў» — што засталося ад мінскага помніка (1961). Натоўп рагоча, а бабка з кашолкай: «Смейцеся, смейцеся, памрэ гэты — і гэтага абсеруць!..» Бабка тут — той відушчы хлапчук, што першы крыкнуў пра голага.

Такім носьбітам здаровага сэнсу павінен быць літаратар».

«І якая ж яна моцная, сіла асляплення масаў уяўнай веліччу розных «братоў», пакуль іх не скінуць! Дагэтуль...»

«Як гэта смачна — пасмяяцца з таго, хто ўчора быў богам, а сёння бачыцца звычайнай нікчэмнасцю. [...] І як гэта страшна, што мы смяёмся з гэтага **потым** і так, як быццам мы тут ні прычым, для нас усё роўна, што было, і што ёсць, і што будзе» [8, арк. 1, 4, 5].

У аповесці ёсць невялікі эпізод, дзе малыя Юрка і Шура таемна гартаюць аркушы «Праўды» і слова назвы здаецца ім яшчэ больш праўдзівым ад забароны гаварыць пра газету на людзях. Перадача дзіцячага захаплення ад першаадкрыцця чагосьці таямнічага вельмі дакладная. Але ў фрагменце прысутнічае сваё «але».

Братанне ў творы прызнаецца немагчымым, калі на Радзіму нападае нахабны і ўпэўнены ў сваёй справядлівасці вораг: няма братання з немцамі на другой вайне, у адрозненне ад першай. А савецкая газета друкуе словы Леніна пра прызнанне польскай незалежнасці і права на рэспубліку... з выступлення яго перад чырвонаармейцамі, якія накіроўваюцца на польскі фронт, каб гэтую краіну захапіць. Зразумела, Янка Брыль расцэньваў наступ Саветаў перш за ўсё як акт вызвалення Заходняй Беларусі, але на час напісання аповесці ён ужо ведаў і пра лёсы абодвух сваіх старэйшых братоў, што засталіся ў савецкай краіне: фізічнае знішчэнне аднаго і доўгае цкаванне і імкненне «перакаваць» другога.

Братанне магчыма не заўсёды і не з усімі. Аднак задуманую функцыю заклікання людзей да пераадолення трагічнай раз'яднанасці твор выконвае. У чым жа бачыў пісьменнік магчымасць сапраўд-

нага братання людзей? Каб адказаць на гэта пытанне, трэба звярнуцца да фіналу твора, да разважанняў пра дзіцячыя ўсмешкі. Першая — усмешка разумення невымоўнага, другая — бяспечнай радасці, трэцяя — кволай надзеі на лепшае, чацвёртая — распазнавання жыцця, звязаная з плачам, які ў творы яе і замяняе. Памяць пра гэтыя ўсмешкі, разуменне іх як адзнак фарміравання асобы, уменне цаніць іх у сябе і ў іншых, радавацца ім — яшчэ адзін крок да сапраўднай лучнасці людзей добрай волі. Наколькі важным было для пісьменніка ўменне ўсё гэта бачыць, гаворыць зроблены ў «Сваіх старонках» запіс за 1979 год, неўзабаве пасля публікацыі аповесці: «Лёгшы пазней, чым заўсёды, прачнуўся ўсё-такі рана, як і штодня, глядзеў на госцю-ўнучку, што спала побач. Ясна і цёпла падумалася, што дзеці — вялікая *праўда і радасць*.

Спазнаўшы столькі горкага, бруднага, колькі мы спазнаём на доўгай дарозе жыцця, разумееш, якое гэта шчасце — дакрануцца да найчысцейшага» [3, с. 380]. Менавіта праз параўнанне сваіх учынкаў з найчысцейшым адкрываецца чалавеку жыццёвая праўда, і з гэтага параўнання павінна зыходзіць яго далейшая чыннасць.

Уладзімір Калеснік некалі адзначыў, што ў аповесці дамінуе «мудрая ўдумлівасць, здольная адкрываць у з’явах, перажытых даўно, на золку жыцця, новы скрыты змест, якога дзіцячая ці юначая свядомасць не схоплівала» [9, с. 251]. З даследчыкам нельга не пагадзіцца. Ігар-Юрка яшчэ не разбіраецца, добра гэта ці не, што раз’яднаныя бацькі Тоні Латышкі, што сілай можна атрымаць жаданае, не ведае, што спагадлівасцю можна пакрыўдзіць. Аўтар жа і ведае, і разумее пакуль схаваныя ад малога хлапчука прычыны, чаму так адбываецца.

На гэтым фоне апошні эпізод аповесці, калі на бойку нацкоўваюць Казака і Немца, двух малых, да таго ж траюрадных братоў, набывае выключную значнасць. Дробнае зло, выяўленае ў жаданні нізкай забаўкі, і стала прычынай горкага дзіцячага плачу, яно выклікае абурэнне і ў «я»-героя, і ў аўтара. Першы пачынае разумець горыч крыўды і брыдкасць, несправядлівасць зробленага, а другі ўжо бачыць страшэнную злачыннасць зводжвання братоў, а яшчэ і асэнсоўвае неабходнасць ставіцца да чужога жыцця адказна і трапятліва, тым болей, што ў далейшым жыцці гэтае можа аказацца трагічна нешчаслівым, як і сталася з абодвума хлопчыкамі. Словамі аўтара: «“Дальназоркасць” — не ў старасці маёй, а ў вопыце: тое, Казака і Немца, я памятаю, бачу праз прызму яшчэ адной вайны, з думкай пра неабходнасць прадухілення вайны наступнай» [7, арк. 4].

Паміж людзьмі і народамі павінна існаваць братэрства, а не братазабойства, і сяброўства дзяцей розных маёмасных станаў і розных нацыянальнасцей, іх сумеснае пазнаванне свету з яго радасцямі і бедамі, выхаванне ў сабе неабыякавасці прызначаны гэта ілюстраваць. Такім чынам, аповесць паўстае як сапраўдная (хаця і не падпарадкаваная храналогіі) гісторыя фарміравання вопыту і ўзнікнення ведаў цэлага міжваеннага пакалення жыхароў Заходняй Беларусі, а таксама як аўтарская асабістая жыццёвая справаздача і нават своеасаблівая рэвізія ўласнай сістэмы каштоўнасцей, якую пісьменнік адрасуе чытачу са спадзяваннем на яе разуменне і плённае засваенне.

**Літаратура**

1. Брыль, Я. Братанне (Золак, убачаны здалёк). Аўтограф 1 / Я. Брыль // АРКР ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 10. — Воп. 1. — Адз. зах. 107. — 161 арк.

2. Брыль, Я. Братанне (Золак, убачаны здалёк). Аўтограф 2 / Я. Брыль // АРКР ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 10. — Воп. 1. — Адз. зах. 108. — 201 арк.

3. Брыль, Я. Выбраныя творы: у 3 т. / Я. Брыль. — Мінск: Маст. літ., 1993. — Т. 3. — 654 с.

4. Брыль, Я. Золак, убачаны здалёк / Я. Брыль // Маладосць. — 1978. — № 11. — С. 15—82.

5. Брыль, Я. Золак, убачаны здалёк. Машынапіс 3 / Я. Брыль // АРКР ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 10. — Воп. 1. — Адз. зах. 109. — 108 арк.

6. Брыль, Я. Золак, убачаны здалёк. Машынапіс 4 / Я. Брыль // АРКР ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 10. — Воп. 1. — Адз. зах. 110. — 107 арк.

7. Брыль, Я. Золак, убачаны здалёк. Накіды да аповесці / Я. Брыль // БДАМЛМ. Ф. 59. — Воп. 2. — Адз. зах. 6. — 92 арк.

8. Брыль, Я. Золак, убачаны здалёк. Накіды і выпіскі да аповесці / Я. Брыль // БДАМЛМ. Ф. 59. — Воп. 2. — Адз. зах. 8. — 80 арк.

9. Калеснік, У. Янка Брыль: Нарыс жыцця і творчасці / У. Калеснік — Мінск : Нар. асвета, 1990. — 256 с.

10. Нікіфарава, В. Б. Янка Брыль / В. Б. Нікіфарава // Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя : у 4 т. — Мінск : Беларус. навука, 2002. — Т. 3. — С. 479—520.

## M & W: «М»ы на Webcon

Падымацца а сёмай у адзін з рэдкіх, як вароны-альбіносы, выхадных — блюзнерства чыстай вады. Гэтая аксіёма міжволі (і між пазяханнямі) прыходзіць у галаву, пакуль чакаем аўтобус. Побач ні душы, толькі перасвістваюцца сініцы ў бэзавым кустоўі, ды ранішняе сонца падсвечвае цьмяным золатам мутныя вокны. На тым баку вуліцы самотны дворнік ленавата мяце адзін і той жа пятачок асфальту ўжо хвілін пяць.

Аўтобус пад'язджае ціхутка, быццам на дыбачках, увесь неяк дзіўна чысты, увесь пранізаны ранішнім золатам. Едзем, паглядаючы праз шкло на лялечныя каробачкі дамоў уздоўж праспекта, на спакойную Свіслач, на Чырвоны касцёл, падобны да хаткі з пернікаў, на густое прадзіва рэльсаў пад гарбатым мостам. Цягнікі падаюць галасы — заклапочаныя, працавітыя.

Ці то ад тых пранізлівых галасоў, ці то ад усюдыснага руху, які прасяквае ўвесь горад, ці то ад набліжэння мэты нашага падарожжа сон паступова выветрываецца з галавы.

У пераходзе гуляе вусцішнае рэха, множыць крокі. Пра дарогу можна і не пытацца: перад намі прабягаюць з самым засяроджаным выглядам некалькі дзяўчатак з вялізнымі заплечнікамі. Ловім абрывак размовы:

— …давайце хутчэй! Рэгістрацыя з дзевяці!..

На адным з заплечнікаў ззяе пуцяводнай зоркай значок з Нарута.

Вось і плошча перад тым самым Палацам. Каменныя пліткі схаваў густы цень, напоўнены ранішняй сырасцю. З белага мікрааўтобуса некалькі хлопцаў выцягваюць скрыні з томікамі коміксаў, перагаворваюцца, перасмейваюцца. Тут жа ў цені сумуюць яшчэ колькі чалавек — мяркуючы па трывожных позірках, скіраваных да аўтобуснага прыпынку, тыя, каго так чакаюць, спазняюцца. Прыспешваем хаду, каб не спазніцца самім.

Цэнтральны ўваход пакуль замкнулі, затое адчынілі дзверы збоку. Людзі, быццам ланцужок мурашоў, так і імкнуцца туды, і мы рушым услед.

У маленькім пакойчыку, дзе з акварыума здзіўлена паглядаюць рыбы, а з буданчыка ля ўвахода — не менш здзіўлена — вахцёр, нас сустракаюць. Паказваем торбы, пашпарты,




пасведчанні («Вусы, лапы і хвост — вось мае дакументы!»). Па меры сваіх сціплых сіл даводзім, што душа ў нас наросхрыст, крыштальная, без злосных намераў ды негуманных памкненняў. Сяк-так пераканаўшы сек'юрыці, рэгіструемся: атрымліваем жоўтыя бранзалеты на руку («Якую вам не шкада?») ды бэйджы ад мілай дзяўчыны з кашэчымі вушкамі ў чырвоных валасах. Прасочваемся праз вузенькі калідорчык, і — вось, нарэшце, трохі закаванай у мармур прасторы.

Лавіраваць тут, праўда, няпроста: вакол ставяць прылаўкі, майструюць стэнды, раскладваюць тавары ці падключаюць тэхніку. Мімаходзь цікавімся, што дзе. Тут і прадстаўнікі вядомага фестывалю Unicon, тут і крамка з лінзамі на любы густ, разнастайныя фігуркі персанажаў анімэ-серыялаў ды гульняў ад Okami.by, а яшчэ — амаль аўтэнтычныя





японскія фестывальныя маскі: белыя, бела-чырвоныя, залатыя, чорныя. З майстрам-рамеснікам, аўтарам гэтых масак, мы пазнаёміліся: завуць яго Алег, ён прыехаў з Брэста.

— Мой касцюм сёння — гэта касцюм Чумнага Доктара, — расказвае нам Алег. — Маску мне пакуль не прывезлі, але хутка данясуць, чакаю.

— Усе маскі на прылаўку — ручная работа, вядома. Зробленыя з пап'е-машэ, пафарбаваныя акрылам. Па тэматыцы мне зараз бліжэй японскія маскі okami. Ёсць тут і традыцыйныя, ёсць і спрошчаныя. Ёсць маскі, узятыя з артаў, фантастычныя. Усе маскі адрозніваюцца па колеры, і ў кожнага колеру — сваё значэнне. Напрыклад, белы колер — пазнака арыстакратычнага паходжання. На фестывалі мне, шчыра кажучы, усё падабаецца. Цяжка нават сказаць, што не падабаецца. Паўсюль цікава, хочацца пахадзіць, паглядзець. Сам я буду выступаць, і жонка мая (яна ў традыцыйнай юкаце з залатымі драконамі, у масцы маёй работы) таксама. Не дзеля прызоў, канечне: я, калі што, і сам сабе зраблю, што мне там захочацца. Я ж усё-такі рамеснік (*смяецца*).

А зусім блізка, за паваротам — чароўная рэч — быццам ажылі выхапленыя з фільмаў Хаяа Міядзакі кадры: тут і камін з жывым вогненным дэманам Кальцыферам, тут і чароўныя дзверы палаца чарадзея Хоўла, тут і містычная электрычка з «Spirited Away», дзе можна прысесці побач з самім Бязлікім. Аляксей, адзін з ініцыятыўнай і вясёлай каманды стэнда Ghibli, з імпэтам распавядае:

— Наш стэнд заснаваны на японскай анімацыйнай студыі Ghibli. Тут прадстаўленыя тры фрагменты з фільмаў гэтай студыі. Мы паспрабавалі перадаць атмасферу гэтых фільмаў, самыя запамінальныя моманты, каб гледачы маглі адчуць адпаведную атмасферу. Ідэя прыйшла нашай кампаніі сумесна. Адзін чалавек сказаў: «А давайце зробім!» І мы такія: «А давайце!» Вось. Ну, і зрабілі. То бок, гэта работа ўсіх адзінаццаці чалавек, мы ўсе стараліся, разам. Увогуле, мы ў фестывалях удзельнічаем часта. Хіган, Аматэрасу, Free time Fest. Усе беларускія фестывалі аб'ездзілі ўздоўж і ўпоперак, адным словам. Сам я ў першы раз прыйшоў на фэст у якасці гледача, паглядзеў, а там ужо… панеслася-паехала. Быў на наступны раз як удзельнік: першы касплей, першы вопыт. Гэта зацягвае, расце, і пасля ты займаешся ўжо стэндамі, нейкімі паўнамаштабнымі ўзнаўленнямі момантаў.

Праграма гэтага фестывалю няблага падзелена. Гэта значыць, ёсць час і пагуляць, і паглядзець сцэнічную частку. Але больш за ўсё мне, канечне, даспадобы стэнды — проста таму, што там можна ўзаемадзейнічаць з любімым сусветам, праходзіць квэсты.

— А самі любіце фільмы Ghibli?

Аляксей усміхаецца:

— О, так, канечне. Самы любімы мой — гэта, напэўна, «Spirited Away».

Побач з аматарамі Міядзакі паставіла свой загадкавы белы шацёр каманда стэнда Steampunk. Там спраўна майструюць і ўладкоўваюць, завіхаюцца з дошкамі,

стукаюць і грукаюць. Трохі далей, ля самага выхаду на сцэну раскладваюць коміксы прадстаўнікі першай на Беларусі комікс-крамы «Time to be a Hero». Коміксаў ды адметных для фанатаў кніжных выданняў тут — мора, прычым на любы густ. Цэлы россып самацветаў ад Marvel, шмат цікавостак для тых, хто захапляецца сусветамі гульняў World of Warcraft, Dragon Age або Witcher. Працы ў гаспадароў гэтага коміксного раздолля шмат: трэба ўсё належным чынам раскласці, каб прыцягвала ўвагу ўдзельнікаў фестывалю. Зрэшты, нягледзячы на занятасць, яны пагадзіліся з намі пагаварыць.

— Мы прадстаўляем краму «Time to be a Hero», — расказвае Кірыл. — Сёння мы прывезлі шмат коміксаў. То бок, мы, безумоўна, паспрабавалі падладзіцца пад фармат гэтага фестывалю, але не рабілі ўпор выключна на мангу. У нас на прылаўку актуальныя навінкі, артбукі, заходнія коміксы, манга… шмат чаго. Нават літаратура вунь (*паказвае на томік Анджэя Сапкоўскага*). Многа выданняў ад «Азбукі», усе самыя любімыя народам фарматы. Цудоўны Injustice — мы якраз учора гулялі ў краме ў другі Injustice. Сам я як наведвальнік на такіх фестывалях ніколі не быў — або па працы, або як журналіст. Можа, не зусім мой фармат. Хаця вось на нашым стэндзе (*смяецца*) коміксы класныя — тое, што трэба, адным словам.

Побач мармуровыя сцены ўпрыгожаныя фатаграфіямі і артамі, што ўдзельнічаюць у сёлетнім конкурсе фестывалю. Са сцен глядзяць то схопленыя аб'ектывам касплееры ў адмысловых, упрост неверагодных касцюмах, то малюнкі на самыя розныя тэмы: тут і персанажы анімацыйных серыялаў ды камп'ютарных гульняў, і павевы славянскай міфалогіі. Аўтарская інтэрпрэтацыя Бабы-Ягі зазірае проста ў душу — такая мілая, такая вусцішна-чароўная.

Ля зачыненых — пакуль што — галоўных дзвярэй ладзяць фотазону і стэнд інфармацыі. Саму «Інфармацыю» — доўгую стужку паперы з надрукаванымі вялікімі літарамі — якраз, трымаючы ў шэсць рук, прымацоўваюць да стала з праграмкамі і значкамі. Забяспечваюць, так сказаць, інфармацыйную падтрымку.

Па пакручастай лесвіцы рушым на паверх вышэй. Там таксама кіпіць праца, пахне фарбай і клеем. Дзяўчаткі з прышытымі да спаднічак вясёлкавымі хвастамі разбягаюцца ад нас ва ўсе бакі, лямантуючы:

— Не, не, толькі не гэта! Не фатаграфуйце нас! Не гатова!

Мы — людзі адказныя і не без спагады. Іх — не фатаграфуем.

Над вялікім стэндам серыяла One Piece толькі што па́ра не ідзе ад напружанай і таропкай працы. Хтосьці ў некалькі рук уладкоўвае кіль карабля, хтосьці фарбуе сімпатычны бутафорскі кумпяк. Тут трохі пазней абяцаюць грандыёзныя конкурсы і надзвычай багатую праграму.

Побач размяшчаюць экспазіцыю аўтарскіх работ лепшых крафтараў: тут і зброя, і браня, і аксэсуары. Адарваць вочы ад такога харааства атрымліваецца не адразу. Але мы збіраем волю ў кулак, сыходзім да ўладанняў Лігі Прыгод — Adventures League. Пра клуб «Другой мир», што яднае аматараў настольных гульняў «Dungeons & Dragons», нам распавёў Дзяніс:

— У нас на стэндзе можна пагуляць у D&D. Мы на большасці фестываляў прысутнічаем, выязджаем, каб людзі маглі пазнаёміцца з «Dungeons & Dragons», пагуляць. Расказваем, што гэта такое, з чым гэта ядуць. Амаль на кожным буйным фэсце можна нас знайсці. Так мы нядаўна выязджалі ў Гомель на Freetime fest. Webcon праводзіцца ўпершыню, таму прагназаваць, колькі да нас сёння прыйдзе наведвальнікаў, цяжкавата. Па вопыту, калі фестываль больш сканцэнтраваны на дэфіле, касплеі, як Хіган, то тады народу няшмат. Калі ж фестываль арыентаваны на стэнды, як, напрыклад, Unicon, то народу столькі, што мы не паспяваем яго «апрацоўваць». А ўвогуле серыі гульняў мы праводзім увесь час, кожны дзень у нашым клубе на Альшэўскага, 1А. Прыйсці да нас можа кожны, нічога дадаткова не трэба чытаць, адзінае — паглядзець расклад на сайце і запісацца. На месцы адразу ж майстар вам усё патлумачыць. Прыходзьце і гуляйце!

На паверх вышэй — зона настолак ад Oz.by. Тут усё даўно падрыхтавана, і таму досыць спакойна. Гаспадары гэтай пляцоўкі,

разняволена абапершыся на парапет, не без цікаўнасці паглядаюць на паніку другога паверха. Увасобленая паніка, аднак, дакотваецца і сюды — прыбягае ў выглядзе надзвычайна заклапочанай дзяўчынкі.

— Ой, а можна ў вас крэсла сцягнуць? Нам вельмі, вельмі…

— Ну, вазьміце, — спакойна адказваюць на яе дрыготкую просьбу. — Унь тое, дальняе.

Задаволеная дзяўчынка, здуваючы з твару валасы, цягне крэсла прэч, а мы зазіраем адным вокам у святая святых — грымёрку. Там няспынны рух, шоргат тканіны, пагрозлівае шыпенне лакаў для валасоў. З мітусні ў грымёрцы раптам выходзіць да нас сапраўдная дыснееўская прынцэса — праўда, на японскі лад, у кімано. Зрэшты, Webcon — фестываль і заходняй, і ўсходняй культуры, адзінства супярэчнасцей, Інь ды Ян. Усё разам, у суладдзі, у гармоніі. Зусім як вобраз нашай новай знаёмай — Pikoro з касбэнда Osaka no Yurei.

— Мой вобраз — гэта дыснееўская прынцэса Беласнежка, — тлумачыць Pikoro, сціскаючы ў руках чырвоны яблык. — Толькі інтэрпрэтацыя ў кімано. Мы будзем утраіх прэзентаваць незвычайныя вобразы дыснееўскіх прынцэс, якія адыходзяць ад звыклай трактоўкі. Хацелася б паказаць вобраз традыцыйны, японскі. Раней я ўдзельнічала ў Аматэрасу, але зараз яго, на жаль, няма. Была на Freetime fest. Чакаю Unicon і, канечне, сваё выступленне на Хігане — там буду і як касплеер, і як удзельніца ў конкурсе караоке. Увогуле, на фестывалі мяне саму найперш цікавіць стэнд Ghibli (*смяецца*). Так. Усе выбіраюць Ghibli. Ён такі прыгожы, такі каляровы!..

Зноў спускаемся ўніз, прамінаючы стэнд My Little Pony.

— Дык ты мне скажы, нарэшце, — даносіцца з-за сімпатычных плюшавых цацак. — Усе па адным, ці што там?

— Па адным, — адказвае мудры голас з самых нетраў стэнда. І дадае разважліва: — А большыя — па два.

На першым паверсе нас сустракае мілая сіневалосая чарадзейка — Аляксандра (Chibik) з касбэнда Pandora.

— Гэты вобраз узяты з анімэ «Врата: там бьют-ся наши воины». Гэтая — дзяўчынка-маг, якая дапамагае ў самы важны момант. Яна вельмі мілая, спакойная. Але калі ў самы адказны момант яе раззлаваць — будзе... вельмі непрыемна. Так атрымалася, што мая сяброўка вырашыла зрабіць адну з галоўных гераінь — паўбагіню Роры Мэркуры і прапанавала мне ўдзельнічаць у касплэі. У нас увогуле трое дзяўчат, яшчэ эльфійка. Такое вясёлае трыа будзе выступаць — паўбагіня, маг і эльф.

З усіх стэндаў на фестывалі асабіста мне самы блізкі — стэнд Steampunk. Падабаецца мне там. Увогуле, самае галоўнае для мяне тут — весела правесці час, нейкіх звышчаканняў ад выступлення няма. Калі нас добра прыме зала — гэта будзе самая лепшая ўзнагарода. Каардынатарам і арганізатарам я зычу вялікіх-вялікіх поспехаў, каб усё склалася, як трэба. Калі гэты год пройдзе паспяхова, то спадзяюся, што ў наступным годзе Webcon таксама будзе.

За ўсімі нашымі даследаваннямі ды росшукамі і не заўважаем, як прайшоў час. Зараз ужо амаль (без дзесяці хвілін) адзінаццаць раніцы. Стэнды гатовы, цікавосткі — «па адным і па два» — раскладзены, касплеераў вакол большае з кожнай хвілінай. І якія дзіўныя вобразы, якія касцюмы! Адзін дуэт асабліва прыцягвае нашу ўвагу — гэта па-майстэрску зробленае і вельмі своеасаблівае (і прыгожае) бачанне вобразаў кэралаўскіх Сакавіцкага Зайца і Капялюшніка.

— Вы толькі наша творчае аб'яднанне запішыце як *«Лавандавае Варэнне»*, — просяць Заяц і Капялюшнік, яны ж — па сцэнічных псеўданімах — Kin і Kai. І расказваюць:

— Мы натхніліся нашай любімай казкай «Аліса ў краіне цудаў», зрабілі казку рэальнасцю. І вось перад вамі Капялюшнік і Сакавіцкі Заяц. Такая адвольная фантазія, менавіта наша ўласнае бачанне вобразаў. Свае касцюмы мы будзем паказваць у NUAR-дэфіле, спадзяёмся, што народу спадабаецца. А для вас, спецыяльна для «Маладосці», будзем паказваць сардэчкі (*смяюцца*). На фэсце нам бліжэй за ўсё — стымпанк. О, стымпанк! Нашы касцюмы трохі натхнёныя і стымпанкаўскай эстэтыкай. Сёння проста хочам хараша адарвацца. Каб усё было добра. І — самае галоўнае — не ўпасці на сцэне (*смяюцца*)!

Зусім блізка прамінае цэлая ўзброеная кампанія з кейсам з надпісам SCP — і ўсе прысутныя інстынктыўна расступаюцца ўбакі, даючы дарогу. Тут жа крочыць Элой, гераіня гульні Horizon: Zero Dawn. У вялікае люстра глядзіцца, акуратна папраўляючы складаную прычоску з ледзяшамі, Белая Чараўніца з «Хронік Нарніі». Мільгаюць тут і там незабыўныя персанажы Міядзакі, прабягае чародка вясёлых пакемонаў. А вось карункавымі воблачкамі — лаліты, лаліты, лаліты, адна за другую прыгажэйшая, спрэс пекныя, быццам жывыя лялькі. Фея Цінкер Бэл ловіць імгненне і фатаграфуецца, пабліскваючы крыльцамі, побач з Кальцыферам.

Так, фестываль ужо чакае гасцей.

А апошнія, у сваю чаргу, таксама чакаюць. Вельмі-вельмі. Праз шкляныя дзверы галоўнага ўвахода відаць цэлы натоўп: паглядаюць прагна, пляскаюць далонямі па шкле.

— Проста зомбі-атака, — з нервовым смехам заўважае хтосьці.

Ад імправізаванай зомбі-атакі мы хаваемся амаль што ў бункеры — на цокальным паверсе, дзе размясціліся кансолі. Тры хлопцы бавяць час ў халоднай зале побач з трыма экранамі, пільна назіраючы, як бялявая дзяўчына, падпарадкоўваючыся джойсціку, смачна і прафесійна лупіць не абы-каго, а Бэтмэна.

— Эй! Ты! Цёця! Эй! — пакрыўджана гукае той, што спрабуе граць за Бэтмэна. — Мяне — біць? Мяне?!

Забягаючы наперад, скажам, што вярталіся на працягу



фестывалю яшчэ разы два-тры і істотна нічога не змянялася: тое ж нязменнае трыа за кансолямі, тое ж неўтаймаванае лупцаванне беднага Цёмнага Рыцара. Sic transit gloria mundi.

Натоўп тым часам пачаў паступова пасоўвацца праз дзверы — адзін за адным, атрымліваючы белыя бранзалеткі на запясце. Процьма народу — дзяўчат і хлопцаў — з кашэчымі вушкамі рознага кшталту, за імі загадкавы юны сітх у масцы Дарта Вейдара, там — дзяўчаткі ў плашчах змагароў з Тытанамі. Кожны, ледзь увайшоўшы, губляецца ад збыткоўнасці колераў і гукаў, ад неверагоднай колькасці варыянтаў. А пасля радасны, захоплены рушыць наперад.

Рушыць за ўласным сэрцам — туды, дзе любімае, самае-самае.

На сцэне тым часам распачынаецца асноўная дзея фестывалю. Вядучыя — непараўнальна харызматычны Княжа Саталін і мілая прыгажуня Henry — вітаюць гасцей і прадстаўляюць ім кампетэнтнае журы — тых людзей, хто будзе сёння абіраць лепшых з лепшых. Праца складаная ва ўсіх сэнсах, думаецца: усе ўдзельнікі такія адметныя, неверагодныя, такія не падобныя адно да аднаго, і пры гэтым кожны заслугоўвае за сваю працу калі не прыз, дык увагу — дакладна.

Першае выступленне не абыходзіцца без накладак з гукам — што зробіш, баявое хрышчэнне, першымі быць заўсёды цяжка. Зала падтрымлівае танцораў з Highcut апладысментамі — і нарэшце ўсё становіцца на рэйкі, коціцца, працуе, як зладжаны механізм, як адзінае цэлае. Вобразы на сцэне змяняюцца вобразамі — натхнёныя кнігамі, анімэ, коміксамі, гульнямі. Вір эмоцый, вір фарбаў. У раздзеле «Street fashion» нам дэманструюць букет з лаліт: спрэс казачныя, неймаверна



прыгожыя вобразы. Тут асабліва ўражваюць містычныя персанажы ад Darya-cupcake і Hornet — быццам духі лесу ўвасобіліся і выйшлі на сцэну.

— А ну, пляскайце! — Падбухторвае залу Княжа. — Пляскайце лепей! Вы што, лаліт не любіце?

Зала заходзіцца шумнымі апладысментамі. Любіць.

У перапынку натоўп большае, рухацца ў ім можна толькі павольна, уліваючыся ў плынь «адтуль» або «туды». Нетаропка крочым, прамінаючы Прывіда Оперы, які вядзе асляпляльную Крысцін, незямнога (ва ўсіх сэнсах) Зератула з гульні Starcraft 2 і вясёлую кампанію муз з дыснееўскага мультфільма пра Геркулеса.

За кілем карабля з кідкай аб'явай «Побач нават не дыхаць!» на стэндзе One Piece прыгожая русалка прапануе пагадаць. Адважна цягнем упадабаную карту.

— О-о-о, — варожыць русалка. — Гэта карта трыумфа. Значыць, усё ў вас атрымаецца.

Гаданне падмацоўваецца пачастункам-мармеладкай. У такія вось мармеладныя гаданні — пры ўсёй цвярозасці розуму — хочацца верыць.

Бо мармелад дужа смачны. Ну, і трыумфы ніколі не пашкодзяць.

Тут жа — цэлы россып прыгажосці, скруха для фанацкага сэрца: аўтарскія завушніцы і значкі, і не абы-якія, а ў выглядзе персанажаў Зорных Войнаў, або фільмаў Міядзакі, або… Божачкі, там нават ёсць маленькая сіненькая TARDIS — таемная салодкая мара ўсіх, хто любіць серыял «Doctor Who».

З Палінай, творцам усіх гэтых скарбаў, мы не маглі не пазнаёміцца.

— Я люблю вельмі многа самых розных фандомаў, — кажа Паліна. — І таму раблю брошкі ды завушніцы паводле таго, што люблю. У розныя перыяды тэмы былі розныя. Зараз вось мне болей хочацца рабіць нешта анімэшнае, раней было болей крафта па Зорных Войнах. Карацей кажучы, гэта этапамі прыходзіць і сыходзіць, неяк так. А сёння ўвогуле хацелася б… выжыць (*смяецца*). Ну, канечне, усё будзе добра, усё будзе цудоўна. Хочацца парадаваць як мага больш народу, і, думаю, у нас такая магчымасць сёння, на шчасце, будзе.

Побач на стэндзе «D&D» якраз збіраюць каманду аматараў прыгод — і мы, тыя яшчэ прыгоднікі, ахвотна далучаемся. Разам з адважнай кампаніяй (чарадзей, ваяр, два рыцары-паладзіны, друід ды клерык) адважна рушым у пячоры ледзяных гігантаў па заклятыя скарбы і славу. Атрымліваем за гадзіну гульні і тое, і другое. І, вядома, трохі атрымліваем па карку ад усё тых жа ледзяных гігантаў, але гэта — дробязі.

— Вы малайцы, — аўтарытэтна кажа нам майстар гульні, пакуль мы лечым двух параненых і забіраем знойдзенае золата. — Праўда. Перад вамі ў мяне была партыя, дык там увогуле ніхто не выжыў.

Мы нават трошачкі пачынаем ганарыцца. Вось ён, той абяцаны русалкай трыумф. Не нахлусіла, не падманула.

Каб паспець паўсюль, трэба паварочвацца, таму мы зноў выпраўляемся ў дарогу. На гэты раз — да стэнда Ghibli, дзе яшчэ з раніцы паспелі запісацца на акцыю «Пашый сабе сябра». Паколькі гэты стэнд звязаны з фільмамі Міядзакі, то і шыць давядзецца не абы-каго, а Чорную Чарнушку. На стале, калі мы падыходзім, ужо ляжаць падрыхтаваныя кавалачкі штучнага футра. Чорныя гузікі глядзяць з кругоў белага фетру, быццам жывыя вочкі.

— Вам дапамагчы? — пытаецца майстра ў хлопца, які вырашыў далучыцца да акцыі. І цераз хлопцаву галаву крычыць каляжанцы: — Тут трэба дапамога!

— Не-не-не, — адразу ж адмахваецца адважны хлопец. — Вы толькі пакажыце. Я хачу — сам.

Праз паўгадзіны сябры — дзякуючы кіраўніцтву майстроў стэнда — гатовы. І якія! Пухнатыя, круглыя, лупатыя. Сімпатычныя, адным словам. Хто сказаў, быццам лепшыя сябры для дзяўчат — гэта брыльянты? Лухта. Лепшыя сябры — гэта Чарнушкі, зробленыя ўласнымі рукамі.

Свежанькая Чарнушка далучаецца да нашай цёплай кампаніі, глядзіць пільна, уважліва, каб нічога не прапусціць.

А паглядзець ёсць на што. Заклапочана курсіруе між латкоў з сувенірамі Дзясяты Доктар, пазіруюць фатографам дэманы і прынцэсы. Ідзе са сваёй чароўнай палачкай Стар Батэрфлай з мультсерыяла «Стар супраць сіл Зла» — самая сапраўдная, непадробная.

У куточку перад вялікім экранам весела танчаць, гуляючы ў Just Dance. Мы вырашаем таксама паспрабаваць сябе і, упэўніўшыся, што хітрая праграма захапіла нашы постаці, танчым, скачам, боўтаемся, па меры магчымасці паўтараючы рухі персанажа на экране. Добры спосаб скінуць з сябе ўсё напружанне ды стомленасць ад шуму і тлуму.

Пакуль зняможаныя адпачываем на лавачцы, схопліваем адным вухам абрыўкі размоў:

— …а я кажу: не ўзыду я на другі паверх, дзе мне там? У мяне ж — хвост.

— …мне б пасля ў электрычцы не заснуць, стаміўся, як пёс. Можа, стоячы, не так моцна засну.

— …у мяне ж кекс у адной руцэ, меч — у другой…

— Я яго пытаю — ты еў? А ён мне — вось зараз вады папіў…

— А там — наліваюць!..

За апошняе сцвярджэнне мы міжволі чапляемся. Даведваемся, удакладняем: сапраўды наліваюць. На стэндзе Steampunk, за імправізаванай барнай стойкай. Усім, хто хоча. Бясплатна і з ахвотай, па-сяброўску наліваюць. Ага.

Толькі не падумайце лішняга — клубнічны ліманад. Самае тое ў спёку.

Пасля ліманаду выходзім праветрыцца. Не мы адны — па плошчы, з якой сонца злізала цень, тут і там гуляюць купкі касплеераў. Хтосьці збегаў у чым быў у бліжнюю краму па ваду ці кексы і зараз сядзіць сілкуецца. Хтосьці проста размаўляе ці адпачывае, выцягнуўшы ногі, на сонейку. Хтосьці — зусім, як мы — толькі выпаўз, упершыню за дзень, з будынка і цяпер падслепавата, на савіны лад спрабуе праміргацца.

Субота праходзіць ціха, спакойна, і нават не верыцца, што там, у гэтым шэрым будынку, столькі фарбаў, столькі гукаў. Столькі яркага, нястрымнага, неўтаймаванага шчасця.

Субота праходзіць, паступова падбіраецца да пяці гадзін. Натоўп зноў уліваецца ў залу, запаўняе месцы. З галёркі і дзіўна, і весела глядзець на рознакаляровыя галовы з рожкамі, з вушкамі (кашэчымі, заячымі і эльфійскімі), з неверагоднымі анімэшнымі прычоскамі, у чароўных капелюшах. Пасля ўсяго гэтага вока адпачывае на самотнай лысіне.

Журы шчодра раздае прызы. Вядома, заслужаныя. Далоні пякуць ад палкіх апладысментаў — хочацца хоць зараз, хоць так падзякаваць тым, хто ў гэты дзень прынёс табе столькі ўсмешак. Разам з тым на ўзнагароджанні — апошнім этапе любой імпрэзы — робіцца трохі сумна. Менавіта таму, што гэты этап — апошні, што казка, створаная сотнямі ўмелых рук, хутка закончыцца.

Зрэшты, надта засмучацца не варта. Памятаеце — у Сапкоўскага: «Штосьць заканчваецца, штосьці пачынаецца»?

Фінал па змоўчанні прадугледжвае новыя шляхі, новыя пачаткі. Нам вельмі хочацца верыць, што за гэтым фестывалем будуць наступныя. Што ўся гэтая няпростая і часта нябачная на паверхні праца, якая прыносіць навакольным людзям шчасце, працягнецца. Будзе жыць — разам з фестывалем. Таму што застануцца людзі, якія хочуць і ўмеюць ствараць вакол сябе казку ды радаваць тых, хто побач.

Таму што, з'язджаючы, госці вязуць з сабою Webcon — значок — на грудзях, а сам фестываль — увесь гэты вір, усе фарбы, усю пераможную музыку стварэння, ажыўлення казкі — у самым сэрцы.

Унутры. ■

# Канцэпцыя руху наперад

**Якія змены адбыліся ў апошні час у дзейнасці ўніверсітэта — навуковай і адукацыйнай? На што накіроўваліся намаганні? Якімі былі чаканні? Што спраўдзілася? Што ў перспектыве? У чым адметнасць Гродна і Гродзеншчыны як тэрыторыі для рэалізацыі ведаў? З такімі пытаннямі да рэктара Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы Андрэя Караля звярнулася рэдактар «М» Святлана Воцінава.**



— Сістэма адукацыі — рэч, зразумела, кансерватыўная. Таму, што не змяняецца прырода чалавека. На двух полюсах — творчасці і стэрэатыпаў — працякае ўсё наша жыццё. Калі мы гаворым пра перамены, то перш за ўсё маем на ўвазе арганізацыйныя перамены, бо сістэма адукацыі — гэта не толькі навучанне, але і фінансаванне, і кіраванне працэсамі, і шмат што яшчэ. Калі ж перайсці да маркераў, індыкатараў, якімі можна зафіксаваць перамены, то я б сказаў так: універсітэт прыкладае сістэмныя намаганні для ўзаемадзеяння са знешнім асяроддзем. Найяскравейшы таму прыклад — канцэпцыя практыка-арыентаванай адукацыі, распрацаваная ў 2015 годзе. Мадэрнізаваная і ўдасканаленая, яна не проста існуе, як нешта зафіксаванае на паперы, але і актыўна рэалізоўваецца. На кожным факультэце створана сістэма каардынацыйных саветаў па ўзаемадзеянні з заказчыкамі кадраў. Ідэя гэтая, магчыма, і не новая, але мы ў ёй вылучылі як абавязковую адну вельмі важную акалічнасць: працу саветаў каардынуюць не толькі прарэктары па адпаведных накірунках, але і намеснікі старшыні аблвыканкама — як асобы, якія вызначаюць палітыку рэгіёна і кадравую запатрабаванасць у той ці іншай галіне, будзь гэта сацыяльная сфера ці прамысловасць. Ды і самі заказчыкі кадраў не з'яўляюцца пасіўнымі сузіральнікамі, якім трэба абавязкова рэгулярна прысутнічаць на пасяджэннях савета. Менавіта яны з'яўляюцца тымі актыўнымі дзеючымі асобамі, якія не толькі выконваюць у літаральным сэнсе заказ на фарміраванне кампетэнтнасці таго ці іншага спецыяліста, але і ўносяць карэктывы ў вучэбныя планы і праграмы, а самае галоўнае — імкнуцца прадвызначыць траекторыю, па якой студэнт будзе рухацца ў прафесію. Гэта значыць, што вытворчыя практыкі праходзяць пад кіраўніцтвам заказчыка, патэнцыяльнага работадаўцы, а ў таго, у сваю чаргу, ёсць магчымасць загадзя ўбачыць, каго ён можа ў хуткім часе атрымаць у якасці супрацоўніка, і непасрэдна паўплываць, паўздзейнічаць на працэс яго падрыхтоўкі. Прыкладаў такіх ужо нямала. Але існуюць і складанасці. Адна з іх датычыцца матывацыі кіраўнікоў прадпрыемстваў — тых самых заказчыкаў. Не кожны добра разумее, навошта гэта патрэбна — вырошчваць сабе кадры такім вось чынам. Паводле статыстыкі, мы штогод размяркоўваем каля трох — трох з паловай тысяч спецыялістаў, у розныя гады па-рознаму, і з іх на Гродзеншчыне застаецца 92—93 працэнты. Таму і сам рэгіён без такога супрацоўніцтва развівацца не можа, гэта элементарная зваротная сувязь.

**— Ідэя з уключэннем у каардынацыйны савет такога звяна, як аблвыканкам, рэалізоўваецца толькі на Гродзеншчыне?**

— Я не бяруся гаварыць, якое распаўсюджанне атрымала гэтая ідэя, і ці практыкуецца яна ў іншых ВНУ, але пра яе далейшае развіццё ў нас скажу наступнае. З аднаго боку, у якасці першага працоўнага месца наш выпускнік павінен мець прадпрыемства, прадвызначанае на самым пачатку яго навучання. З іншага боку, гэта не павінна разглядацца як жорсткае правіла: студэнт можа мець пэўную ступень свабоды. Іншымі словамі, калі пасля атрымання дыплома ён не захоча працаваць там, дзе праходзілі яго практыкі, ніхто яго не прымусіць. Ідэя практыка-арыентаванай адукацыі дае магчымасць праявіць сябе, але ўсё ж накладае і пэўнае патрабаванне — свядома падыходзіць да выбару прафесіі. А гэта пытанне матывацыі, якое павінна вырашацца яшчэ ў старэйшых класах сярэдняй школы. Такім чынам, практыка-арыентаваная сістэма адукацыі закранае ўсе ступені адукацыі ўвогуле. Яна вырашае найважнейшыя дзяржаўныя задачы, сярод якіх і набор абітурыентаў, і размеркаванне студэнтаў на практыку, і працаўладкаванне выпускнікоў. Сёлета мы трымалі сур'ёзны экзамен на дзеяздольнасць гэтай сістэмы, паколькі наш універсітэт, і без таго адзін з самых буйных у краіне па колькасці навучэнцаў, з улікам двайнога выпуску размеркаваў амаль на 400 выпускнікоў больш, чым звычайна, па ўсіх спецыяльнасцях вышэйшай адукацыі. Дадаўшы сюды чатыры каледжы, якія з'яўляюцца нашымі абасобленымі структурнымі падраздзяленнямі, скажу: гэта было вельмі няпроста. Але мы справіліся.

**— Якія вы маеце планы на найбліжэйшы і аддалены час? Што яшчэ хочаце зрушыць, у добрым сэнсе «перакуліць»?**

— Расказаўшы пра ўзаемадзеянне са знешнім асяроддзем, я назваў толькі адзін аспект перамен, далёка не магістральны, не стрыжнявы, хоць і вельмі важны. Ёсць у нас і ўнутраныя задачы, якія таксама павінны быць вырашаны належным чынам, і яны вырашаюцца — у розных накірунках і з рознымі хуткасцямі. Я маю на ўвазе пытанні аптымізацыі вучэбнага працэсу, памяншэння ўнутраных неадпаведнасцяў, колькасці бюракратычных пытанняў, звязаных з дакументаабаротам. Тут ужо праведзена пэўная праца.

Мы пайшлі па шляху ўзбуйнення кафедр і спецыяльнасцей. Гэта агульная тэндэнцыя ў вышэйшай адукацыі: спецыяльнасці павінны мець зразумелае гучанне для ўсіх, у тым ліку і для заказчыка кадраў, і для замежнага партнёра. Натуральна, што ўзбуйненне спецыяльнасцей спалучаецца з узбуйненнем выпускаючых кафедр. У пачатку 2013 года ў нас іх было 84, а цяпер 65. Што гэта дало? Па-першае, магчымасць узмацніць навуковыя даследаванні — у гэтым накірунку мы ўжо маем пэўныя станоўчыя вынікі. Па-другое, мабільнасць і «гнуткасць», а значыць, лепшую кіруемасць. Па-трэцяе, паляпшэнне фінансавага становішча. Факультэты і раней мелі магчымасці для аказання навуковых, вучэбных і іншых паслуг розным катэгорыям насельніцтва, але сёння гэта стала адным з прыярытэтаў стратэгіі развіцця, у выніку чаго выкладчыкі маюць магчымасць, па-першае, трымацца ў тонусе, ісці ў нагу з часам, па-другое, падняць сваю заработную плату (некаторыя нашы школы дакладных навук па зарплаце сваіх супрацоўнікаў канкурыруюць са свабодным рынкам рэпетытарства), па-трэцяе, мы можам накіроўваць дадатковыя сродкі на развіццё матэрыяльна-тэхнічнай базы.

Яшчэ адзін накірунак дзейнасці — праца па інтэрнацыяналізацыі адукацыі: мы стварылі аднайменны цэнтр. Раней у структуры ўніверсітэта існавала падраздзяленне, якое забяспечвала ўдзел замежных студэнтаў у адукацыйных і навуковых праектах, але яно дзейнічала як самаізаляваная структура. Сёння цэнтр інтэрнацыяналізацыі вядзе працу са студэнтамі, якія прыязджаюць да нас з іншых краін, на якасна новым узроўні. Ён хутчэй нагадвае факультэт замежных студэнтаў, хоць мы не можам яго як такі стварыць з-за вельмі шырокай разнастайнасці накірункаў падрыхтоўкі. Тым не менш наш цэнтр інтэрнацыяналізацыі — сапраўдная альма-матэр для нашых замежных гасцей. Гэта вельмі важнае дасягненне, паколькі ад таго, наколькі ім камфортна вучыцца і вырашаць надзённыя праблемы, залежыць і наша будучыня. Сёння ўніверсітэт мае дастаткова сур'ёзныя лічбы ў плане аказання адукацыйных паслуг — каля двух мільёнаў долараў. Гэта з'яўляецца прыярытэтам унутранай палітыкі ўстановы.

Традыцыйна шмат увагі мы аддаём развіццю студэнцкіх ініцыятыў — гэта таксама стратэгія.




Усё названае адштурхоўваецца ад Місіі нашага ўніверсітэта: выявіць, раскрыць і рэалізаваць патэнцыял студэнта і ўніверсітэта ў прасторы міжкультурнага дыялогу. Бо калі сёння мы не будзем выкарыстоўваць ні арганізацыйныя формы ўзаемадзеяння з заказчыкамі кадраў, ні найноўшыя, найперш эканамічныя, тэхналогіі, ні тэхналогіі прагрэсіўнага эўрыстычнага навучання — калі кожны можа навучацца згодна з уласнымі асаблівасцямі і ўласным рытмам, не ўваходзячы ў процістаянне са зместам вучэбных праграм і планаў, калі студэнту не даецца гатовая інфармацыя, а ён сам фарміруе ў сябе ўяўленне пра аб'екты акаляючага свету, бо толькі пры такіх умовах ён будзе мець магчымасць параўнаць засвоенае з гістарычна накопленым вопытам у навуцы і ў культуры ў межах канкрэтнай тэмы заняткаў і прапаноўваць уласныя ідэі для новых віткоў развіцця — мы не здолеем даць свайму выпускніку галоўнае, што яму трэба. Гэта ўменне думаць, выходзіць за межы свайго «Я», глядзець на сябе збоку, годна адстойваць свой пункт гледжання, даказваць сваю правату. Мы павінны выкладаць навуку самапрэзентацыі і вучыць усяму, што складае насамрэч аснову адукацыі, а не з'яўляецца проста веданнем законаў і правіл, якія ў большасці сваёй не з'яўляюцца запатрабаванымі.

**— Што вы можаце сказаць пра партрэты выкладчыка і студэнта вашага ўніверсітэта? Як яны выглядаюць на агульным фоне выкладчыкаў і студэнтаў краіны?**

— Я б сказаў, што ёсць стэрэатыпныя, а ёсць і творчыя партрэты. Такая і прырода чалавека. Калі ж казаць пра адрозненні нашага ўніверсітэта ад іншых, то гэта адно з самых складаных пытанняў. Адказаць на яго — значыць, адказаць на пытанне: «Хто я ёсць?». Я б адказаў так: унікальнае месца Гродзеншчыны — на ростанях шматлікіх светаў, дзе прадстаўлены розныя нацыянальнасці, культуры і канфесіі, — і вызначае тое, што ёсць наш універсітэт сёння.

Мы маем абсалютна ўнікальны па сваёй шырыні зрэз спецыяльнасцей — хіба толькі ў БДУ такі шырокі іх выбар. Мы маем унікальную шматузроўневасць адукацыі, адсюль і сістэма існуючых у нас кластэраў. Адзін

з іх, медыйны, — прыклад інавацыйнасці ў падыходзе да падрыхтоўкі спецыялістаў на кафедры журналістыкі: яна мае навукова-метадычны характар, што ўжо станоўча ўплывае на рэгіянальныя СМІ. Такіх прыкладаў шмат, мы сапраўды з'яўляемся стрыжнем у справе падрыхтоўкі кадраў у рэгіёне. Так, не ўсё атрымліваецца адразу, ёсць пэўныя праблемы, — і з матэрыяльна-тэхнічнай базай, і з кадрамі, і — самыя вялікія — з інтэрнатам, але вобраз універсітэта фактычна фарміруецца як вобраз установы, якая стварае сацыяльна-культурны асяродак. Сёння студэнту-фізіку лекцыі па фізіцы могуць чытацца высокапрафесійнымі філосафамі і гісторыкамі. Калі б універсітэт не заключаў у сабе ўсю шматграннасць профіляў — калі б мы мелі асобна інстытут тэхнічных навук, асобна гістарычны, асобна матэматычны, і кожны меў бы сваіх фізікаў, гісторыкаў і матэматыкаў, — такое наўрад ці было б магчыма. Але ў нас усё ў добрым сэнсе «ў адным флаконе», адсюль і сінергетычны эфект, які вызначае і партрэт нашага выпускніка, — гэта глыбока і шырока падрыхтаваны спецыяліст. А калі сюды аднесці і тэхналогіі, менавіта дыдактыку падрыхтоўкі, і актыўна гэты вектар развіваць — вучыць выкладчыка даваць студэнту веды па-новаму, у адпаведнасці з часам, — тады мы атрымаем не проста канкурэнтаздольнага спецыяліста, але яшчэ і спецыяліста з сапраўды сваім, «фірмовым», партрэтам.

**— Кола вашых асабістых інтарэсаў вельмі шырокае — ад фізікі і філасофіі да гісторыі і медыцыны. Ці можаце прааналізаваць, які інтарэс і на якой падставе ўзнік і што ў выніку вы асабіста атрымалі для сябе?**

— Нічога проста так не бывае, але кола ўсіх інтарэсаў замыкаецца сёння на адным — каб універсітэт выканаў стратэгічныя мэты, пастаўленыя перад ім. Я хацеў бы, каб ён стаў вядучай ВНУ, калі браць унутраную шкалу, і каб увайшоў у тройку лепшых беларускіх ВНУ у міжнародным рэйтынгу. Мару, каб універсітэт сцвердзіў сябе як навучальная ўстанова, якая можа камерцыялізаваць свае навуковыя распрацоўкі. З гэтым звязана яшчэ адна найважнейшая наша задача — стварэнне тэхнапарка. Але для рэалізацыі нашых мэт патрабуюцца розныя кампаненты. Так адбылося, што і мяне цікавяць розныя рэчы і з'явы. Зрэшты, што такое фізіка? Уся гісторыя развіцця заходнееўрапейскай цывілізацыі — гэта перш за ўсё ўнёсак прадстаўнікоў прыродазнаўчых навук у развіццё мыслення, філасофію, і няма тут нічога дзіўнага. Працы Вернера Гейзенберга, набеліста-фізіка, — гэта працы ў галіне філасофіі, прычым у дачыненні да фундаментальных пытанняў. Прыкладаў сучасных навукоўцаў-выкладчыкаў, якія маюць навуковыя ступені ў педагогіцы, але атрымалі адукацыю фізіка, вельмі нярэдкія. Я такі не адзін.

**— Як бы вы адказалі на пытанне: навошта чалавеку адукацыя?**

— Не скажу, што без адукацыі чалавек не будзе чалавекам, але чалавек жа не толькі біялагічны аб'ект, але і сацыялізаваная асоба. Адукацыя надае чалавеку асобасны склад, задае той маяк-ідэал, да якога яму трэба імкнуцца. Акрамя таго, адукацыя — гэта сродак знайсці сябе ў свеце. Напэўна, гэта найважнейшая з навук — адукацыя. Часта настаўнікі памылкова лічаць, што вучню трэба перадаць суму ведаў, і тады ён, маўляў, будзе адукаваным. Але ж калі мы хочам навучыць вучня думаць, гэта не значыць, што нам трэба выкладаць яму прадмет «думанне». Адукацыя дае ўменне камунікаваць, глядзець на сябе з розных бакоў, вачыма іншых. А ўсё гэта разам гарантуе поспехі ў прафесійнай дзейнасці і асабістых стасунках. Жыццё — пастаянныя змены. Калі мы хочам за ім паспяваць, то павінны ўмець пастаянна змяняцца. Адукацыя дае такое ўменне. Ёсць інфармацыйныя падыходы ў засваенні ведаў, але яны фарміруюць стэрэатыпы, шаблоны. Сапраўдная адукацыя грунтуецца на тым, што вучань сам вызначае яе мэты і сэнс, бо глядзіць на свет уласнымі вачыма. Канечне, мы не адмаўляем дасягненні чалавецтва, але гэта, што называецца, «другія рукі». Сапраўдная адукацыя дазваляе быць, а не мець.

**— Як фізік і педагог, мо нават і як біяфізік ці можаце вы паспрабаваць патлумачыць такую дзіўную з'яву, як нежаданне некаторых людзей атрымліваць веды і пагардлівае стаўленне да тых, хто імкнецца іх атрымаць? Ну, або адкажыце на пытанне, як вы ставіцеся да «троечнікаў».**

— Я амаль не сустракаў апісаных вамі людзей. Іншая справа, што існуе статыстыка і факты, калі вельмі паспяховыя ў прафесіі людзі былі «троечнікамі» ў школе. Аднак пасля ідзе маленькая рэмарка: яны былі вельмі паспяховымі студэнтамі. Але што азначае быць «троечнікам»? Калі мэта адукацыі — перадаць дасягненні чалавецтва, то вучня за ёй не відаць, бо вучню гэта нецікава, у яго ёсць свае мэты. Узнікае канфлікт на ўзроўні мэт: настаўнік вядучы, а вучня вядуць. І тады Марк Твен напіша: «Я ніколі не дазваляў школе ўмешвацца ў маю адукацыю», і ўзнікне шмат іншых цытат пра тое, што атрыманае ад іншых, чужое — заўсёды згубіцца. Пра людзей, якія грэбуюць адукацыяй, што можна сказаць? Трэба паглядзець, якой адукацыяй яны грэбуюць. Я прадстаўляю навуковую школу чалавеказгоднай адукацыі, дзе вучань, незалежна ад ступені адукацыі, — гэта не чысты аркуш, які трэба запоўніць, і не гліна, з якой мы павінны нешта вылепіць. Гэта «насенне невядомай расліны». Задача педагога — стварыць неабходныя ўмовы для таго, каб гэта «насенне» прарасло. І ні ў якім разе не даваць гатовыя шаблоны і рашэнні, а дазволіць, каб кожны вучань змог раскрыць свае здольнасці, рэалізаваць свой патэнцыял і набыць веды.

**— Паколькі нумар прысвечаны Гародні, што вам бачыцца асабліва дзіўным і незвычайным у яго гісторыі і сённяшнім дні?**

— Гродзеншчына — унікальная зямля. Я зноў згадаю фізіка Гейзенберга. Ён казаў, што калі ўзяць дзве сістэмы мыслення — вобраз і логіку, то абавязкова атрымаецца нешта новае. Псіхолагі кажуць, што ўзаемадзеянне абодвух паўшар'яў ёсць творчасць. На Гродзеншчыне шмат творчых людзей, і гэта тлумачыцца месцам — месцам узаемадзеяння розных культур. Фестываль нацыянальных культур тут ладзіцца нездарма, і нездарма ён мае папулярнасць. Было б гэта штучнае пачынанне — памерла б, ледзь нарадзіўшыся. Бо створанае штучна памірае, не маючы каранёў. Гродзеншчына свае карані мае. Яна ўвасабляе гісторыю чалавецтва, месца перасячэння — і светаў, і светаўспрымання розных людзей.




**Як чытаць і разумець лагатып**

«Наўмысна шырокія лініі літары «У» ўраўнаважваюць патэнцыял дынамічнасці і зменлівасці і сімвалізуюць фундаментальнасць універсітэцкай адукацыі», — так сведчыць афіцыйная версія. Паводле яе ж, правільнасць і сіметрычнасць трохкутніка «абумоўлена сутнасцю ўніверсітэта, яго вечным імкненнем да спасціжэння ўніверсальных ісцін».

Выява грэчаскага храма-порціка з дзвюма прыступкамі (да ведаў фундаментальна-гуманітарных і ўтылітарна-прыкладных) «падкрэслівае агульнаеўрапейскія карані нашай культуры, калыскай якой стала Старажытная Грэцыя».

MCMXL — тое ж, што і 1940, — год заснавання Гродзенскага настаўніцкага інстытута, які праз чатыры гады перэтварыўся ў педагагічны. Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы ўзнік на аснове апошняга ў 1978 годзе.

**Кацярына Касцюшка**

# Паспець усё!

Сацыяльна-эканамічнае развіццё рэгіёна накладае адбітак і на развіццё адукацыйнай сістэмы. Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы адкрываў новыя спецыяльнасці і факультэты ў залежнасці ад запатрабаванняў рэгіёна. Працяглы час факультэты мелі педагагічную накіраванасць: матэматычны, фізічны, філалагічны. Аднак паступова пачалі з'яўляцца спецыялізаваныя факультэты, арыентаваныя на патрэбы грамадства і эканомікі: у 1981-м — юрыдычны, у 1990-м —фізічнай культуры, у 1997-м — эканомікі і кіравання, у 2005-м — ваенны, у 2010-м — інжынерна-будаўнічы, у 2013-м — падрыхтоўкі да вучобы ў ВНУ. Адзін з маладых факультэтаў — факультэт эканомікі і кіравання — 22 мая адзначыў сваё 20-годдзе.

Святкаваць юбілей пачалі яшчэ ў красавіку. Студэнты і выкладчыкі стварылі новую традыцыю і пасадзілі алею рабін. Затым была званая вячэра ў інтэрнаце, на якой эканамісты — ад першакурсніка да дацэнта — гатавалі фірмавыя стравы розных народаў, і студэнцкі медыум. Нарэшце, галоўным юбілейным мерапрыемствам стала міжнародная навукова-практычная канферэнцыя з запрашэннем шматлікіх беларускіх і замежных гасцей з больш чым 25 універсітэтаў. Але звернемся да гісторыі факультэта.

Вядомы ва ўніверсітэце яшчэ і як ФЭК (факультэт эканомікі і кіравання), факультэт вядзе паходжанне ад кафедры міжнародных эканамічных зносін і міжнароднага права, якая пачала працаваць ў 1992 годзе. Менавіта тады ўпершыню ў купалаўскім універсітэце і ва ўсёй Гродзенскай вобласці пачаліся заняткі ў студэнтаў спецыяльнасці «Міжнародныя эканамічныя зносіны». У той час на кафедры працавалі наступныя выкладчыкі: доктар юрыдычных навук Уладзімір Аляксеевіч Томсінаў, кандыдат юрыдычных навук Вольга Мікалаеўна Талочка, кандыдат эканамічных навук Аляксандр Фёдаравіч Бадзюкоў, а таксама запрошаныя з Латвіі кандыдаты эканамічных навук Рыгор Піліпавіч Чырыч і Лі Чон Ку. Пазней з'явілася кафедра прыкладной матэматыкі і кафедра эканомікі і кіравання. З першай эканамічнай кафедрай універсітэта ў 1997 годзе яны аб'ядналіся ў факультэт эканомікі і кіравання, дэканам якога стаў сённяшні прарэктар па вучэбнай рабоце — Юрый Эдуардавіч Бялых.




Дваццаць гадоў: ці многа, ці мала? Для тых, хто не сядзіць склаўшы рукі, — нямнога, бо шмат што хочацца паспець. І ФЭК — якраз той факультэт, дзе працуюць шмат, няспынна, а што найважней — плённа і крэатыўна.

Яны дзейныя: бясконца ўдасканальваюць працу, шукаюць лепшыя рашэнні, мадэрнізуюць, ствараюць інавацыі. Дні адчыненых дзвярэй для абітурыентаў праводзяць не толькі ў традыцыйнай форме, але і ў анлайн-фармаце, не толькі з удзелам школьнікаў, бацькоў і студэнтаў, але і прадстаўнікоў прадпрыемстваў. Штогод арганізуюць на факультэце Інвест-Уікэнды, у якіх прызавыя месцы займаюць студэнты-эканамісты. Працуе і навукова-адукацыйная школа праграміравання, удзельнічаюць у якой навукоўцы і праграмісты з Балгарыі, В'етнама, Сенегала, Аўстрыі і іншых краін. Супрацоўнічаюць не толькі з суседнімі Польшчай, Украінай і Літвой, але і з Кітаем, Германіяй, Казахстанам і шматлікімі іншымі краінамі. Таму ў корпусе факультэта нярэдка сустрэнеш не толькі студэнтаў-замежнікаў, але і вя-




домых навукоўцаў, якія прыехалі па праграме «Запрошаны прафесар» чытаць лекцыі на самыя «свежыя» тэмы эканамічнай навукі і практыкі.

Усіх іх спраў не пералічыш. Іншымі словамі, тут робяць усё, каб выхаваць кампетэнтных і мабільных спецыялістаў, якіх патрабуе сучасны свет.

Работа кіпіць, віруе. У кабінеце дэкана — Марыны Яўгеньеўны Карпіцкай — заўсёды нехта ёсць: намеснікі, выкладчыкі, студэнты, госці факультэта. У актавай зале рэпеціруюць тэатральныя пастаноўкі і творчыя нумары. І ўвесь корпус быццам жыве ўласным жыццём, рухаецца, што адбіваецца на студэнтах, якім адной толькі вучобы ўжо недастаткова.

Першае, з дапамогай чаго можна пашырыць сваю дзейнасць, — навуковая праца. З гэтай мэтай штогод праходзяць дзве навуковыя канферэнцыі, значная колькасць анлайн-канферэнцый з вядучымі ўніверсітэтамі розных краін, а курсавыя і дыпломныя работы студэнты выконваюць на матэрыялах рэальных прадпрыемстваў — каб быць сапраўды падрыхтаванымі.

Таму і супрацоўнічаць з прадпрыемствамі большасць студэнтаў пачынае ўжо з першага курса. Гэтаму спрыяе таксама дзейнасць каардынацыйнага савета па падрыхтоўцы кадраў, які ўдасканальвае навучальны працэс, арыентуе яго на практыку — рэальную прафесійную дзейнасць. І на першае працоўнае месца выпускнікі трапляюць невыпадкова, а таму, што будучыя наймальнікі ўзрошчваюць сваіх супрацоўнікаў яшчэ са студэнцкай лавы.

Нават назва вуліцы, на якой знаходзіцца корпус, — Гаспадарчая — заклікае да найхутчэйшага пачатку прафесійнай дзейнасці, да гас-падарання. Ды рэальны сектар эканомікі па суседству не дае забыцца на сапраўдную мэту навучання: харчовая вытворчасць — «Молочный мир», ААТ «Гродзенскі мясакамбінат» і, зразумела, прадпрымальніцтва — адміністрацыя свабоднай эканамічнай зоны «Гроднаінвест». Да таго ж па кожнай спецыяльнасці створаны філіялы кафедр на базах прадпрыемстваў: Беларусбанка, Галоўнага статыстычнага ўпраўлення Гродзенскай вобласці, Гроднааблсаюздруку, Гродзенскай абласной установы фінансавай падтрымкі прадпрымальніцтва і іншых.

Студэнты працуюць, ходзяць на лекцыі, рыхтуюцца да заняткаў, а ў перапынках рэпеціруюць творчыя нумары для ўдзелу ў разнастайных творчых конкурсах, рыхтуюцца да спартыўных спаборніцтваў. І такая несупыннасць дзейнасці дае плён: у штогадовым універсітэцкім конкурсе




«Alma Mater — любоў з першага курса» кожная трэцяя перамога належыць эканамістам. Па выніках універсітэцкай спартакіяды ФЭК заўсёды ў пяцёрцы мацнейшых, іх козыры — гэта шахматы, жаночы валейбол і настольны тэніс. У конкурсах чэрлідэраў і гульнях «КВЗ» гэты факультэт таксама адзін з лепшых, аднак найбольш вядомымі сталі яго моцныя тэатральныя традыцыі. Ужо шмат гадоў ФЭК супрацоўнічае з гродзенскімі тэатрамі — драматычным і тэатрам лялек, а летась ад Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь студэнты атрымалі Гран-пры рэспубліканскага фестывалю «АРТ-вакацыі» за пастаноўку «Сям'я».

На спаборніцтвах, у якіх удзельнічаюць студэнты ФЭК, заўсёды можна выразна пачуць дружнае: «Жёлтый, белый, красный! ФЭУ — самый классный!» Гэтыя колеры прысутнічаюць на сцягу факультэта: жоўты азначае багацце і золата, сімвалізуе эканамічны тэрмін «капіталізацыя», белы — гэта свабода і чысціня, а чырвоны — працаздольнасць, крэатыў і перамога.

Яшчэ адно дасягненне і, верагодна, адно з найлепшых адлюстраванняў эфектыўнай працы факультэта — яго выпускнікі. З вядомых выхаванцаў — Вячаслаў Бяскосны, сёння ён Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ажно ў шасці краінах Афрыкі. Выпускніца 2005 года Анастасія Каморнік займае пасаду галоўнага саветніка ўпраўлення фінансавых зносін галоўнага эканамічнага ўпраўлення апарата Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь. Вядомыя былыя студэнты ФЭК і ў спорце: Артур Гаўрус і Яўген Лісавец — у хакеі, Дзмітрый Раўнейка — у футболе. 75 выхаванцаў ФЭКа працуюць у розных аддзелах роднага ўніверсітэта, 35 — на факультэце. Трынаццаць абаранілі кандыдацкія дысертацыі, сем з іх атрымалі навуковае званне дацэнта.

А што тычыцца будучых выпускнікоў і студэнтаў? Яны таксама маюць вялікія магчымасці ўжо толькі дзякуючы значнаму шэрагу спецыяльнасцей: сем — на першай ступені вышэйшай адукацыі, пяць — для тых, хто хоча стаць магістрам эканамічных навук, ды яшчэ дзве — для будучых навукоўцаў у аспірантуры. На погляд Марыны Яўгеньеўны, найбольш запатрабаванымі і перспектыўнымі сёння з'яўляюцца тыя спецыяльнасці, якія аб'ядноўваюць інфармацыйныя тэхналогіі, замежныя мовы і класічную эканоміку. Таму ў новым навучальным годзе на факультэце з'явіцца яшчэ адна спецыяльнасць — «Электронны маркетынг». Дарэчы, сёння яна ёсць толькі ў адным універсітэце краіны. Не менш запатрабаванымі застаюцца «Сусветная эканоміка» і «Эканоміка і кіраванне на прадпрыемстве», «Фінансы і крэдыт», «Інфармацыйныя сістэмы і тэхналогіі ў эканоміцы».

На пытанне, як факультэт за такі кароткі час паспеў зрабіць так многа, тут смела адказваюць: дзякуючы адзінстваі і падтрымцы ўсяго калектыву. На гэтым факультэце найбольш смелыя, амбіцыйныя планы заўсёды рэалізуюцца найбольш паспяхова. Насамрэч, за дваццаць гадоў факультэт эканомікі і кіравання праявіў сябе ва ўсіх галінах — вучобе, навуцы, прафесійнай дзейнасці, творчасці, спорце. Такое вось адчуванне: табе толькі дваццаць, а ты ўжо столькі паспеў! А колькі яшчэ наперадзе!

З днём нараджэння, ФЭК!




## Шавец без ботаў,
### або Піяр для адпаведнай структуры

**У Гродзенскім універсітэце піярыцца ўсё — ад гісторыі і сімволікі да найноўшых ідэй і палітыкі ў галіне якасці, ад дзейнасці адукацыйнай і матывацыйнай да дзейнасці навукова-даследчай і інавацыйнай, ад спраў філіялаў-каледжаў да міжнародных стасункаў, ад тутэйшых грамадскіх арганізацый (так, так) да тутэйшых СМІ (зноў «так, так», падрабязнасці — трошкі ніжэй). Адзінае, што не піярыцца, — піяр-служба. Але справядлівасці ў свеце нямала. Прынамсі, яе дастаткова для таго, каб «М»ы прапіярылі піяр-службу.**

Значыцца, яна. Дакладней, Цэнтр па сувязях з грамадскасцю ГрДУ, як гэта афіцыйна гучыць. Налічвае два дзясяткі супрацоўнікаў (не будзем спрачацца, але вам уяўлялася, што яго прадстаўляе адно толькі прэс-сакратар). Гэтыя два дзясяткі супрацоўнікаў маюць абавязкі і функцыі настолькі ўнікальныя, што пра ўзаемазамяняльнасць размова не ідзе (і гэта не пралік, не памылка, не недахоп, а проста прыкмета часу, у якім уладарыць учэпісты розум і вострая думка, а запатрабаванымі аказваюцца толькі ўнікальныя ідэі і нестандартныя рашэнні). Адзін цэнтр — тры аддзелы: інфармацыйны (вось яна, уласна прэс-служба, але не адзін чалавек), аддзел электронных камунікацый (у сваю чаргу ён таксама дзеліцца — на сектар сайта grsu.by і на сектар TV), аддзел маркетынга і рэкламы (усе платныя паслугі ўніверсітэта сканцэнтраваны на market. grsu.by).

Грамадскія арганізацыі ГрДУ (расказваем, як абяцалі) — гэта і аб’яднанні супрацоўнікаў (кшталту такіх, як прафкам, савет ветэранаў), і — вельмі шматлікія — саветы і аб’яднанні студэнтаў: каардынацыйны студэнцкі савет, студэнцкі савет інтэрнатаў, савет студэнцкіх і інфармацыйна-лектарскіх груп, савет стараст, савет валанцёраў, штаб працоўных спраў, студэнцкі мастацкі савет, дабравольная студэнцкая дружына, жаночы

савет, зямляцтвы замежных студэнтаў, студэнцкае навуковае таварыства, студэнцкі спартыўны клуб, савет студэнтаў-куратараў.

Іншымі словамі кажучы, кожная справа тут мае ядро актывістаў.

І кожная — адлюстравана ў СМІ. Іх універсітэт мае некалькі, у розных формах. Газета? «Гродзенскі ўніверсітэт». Між іншым, распаўсюджваецца ў гарадскіх шапіках, таму пра справы студэнцтва, навукі і адукацыі можа прачытаць любы зацікаўлены ў тым гараджанін (ці трэба згадаць, што першая газета на нашай зямлі выйшла ў Гродне, ці мо чытач гэта і без таго добра ведае?). Электронны варыянт універсітэцкага СМІ — сайт grsu.by (піша пра ўсё (і паказвае ўсё), што адбываецца ў сценах ГрДУ і за іх межамі). Выпускаецца тут і рэкламна-іміджавая прадукцыя як мінімум на шасці мовах.

І над усім гэтым — як дах над сценамі, як ахоўная грамата храма ведаў, як сонца над зямлёй, як кваткуха над куранятамі, — той самы PR-цэнтр.




Яго нястомную працу давялося назіраць увачавідкі. Прыемна назіраць. Нават з зайздрасцю, хоць і белай.

Вось рыхтуецца наша інтэрв'ю з рэктарам, і прэс-сакратар Вольга Кішкель просіць выслаць пытанні за суткі. Надыходзіць прызначаны дзень, і нашага рэдактара ветліва сустракаюць, прафесійна суправаджаюць, тэхнічна падтрымліваюць — дыктафон прэс-сакратара піша дубль, фатограф увесь час да паслуг.

Пра фатографа трэба напісаць асобна. Вось начальнік цэнтра Ганна Салаўёва паведамляе, што а 11-й (час нашага інтэрв'ю з рэктарам) фатографу трэба быць у трох месцах (бо ў двух іншых месцах таксама прызначаны нейкія інтэрв'ю). І ведаеце? Гэта не ўспрымаецца як жарт і не гучыць, як гіпербала. Гэта проста гучыць, як проста інфармацыя да ведама. У гэта проста верыцца — як у самую што ні ёсць звычайную справу. Проста недзе ў глыбінях свядомасці прамільгнула, што… «Мабыць, так тут усё пастаўлена, што калі трэба быць у трох месцах адначасова, значыць, трэба ў іх быць».

Наша інтэрв'ю з рэктарам запісвалася ў пастаяннай прысутнасці фатографа, але не ўзнікла ні кроплі сумнення ў тым, што тыя два іншыя інтэрв'ю таксама суправаджаюцца здымкамі, і ўсё ідзе, як задумана, без складанасцей.

Яшчэ падумалася, што ўсюдыіснасць — неабходная канкурэнтная перавага і якасць, вартая пераймання.

І што яшчэ можна дадаць да сказанага? Што з такіх людзей, як тыя, што тут працуюць, тчэцца будучыня. Тчэцца ўжо сёння.

**Вікторыя Касцюк**

## Наперадзе імгненні

У кожнага ёсць радзіма — абласны цэнтр, маленькі горад або вёска, дзе гараць па вечарах два-тры агеньчыкі. Гэта радзіма геаграфічная: месца, дзе зроблены быў першы крок, дзе не любілі спаць у «ціхую гадзіну», дзе пайшлі ў школу — хто з кветкамі, хто з засмучаным тварам. Гэтую радзіму не адняць: яна заўсёды з намі, дзе б мы ні былі. Але свет так уладкаваны, што падчас жыцця адна радзіма змяняецца іншай, — і вось тут сцежкі разыходзяцца…



*Вікторыя Касцюк — студэнтка 3 курса факультэта гісторыі, камунікацыі і турызма Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, спецыяльнасць «Журналістыка».*

*Любоўю да кніг абавязана бацьку, які з самага дзяцінства прывучаў яе да добрай літаратуры. Сярод беларускіх класікаў вылучае Быкава і Гілевіча, сярод замежных – Оруэла і Рэмарка. Не ўяўляе жыццё без цяжкага року, які дае ёй натхненне жыць. Цікавіцца фатаграфіяй, касмічнай прасторай і інтэлектуальнымі гульнямі. Марыць прыгнуць з парашутам.*

Для мяне другой радзімай стаў універсітэт — месца, якое на чатыры гады замяніла мне домік у Навагрудку. Месца, якое стварае з мяне Асобу — адукаваную, развітую, творчую.

Памятаю свае першыя крокі ў гэтым месцы. Ідзеш, глядзіш — па той бок нейкія партрэты, па гэты — тое самае. Нібыта дзяўчынка з пальцам у роце, на ўсё кідаеш баязлівы, асцярожны позірк: а што наперадзе?

Наперадзе — імгненні. Тыя, якія праз пэўны адрэзак часу будуць праносіцца хуткімі ўспамінамі, кранаючы сэрца. Такімі цёплымі, такімі шчаслівымі.

Найвялікшым адкрыццём для мяне стаў тэатр. Памятаю, як на першым курсе да чорцікаў хацелася ўдзельнічаць у якой-небудзь пастаноўцы. Я што, у школе мала выступала? Калі ведаю, што сапраўды магу, то чаму б і не працягнуць любімую справу? Пайшла… І затрымалася на два гады. Штодзённыя рэпетыцыі, велізарная колькасць усмешак і невывучанага тэксту, спевы, жарты — усё захапляла настолькі, што я ўжо не ўяўляла сябе без гэтага. Я быццам злілася ў адно з тым, чаго прагла доўгія гады. Універсітэт, акрамя ведаў, падарыў мне галоўнае — моманты. Тыя моманты, з якіх сплятаецца сэнс гэтага таямнічага і падчас незразумелага слова — «шчасце».

Універсітэт — гэта іншая планета. Тут збіраюцца студэнты з розных гарадоў і нават краін, дзеляцца здабыткамі сваіх культур, сваімі паглядамі на жыццё. У кожнага свае мэты, але ёсць адна, якая нас аб'ядноўвае, — веды.

А яшчэ на гэтай планеце ёсць тыя, знаёмства з кім запомніцца назаўсёды. Гэта сябры. Людзі, якія ратуюць падчас страшнай, кры-

Нехта выконвае значную ролю, нехта — меншую, але кожны — Асоба, а на маёй кафедры — Асоба творчая. Вось вы ведаеце, як зацікавіць студэнтаў так, каб ім не хацелася ісці на перапынак? А ён ведае. І кожны занятак, нібы свята…

важэрнай сесіі, дапамагаюць добрымі словамі або нават справамі. На сцежцы жыцця людзей сустракаецца шмат, некаторыя застаюцца, некаторыя — не. Але я ўпэўненая, што сяброўства, завязанае падчас вучобы ва ўніверсітэце, самае сапраўднае і шчырае. І нават мама калісьці пацвердзіла мае словы: «Збірай моманты, збірай сяброў. Бо калі гэта рабіць, як не ў маладосці?»

Я не адкрываю Амерыку, калі кажу, што час бяжыць хутка. Тое, што можа падацца нявартым увагі, мы будзем пасля ўспамінаць з асалодай. Асабіста я буду вяртацца ў думках не толькі да сваёй любімай настаўніцы беларускай мовы, але і да ўніверсітэцкіх выкладчыкаў. Яны — як другія бацькі. Нехта выконвае значную ролю, нехта — меншую, але кожны — Асоба, а на маёй кафедры — Асоба творчая. Вось вы ведаеце, як зацікавіць студэнтаў так, каб ім не хацелася ісці на перапынак? А ён ведае. І кожны занятак, нібы свята… Яскравае, арыгінальнае, напоўненае рознымі сюрпрызамі і, канешне, адзнакамі. Але з гэтым выкладчыкам пра адзнакі думаеш у апошнюю чаргу. Да гэтага часу ў мяне не змяшчаецца ў галаве, як можна настолькі насычана і цікава выкладаць інфармацыю! І я не перабольшваю, не падумайце! Быццам наш універсітэт такіх выкладчыкаў калекцыяніруе. Ну, ці не дзіва, га?

Хтосьці з нас, цяперашніх трэцякурснікаў, марыць пра заканчэнне ВНУ. А хтосьці, як я, хоча, каб цудоўны час вучобы як мага даўжэй не ператвараўся ва ўспаміны. Кожны дзень і кожная па́ра — узнагарода. За што? Не ведаю. Але ведаю вось што: Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы — гэта тая другая радзіма, якая застаецца не толькі на старонках дыплома. Яна застаецца ў сэрцы.

**Лаліта Савіцкая**

## Сям’я Купалаўскага ўніверсітэта

— І навошта гэта табе…

— Яшчэ чатыры гады вучыцца?!

— Ідзі працаваць!

— Ну, і куды ты сунешся, да гэтых школьнікаў?

— Хопіць, час сталець!

Часам сумненні адольвалі і мяне. «Сапраўды, — угаворвала я сябе, — доўгачаканы дыплом аб заканчэнні каледжа толькі што атрымала. Цяпер буду працаваць з дзецьмі — вучыць іх танцаваць». А сэрца крычала: «Ты сама яшчэ дзіця!» Мне не хацелася стаць Лалітай Юр’еўнай у дваццаць гадоў. Мне хацелася, каб юнацтва маё доўжылася. Хацелася зразумець, што гэта — студэнцкае жыццё, пра якое так шмат гавораць. У каледжы я не паспела яго адчуць. А можа, проста яго не хапіла?

У каледжы мяне навучылі працаваць нагамі. А галава? Яна, канешне, працавала, але не настолькі, наколькі хацелася. Адчувалася, што інтэлектуальныя рэсурсы не ўсе задзейнічаны.




*Лаліта Савіцкая — студэнтка 2 курса факультэта гісторыі, камунікацыі і турызма Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, спецыяльнасць «Журналістыка».*

*Любіць неверагодныя прыгоды і шалёныя ідэі, таму часта трапляе ў пераплёты. «Шчасце, што ў такія моманты са мною побач мае сябры», — кажа яна.*

З дзяцінства я была цікаўная, дапытлівая і нават надакучліва-скрупулёзная. Калі сяброўкам дарылі на святы цацкі, мне бацькі з хроснымі старанна выбіралі энцыклапедыі. Гэты імпэт нікуды не знік: хацелася вучыцца далей! Усе сумневы я прагнала выклікам, зробленым самой сабе: «Што, не зможаш? Слабó?».

Прагнучы ведаў, я пачала выбіраць спецыяльнасць. Зноў сумненні! Толькі адно было несумненным: універсітэт — Купалаўскі! Там вучацца сябры і аднакласнікі. І знаходзіцца ён у знаёмым і ўжо любімым горадзе — Гродна. Трэба адно паступіць.

Мне хацелася паспрабаваць сябе ў журналістыцы. Аднак я баялася, што не хопіць ведаў. Насамрэч, не хапала толькі рашучасці. Падштурхнула зноў тое ж «Слабó?»

Здолела! Не, не слабó!

Я чула, што ўніверсітэт — гэта сям'я. У каледжы, вядомая рэч, навучэнцаў і выкладчыкаў няшмат, усе ведаюць адно аднаго ці па прозвішчы, ці ў твар. А ва ўніверсітэце — пятнаццать тысяч студэнтаў і дзве тысячы выкладчыкаў! Якая ж гэта сям'я? Кожны адзін аднаму як стрыечны пляменнік ці цётка ў чацвёртым калене. Потым я зразумела, што значаць гэтыя словы — пра сям'ю. На прыналежнасць да адной сям'і ўсіх сямнаццаці тысяч ніхто не прэтэндаваў. Сям'я — гэта самыя блізкія. А цётка ў чацвёртым калене… Яна далёкая, але ўсё роўна яна недзе ёсць. Ты, калі што, ведаеш: і туды можна кінуць кліч — адгукнецца.

Напачатку мне было не па сабе ад таго, што выкладчык не ходзіць за студэнтамі ценем, не надакучвае павучэннямі — не носіцца з намі як курыца з яйцом. У каледж прыходзіш яшчэ дзіцём, і цябе ўспрымаюць, як дзіця. Ва ўніверсітэце ты і выкладчык як роўныя! Нават звяртаюцца да цябе на «Вы».

А яшчэ выкладчык ў Купалаўскім універсітэце — калега і сябар. З кожным з іх можна шчыра пагаварыць, атрымаць параду ў асабістых справах. Ты разумееш: мы — падобныя! Выкладчык у Купалаўскім універсітэце — гэта не толькі выкладчык, гэта настаўнік.

Колькі іх тут… і ўсе апантаныя сваімі галінамі ведаў. Яны — натхняюць на атрыманне ведаў, яны — запальваюць сэрцы. І ўсё ад таго, што самі адданыя таму, чым займаюцца. І ўжо ты становішся ценем выкладчыка. Бяжыш з адкрытым ротам, сэрцам і галавой: атрымліваць веды, энергію і натхненне.

А як умела даюць урокі жыцця! Не словам — справай. Першапачаткова гэта можна прыняць за абыякавасць да пачуццяў студэнта, за спробу пакараць, правучыць. Але гэта толькі спосаб падштурхнуць да дзеяння. Выкладчыкі даюць зразумець: «Усё ў тваіх руках… і ў галаве».

Здаецца, што першакурсніка каледжа і першакурсніка ўніверсітэта аддзяляюць толькі два гады. Насамрэч іх аддзяляе цэлая прыступка жыцця. Ва ўніверсітэце з першага дня студэнт думае пра будучыню, ён мэтанакіраваны, практыка-арыентаваны, калі хочаце. Ёсць разуменне таго, што прафессія — гэта назаўсёды, што яна павінна стаць ладам жыцця. І каб быць паспяховым у ёй, трэбы старацца. І кожны стараецца.

Не ведаю, як там у іншых універсітэцкіх сем'ях, а мне з маёй, безумоўна, пашанцавала. Гэта я пра групу. Спярша яны мне здаваліся трошкі самаўлюбёнымі, занадта ўпэўненымі, маленькімі. Потым усё змянілася. Адразу кожны хацеў паказаць сваю перавагу над астатнімі. Сёння ўсё інакш: мы ходзім адно да аднаго ў госці, дапамагаем у вучобе, збіраемся разам на святы. Няма ніякай зайздрасці, жадання насаліць, падставіць. У нас нават з'явілася традыцыя, як у сапраўднай сям'і: віншаваць з днём нараджэння і дарыць падарункі ад групы. Гэта цэлы рытуал — сабраць грошы і знайсці падарунак, які хоча атрымаць імяніннік. Якімі толькі шляхамі не дазнаемся, што яму патрэбна: асцярожныя пытанні, прыслухоўванні, нават у крамы разам ходзім. Жартам называем гэтую аперацыю «выгуляць па магазінах». І падарункі, трэба сказаць, атрымліваюцца розныя. Але амаль што ўсе істотныя, інтэлектуальныя, прыдатныя для вучобы ці быту, фінціфлюшак няма.

Вось яно, студэнцкае жыццё. Яно не складаецца толькі са свят і гульняў. У ім усё: усмешкі, экзамены, слёзы, выкладчыкі, сесія, аднагрупнікі, курсавыя, душныя аўдыторыі і сябры. Усё гэта нельга падзяліць. Гэта адзіны ком, сплаў разнастайных, неверагодных паняццяў, з якіх і складаецца ўніверсітэтскае студэнцтва.

Час ляціць няспынна — і вось ужо другі год навучання падыходзіць да завяршэння. «Медыум блізка!» — як сказалі б мае аднагрупнікі. А колькі ўжо пазнана, а колькі яшчэ чакае... Мне ясна толькі адно: са мной сям'я Купалаўскага ўніверсітэта.

### Lines composed in a wood on a windy day

## By Anne Bronte

My soul is awakened, my spirit is soaring
And carried aloft on the wings of the breez;
For above and around me the wild wind is roaring,
Arousing to rapture the earth and the seas.

The long withered grass in the sunshine is glancing,
The bare trees are tossing their branches on high;
The dead leaves, beneath them, are merrily dancing,
the white clouds are scudding across the blue sky.

I wish I could see how the ocean is lashing
The foam of its billows to whirlwinds of spray;
I wish I could see how its proud waves are dashing,
And hear the wild roar of their thunder today!

## Анна Бронтэ

### Радкі, напісаныя ў лесе ветраным днём

Душа мая болей не вязніца цела —
Яна адляцела на крылах вятроў;
Навокал віхура пяе ашалела,
Кіпіць у грудзях закаханая кроў.

Жаўцеюць на сонцы высокія травы,
І трэпле на дрэвах галлё вецярок;
Апалае лісце танцуе рухава,
У небе блакітным — не злічыш аблок.

І марыцца ўбачыць мне мора, і хвалі,
І белую пену, што пырскамі б'е;
І тое, што ў сэрцы надзейна схавана, —
Таемныя думкі, жаданні мае!

### Invictus

## By William Ernest Henley

Out of the night that covers me,
Black as the pit from pole to pole,
I thank whatever Gods may be
For my unconquerable soul.

In the fell clutch of circumstance
I have not winced nor cried aloud.
Under the bludgeonings of chance
My head is bloody, but unbowed.

Beyond this place of wrath and tears
Looms but the horror of the shade,
And yet the menace of the years
Finds and shall find me unafraid.

It matters not how strait the gate,
How charged with punishments the scroll,
I am the master of my fate:
I am the captain of my soul.

## Уільям Эрнст Хенлі

### Нераможны

З-пад цемры покрыва начной,
З пякельнай прорвы чорных дум
Я дзякую Багам за мой
Непераможны, вольны дух.
Бо, трапіўшы пад цяжар бед,
Я не дрыжаў і не стагнаў.
Калі мяне адрокся свет —
Я збіты быў, але не ўпаў.
Няхай ляжыць між зла і слёз
Майго жыцця далейшы шлях,
Між новых цяжкасцей, пагроз —
Не ашукае сэрца страх.
Хоць вузкія вароты, боль
Не здолее мой крык здушыць:
«Я лёсу ўласнага кароль!
Я капітан сваёй душы!»

*Пераклад з англійскай студэнткі ГрДУ Аліны Паўлоўскай.*

# Ігар Гедзіч: «Творчы і адміністрацыйны складнікі паразумеліся»

**Гродзенскі абласны драматычны тэатр сёлета святкуе юбілей. З гэтай нагоды Кацярына Захарэвіч сустрэлася з яго дырэктарам Ігарам Гедзічам. Кіраўнік тэатра не толькі праанансаваў святкаванне, але і распавёў, як трымае баланс паміж творчым і матэрыяльным.**



**— Чым адметны юбілейны сезон?**

— Мы хочам зрабіць яго максімальна разнастайным. Тэатр — адзіная вялікая пляцоўка ў горадзе, таму мы выкарыстоўваем яе і як тэатральную, і як канцэртную. Цягам года запрашаем нашых сяброў: прыязджалі тэатры з Бранска, Кастрамы, антрэпрызныя трупы. Вядзём перамовы пра гастролі з Вільнюскім тэатрам. У нас зараз зона visa-free, і адчуваецца, што павялічылася зацікаўленасць у польскай публікі. Яшчэ ёсць цэлыя турыстычныя групы, якія прыязджаюць адмыслова ў тэатр на праекты, якія іх цікавяць. У кастрычніку плануем гала-канцэрт, дзе і адсвяткуем уласна сам юбілей. Мы хочам быць цікавымі заўсёды — не толькі ўнутры калектыву парадавацца, што нам 70 гадоў, але і каб гледачы адчулі свята.

**— Які рэпертуар найбольш запатрабаваны?**

— На жаль, глядач хоча прыходзіць, каб адпачываць, а не для таго, каб задумвацца над важнымі пытаннямі. Гэта спецыфіка ўсіх тэатраў. То бок, калі мы ставім камедыю, верагоднасць таго, што пастаноўка будзе камерцыйна паспяховай, павялічваецца. Я не хаваю сваю пазіцыю наконт рэпертуару: два праекты камерцыйныя і тры — для падрыхтаванага гледача.

Без балансу паміж творчасцю і камерцыяй нельга: мы ўдзельнічаем у фестывалях, а фестывальны спектакль заўсёды іншы, не камерцыйны. Канешне, ёсць папулярныя пастаноўкі, пасля якіх гледачы пакідаюць тэатр са слязьмі. І гэта добра. Я чуў такое меркаванне: спектакль атрымаўся, калі публіку дрыжыкі бяруць, — значыць, рэжысёр і акцёры паразумеліся з аўдыторыяй. Напрыклад, не так даўно мы паставілі «451 градус па Фарэнгейту». Цудоўная рэч, якой асабліва зацікавілася маладое пакаленне. Тым больш што твор калісьці быў фантастычны, а цяпер быццам перастае ім быць.

**— Калі вы самі ўпершыню патрапілі ў тэатр?**

— Я нарадзіўся і вырас у Гродне і памятаю школьныя паходы ў тэатр. Зараз мы таксама працуем са школамі, і хачу адзначыць, што ўпраўленне адукацыі падтрымлівае ідэю наведваць тэатр, пачынаючы з дзяцінства. Ёсць такое меркаванне, што аматараў гэтага віда мастацтва

рыхтуюць з сямі гадоў. Калі бацькі ці настаўнікі прывялі дзіця сюды, то яго шанец вырасці годным і адукаваным ва ўсіх сэнсах павялічваецца. Мы павінны адказваць за сваіх дзяцей, і часам трэба «даставаць» іх з-за камп'ютара і прыводзіць у тэатр. І гэта працуе, таму што нават дарослыя часам кажуць: «Дзякуй, што запрасілі нас». Тэатр — зусім іншае жыццё. Людзей, якія сапраўды любяць яго, напэўна, не больш за дзесяць адсоткаў, але нават дзеля аднаго адсотка тэатр павінен існаваць.

**— Чым матываваны ваш прыход у тэатр як кіраўніка пасля вайсковай службы?**

— Мяне цікавіць усё новае. Я прыйшоў не з тэатральнага асяроддзя, і быў не дасведчаны ў кулуарных нюансах. Не абцяжараны закуліссем. Калі чалавек усё жыццё імкнецца да чагосьці новага, то ён можа дасягнуць вынікаў. Мне цікава служыць тэатру, і прыемна, што мы разумеем адно аднаго — творчы і адміністрацыйны складнікі.

**— За пяць гадоў, што вы кіруеце тэатрам, адчуваеце змены ў ім?**

— Я прыйшоў сюды са словамі, што мы будзем рабіць не рэвалюцыю, а эвалюцыю. Не буду казаць пра эканамічныя паказчыкі, таму што мы ўсе іх выконваем. Але скажу пра іншае: у 2012 годзе мы ўзялі прэмію імя Кірыла Лаўрова ў Санкт-Пецярбургу, рэгулярна ўдзельнічаем у «Сустрэчах у Расіі» — адным з самых вядомых тэатральных фестываляў. Наша трупа не распалася, больш за тое, сёлета мы атрымліваем плён ад рашэння рыхтаваць акцёраў для сябе, таму што рэгіянальныя тэатры маюць праблему: выпускнікі мінскіх ВНУ не вельмі хочуць працаваць у іншых гарадах. Мы вырашылі працаваць з людзьмі, гатовымі вярнуцца сюды, і хутка ў нас з'явяцца дзве дзяўчыны і двое хлопцаў — вынік нашых заняткаў на працягу трох гадоў.

Не зусім карэктным будзе сказаць, якімі цудоўнымі мы сталі за гэтыя пяць гадоў, лепш распытаць пра гэта гледачоў, але магу сказаць, што мне і, мяркую, супрацоўнікам тэатра не сорамна, што гэты час мы пражылі так.

**— А як часта вы бываеце ў тэатры ў якасці звычайнага гледача?**

— Рэгулярна. Я ведаю ўсе спектаклі. Заўсёды гляджу пастаноўкі, якія да нас прывозяць: цікава параўнаць узровень нашага тэатра з іншымі. Канешне, меркаванне будзе суб'ектыўным, але мне здаецца, што мы маем годны ўзровень. Нас запрашаюць на абменныя гастролі. Напрыклад, вельмі любяць нас у Магілёве і Брэсце. Калі ты адзін раз прыехаў і прывёз штосьці не тое, спектакль не атрымаўся, наступным разам цябе могуць проста не запрасіць. І людзі, і тэатры ўмеюць лічыць грошы. Трупа павінна гастраліраваць — і гэта добра, што мы цікавыя нашым калегам.

**— З якога спектакля вы параілі б пачаць знаёмства з рэпертуарам тэатра?**

— Мой любімы спектакль — «Палёт над гняздом зязюлі». Менавіта з яго і парэкамендаваў бы пачаць. Ёсць пра што падумаць і ёсць з чаго пасмяяцца. Але гэта суб'ектыўна. Моладзь любіць глядзець «Боінг-Боінг» — моладзевую камедыю.

**— У кіраванні тэатрам што для вас самае складанае, а што — самае прыемнае?**

— Самае складанае — казаць «не». Але даводзіцца. Некаторыя праекты, якія нам прапаноўваюць, немагчыма рэалізаваць па розных прычынах. Даводзіцца карэкціраваць рэпертуар проста па ходу дзеяння, і ў гэты працэс уключаны і галоўны рэжысёр, і мастак, а да кожнага творчага чалавека патрэбны падыход асаблівы.

А самае прыемнае — калі атрымліваецца. Калі прэм'ерны спектакль мае добрыя водгукі гледачоў і нешматлікіх крытыкаў. Калі афіша не змяшчаецца на фармаце А3, калі вокны касы цалкам завешаныя афішамі. Калі ты запатрабаваны і ў цябе кожны дзень праходзяць мерапрыемствы. У нас ёсць праект «Тэатральны нон-стоп», калі за два дні — суботу-нядзелю — мы даём шэсць спектакляў. Калі чарга з касы працягваецца на вуліцы… Такія моманты любога кіраўніка цешаць.

**— Якім вы бачыце тэатр яшчэ праз пяць гадоў?**

— Ён будзе яшчэ лепшым. Крокі наперад, хай сабе і маленькія, будуць заўсёды, я ўпэўнены. І тэатр таксама.

# Каб усім было цікава

**Менавіта так можна вызначыць асноўную мэту дзейнасці Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея. Кацярына Захарэвіч сустрэлася з Юрыем Кітуркам, дырэктарам, каб пагутарыць пра мінулае, будучыню і сённяшнія дасягненні. З апошніх і пачалі.**

— Я кірую музеем з канца 2003 года. Да таго як стаць дырэктарам, доўгі час працаваў навуковым супрацоўнікам, загадчыкам аддзела, аформіў у Новым замку вельмі шмат экспазіцый, як пастаянных, так і часовых. Калі перайшоў на пасаду дырэктара, стаў займацца адміністрацыйнай працай, што датычыцца ўсяго музея. У нас ёсць адна галоўная праблема: нашы будынкі не ў лепшым стане. Увесь той час, што я працую дырэктарам, я прасоўваю ідэю аб рэканструкцыі Старога замка. Справа то зрушваецца з месца, то спыняецца. Сёння зноў зрушылася.

Кожны дырэктар можа пахваліцца тым, што пры ім пашыраюцца музейныя ўладанні. Пры мне мы набылі колішнія гаражы аблвыканкама на тэрыторыі Новага замка. Насамрэч гэта рэшткі былой каралеўскай вайсковай канцэлярыі. Цяпер мы на шляху да набыцця былых кардэгардыі і пякарні, што знаходзяцца ля брамы, — там месціцца архіў, які хутка павінен выехаць, і тады будынкі будуць перададзены музею. Нядаўна атрымалі будынак пачатку мінулага стагоддзя ў горадзе, будзем ладзіць там цэнтр рэстаўрацыі музейных прадметаў па Гродзенскай вобласці.

**— А як папаўняюцца музейныя фонды?**

— Па-рознаму — прадметы ж таксама розныя. Аддзел археалогіі, напрыклад, даволі рэгулярна ўдзельнічае ў экспедыцыях. Праводзілі раскопкі ў Старым і Новым замках. У нас вельмі вялікі археалагічны фонд — больш за 40 000 прадметаў.

Мастацкія калекцыі папаўняюцца так: кожны год аблвыканкам вылучае нам грошы на пакупку твораў сучаснага мастацтва ў гродзенскіх мастакоў. А бывае, што пасля выстаў мастакі пакідаюць нам творы ў падарунак. Здараецца і так, што простыя людзі дораць штосьці ці прадаюць за невялікую плату.



Адзіны бюст Станіслава Аўгуста Панятоўскага, які захаваўся. У караля быў прыдворны скульптар Андрэ-Жан Ле Брун, які рабіў для яго па адной скульптуры ў год.



Адзіны прадмет мэблі, які захаваўся з палаца часоў каралёў, — бюро Панятоўскага. Верхняя частка была зроблена ў XVII стагоддзі ў Італіі, а ніжняя — у часы Панятоўскага ў стылі так званага станіславаўскага класіцызму.



Вельмі рэдкая кананічная ікона — на ёй ёсць подпіс аўтара. Аўтар — Дзмітрый Корын, бацька вядомага савецкага мастака Паўла Корына.
Ікона канца XIX стагоддзя.



Копія малюнка Напалеона Орды. Да нядаўняга часу лічылася, што гэта Кобрын, бо Орда падпісаў малюнак: «Від з маёй турмы» (быў арыштаваны за ўдзел у паўстанні), але калі ўважліва паглядзець, то гэта Гродзенскі каралеўскі палац.



Хрыстос прысутнічаў у алтарах трынітарскіх храмаў. У нас на Беларусі трынітары былі на Віцебшчыне і Берасцейшчыне. Хрыстос трапіў да нас у міжваенны час, прывёз яго Юзаф Ядкоўскі, і хутчэй за ўсё ён берасцейскі. Трынітарыі будавалі свае алтары ў Брэсце ў сярэдзіне XVIII стагоддзя, значыць, і гэты Хрыстос — з тых часоў.

Часам адбываецца мэтанакіраваны збор калекцый. У прыватнасці, для фонду старадрукаў і рэдкіх кніг. Рэдкія кнігі, каштоўныя з нашага пункту гледжання, напрыклад, краязнаўчыя, гістарычныя, звязаныя з Гродзеншчынай, якія выдаюцца невялікімі накладамі, ахвотна бяром у фонд.

**— Якія экспанаты можна лічыць перлінкамі ў вашым фондзе?**

— У нас 190 000 адзінак асноўнага фонду, некалькі дзясяткаў калекцый, і ў кожнай ёсць выдатныя рэчы. Напрыклад, калекцыя дакументаў: першы экспанат нашага музея, які быў перададзены яго заснавальнікам і першым дырэктарам Юзэфам Ядкоўскім, — Канстытуцыя апошняга сейма Рэчы Паспалітай — Гродзенскага сейма 1793 года. Сярод іншых ёсць каралеўскія дакументы — пачынаючы з часоў кіравання вялікага князя і караля польскага Аляксандра — з пачатку XVI стагоддзя.

Калі казаць пра калекцыю рэдкіх кніг, то ў нас ёсць 3 інкунабулы (кнігі, выдадзеныя да 1500 года) і 26 палеатыпаў (кнігі, выдадзеныя ў перыяд з 1500 да 1550 гадоў). Інкунабулы ва ўсім свеце пералічаныя. У вялікіх бібліятэках іх дзясяткі, а то і сотні, але для нас тры — добры паказчык.

Таксама ёсць выдатныя творы графікі, як старажытныя, так і сучасныя. Да старажытных можна аднесці кніжныя гравюры Георга Браўна з выявай Гродна (XVI стагоддзе). У нас іх 5 асобнікаў. Ёсць вельмі каштоўная рэч — 30 гравюр з «Іканаграфіі» Ван Дэйка — вядучага партрэтыста Еўропы XVII стагоддзя.



Вялікая калекцыя прыродных экспанатаў. У Новым замку — тое, што ў Беларусі не водзіцца (беларуская прырода прадстаўлена ў Старым замку). Амаль усе гэтыя экспанаты сабраў Станіслаў Жыўна — стваральнік музея прыроды.

А калі казаць пра сучасную гравюру, то ў горадзе працуе выдатны майстар Юрый Якавенка, які разам з італьянскімі калегамі выдаў «Песню пра зубра» са сваімі гравюрамі — так, як гэта магло быць зроблена ў тыя часы, калі Мікола Гусоўскі пісаў яе. Наклад гэтай кнігі вельмі абмежаваны: адзін асобнік Юрый Якавенка падарыў Папе Рымскаму, адзін — Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, дзе вучыўся, і адзін — нам.

Ёсць у нас невялікая калекцыя расійскага мастацтва Сярэбранага веку. Пакуль не пацверджана афіцыйна, але хутчэй за ўсё ў нас знаходзіцца таксама адзіны на Беларусі твор Казіміра Малевіча. Калекцыя зброі ў нашым музеі па колькасці аб'ектаў трэцяя ў Беларусі і па якасці — адна з найлепшых: у нас захоўваюцца такія кальчугі, якіх я не бачыў, скажам, у значна больш заможных музеях Польшчы. Ёсць аддзел прыроды, у калекцыях якога — 17 000 адзінак: мінералы, палеанталагічныя знаходкі, чучалы. Магу сказаць, што чучалы, якія стаяць у Старым замку, зробленыя ў міжваенны і пасляваенны перыяды.

Пераважная частка лепшых прадметаў знаходзіцца ў экспазіцыі. Тое, што ляжыць у фондах, выкарыстоўваецца ў часовых выставах, альбо



Калекцыя зброі пачынаецца яшчэ з калекцыі археалогіі. Дзеці ў 1988 годзе знайшлі на беразе Нёмана старое жалеза, прынеслі ў музей, і аказалася, што гэта — поўны камплект рыцарскага узбраення XIII стагоддзя. Меч — клінок нямецкі, аправа мясцовая. Наканечнікі кап'я і дроціка, сякера, рэшткі бармiцы, якая мацавалася на шлем, шпоры (чамусьці тры) і цуглі.

гэта прадметы, якія маюць навуковае значэнне. Напрыклад, з 40 000 прадметаў археалагічнага фонду шмат чарапкоў глінянага посуду, якія ніколі не будуць выстаўлены ў поўным аб'ёме. Але яны маюць значэнне для ўяўлення археолагаў пра тое, як жылі людзі ў старажытныя часы.

**— Што больш папулярнае — традыцыйнае наведванне музея, каб пазнаёміцца з калекцыямі, ці вечарыны і канцэрты, якія тут ладзяцца?**

— Цяжка дакладна вызначыць, што сучаснаму чалавеку ў музеі трэба. Але вядома, што ўспрыманне яго як культурна-адукацыйнай установы адышло ў нябыт. Сёння забаўляльная функцыя стала ледзь не галоўнай. Большасць імкнецца да лёгкага баўлення часу — для такіх наведвальнікаў у нас адны прапановы. Ёсць людзі, якія цікавяцца высокай культурай, — для іх і канцэрты, і выставы са складанымі творамі, разлічанымі на падрыхтаванага гледача.

Значная частка нашых наведвальнікаў — арганізаваныя групы школьнікаў. Для іх распрацоўваюцца такія заняткі, каб і настаўніку было цікава прывесці сваіх вучняў адпаведна з тымі тэмамі, якія вывучаюцца ў пэўны перыяд у школе, тым больш што мы можам прапаноўваць не толькі штосьці па гісторыі ці мастацтву, але і па прыродазнаўстве. У нас прапаноў на розныя тэматыкі — музейных заняткаў, тэматычных экскурсій — больш за сотню дакладна.

Я выступаю тут і як навуковец, і як музейны адміністратар. Мы не жывём у ізаляваным свеце, у нас ёсць свае планы, якія мы павінны выконваць і па колькасці наведвальнікаў, і па прыбытковасці. З іншага боку, разумею, што зварот да больш вузкіх напрамкаў будзе цікавым для самога даследчыка і для кола людзей, якія арыентуюцца ў гісторыі.

**— У многіх музеях выкарыстоўваюцца мультымедыйныя прыстасаванні…**



Частка клада, знойдзенага недалёка ад Гродна. Гэтыя рэчы належалі Юльяну Урсын-Нямцэвічу — ад'ютанту і сябру Касцюшкі, які пазней даслужыўся да пасады сенатара Каралеўства Польскага. Быў адным з кіраўнікоў паўстання 1830 — 1831 гадоў.



Шабля належала камусьці з падначаленых Антонія Тызенгауза (на ёй знак падскарбія — Пагоня з ключамі).



Магчыма, адзіны на Беларусі твор Казіміра Малевіча.

— Мультымедыя можна знайсці і ў нашых філіялах. Але да таго, каб выкарыстоўваць іх у Новым і Старым замках, мы не надта імкнёмся. Напрыклад, у музеі Максіма Багдановіча ёсць адмысловы інфакіёск з праграмай, размешчанай у інтэрнэце. Калі з ёю бавіць час, у музей можна і не хадзіць. А прыходзіць трэба — каб паглядзець на сапраўдныя рэчы, а не на экран. Тым больш што гэта не склад старых рэчаў, а экспазіцыі, над імі працавалі людзі, якія маюць адпаведную кваліфікацыю. Мы стараемся стварыць прыгожае, утульнае асяроддзе для чалавека. Вынік найбольш заўважны ў летні перыяд, калі прыходзіць шмат самастойных турыстаў. І калі мы чуем нейкія нараканні, то са 160 000 чалавек у год іх і дзесяці не набярэцца.

Калі чалавек прыходзіць сюды і адчувае сябе ўтульна, значыць, мы са сваёй задачай справіліся. А калі ён атрымлівае тут веды і эмоцыі… Нашы эмоцыі — гэта не тыя, якія можна атрымаць на канцэрце, але для людзей, якія жывуць нашымі эмоцыямі, таксама павінна быць месца.



Запіска, напісаная рукой Рыгора Распуціна, — рэкамендацыйны ліст. А ўверсе хімічным алоўкам подпіс: «Перададзена з гарадской турмы».

# Тры свечкі паэзіі

**Кацярына Захарэвіч сустрэлася з Ігарам Субоціным — гродзенскім паэтам, стваральнікам літаратурнай кавярні «Тры свечкі». Пра тое, ці лёгка сабраць усіх паэтаў на адной вечарыне і ў адным зборніку, а таксама пра ролю аўдыторыі і крытыкі — у інтэрв'ю.**

**— Як з'явілася ідэя літаратурнай кавярні?**

— Ідэя даўно жыла ў маёй свядомасці: пасля выхаду ў 2011 годзе маёй першай кнігі вершаў і афарызмаў я зладзіў творчы вечар. Такім чынам патрапіў у літаратурнае асяроддзе горада, што для мяне было справай новай. Потым быў прыняты ў грамадскае літаратурнае аб'яднанне «Надзея». Стасункі з літарататарамі падштурхнулі да думкі, што тых пляцовак, дзе звычайна выступаюць аўтары (школ, каледжаў, універсітэта), недастаткова. Хацелася сцерці межы паміж слухачамі і аўтарамі, дадаць дыялог. Выступленні ва ўтульнай атмасферы дазволілі б слухачам стаць бліжэйшымі да разумення твораў, а аўтары атрымалі б новы вялікі досвед, бо адна справа — чытаць вершы перад класам, дзе аўдыторыя — агульная маса, і зусім іншая — калі ты камунікуеш з людзьмі і можаш адказаць на пытанні добразычлівай і зацікаўленай публікі.

Першая сустрэча адбылася 23 кастрычніка 2014 года. Адкрыццё было гучным — прысутнічала нават тэлебачанне. І аказалася, што такія імпрэзы запатрабаваныя. Асабліва святочныя вечарыны праходзяць з аншлагамі: зала змяшчае 75 чалавек, і людзі запісваюцца загадзя, складаюцца нават рэзервныя спісы, у выпадку, калі вызваліцца месца. Літаратурныя вечарыны праходзяць кожны трэці чацвер месяца. У свядомасці наведвальнікаў адклалася думка: штомесяц у гэты дзень можна атрымліваць асалоду ад паэзіі.

**— Ёсць меркаванне, што сапраўдная паэзія — не для масавай аўдыторыі…**

— Творчасць без гледача і чытача — гэта нішто. Трэба дзяліцца ёй не толькі з калегамі, але і са слухачамі, таму што менавіта яны даюць ацэнку творчасці. У літаратурнай кавярні паэтаў — чалавек дзесяць, гэта касцяк, астатнія — публіка. І аўтар наўпрост атрымлівае рэакцыю на свой твор: апладысменты, авацыі. Калі думку сваю да гледача не данёс, то бумерангам атрымліваеш адпаведную рэакцыю.

У кавярні кожны займае месца за столікам ў фармаце «V.I.P»: з кавай, шакаладам, фруктамі, віном. Таму трэба, каб духоўная ежа была спрыяльная для ўспрымання ў такіх умовах. Мы стараемся несці штосьці пазітыўнае, светлае ў сваёй творчасці — гэта цікава публіцы. Выступаюць



вядомыя гродзенскія артысты ці вакалісты, якія сфарміраваліся у нас. Праводзім віктарыны, ды і гумару хапае. Атрымліваецца такі мініканцэрт. Калі б тут была толькі паэзія, такія вечары хутка б надакучылі. Прасядзець тры — тры з паловай гадзіны на адных вершах вельмі складана.

**— Ці гучыць крытыка ў адрас паэтаў?**

— Мы стараемся ў кавярні яскравую крытыку не выказваць. Звычайна заўвагі гучаць у час антракту ці пасля вечарыны. Штосьці — на паседжаннях клуба. У асноўным аўтар сам адчувае рэакцыю публікі і ў наступны вечар падладжвае свае чытанні пад яе, стараецца адпавядаць узроўню гледача. І ў нас ёсць правіла: у творах, якія чуе аўдыторыя, мы стараемся несці пазітыўны настрой, выбіраем тэмы любові, сяброўства, прыроды. Часта праходзяць тэматычныя вечары. Напрыклад, на вечары, прысвечаным дню роднай мовы, мы пабілі рэкорд: былі прачытаныя вершы і праспяваныя песні на пяці мовах — беларускай, польскай, французскай, англійскай, рускай.

**— Як вас знаходзіць публіка?**

— У сацыяльных сетках «Аднакласнікі» и «УКантакце» ёсць суполкі, на сайце «Стихи.ру» ёсць старонка «Литературное кафе «Три свечи». Калі праходзяць адметныя вечарыны, тэлебачанне робіць рэпартажы. У асноўным спрацоўвае сарафаннае радыё: калі людзям падабаецца, у наступны раз яны прыходзяць з сябрамі і сем'ямі. Паступова кола пашыраецца. Хацелася б, каб у гродзенскіх выданнях былі не толькі кіна- і тэатральныя афішы, але і анонсы нашых мерапрыемстваў. Тым не менш пустых зал не бывае.

**— Ці завітваюць да вас паэты-пачаткоўцы?**

— Амаль на кожным вечары бываюць пачаткоўцы — як гледачы, што прыходзяць упершыню, так і паэты, што дэбютуюць са сваімі вершамі. Я радуюся, што ў мяне атрымалася стварыць маленькую традыцыю: у нас ёсць рубрыка «Свабодны мікрафон», дзе любы наведвальнік можа прачытаць адзін верш — ці любімага паэта, ці свой. Калі паэт упершыню чытае верш з мікрафонам перад гледачамі, у яго ногі дранцвеюць, і вельмі важна менавіта ў гэты момант працягнуць яму руку, падтрымаць яго. У нас няма жорстка-крытычнага стаўлення, якое бывае ў некаторых літаратурных суполках. Мы ж не сварымся на дзіця, калі яно робіць першыя крокі, спатыкаецца і падае — мы, наадварот, яго падтрымліваем, вучым хадзіць. Менавіта тут першыя крокі можна зрабіць без думкі, што цябе нехта пакарае або прагоніць. Чалавек акрыляецца, няхай верш яго сыры і няўдалы, але з часам ён удасканаліцца, спасцігне тэорыю. Мы сваімі сіламі выдалі «Асновы вершаскладання» Цімафея Бандарэнкі, сучаснага аўтара, які даступным спосабам прапаноўвае пачаткоўцам пазнаёміцца з усімі нюансамі, важнымі ў паэзіі.

**— Такі фармат сустрэч — літаратурная кавярня — задавальняе вас ці, можа, хочацца нейкага пашырэння?**

— Лічу, што ва ўсім павінна быць залатая сярэдзіна. Мы атрымлівалі многа прапаноў пашырыцца, пераехаць у кавярні з большымі заламі, таму што калі ў нас аншлагі, то не ўсе могуць трапіць. Але я лічу, што павінна быць прыцягненне, прага аўдыторыі. Да таго ж у вялікай зале паэт можа разгубіцца. Мне здаецца, што чым утульней, тым лепш і для гледача, і для паэта.

**— Ведаю, што вы выдалі зборнік паэзіі «Тры свечкі...».**



— У нас шмат паэтаў, якія маюць свае кнігі. Ідэя стварыць альманах паэзіі проста выспела. Каля трыццаці сустрэч прайшло, шмат цудоўных вершаў было прачытана. Я кінуў покліч сярод паэтаў, каб падрыхтавалі свае вершы. Мы сабралі творы 33 самых актыўных аўтараў. У гэтым зборніку вершы аб'яднаныя тэмай «Вера, Надзея і Любоў» — менавіта гэтыя тры пачуцці, на якіх трымаецца чалавецтва, сімвалізуюць нашы тры свечкі. Гэтыя тэмы — самыя распаўсюджаныя ў вершах, што мы чуем. У зборнік увайшлі творы як прафесійных аўтараў, удзельнікаў літаратурных аб'яднанняў, так і пачаткоўцаў, для многіх з якіх публікацыя ў зборніку — першая ў жыцці. І я шчаслівы, што ў мяне атрымалася зрабіць такі падарунак — магчымасць патрымаць у руках кнігу. Спадзяёмся, што такія зборнікі будзем выдаваць штогод.



**Святлана Воцінава**

# Сярэдняя, абсалютна агульнаадукацыйная

*За нестандартнасць падачы інфармацыі на бліжэйшых старонках адказнасць нясе не аўтар, а хутчэй героі аповеду. З кім павядзешся, што называецца…*

## Першыя абзацы, *якія не маюць да асноўнай тэмы ніякага дачынення, а змешчаны тут выключна дзеля знешняга хараства*

Тым прамытым дажджом ранкам можна было шмат што не заўважыць і адпаведна шмат чым не натхніцца. Не пачуць, які гук выдае на пустой вулцы пусты тралейбус — быццам апускаецца на Зямлю карабель прышэльцаў. Не ўбачыць у траве вясёлых жабак — пакуль не схаваліся ад людзей. Не назіраць як дзіва такую з'яву: замест таго, каб на кірмашы крычаць: «Смажні! Булачкі! Піражкі!», дзядзька, стоячы на тратуары паміж вакзаламі — чыгуначным і аўтобусным, крычыць з такім самым імпэтам: «Гродна! Шчучын! Магілёў!»

Мінск, ранні ранак і шлях не ў рэдакцыю, а на вакзал, дзе чакае маршрутка да Гродна.

Пра апошнюю, між іншым, трэба напісаць асобна. Пра тое, як вадзіцель сустракае, вітае па імені і суправаджае ў салон (а той дзядзька, які цераз дарогу гуляе сам з сабой у гарады, аказваецца, на тое пастаўлены, каб пасажыры не вельмі блукалі ў пошуку месца пасадкі), як вызвоньвае кожнага, хто спазняецца (замест 6.50 адправіліся ў 7.01 — дачакаліся ўсіх), як пытаецца, ці не холадна («Мінулым рэйсам, — кажа, — замарозіў адну пасажырку. Усім цёпла, а ёй холадна, цэлая бяда. Як даць рады? Уключаў ацяпленне»).

Вадзіцелям міжгародніх маршрутак я прысвячу калі-небудзь оду. І яшчэ адну напішу ў гонар усяго таго, што мільгаціць за іх бакавымі вокнамі.

Калі стужка дарогі не кідаецца пад колы, а бяжыць літаральна поруч, навыперадкі з пасажырам, тады яшчэ больш шырокімі ўсмешкамі вітаюць яго палі, аздобленыя дзе-нідзе рабацінкамі-хаткамі, і перадаюць эстафету лясам, аб асобныя дрэвы якіх разбіваецца на мільёны «зайчыкаў» ранняе майскае сонца. За лесам, кажуць, дрэў не відаць, а вось жа здараецца. І думаецца: хіба ж не вартыя прыгожых апісанняў і тыя дрэвы, і кусты пры дарозе, і птушка, якая імкнецца нас абагнаць, і аблокі, якія плывуць сваім шляхам?.. Хоць можа стацца, што такі вось настрой абумоўлены не прыветлівай маршруткай, не ўсмешкамі яшчэ сонных палёў, не птушкай-штукаркай і не аблокамі, а толькі месцам назначэння — горадам, у якім некалі па волі пісьменніка прызямліўся Хрыстос: я маю тут светлую мэту, якую еду радасна здзяйсняць.

## І зноў пакуль не пачатак, *а толькі перадгісторыя, якую не магчыма не расказаць*

Сярэдняя школа № 12 у горадзе Гродна — даўні і бадай найлепшы (прынамсі, самы адданы) сябар часопіса «Бярозка». Яна стала ім яшчэ ў той час, калі названы часопіс меў з «Маладосцю» агульную вокладку. Яшчэ толькі распрацоўвалася канцэпцыя новай самастойнай «Бярозкі», яшчэ толькі прыдумляліся (трэба было гэта бачыць) у рэдакцыі «Маладосці» назвы яе будучых рубрык, яшчэ толькі вышукваліся героі і аўтары, замаўляліся тэмы

Вопыт працы «Школы руплівых гаспадароў» дэманструецца прадстаўнікам міністэрстваў Рэспублікі Беларусь.



і тэксты, і восеньскае сонца 2014-га неахвотна паварочвала на зіму, цікаўна зазіраючы ў вокны і кідаючы зыркія промні на аркушы з думкамі-накідамі, а ў кабінетах гэтай школы, за сотні кіламетраў ад рэдакцыі, ужо сёе-тое пра гэта ведалі, і не дзіва, што і там у той самы час адбывалася тое самае: прыдумляліся назвы будучых рубрык, вышукваліся героі і аўтары, замаўляліся тэмы і тэксты — бо свае зыркія промні на тамтэйшыя аркушы з занатаванымі думкамі кідала, неахвотна паварочваючы на зіму, тое самае ўсюдыіснае сонца. Няма пад ім, кажуць, нічога новага. А вось жа здараецца.

Займець экспертаў-дарадчыкаў сярод школьных настаўнікаў было рашэннем волі, загадам душы, справай гонару. Часопіс у новым фармаце павінен быў адпавядаць наступнай задуме: стварацца не толькі для школьнікаў, але і школьнікамі (і не так, што школьнікі прысылаюць тэксты для друкавання (гэта не фокус), а так, што школьнікі ствараюць рубрыкі і вызначаюць тэматычныя напрамкі нумароў, прапануюць тэмы і рэалізуюць уласныя ініцыятывы), быць сябрам для настаўнікаў, трыбунай для псіхолагаў, мець сяброўскія стасункі з кіраўнікамі школ і пры гэтым уяўляць сабой не тое чытанне, якое сябе было ледзь не знішчыла, а тое, у якім ёсць амбіцыі, брэнды і трэнды. Цяпер гэта мае дакладную фармуліроўку — «інтэлектуальны глянец для падлеткаў», а тады... Тады зварот у сярэднюю школу № 12 горада Гродна стаў адным з тых выпадкаў, якія называюцца шчаслівымі[1].

## Яшчэ адна, апошняя, прадмова — *эпісталярная*

*8.11.2014*

*Добры дзень, Галіна Анатольеўна!*

*Часта сустракаю ў продажы Вашы кнігі[2]. Памятаю, што Вы настаўніца матэматыкі (правільна ж?) і таму запрашаю пісаць настаўніцкую калонку ў нашу «Бярозку», якую мы, легендарную, але забытую, вяртаем да самастойнага жыцця з новага года. Тэксты трэба пісаць дасціпна, ад імя настаўніцы, прыдумаўшы ёй (сабе) нейкі канкрэтны вобраз. Мне здаецца, у Вас атрымаецца. Паспрабуеце?*

*Святлана*

*8.11.2014*

*Дзень добры, Святлана!*

*Дзякую, што памятаеце. І дзякую за прапанову. Безумоўна, мне гэта цікава. Мяркую, нешта з гэтага атрымаецца. Тым больш што я матэматык, які па іроніі лёсу ператварыўся ў настаўніка чарчэння і малявання, а пасля і ў намесніка дырэктара, хоць не*



Дзяўчынкі за працай. Пішам у «Бярозку».
Ганна Альшэўская, Вікторыя Ключнік, 4 «Б» клас.



Валанцёры ў дзеянні.

[1] Шчаслівымі ў нашым рэдакцыйным разуменні называюцца выпадкі, якія не з'яўляюцца выпадкамі ў прамым сэнсе слова (то бок, выпадковымі з'явамі), але даюцца за пэўную перадаплату — заслугоўваюцца шматлікімі ўскоснымі папярэднімі намаганнямі, якія, да прыкладу, Томас Карлейль (англійскі філосаф XIX стагоддзя) назваў «часам выпрабаванняў».

[2] Настаўніца Галіна Анатольеўна Богдан і пісьменніца Ліна Багданава — адна асоба.



Валанцёры ў дзеянні.

*марыла ні пра першае, ні пра другое. Хацелася б ведаць тэмы нумароў, каб трапіць «у яблычак». Маю сустрэчную прапанову: рэпартажы з месцаў падзей, інтэрв'ю з вучнямі і педагогамі, гульня-падарожжа… Можна працаваць пад нікамі — шкодная вучылка, прасунуты старшакласнік і т. п. Я ўжо падзялілася Вашай навіной з калегамі. Часопіс будзем выпісваць у класах абавязкова.*

*З цеплынёй, Галіна*

*10.11.2014*

*Дзякуй вялікі-вялікі! Я нават не ведаю, што мне цяпер напісаць Вам. І шкодная вучылка — класна, і прасунуты старшакласнік нам падышоў бы дакладна. І па той прычыне, што гэта ўсё такое рознае, яно цалкам можа сумяшчацца ў межах аднаго часопіса і нават аднаго нумара. Закідалі мяне проста! Цяпер хачу ўсё! Дарэчы, за выхадныя прыдумала рубрыку, якую будзе весці прывід. Зрабіла прапанову Алене Туравай, яна папярэдне згадзілася, абдумвае фармат калонкі і вобраз здані. Іншымі словамі, з гэтай «Бярозкай» я ўпадаю ў дзяцінства.*

*Вы перадайце калегам і вучням, што школа ў выпадку вялікай колькасці падпісчыкаў трапляе ў Клуб сяброў часопіса. Па задумцы ўвогуле дзеці і настаўнікі павінны быць не толькі чытачамі, але і аўтарамі, стваральнікамі часопіса. І тыя, хто піша вершы або апавяданні, і тыя, хто малюе, і тыя, хто марыць стаць журналістам. Нехта з Вашых юнкораў можа пісаць для нас у «Настаўніцкую на праслушцы». Патрэбны вострыя або смешныя, балючыя або якія хочаце іншыя актуальныя размовы ў настаўніцкай, быццам падслуханыя і надрукаваныя. На тэмы, якія вучням цікавыя і карысныя. Вось. Загрузіла Вас. Вы проста дэлегіруйце гэта некаму ў Вашай школе. Можна? Іншымі словамі, я як любы нармальны рэдактар, заўсёды рада атрымліваць патокі якасных тэкстаў. І ведаю, што ад Вас менавіта такія тэксты можна чакаць.*

*Удачы Вам!*
*Святлана*

*15.11.2014*

*Дзень добры, Святлана!*

*Сёння вярнулася з камандзіроўкі і рашыла напісаць для «Бярозкі». Канечне, калі падыдзе. Такіх сітуацый набярэцца не адзін дзясятак. Адразу дадаю адказы ад псіхолага, бацькоў і настаўнікаў. Пакуль усё. З нецярпеннем буду чакаць Ваш адказ.*

*Галіна*

*18.11.2014*

*Дзень добры, Святлана!*

*Ці глядзелі Вы мой матэрыял? Ці пойдзе падача ў форме апавядання? Далей хачу ўключыць у дыялог не толькі чытачоў, але і тых самых персанажаў — шкодную вучылку, маладога спецыяліста, сімпатульку, прасунутага старшакласніка і іншых. Кароткія адказы-парады. Як Вам такое бачанне пытання? Калі не падыдзе — буду шукаць іншыя формы. Дзяцей-юнкораў ужо азадачыла, думаю, днямі збяромся. Удачы і добрага настрою Вам.*

*Галіна*

*22.11.2014*

*Прывітанне, Святлана! З першым снегам Вас! Камфортнай Вам зімы! Напісала яшчэ трошкі парад, у агульным выглядзе ролі дарадчыкаў я ўяўляю. Гэта прасунуты старшакласнік, цікаўны першакласнік, занятая (стомленая) мама, бацька з газетай, клапатлівая бабуля, сімпатулька, шкодная вучылка, малады спецыяліст, вопытны псіхолаг.*

*Апошняга можаце прыцягнуць Вы, а магу і я. У кожнай сітуацыі парады будуць даваць не ўсе. Выбарачна. Інакш зацягнецца, і ніхто не будзе чытаць да канца. Гэта інтэрактыўны праект. Дзецям прапануецца прысылаць свае арыгінальныя парады для публікацыі з указаннем імя (калі ім гэта цікава) і фота. Што да назвы рубрыкі, то гэта можа быць «Патрабуецца парада», або «Вялікая вучнёўская нарада», або «Дзелімся досведам», або «Сітуацыя плюс»… Што Вы скажаце наконт такіх варыянтаў?*

*Пакуль усё. Працуем над рэпартажам з настаўніцкай.*

*З найлепшымі пажаданнямі,*
*Галіна*

*4.12.2014*

*Вялікі дзякуй за дапамогу, дарагая мая Галіна Анатольеўна!*

*Мы нічога не маем у рубрыку «Школа журналістыкі». Гэта вучнёўская рубрыка. Мо нехта з Вашых рабят можа ўзяць інтэрв'ю ў дырэктара школы? Або зрабіць рэпартаж са школьнага мерапрыемства (ці гарадскога)? Або напісаць артыкул на любую тэму? Па задумцы ў рубрыку павінны пісаць тыя, хто збіраецца паступаць вучыцца на журналіста.*

*Святлана*

*4.12.2014*

*Дзякую, Святлана. Такія дзеці ў нас ёсць. Я папрашу зрабіць рэпартаж з адкрыцця музея-лабараторыі, якое ў нас нядаўна прайшло. Можна? Ёсць фота, будзе вельмі прыгожа выглядаць…*

## Нарэшце пачатак,
## *на які чытач ужо мо не разлічвае, і вельмі дарэмна*

Павел Міхайлавіч Ушкевіч — настаўнік беларускай мовы і літаратуры. Неяк ён прапанаваў пераплесці кіно з «беллітам» — тое кіно, якое насычана захапляльным змаганнем станоўчых герояў з адмоўнымі, з тым, што ў школьнай праграме названа «Светам загадак і цудаў» (шосты клас, другая чвэрць (здаецца)). Яго вопыт, надрукаваны ў «Бярозцы», трэба спадзявацца, дзе-небудзь выкарыстоўваецца.



Лепшыя руплівыя гаспадары.
ПавелАродзь (10 «А» клас) і Валерыя Раманчук (10 «А» клас). «Школе руплівых гаспадароў» уручана стыпендыя Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы адораных навучэнцаў і студэнтаў.

А сёння Павел Міхайлавіч сам, быццам кінагерой. Яму адведзена роля вадзіцеля і трошкі гіда па горадзе. Ён сустракае мяне на пляцоўцы ля Пакроўскага сабора і вязе, здаецца, наўмысна, па самых прыгожых вулках. Хоць я ўпэўненая, што гэты горад ніякіх іншых вулак, акрамя прыгожых, у геаметрыі сваёй не мае.

Мы едзем, я любуюся вулкамі, а Павел Міхайлавіч распавядае пра школу: маўляў, маленькая — толькі 650 вучняў, маўляў, размешчана ў прыватным сектары, а не ў фешэнебельным раёне, маўляў, вакол пануюць шматлікія канкурэнты ў выглядзе ажно дзвюх гімназій і школ са спецыяльнымі класамі — спартыўнымі і «нямецкімі». Быццам хоча пасеяць сумненне: ці лепшы гэта выбар для «гродзенскага» нумара «Маладосці»? Сам Павел Міхайлавіч не проста вывучыўся на настаўніка ў ГрДУ, а скончыў аспірантуру. І яшчэ ён кіруе школьным навуковым таварыствам.



Урок у спецкласе. Вучымся чытаць вершы рукамі. Настаўніца Валынец Таццяна Анатольеўна.

«Ці шмат я ведаю школьных настаўнікаў, якія скончылі аспірантуру? Ці ў кожнай школе існуе навуковае таварыства?» — пытаю я сябе і паспяваю даць адмоўны адказ сама меней на адно з гэтых пытанняў акурат у той момант, калі аўтамабіль пад’язджае да школы.

Вось яна. Столькі напісана лістоў, якія чыталіся ў гэтых сценах, столькі атрымана прапаноў, якія былі тут сфармуляваны, але бачу іх, гэтыя сцены, упершыню. А гэта ж тут прыдумана рубрыка «Сітуацыя плюс», бадай што самая папулярная ў «Бярозцы», — псіхалагічная дапамога школьніку, пададзеная ў форме апавядання, з парадамі-пасляслоўямі ад самых розных «катэгорый грамадзян». У гэтых сценах, трэба верыць, вучыцца і Першакласнік з яблычкам («Кажуць, яблычкамі добра заядаць стрэсы»), і Сімпатулька («Калі што добрае надумаеш, дай ведаць, ладачкі?»), і Прасунуты старшакласнік («Дазволю сабе крыху працытаваць афіцыйныя матэрыялы»). Тут выкладае Шкодная вучылка («Чакаю ў панядзелак на стымулюючых»), працуе Вопытны псіхолаг («Я толькі дадам колькі слоўцаў пра вымушаны занядбай»), а некага з тутэйшых вучняў чакае дома Бабуля з пруткамі («Цуды ў нашым жыцці часцей за ўсё звычайнымі рукамі робяцца»).

Я веру, што ўсё напісанае за два з паловай гады для рубрыкі «Сітуацыя плюс» адбывалася тут насамрэч. Няхай мяне пераконвае аўтар, што вобразы зборныя, імёны прыдуманыя, сюжэты з большага падфарбаваныя, а сітуацыі не ўсе з жыцця, — я буду верыць у іх сапраўднасць, як веру ў сапраўднасць Шэрлака Холмса і доктара Ватсана. Хто, скажыце, не хоча трапіць на Бэйкер-стрыт, 221b у Лондане?

Вось так і я марыла трапіць на Паповіча, 32 у Гродне. Цяпер я тут.

Вось тыя самыя вокны, якімі ўсміхалася школа, калі старшакласнік Павел Ародзь запісваў з ёю (так, з ёю, са школай) інтэрв'ю. І тыя самыя кветнікі, у якіх тады варушыліся сонечныя зайчыкі. Прывітанне!

З гэтых сцен «Бярозка» сіламі мясцовых уласных карэспандэнтаў Лізы Сцяцко і Паўла Ародзя вяла спецыяльныя рэпартажы: з адкрыцця музея-лабараторыі «Школа руплівых гаспадароў», з настаўніцкай (інкогніта, для «Праслушкі»), з «жудасна-дзівоснага» 8-га «В» (які не ўкладваўся ні ў якія стандарты)…

Недзе тут у кабінетах для пачатковых класаў калектыўна сачыняюцца казкі, якія друкуюцца ў рубрыцы «Верасок». Тут з часопісам «Бярозка» праводзяцца класныя гадзіны і творчыя сустрэчы з мясцовымі зоркамі журналістыкі (хто друкуецца ў «Бярозцы», той, несумненна, зорка).

Тут, у гэтых калідорах і кабінетах, здымаўся першы рэкламны ролік «Бярозкі». Гэта ў ім пра яе было сказана: «Сучасны еўрапейскі фармат». Адсюль жа разам з атэстатам у валізцы выпускніцы Лізы Сцяцко «Бярозка» (сучасны еўрапейскі фармат!) паехала «паступаць» за мяжу: публікацыі ў часопісе «Бярозка» засвяцiліся ў творчых іспытах у Варшаўскім універсітэце.

За дзесяць гадоў атрымання мной агульнай сярэдняй адукацыі я памяняла — дайце палічу — сем з паловай школ («з паловай» — гэта калі ў адной школе спачатку вучышся ў другім класе, а пасля ў чацвёртым). З іх дзве маленькія вясковыя пачатковыя, тры вясковыя дзесяцікласныя і адна гарадская. Значыцца, будзем думаць, што ў школах я разбіраюся. Калі памножыць колькасць школ на колькасць настаўнікаў па розных прадметах, завучаў, намеснікаў дырэктараў па выхаваўчай рабоце і ўласна дырэктараў, то трэба думаць, што і ў іх я разбіраюся больш, чым сярэднестатыстычны выпускнік. Прынамсі, мае сённяшнія ацэнкі школам і настаўнікам нельга лічыць павярхоўнымі — у мяне заўсёды ёсць шкала для параўнанняў.

Таму ўсё, што я далей напішу, трэба лічыць аб'ектыўным.

## Прыгоды ў кабінеце № 11

Я не ведаю, як іх назваць: «фішкі»? адметнасці? канкурэнтныя перавагі? У гэтай школе рэалізуецца так шмат розных праектаў і ініцыятыў, што баюся не пералічыць усе да апошняга.

Найперш мяне запрашаюць у музей-лабараторыю «Школа руплівых гаспадароў», створаную за кошт гранта, выйгранага ў рэспубліканскім конкурсе «Энергаэфектыўная ўстанова адукацыі». Усё, як у вершы, які дэкламуецца тут жа, у памяшканні музея, былым кабінеце № 11:

Подтвердили свой талант,
Получив престижный грант.

Грант, пра які ідзе размова, памерам у тры з паловай тысячы еўра, быў выдадзены школе міжнароднай сеткай нацыянальных экалагічных грамадскіх арганізацый SPARE (ад англійскага School Project for Application of Recourses and Energy, школьны праект па выкарыстанні рэсурсаў і энергіі). На што былі выдаткаваны грошы?

Долго думать не пришлось,
Применение нашлось:
Для знакомых и друзей
Мы устроили музей.

А што такое школьныя музеі?

— Актыўнасць школьных музеяў часам з'яўляецца праблемай, — кажа кіраўнік музея-лабараторыі Алла Пятроўна Ародзь. — А наш музей запатрабаваны ўвесь час: тут праводзяцца факультатыўныя заняткі, ставяцца навуковыя эксперыменты, ствараюцца і манцiруюцца відэаролікі, якія перамагаюць на розных узроўнях.

Мы продумали все точно,
Учим очно и заочно,
Здесь экскурсии ведем,
Здесь буклеты создаем.

Сапраўды, справа на справе едзе і справаю паганяе. Вось мне паказваюць экалагічную казку, знятую на вуліцах горада. Наступным «нумарам» дэманструюць, як пры дапамозе сонечнай батарэі выпрацоўваецца энергія і запальваецца лямпачка. Далей — болей: раптам само па сабе пачынае працаваць радыё.



Дыялог з гаспадыняй школьнага дома — дырэктарам школы Алай Іванаўнай Галавенка.

— Вывучаем прынцып работы кіслотнай батарэі, — кажа вучань, які праводзіць наступны эксперымент — з удзелам кока-колы. — Кока-кола прымушае лямпачку працаваць.

Праект «Школа руплівых гаспадароў» — не гульня: з яго дапамогай школа зарабляе сапраўдныя, і немалыя, грошы. Агульным падлікам зароблена ўжо каля сарака тысяч еўра. Куды іх пускаюць? Адказы чуюцца з усіх бакоў: «Памянялі вокны», «Аднавілі стэнды», «Набылі апаратуру». Калі вам здаецца, што школа і маркетынгавыя стратэгіі — гэта рэчы несумяшчальныя, дык вам гэта толькі здаецца. Як бачыце, ёсць школы, якія гэтым стратэгіям вучаць, не маючы прадмета ў раскладзе.

Хваліцца, кажуць, кепска. Няпраўда. Гэта «кепска» прыдумалі тыя, каму хваліцца няма чым.

— Мы ўладальнікі больш за сотню дыпломаў і грамат гарадскога, абласнога і рэспубліканскага ўзроўняў, асабліва ганарымся стыпендыяй Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы адораных навучэнцаў і студэнтаў, — своеасаблівым атэстатам сталасці, — кажа Галіна Анатольеўна Богдан, і гэтыя словы не ўспрымаюцца як выхвалянне, яны гучаць так, што гонар прабірае і мяне, чужога чалавека. Гонар за тое, што ёсць такія школы, такія настаўнікі, такія вучні, такія музеі, такія праекты, такія…

— А хто аўтар вершаў?

Папытала абы папытаць. Ведаю ж, амаль упэўненая, што гэта…

— Галіна Анатольеўна Богдан, каардынатар праектнай дзейнасці ў школе, — адказваюць мне. І ўдакладняюць: — Яна здольна заахвоціць нашу

моладзь на нараджэнне надзвычай актуальных і захапляльных ініцыятыў, усім астатнім застаецца ацаніць, прыняць і рэалізаваць.

## Такая школа — самая «разумная»
### *Пра крытэрыі канкурэнтаздольнасці*

Бываюць жа такія шчаслівыя, добрыя, светлыя дні!

Я раптам даведваюся, што…

— Выйшла кніжачка з «Сітуацыямі», — паведамляе Галіна Анатольеўна.

І называе мяне яе хроснай мамай, а «Бярозку» — хросным часопісам. Кажа, што кніжка ўжо выкарыстоўваецца на ўроках АБЖ.

— «Бярозка» — новы фармат чытання, мы стварылі класны часопіс!

Мы сядзім у школьнай сталоўцы: Ала Іванаўна Галавенка, дырэктар школы, я і Галіна Анатольеўна Богдан. Пра сталоўку будзе асобная частка аповеду. Пакуль жа размаўляем пра паказчыкі. З шасці дзясяткаў педагогаў, якія працуюць у сярэдняй школе № 12 горада Гродна, дванаццаць з'яўляюцца яе выпускнікамі. Гэта паказчык. Калі сыходзяць на пенсію тыя, хто доўга ў гэтай школе працаваў, то калегі, якія застаюцца, адчуваюць страту накшталт той, што адчуваецца, калі некуды з'язджае член сям'і.

— Мы насамрэч, нібыта сям'я, — кажа Ала Іванаўна. — У нас усе ўсіх ведаюць у твар і па імёнах. У нас ніхто не рвецца некуды шукаць лепшага месца: нават пераязджаючы ў новыя раёны, вучні не пераводзяцца ў новыя



Члены маладзёжнай медыястудыі «РЫТМ» праводзяць флэшмоб «У сетцы».

школы, а разам з педагогамі лічаць за лепшае ездзіць сюды, няхай і праз увесь горад. Увогуле, такая маленькая школа — гэта самае разумнае рашэнне, нават і для вялікага горада.

Раптам аднекуль:

— Хачу кісялю.

Чалавек жа можа раптам захацець кісялю, ці не так? Маленькі чалавек з вялікім ранцам за плячыма зайшоў у школьны буфет, каб папрасіць кісялю — «на дарожку». Як у кухню, да мамы.

— Падыдзі да дзяжурнага, Ільюша, ён нальe, — раіць дырэктар і звяртаецца да мяне: — Дзеці ў нашай школе адчуваюць сябе, як дома.

І гэта залежыць не толькі ад колькасці вучняў у школе.

— Калі ў нас з'явіліся класы для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця, трэба было забяспечыць ім якаснае суправаджэнне, — расказвае Ала Іванаўна. — Зразумела, што яго павінны былі забяспечваць не толькі настаўнікі, але і дзеці.

Знаходкай стала валанцёрства. А што гэта, як не братэрства? Браты ж належаць да адной сям'і.

— Часам свет бывае такі жорсткі, такі раўнадушны, што чалавек страчвае ўсялякую магчымасць стаць шчаслівым. Так быць не павінна! Нельга дапускаць зло ў лепшы са светаў. Павінны ўступіцца тут сілы дабра. А гэта мы — валанцёры самага гуманнага ў свеце таварыства Чырвонага крыжа, маленькая часцінка дабрыні і справядлівасці, заключаная ў школьным атрадзе. Галоўная наша мэта — дапамога дзецям з абмежаванымі магчымасцямі ў сацыяльнай інтэграцыі.

Юныя валанцёры аб'яднання «Школа чалавечнасці», у якое ўваходзяць тры атрады, вучаць школьнікаў навыкам бяспечных паводзін, прымаюць удзел у дабрачынных акцыях і агітацыйных праграмах, рэгіянальных конкурсах і валанцёрскіх праектах, клапоцяцца пра слабых і адзінокіх, вывучаюць тэхналогіі эфектыўнага ўзаемадзеяння.

— Мы паспяхова рэалізавалі рэспубліканскі праект па інтэграцыі ў соцыуме дзяцей з асаблівасцямі развіцця, — працягвае дырэктар.

Трошкі раней мы завіталі ў клас, дзе праходзіў урок для такіх вучняў. Урок не спыніўся. Мы проста прайшлі і селі за апошнія парты (а пакуль ішлі, вучні зрабілі папярэ-джванне: на дыванок у абутку ступаць нельга) і назіралі за тым, як Таццяна Анатольеўна Валынец уключае дзяцей у працу.

— Давайце выканаем практыкаванне «Пакажы рукамі вершы». Паказваем верш «Сонца ўзняло павекі». Як сонца ўзнімае павекі?

Усе ўстаюць, паказваюць ручкамі верш. Вы так умееце?

Наступны верш патрабуе намаляваць рукамі ў паветры хмарку, якая гуляе з сонейкам у хованкі. Сонейка схаваецца — хмарка ў слёзы. А як знойдзецца — вясёлка ўсміхнецца.

— Калі бывае вясёлка?

Адказы сыплюцца з усіх бакоў.

Кожны раз, калі пераходзім з аднаго кабінета ў другі, Ала Іванаўна распавядае пра чарговую «фішачку», ці канкурэнтную перавагу. Гэтым разам — пра юных інспектараў дарожнага руху.

— ЮІДРаўцы нашы ўжо дзявяты раз атрымалі перамогу ў абласным конкурсе і зараз знаходзяцца на 42-м рэспубліканскім злёце — выступаюць там за Гродзенскую вобласць. Таленавітыя і здольныя да розных спраў, яны пастаянна ўдзельнічаюць у акцыях абласнога ўпраўлення ДАІ па прафілактыцы парушэнняў дарожнага руху, праводзяць конкурсы, агітпраграмы кшталту «Твой сябра флікер», адкрываюць веласезоны, велашколы і веладарожкі, водзяць малых дзяцей па маршрутах бяспекі ў мікраараёне. Увогуле, шмат цікавага ладзяць. А яшчэ яны вельмі прыгожыя і спагадлівыя. І гэта сапраўдная школа лідарства. Для членства ў ЮІДР ёсць узроставае абмежаванне — толькі да 9-га класа. Пасля яны паспяхова карыстаюцца сфарміраванымі лідарскімі якасцямі як у школьным жыцці, так і за межамі адукацыйнага асяроддзя. Унікальныя атрымліваюцца юнакі: і вершы чытаюць, і песні спяваюць, і праекты ствараюць…

— У сакавіку мы атрымалі статус рэсурснага цэнтра комплекснай падтрымкі энергаэфектыўнага ладу



Актыў музея сустракае гасцей.



Актыў музея-лабараторыі. Фота на памяць. Ала Пятроўна Ародзь (кіраўнік музея), Іларыён Аркадзьевіч Лахніцкі (кіраўнік лабараторыі па энергазберажэнні), Андрэй Клімуць (7 «Б» клас), Кацярына Пятроўская (11 «А» клас), Караліна Канопка (11 «А» клас).



Бабуля з пруткамі — любімая школьная бабуля Яўгенія Канстанцінаўна.



Дзевяціразовыя пераможцы абласнога злёту атрадаў ЮІДР.



Інтэрв'ю ў сталоўцы. Алег Віктаравіч Градавец.



Першая проба.

жыцця мясцовых супольнасцей рэспубліканскага значэння, а наш каардынатар думкамі ўжо ў новым інавацыйным праекце, — расказвае кіраўнік. — Але яшчэ пра адзін варта распавесці. Назва яго: «Увядзенне мадэлі суправаджэння працэсаў сацыялізацыі падлеткаў у інтэрнэт-прасторы «Класны кіраўнік у сацыяльнай сетцы». Мы суправаджалі дзяцей у самай папулярнай сетцы — «УКантакце»: стварылі там кантакт-цэнтры па розных накірунках дзейнасці. Іх у выніку набралася адзінаццаць вельмі запатрабаваных супольнасцей.

— Ала Іванаўна ў нас пра ўсё мае клопат, як сапраўдная гаспадыня, — кажуць настаўнікі пра свайго дырэктара. — Акрамя таго, яна магутны метадыст і не любіць стандартаў. Хаця ў стандарты ўпісваецца ідэальна, бо ўсе ГОСТы ведае назубок і выконвае, але стандартныя падыходы яе не вельмі цікавяць. Наш кіраўнік не шукае лёгкіх шляхоў, за што мы яе вельмі паважаем і падтрымліваем.

## Гісторыя сталоўкі, *расказаная пад бульбяную бабку*

Некалькі гадоў таму вучні сярэдняй школы № 12 горада Гродна, як гэта часта бывае з вучнямі (як гэта можа быць з абсалютна любымі, нават з самымі цудоўнымі вучнямі ў абсалютна любой, нават самай цудоўнай школе), не вельмі хацелі есці школьную ежу. Гэта не люблю, тое нясмачна, тое не буду, сам не ведаю, чаму…

— Быў час, калі старшакласнікі прызнавалі хіба што буфет, — кажа Ала Іванаўна. — А пасля самі не заўважылі, як перайшлі на паўнавартаснае гарачае харчаванне.

Усё памянялася са з'яўленнем повара Алега Віктаравіча. Цяпер малыя і вялікія, сярэднячкі і выдатнікі з аднолькавым задавальненнем снедаюць, абедаюць і палуднуюць у школьнай сталоўцы, а пасля ўрокаў прыходзяць у школьны буфет — перакусіць салацікам ці ўзяць дадому нешта з выпечкі.

— І зранку бацькі, прывёўшы ў школу малых, заходзяць у сталоўку — купіць сабе булачак.

Алег Віктаравіч Градавец (афіцыйна яго пасада гучыць як загадчык вытворчасці) прыязджае ў школу а чацвёртай раніцы і завіхаецца да чацвёртай дня. Акрамя яго, тут працуюць два

повары, два кухонныя рабочыя і адна буфетчыца. Сталоўка школе не падпарадкоўваецца, а ўваходзіць у структуру гарадскога камбіната школьнага харчавання. Недзе там, у яго кабінетах, распрацоўваецца меню, але…

— … але , — кажа Алег Віктаравіч, — я стараюся гатаваць тое, што дзеці любяць больш. А любяць яны дранікі, мучныя аладкі, бульбяную бабку, сасіскі, амлет.

— Стравы абавязкова чаргуюцца, — дадае дырэктар школы, — харчаванне ўсё роўна прапануецца вельмі разнастайнае і рацыянальнае. І бульба, і рыба, і тварог… Сырнічкі, запяканачкі — дамашняя кухня. З мяснога найбольш упадабаныя кнелі і курыныя катлеты.

Пытаю, ці адрозніваецца меню ў дні алімпіяд і экзаменаў.

— А як жа? Даецца ўзмоцненае харчаванне, загадзя абгаворанае.

— Самы прыемны момант для нашых дзяцей здараецца штодня на першым уроку, — распавядае Ала Іванаўна. — У клас зазірае дзяжурны, расказвае, што сёння плануе гатаваць Алег Віктаравіч, і прапануе выбар з трох варыянтаў. Што можа быць лепш за свабоду выбару?

— Пытаецца, што будуць есці вучні кожнага класа, — дранікі, запяканку ці плоў, — працягвае Алег Віктаравіч.

— І кожны можа замовіць сабе пэўную страву, — завяршае Ала Іванаўна.

— Так толькі ў вашай школе? — пытаю я, любуючыся тым, як маляўніча выглядаюць макаронінкі ў супе.

— Так, варыятыўнасць меню прапаноўваецца, але як гэтая прапанова кім вытрымліваецца — пытанне іншае, — адказвае дырэктар.

— Усё залежыць ад працаздольнасці калектыву. Канечне, так складаней, чым гатаваць усім аднолькавае, — удакладняе шэф-повар.

— У нашага Алега Віктаравіча атрымліваецца варыятыўнасць і для школы, і для груп падоўжанага дня, і для дзяцей спецыяльных класаў, і для нашых спартсменаў, і нават для дыетхарчавання.

— Некаму мяса тушанае ўжываць нельга — і што рабіць? Як даць рады?



Школьная бібліятэка. Тут захоўваюцца публікацыі вучняў і любімыя часопісы, праводзяцца заняткі літаратурнай гасцёўні «Запрашае «Бярозка» і факультатыўныя заняткі «Развіццё творчых здольнасцей» для юных літаратараў і журналістаў (кіраўнік факультатыву — Галіна Анатольеўна Богдан). Бібліятэкары — Ніна Іванаўна Мінько і Тэрэса Браніславаўна Арабчык (на фота).

Нешта мне гэта нагадвае. Раніцай, у маршрутцы… Кажуць, людзям да чужых праблем няма справы, а вось жа здараецца.

Тым часам падалі рыбу, запечаную пад сырнай шапкай, і бульбяную бабку з ружовай скарынкай.

— Не дазваляюць нам магчымасці памяшкання арганізаваць шведскі стол, — бядуе Ала Іванаўна. — Алег Віктаравіч да гэтага гатовы, носіць у сабе такую ідэю. Але як тут паставіш паточную лінію, калі школа старэнькая, а сталоўка невялічкая, сумешчаная з актавай залай.

## Рэзюмэ, *прамоўленае дырэктарам*

— Раён у нас стары, побач дзве гімназіі і школы са спецыяльнымі класамі — вельмі спакуслівыя ўстановы. А наша — абсалютна сярэдняя, абсалютна агульнаадукацыйная. Каб быць канкурэнтаздольнай, прывабнай для бацькоў і дзяцей, сучасная школа павінна прапанаваць кожнаму нешта цікавае і карыснае. Мы навучыліся гэта рабіць, таму актуальныя і запатрабаваныя. Таму упэўнена глядзім у будучыню.

Кацярына Канчэўская

# Гарадзеншчына ў лістах Элізы Ажэшкі

***Артыкул як запрашэнне***

Пра «яснавяльможную пані Арэшчыху», здавалася б, напісана і сказана ўжо шмат. Але ж, як гэта і належыць жанчыне, яна ўсё яшчэ прыхоўвае безліч таямніц, якія, мабыць, будуць адкрываць яшчэ і нашы нашчадкі. Мы ж зазірнём у яе эпісталярную спадчыну. Дарэчы, яна таксама дагэтуль застаецца таямніцай: да ўжо выдадзеных у 1956—1981 гадах у Вроцлаве пад рэдакцыяй Эдмунда Янкоўскага дзевяці тамоў яе лістоў рыхтуецца да друку яшчэ пяць, над якімі працуе Інстытут літаратурных даследаванняў Польскай акадэміі навук у Варшаве. Чаму мы звяртаемся менавіта да лістоў? Таму што менавіта ў іх Эліза Ажэшка паўстае такой, якой яна была ў паўсядзённым жыцці, падрабязна распавядае амаль пра кожны пражыты дзень, апісвае людзей, з якімі сустракалася, разважае на шматлікія тэмы — падчас гэта цэлыя філасофскія эсэ. Яраслаў Івашкевіч, які вельмі высока ацэньваў творчасць Ажэшкі, заўважыў неяк, што ў сваіх лістах пісьменніца «прыхавала самае меншае палову свайго таленту. І калі некаторыя творы ўжо блякнуць, прыкрываюцца імглою аддалення, у лістах яе жыве, пакутуе, думае, творыць цудоўная, мудрая і добрая жанчына. У лістах адлюстроўваецца яе час і яе эпоха, але ж па-над часам і эпохай захоўваецца прыгажосць яе постаці і яе высокае меркаванне пра місію польскага пісьменніка». У прадмове да першага выдання лістоў (1937) Людвік Сьвідэрскі акрэсліў іх спецыфіку наступным чынам: «Лісты Элізы Ажэшкі, паколькі ўтрымліваюць значны аўтабіяграфічны элемент, не абмяжоўваюцца апісаннем той ці іншай падзеі з асабістага жыцця. […] Гэтую спецыфічную рысу належыць патлумачыць не зусім звыклымі ўмовамі жыцця аўтаркі. […] Лісты былі ніткай, якая звязвала яе са светам, удалечыні ад якога яна жыла, з якім імкнулася захаваць кантакт; яны былі амаль адзіным спосабам падзяліцца думкамі з роўнымі сабе інтэлектамі».

Да таго ж лісты — не раманы, у іх не выкрэсліш пазней тое, што табе не падабаецца, і не перапішаш нанова, а значыць, яны больш верагодныя як сведкі штодзённасці. І таму — за мной, мой Чытач (няхай прабачыць мне Булгакаў гэты дробны плагіят)!

Менавіта ў сваіх лістах Ажэшка знаёміла некалі сваіх сяброў, а зараз і нас з Гарадзеншчынай, з якой яе — няхай і не зусім па яе волі — моцна знітаваў лёс. Прыгадаем: у той час гэта была ўжо толькі адна з расійскіх губерній, і ніхто не звяртаў асаблівай увагі на яе правінцыяльнае жыццё, а тым больш не цікавіўся вёскай. Эліза Ажэшка была першая, хто зазірнуў пад сялянскія стрэхі. Больш за тое: яна не толькі палічыла вартым распавесці пра ўбачанае ўсяму свету, але і знайшла ў ім натхненне для творчасці.

Жыццём сялян Ажэшка пачала цікавіцца толькі ў Людвінове, сядзібе першага свайго мужа, падчас палымяных дэбатаў мясцовай шляхты. У лісце да Ігнацыя Бараноўскага яна так прыгадвала тыя часы: «Я тады прымала бок сялян і часам умешвалася ў размовы, што, канечне, некаторых здзіўляла, беручы пад увагу мае 16 гадоў, але і, наколькі памятаю, падабалася». У лісце да Аўрэлія Драгашэўскага пісьменніца адзначала: «У тыя часы (перад студзеньскім паўстаннем. — *Аўт.*) адбываліся ў грамадскіх колах нарады, дыспуты, якіх я вельмі, вельмі многа слухала і ў якіх мой уласны 17-і, 18-і, 19-гадовы розум прымаў ліхаманкавы, апантаны ўдзел. Я была гарачай прыхільніцай сялян, і такіх, як я, было шмат». Пасля паразы паўстання, ссылкі мужа і канфіскацыі Людвінова Эліза Ажэшка ў 1864 годзе вярнулася ў родны маёнтак — у Мількаўшчыну. Пісьменніца называла яго «паскуднай глушшу» і адчайвалася, што там няма тэлеграфа, але ж адначасова сцвярджала, што «ўсё ж такі ў сто разоў лепш мне тут, чым у Гродне: я ўжо здабыла абсалютную раўнавагу розуму і сілу волі, якія супакоілі мае вонкавыя перажыванні». У Мількаўшчыне Ажэшка працягвала сваё знаёмства з жыццём вёскі. У лісце да Юзафа Сікорскага яна адзначала: «Я ўсё больш цесна зжываюся з нізкім грамадскім станам і пазнаю яго — мне гэта, безумоўна, дае і карысць для розуму, але час ад часу яшчэ й сапраўдную радасць для сэрца. Часта забаўляюць мяне касмічныя з’явішчы народных пачуццяў і звычаяў».

Прага пісьменніцы нешта зрабіць для мясцовых сялян рэалізавалася ў арганізацыі школкі для вясковых дзетак, пра якую Ажэшка так пісала Юзафу Сікорскаму: «Дваццаць двое дзетак securing рознага ўзросту я выхоўваю ў Мількаўшчыне; зрабіла для іх нешта накшталт школкі ў адным з пакояў свайго дому. Маю сямёра вучняў і чатыры вучаніцы, вучу іх чытаць па-польску, лічыць і тлумачу найбольш простыя ўрыўкі з «Бібліі». Дапамагаюць мне пакаёўкі, якіх у мяне трое, а ўсе яны ўмеюць тое, чаго б я хацела, каб і дзеткі навучыліся». Прымаючы пад увагу тое, што распараджэннем Мураўёва ад 13 студзеня 1864 года забаранялася ўсялякая дзейнасць вясковых школ, асабліва пры маёнтках і плябаніях, адвазе і рашучасці маладой жанчыны належыць, безумоўна, пашана. Нягледзячы на гэтую дзейнасць Эліза Ажэшка, якая ўсё больш не толькі пакутавала ад свайго аддалення ад вялікага свету, але і патанала ў даўгах, з Мількаўшчыны імкнулася ўцячы: «Хай бы даў Бог, каб я магла найхутчэй вырвацца з гэтай сапраўднай даліны плачу, якой зараз з'яўляецца тутэйшая правінцыя». Трэба, аднак, заўважыць, што Гродна, або «Ангрода», як называла яго пісьменніца, дзе «кожны чалавек сядзіць, нібы на патэльні, відавочны для ўсіх», яна таксама не надта любіла і ў сваіх лістах давала яму зусім не хвалебныя ацэнкі: «сама не магу знесці гэтай мясціны», «што за глухамань гэтае Гродна!», «я вельмі пакутую зараз у гэтым сваім аддаленні і самоце», «у Гродне я працую так самотна, як гэта, мабыць, ніводнаму аўтару не здаралася». Сваё жыццё ў горадзе, які з каралеўскай сядзібы і аднаго з важнейшых цэнтраў і Вялікага Княства Літоўскага, і Рэчы Паспалітай абодвух народаў стаў раптам соннай імперскай правінцыяй, Ажэшка так апісвала ў адным з лістоў да Яна Карловіча: «Мы жывём заўсёды, як краты́, пад зямлёй, у цемры і глухой цішыні, таму і тупеюць нам дзіўна розумы і пачуцці. Я адчуваю гэта на сабе. Пакуль яшчэ выхілялася час ад часу ў больш шырокі і шумны свет, тутэйшая глухамань менш мне шкодзіла, але з той пары, як гарызонт мой абмежаваўся выключна горадам Гродна, я тупею і станаўлюся ўсё больш лянівай проста жахлівым чынам». Распавядаючы пра гарадзенскую штодзённасць Юзэфе Савіцкай, пісьменніца сведчыла: «Мы жывём ціхенька, як мышы пад мятлой, з той толькі розніцай, што не ў смецці, а ў старых паперах. Калі толькі куды выхілімся са свайго дому, што здараецца вельмі рэдка, то чуем безліч цікавых і ўзвышаных навін, напрыклад: што на вуліцы сёння мароз або слата, што добрую кухарку зараз не знойдзеш, што служанкі надта ганарыстыя і неахайныя, што ў Ясіка насмарк, а ў Крысі зубкі рэжуцца, што тая пані хварэла на мігрэнь, а той пан жэніцца з той паняй, і гэта ўсё».

Лісты — не раманы, у іх не выкрэсліш пазней тое, што табе не падабаецца, і не перапішаш нанова, а значыць, яны больш верагодныя як сведкі штодзённасці

Вымушаная з 1870 года жыць у Гродне, дзе паветра летам станавілася невыносным, Эліза Ажэшка пры кожнай магчымасці выязджала за горад. Месцам першага яе вясковага побыту была ў 1878 годзе Квасоўка, дзе пісьменніца бавіла час у сяброўкі дзяцінства Мяланіі Бухавецкай. Потым, у 1879 і 1880 гадах, Ажэшка адпачывала ў Свіслачы (вёска Свіслач, не мястэчка. — *Аўт.*), у невялічкім маёнтку Монікі Капчэўскай, што як жонка Вандаліна Пуслоўскага, першага ўладальніка гэтай мясцовасці, мела там пажыццёвае ўтрыманне. Менавіта тады пісьменніца мела магчымасць больш доўгага, непасрэднага назірання за вясковым насельніцтвам, якое яна так апісвала ў лісце да Зыгмунта Мілкоўскага: «Інтэлект і мараль народа, пакінутая аблогам падчас узбагачэння, хто ведае, ці не прыходзіць у заняпад замест таго, каб імкнуцца да развіцця. Школкі нібы ёсць, але насамрэч нібы іх няма. Яны або ўвогуле не працуюць, або працуюць дрэнна. [...] Дзве раны раз'ядаюць вясковае насельніцтва ажно да касцявога мозга: п'янства і крадзеж. П'юць жахліва, а крадуць ўсё так бязлітасна, што абсалютна ўсё трэба як мага мацней зачыняць і як найпільней ахоўваць. Гэта нельга патлумачыць нястачай, толькі выхаваннем, якое яны атрымалі, асабліва тым апошнім урокам, што доўжыўся апошнія гады».

Яна імкнулася як мага больш ведаць усё, што толькі можна, пра беларускі народ, і нават у адным з лістоў да Івана Франко пыталася, ці не знайшлося б у яго кнігі, з якой можна было б даведацца «пра геаграфію той зямлі, на якой жывуць беларусы»

Яшчэ лепш пазнаёміцца з вясковым насельніцтвам Ажэшка змагла, калі некалькі сезонаў запар выязджала ў Міневічы. Яна Каменскага, уладальніка мясцовага маёнтка, якога яна ведала яшчэ з юнацкіх гадоў і называла «рыцарам з дыяментавай душой», пісьменніца зрабіла прататыпам Анджэя Карчыньскага з рамана «Над Нёманам». Эліза Ажэшка марыла разам са Станіславам Нагорскім, сваім другім мужам, пабудаваць у Міневічах невялікі ўласны дамок, аднак гэтым планам не было наканавана здзейсніцца. Але ж яна ахвотна неаднаразова сюды вярталася і прызнавалася ў адным з лістоў Яну Карловічу: «Вясковы кут, няхай і зняты, больш мне мілы, чым горад, у які закінуў мяне лёс. […] Адсутнасць інтэлектуальнага і мастацкага жыцця ўзнагароджваецца цішынёй і спакоем, а перад усім цудоўнай прыродай, бо не мушу нават вызіраць праз акно, а ўжо з глыбі свайго пакоя бачу Нёман, а за ім сасновы бор і ўсё, што над ім і вакол яго». Пачынаючы з 1890 года, пісьменніца на працягу некалькіх гадоў здымала домік у Панемуні. Гэты маёнтак — Панемунь-Жуковічы, які не захаваўся да нашых дзён, — знаходзіўся каля Горніцы; яго часта блытаюць з Панемунем — даўняй летняй рэзідэнцыяй апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага, у наш час — амаль у межах Гродна. У лісце да Вацлава Макоўскага Ажэшка пісала: «У вёсцы мне значна лепш, і я магу многа пісаць», а месца свайго знаходжання прадстаўляла наступным чынам: «У нас тут дамок невялічкі, але крыху больш выгодны, чым быў у Міневічах, лепшае палажэнне, чым там было, таму што ёсць зусім поруч і лес, і рака, да таго ж вельмі здаровае паветра». Аднак заўважала, што яе побыты ў вёсцы служаць не толькі здароўю: «Я абавязкова хачу лепш пазнаць русінаў, у моры якіх мы ўсяго толькі астраўкі, хачу шмат пра іх пісаць і нават усталяваць з імі адносіны». Паколькі Эліза Ажэшка любіла вельмі грунтоўна падыходзіць да рэалізацыі кожнай сваёй ідэі, яна імкнулася як мага больш ведаць усё, што толькі можна, пра беларускі народ, і нават у адным з лістоў да Івана Франко пыталася, ці не знайшлося б у яго кнігі, з якой можна было б даведацца «пра геаграфію той зямлі, на якой жывуць беларусы». Пазней яна прызнавалася: «Было нешта, што схіліла мяне да таго, каб распачаць пісаць пра сялян, пакрыўджаных і прыгнечаных, пакутных людзей, і да сённяшняга дня я адчуваю гэта ўсім сэрцам: справядлівасць, братэрства людское, роўнасць правоў, любоў, якая павінна быць паміж людзьмі, узаемная дапамога, спагада».

Сітуацыя мясцовага вясковага насельніцтва, нават пасля скасавання прыгонніцтва, была трагічная. У адной са справаздач царскага чыноўніка, якая датычылася стану вясковай гаспадаркі Гродзенскай губерні перад адменай прыгонніцтва і адразу ж пасля яе, ёсць і такое: «Галеча сялян гэтай губерні, паводле слоў аднаго з камандзіраў размешчанага тут у 30-х гадах XIX стагоддзя палка, была настолькі жахлівая, што, ужо пачынаючы з кастрычніка гэтыя сяляне елі выключна бурду». Аўтар гэтай справаздачы зрабіў выснову, што, нягледзячы на станоўчыя данясенні губернатараў, насамрэч скасаванне прыгонніцтва не прынесла на гэтых тэрыторыях пажаданых вынікаў. Падкрэслівалася таксама, што камісія, якая ў 1872 годзе працавала над рэформай, адзначыла яе вынікі як станоўчыя, а сапраўдныя статыстычныя даныя сведчылі: сялян абкладваюць усё больш высокімі падаткамі.

Эліза Ажэшка як сведка гэтай галечы імкнулася пазнаць усе падрабязнасці вясковага жыцця, зразумець яго асаблівасці. Яна ўсё часцей задумвалася над лёсам сялян і ў адным з лістоў так пісала Юзафу Сікорскаму: «У вёсцы зараз рух вялізны: жнуць, звозяць у гумны, на падвор'і ўвесь час грукат, гамонка людзей, спевы і кліканні. Учора падчас шпацыру зайшла ў вёску, задумалася над лёсам нашага народу, яго сённяшнім і мінулым і марыла пра будучыню».

Усё больш глыбокае пазнанне сялянскага жыцця падштурхоўвала да пісьменніцкай працы: «Пасля бяссоннай і часткова праплаканай ночы я прыгадвала лёс аднаго вядомага ў вёсцы селяніна, яго дзіўную гісторыю, пакуты, расчараванні, яго вялікую душу — і сядала да стала, пісаць». Распавядаючы ў лістах Леапольду Меету пра сваю працу над «Хамам», Ажэшка падкрэслівала: «Я апісвала падзеі абсалютна праўдзівыя, якія адбываліся з сялянамі суседняй з Міневічамі вёскі (Паніжаны. — *Аўт.*), якіх я добра ведаю, таму і сялянскую псіхалогію, спадзяюся, прадставіла праўдзіва». Францішку Равіту-Гаўроньскаму пісьменніца прызнавалася: «Ужо год як я пішу сялянскія раманы, а нашы сяляне — гэта русіны. […] Калі б можна было актыўна працаваць на гэтай глебе! Набываць новыя знаёмствы, распаўсюджваць чытанне, абуджаць у іх новыя пачуцці…». У лістах у рэдакцыю Ажэшка прасіла змясціць некалькі сваіх твораў пад адной вокладкай і тлумачыла гэтую просьбу тым, што «з літаратурнага боку гледжання было б добра размясціць у адным томе тры наступныя творы: «Раманіха», «Зімовым вечарам» і «Тадэвуш», таму што, напісаныя на вясковую тэму, яны з'яўляюцца адным цэлым». Трэба заўважыць, што пісьменніца імкнулася паказваць сапраўднае жыццё сялян, з якім знаёмілася ўсё лепш падчас сваіх вандровак. У лісце да Яна Карловіча яна шкадавала: «Яшчэ дагэтуль у нашых вясковых раманах пераважаюць Дафнісы і Хлоі або ж зноўку бяздушныя і абсалютна скоцкія Барткі-пераможцы». Менавіта таму яна, калі пісала пра Дзюрдзяў, баялася, што раман будзе занадта рэалістычны, і сумнявалася, ці захоча выдавец яго апублікаваць. Яна падкрэслівала: «Мае Дзюрдзі — гэта сапраўдныя русінскія сяляне, яны зусім не «быдла», а проста людзі, якія пакуль што знаходзяцца на нізкай ступені цывілізацыйнага развіцця». Для кожнага свайго твора на вясковую тэму пісьменніца мела, як яна сама сцвярджала, «багаты і абсалютна пэўны матэрыял, таму што ўзяты з уласных назіранняў». Яе «сялянскія» творы сапраўды былі настолькі праўдзівыя і багатыя на матэрыял, назапашаны з уласных назіранняў, што этно-граф і фалькларыст Ян Карловіч называў іх «народазнаўчымі замалёўкамі» і здзіўляўся, наколькі трапна і дакладна пісьменніца перадае вобразы сялян, іх мову і лад жыцця. Перапіска Элізы Ажэшкі з выдаўцамі сведчыць пра тое, што яна вельмі высока ацэньвала менавіта свае творы на вясковую тэму, перад усім «Над Нёманам», «Нізіны» і «Хам», і лічыла, што неабходна абавязкова пазнаёміць з імі малодшае пакаленне чытачоў, каб тыя даведаліся пра рэальны быт беларускай вёскі. У адным з лістоў да Леапольда Меета Ажэшка выказала свой намер выдаць творы на вясковую тэму асобным выданнем: «Зараз я пішу вясковы раман пад назвай «Дзюрдзі», амаль таго самага памеру, што і «Нізіны», друкаваць буду ў «Краі». Можа, тады з «Нізінаў», «Дзюрдзяў», «Тадэвуша» і яшчэ якога невялічкага абразка, які напішу пазней, зрабіць два тамы і выдаць разам пад назвай «Вясковыя вобразы і сцэны». Гэта было б нешта больш паважнае, крыху больш шырокі вобраз узаемаадносін і жыцця мясцовых сялян».

Падчас сваіх побытаў у вёсцы Ажэшка пачала таксама цікавіцца раслінным светам. Думка зрабіць зельнік з'явілася ў яе яшчэ ў 1891 годзе падчас адпачынку ў Панемуні, адкуль яна пісала Станіславу Кшэменскаму: «Я мару зрабіць на наступны год для якога этнаграфічнага зборніка прыкладны зельнік з мясцовай флоры, з двума пунктамі бачання — батанічным і народазнаўчым — гэта значыць, каб у ім відавочныя былі адносіны сялян да расліннага свету». Праз тры гады, апісваючы сваю штодзённасць у тым жа Панемуні Міхалу Балуцкаму, яна заўважала: «Я аддавалася сваёй батанічнай пасіі і цэлымі днямі лазіла па свеце, збіраючы зёлкі і кветкі, пра кожную з якіх ведаю абсалютна ўсё». А ў лісце да Яна Карловіча прызнавалася: «У перапынках паміж пісаннем і пасля яго я вельмі старанна займалася раслінным светам, цікавілася батанікай са спецыяльнай мэтай даведацца таксама пра адносіны да навакольнай прыроды саміх сялян. Я збірала расліны, дапытвалася ў сялян, як яны іх называюць, для чаго ўжываюць, якія звязваюць з імі паданні і г.д.». Падрыхтоўка зельнікаў вельмі збліізіла пісьменніцу з мясцовымі сялянамі, з якімі яна вельмі шмат размаўляла. У лісце да Леапольда Меета Ажэшка расказвала: «Свой зельнік я ўзбагаціла на сто новых экзэмпляраў, з сялянамі, а перад усім з сялянкамі, прагаварыла доўгія гадзіны». Асабліва шмат дапамагла

пісьменніцы Люцыя, зялярка з Глядавіч: «Я пазнаёмілася з пэўнай зяляркай, вельмі вядомай сярод мясцовых сялян, якая навучыла мяне мноству надзвычай цікавых рэчаў. Назбірала зельнік, які мае больш за дзвесце экзэмпляраў, з шэрагам народных назваў і разнастайных, асабліва лекавых, значэнняў». Эліза Ажэшка была ўражана заўважанай падчас гэтых батанічных досведаў чуллівасцю мясцовых сялян да прыроды: «Вельмі цікавай і, на маю думку, зусім невядомай нам рэччу з'яўляецца тое, што народ наш ведае кожную найменшую нават раслінку, называе кожную часта надзвычай маляўніча і трапна, шукае і ведае ўласцівасці кожнай з іх. Жанчыны лепш на гэтым знаюцца, чым мужчыны, але і сярод гэтых апошніх ёсць такія, хто ў гэтым накірунку можа быць настаўнікам».

Пашана пісьменніцы да сялян праявілася таксама і падчас укладання зельнікаў, якія яна мела намер зрабіць наступным чынам: «Некалькі дзясяткаў раслін, да якіх у мяне ёсць назвы польскія, лацінскія і беларускія, я апішу, а да таго ж змяшчу нешта накшталт партрэтаў ці сілуэтаў тых сялянак, ад якіх атрымала тлумачэнні адносна лекавых і гаспадарчых прызначэнняў гэтых зёлак ці паданні пра іх». Працу над паасобнымі этапамі ўкладання зельнікаў пісьменніца падрабязна апісвала ў лістах этнографу Яну Карловічу: «Раслін у зельніку ўсяго 84; гэта ўсё, што я сёлета магла сабраць, але арыгінальнасць некаторых назваў і звесткі аб выкарыстанні гэтых зёлак узнагароджваюць у пэўнай ступені іх нязначную колькасць. Беларускія назвы запісаны ў рукапісе з такімі водступамі, каб пры іх можна было запісаць польскія і лацінскія».

З надпісу на адным з зельнікаў, які Марыя Абрэмская даслала з Гродна доктару Францішку Хлапоўскаму, можна зрабіць выснову, што батанічныя вандроўкі Ажэшкі ахоплівалі даволі вялікую тэрыторыю: Міневічы, Паніжаны, Глядавічы, Каўшы, Панемунь, Гарні, Каўпакі — гэта ўсё мясцовасці, якія ляжаць над Нёманам уздоўж тракту з Гродна да Лунны. Свет наднёманскіх раслін так захапіў пані Элізу, што яна марыла не толькі працягваць свае даследаванні, але і пашырыць іх на новыя тэрыторыі: «Я таксама маю намер напісаць адозву да ўсіх уладальніц вясковых маёнткаў у Літве, каб яны ў розных кутках краю збіралі расліны і адпаведна іх апрацоўвалі. Можа, хоць некалькі знойдзецца для такой работы, а тады магло б атрымацца нешта сур'ёзнае і важнае».

Дзякуючы папулярнасці творчасці Элізы Ажэшкі ў Гродна яшчэ пры яе жыцці прыязджалі чытачы яе раманаў, каб увачавідкі ўбачыць і саму пісьменніцу, і герояў яе твораў або тыя месцы, якія яна апісвала. У лісце да Яна Карловіча Ажэшка прыгадвала: «Адна з кабет спецыяльна ездзіла на гарадзенскія могілкі, каб убачыць месца, у якім вырас Сільвэк, а іншая шукала па Гродне вуліцу Кветную і сям'ю Коньцаў». Часта пісьменніца сама заахвочвала сваіх сяброў да прыезду, напрыклад, Леапольду Меету абяцала сустрэчу з героямі «Хама»: «Я пакажу Табе героя гэтага рамана, рыбака; гераіня знаходзіцца зараз у доме вар'ятаў у Гродне». Неаднаразова знаёмыя карысталіся запрашэннем; так, Мар'я Канапніцкая свае ўражанні ад размовы з Франкай, гераіняй «Хама», змясціла у 259-м нумары ад 16 лістапада 1889 года «Газеты Польскай», а Юзаф Катарбіньскі пісаў пра сустрэчу з героямі пісьменніцы ў артыкуле «У Ажэшкі» ў 50-м нумары газеты «Край» ад 13 снежня 1891 года.

Эліза Ажэшка цікавілася не толькі жыццём беларускіх сялян. Не абмінула яна сваёй увагай і мясцовых габрэяў: у мястэчку Воўпа і сёння вам пакажуць дом, дзе некалі жыў герой навелы «Гедалі». А яшчэ пісьменніца распавяла ўсяму свету пра гарадзенскую засцянковую шляхту, якой захаплялася, называючы «сапраўднай залатой жылай нашага грамадства»; нашчадкі гэтых шляхецкіх родаў і зараз пражываюць у сваіх спрадвечных ваколіцах. Але гэта, мой шаноўны Чытач, ужо крыху іншая гісторыя, да якой мы абавязкова вернемся.

А пакуль я запрашаю на ўласныя вочы ўбачыць тое, што апісала Эліза Ажэшка, прайсці яе сцяжынкамі, палюбавацца яе зёлкамі і пастаяць у задуме над Нёманам, каб потым нанова адкрыць для сябе творчасць пісьменніцы і звярнуцца да яе эпісталярнай спадчыны, якая дапаможа лепш зразумець нашу гісторыю, распавядзе пра гарадзенскія ваколіцы і напэўна прыадчыніць яшчэ не адну таямніцу «яснавяльможнай пані Арэшчыхі»…

**Святлана Воцінава**

# Зоф'я Налкоўская. Гісторыя жыцця і музея, запісаная ў форме экскурсіі

Музей польскай пісьменніцы Зоф'і Налкоўскай, размешчаны ў Гродне, — адзіны такі ў свеце. У Польшчы, у мястэчку Валомін, у доме яе юнацтва, створаны музей сям'і Налкоўскіх: навукоўца-географа, публіцыста, грамадскага мысляра Вацлава Налкоўскага і яго дачок — пісьменніцы Зоф'і Налкоўскай і скульптара Гані Налкоўскай. Але наш, гродзенскі, мала што персаніфікаваны, дык яшчэ і створаны на два гады раней, чым польскі. А між тым пані Зоф'я пражыла ў нашым горадзе нейкія пяць гадоў, нават няпоўных, і былі яны спрэс нешчаслівыя. Але вось у адным з памяшканняў Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы ўзнікае экспазіцыя, дзе дэманструецца ўсё, што датычыцца яе творчасці і жыцця.

Што я ведаю пра Зоф'ю Налкоўскую? Што пасялілася ў Гродне ў 1922-м з нагоды другога замужжа і з'ехала з яго ў 1927-м з прычыны другога нефармальнага разводу. Што пісьменніца сусветнай велічыні — прынамсі, яе «Медальёны» перакладзены на процьму моў свету. Што была вельмі прыгожая і вельмі разумная. Што, як і Эліза Ажэшка, скардзілася на нязноснасць Гродна для штодзённага жыцця. Што даследчыкі яе творчасці лічаць пяць гадоў, пражытыя ёю ў Гродне, «прадмовай» да ўсёй яе далейшай творчасці. Што я не ведаю? Нічога з таго, што магло б служыць адказам на пытанні, народжаныя хаця б гэтым веданнем. І вось я ў музеі Зоф'і Налкоўскай — адзіным такім у свеце. Прыйшла, каб атрымаць адказы, якія, відаць, магу атрымаць толькі тут.

Нямала людзей захапляецца лёсамі вядомых асоб, але мала хто стварае іх музеі, ды яшчэ і на ўласныя сродкі. Тут мы сустракаемся з такім прыкладам. У памяшканні, афармленне якога вытрымана ў адпаведнасці з часам засведчаных тут падзей і прызначэннем адначасова, можна ўбачыць усё, што здолела знайсці, сабраць, ідэнтыфікаваць і вытлумачыць выкладчык кафедры замежных моў (гэта сёння, а ў 1989-м — стваральніца кафедры польскай філалогіі), доктар філалагічных навук, прафесар Святлана Мусіенка.

Я ведаю, што ўсе пытанні лепш задаць адным махам. Ведаю гэта з нашых папярэдніх сустрэч, падчас якіх прамаўляліся працяглыя, быццам лекцыі, прачулыя, быццам споведзі, натхнёныя маналогі, у якіх адказы на ўсе пытанні, ужо агучаныя і пакуль не, аказваліся пераплеценымі і знітаванымі, і заставалася адно слухаць і запамінаць — пра Элізу Ажэшку і Стэфанію Семпалоўскую, пра Генрыха Сянкевіча і Баляслава Пруса, пра…



Святлана Мусіенка ў музеі Зоф'і Налкоўскай.

Гэтым разам адбыўся такі ж самы натхнёны маналог — багаты пажытак для розуму і душы, хараство для вушэй і сэрца. Галоўнае: героі яго паўставалі не хрэстаматыйнымі, а відавочна жывымі, не з вехамі біяграфій і пералікам заслуг, укладзенымі вікіпедыйна, а такімі,



PRZEGLĄD TYGODNIOWY

«Przegląd Tygodniowy» з першым надрукаваным вершам Зоф'і Налкоўскай — пад назвай «Pamiętam».



Зоф'я Налкоўская.

якімі адзіна варта ім паўставаць перад намі. І добра было б заклікаць да такога дэманстравання вядомых асоб мінулага літаральна кожнага, хто бярэцца іх дэманстраваць, але пакуль пераважная большасць (да прыкрасці пераважная большасць) адчайна хавае ад нас (а часам і ад сябе) усё, што стварае ўражанне (неабходнае для разумення) і нараджае ўспрыманне асобы як чалавека (патрэбнае, каб палюбіць), — нам застаецца з падвоеным тахканнем сэрца слухаць апантаную меншасць. З гэтым і суправаджаю чытача праз аповед пра Зоф'ю Налкоўскую — асобу, пісьменніцу і чалавека.

***

— Зірні на гэты партрэт. Яна была самай прыгожай жанчынай у гісторыі польскай літаратуры. А мо і не толькі польскай. Так мне сказаў і той, хто ведаў яе асабіста, — Станіслаў Земак, мясцовы адвакат, чалавек, з дапамогай якога мне ўдалося ідэнтыфікаваць усе наяўныя фотаздымкі і дом, у якім яна тут жыла. Напэўна, я шчаслівы літаратуразнаўца, бо застала яго жывога, у добрым здароўі, пры добрай памяці.

Значыцца, Зоф'я Налкоўская. Нарадзілася ў інтэлігентнай сям'і. Падкрэсліваю гэта. Яе бацька быў вядомым навукоўцам, географам. Па картах, якія ён склаў, школьнікі вучацца да гэтага часу. Падручнікі яго таксама не сышлі ў гісторыю. Акрамя таго, ён быў палітыкам і дэмакратам. І ўпершыню ў гісторыі польскай літаратуры — гэта я таксама падкрэсліваю — крытычна паставіўся да ідэй Сянкевіча: напісаў пра іх шкоднасць літаратуразнаўчае даследаванне «Сянкевічыяна».

*«Але калі не захочаш друкаваць — выкрэсліш», — кажа мая суразмоўца наконт апошняй рэплікі. Я, добра памятаючы стасункі Сянкевіча (Літвоса) з Элізай Ажэшкай, выкрэсліваць адмаўляюся. І тады Святлана Мусіенка працягвае так:*

— З гэтай троіцы — Ажэшка, Сянкевіч, Прус — Сянкевіч быў самы ўдачлівы. Ажэшка двойчы наміравалася на Нобелеўскую прэмію і ні разу яе не атрымала, а ён атрымаў адразу. Хаця самы таленавіты з іх — Прус. А самая «палітызаваная»— якраз Ажэшка. І адна з заснавальнікаў рэалізму ў польскай літаратуры — разам з Юзафам Ігнацыем Крашэўскім, хоць і лічыла, што яе творчасць выйшла з яго творчасці. Але вернемся да бацькі Зоф'і Налкоўскай: ён трагічна памёр у 1911-м ад кровазліцця ў мозг. Ад таго ж памрэ і сама Зоф'я Налкоўская. А ў год смерці бацькі яна расстанецца са сваім першым мужам, Леонам Рыгерам, педагогам і паэтам, за якога пайшла замуж, бо быў ён прыгожы і таленавіты. Да смерці бацькі, якога не хацела засмучаць, яна будзе яго цярпець. Ёй было няпоўных васямнаццаць, калі яна стала яго жонкай. Ён пісаў ёй у вершы, якая яна румяная, з блакітнымі вачыма, а яна занатоўвала ў дзённіку, што ёй здаецца, нібы яна чытае кепскі раман, бо толькі ў кепскім рамане могуць быць такія стандартна прыгожыя дзяўчаты з блакітнымі вочкамі і ружовымі шчочкамі. «Нават тыя людзі, якім я выдавалася звычайнай, адзначалі, што ў мяне вочы халодныя, стальныя. Я, канечне, прыгожая, але і разумная. Пасылаю яму свой верш «Усход», ён, напэўна, лепшы за яго «Белыя ландышы». Гэта сапраўды цудоўны верш. Увогуле, першы этап яе творчасці — паэтычны. Прысуд дзяўчыны быў вельмі бязлітасны: «Я не хачу такога кахання. Ён дурнейшы ад мяне і менш багатая яго натура, хоць нашмат больш ад мяне бачыў і ведаў жыццё».



Мама — прыгажуня, тата — прыгажун. Было ў каго ёй удацца..

*Святлана Мусіенка паказвае старонку выдання «Przegląd Tygodniowy» з першым надрукаваным вершам Зоф'і Налкоўскай — пад назвай «Pamiętam». Побач, на старонцы дзённіка, — падлікі: яна атрымала за вершаваны радок больш, чым Марыя Канапніцкая. Звяртае на сябе ўвагу почырк пісьменніцы: «На рэдкасць чытальны», — кажа мая суразмоўца.*

— Зоф'я Налкоўская за сваё жыццё напісала сто два вершы. Яны знаходзяцца у рукапісных сшытках у Нацыянальнай бібліятэцы Варшавы. Што яшчэ цікава на першым, вершатворным, этапе яе жыцця? У той час у Польшчы прыжывалася новая практыка прадстаўлення твораў мастацтва — кабарэ. Яе запрасілі ў літаратурнае кабарэ чытаць свой верш. Прысутнічала там і «зорка» сярэдніх гадоў Тэрэсіта (Кшэмульская), але калі Зоф'я Налкоўская выйшла чытаць свой верш, усе звярнулі ўвагу на яе. У дзённіку яна напісала, што засланіла ўсіх — бо мала што вершы прыгожыя, дык і яна прыгожая. Ад сціпласці яна не пакутавала. Вось яна, Зоф'я Налкоўская, маладая.

*Святлана Мусіенка паказвае партрэт сапраўды вельмі прыгожай жанчыны. Побач — фотаздымак сястры Гані.*

— Трэцяя дачка Вацлава Налкоўскага памерла рана. Вось мама — прыгажуня, вось тата — прыгажун. Было ў каго ёй удацца. Бабуля напалову чэшка, напалову полька. А сястра Ганя стала настолькі вядомым скульптарам, што працы яе да гэтай пары ўпрыгожваюць Палац на вадзе ў Лазенках.

*За гэтай вітрынай прадстаўлены і першы празаічны твор Зоф'і — «Арліца», надрукаваны ў часопісе «Ogniwo». Мы бачым арыгінал.*

— Чаму я ўзяла ў экспазіцыю гэты твор? Не толькі таму, што ён першы, а і таму, што праз яго адбылося першае сутыкненне Зоф'і Налкоўскай з цэнзурай. 17-гадовая, яна прынесла ў рэдакцыю апавяданне з назвай «Белая арліца». І цэнзар Ульяновіч, «мілы п'яніца», як яго называлі, рускі па нацыянальнасці, кажа: «Давайце любую назву, толькі не «Белая арліца». Назавіце «Курыца» ці «Качка» — я прыму. Няважна, што вы напісалі, але важна, як вы назвалі твор». Пасля доўгіх спрэчак Зоф'я дала назву «Арліца». Здавалася б, першы твор, дзве старончкі друкаванага тэксту. Але тут яна нейкім чынам, хутчэй інтуітыўна, чым свядома, узняла праблему, якая пройдзе праз усю яе творчасць, — праблему «нядобрага», эгаістычнага кахання.



Зоф'я Налкоўская — самая прыгожая пісьменніца XX стагоддзя.


Nr. 12.
Warszawa, dnia 14 (1) Marca 1903 r.
OGNIWO
...ECZNY, LITERACKI I POLITYCZNY.
Pierwsza nowela Z.Nałkowskiej "Orlica".
Першае апавяданне З.Налкоўская "Арліца"
Первый рассказ З.Налковской "Орлица"
Orlica.

Першы празаічны твор Зоф'і Налкоўскай, надрукаваны ў часопісе «Ogniwo». Арыгінал.

Калі людзі кахаюць адно аднаго фізічна, інстынктам ці сэрцамі — чым хочаце, але не разумеюць адно аднаго. Такое каханне ператвараецца для іх у трагедыю. Такое каханне здарылася і ў яе — з абодвума мужамі. Чаму яна, апёкшыся ў першым замужжы, пайшла замуж другі раз? Вось ён, Ян Гжахоўскі, другі муж. Фота зроблена ў Гурках Валоменскіх. Зоф'я — у белай сукенцы злева. Ён быў старэйшы за яе на дзесяць гадоў. Паплечнік Пілсудскага. Лічылі нават, што яны сябры, але ў Пілсудскага сяброў не было. У 1919 годзе, калі быў зроблены замах на Пілсудскага, Гжахоўскі закрыў яго сваім целам. З варшаўскай турмы гэты чалавек, назваўшыся баронам Брумбергам, вывеў дзесяцярых арыштантаў, прыхільнікаў Пілсудскага. Пра яго быў створаны першы ў Польшчы дакументальны фільм. Увогуле, ён быў героем, да яго прозвішча быў далучаны прыдомак Юр — Віхур. З Зоф'яй ён пазнаёміўся на кватэры Густава Данілоўскага, пісьменніка старэйшага пакалення. Быў год мо 1916-ы, дату можна пашукаць, але яна тут не прынцыповая. Знаёмства адбылося арыгінальным чынам. Ён яе ўбачыў — і закахаўся адразу. Маючы жонку і трох сыноў, ведаючы, што вакол людзі, ён падышоў да яе і сказаў: «Калі ты не пойдзеш за мяне замуж, я заб'ю і цябе, і сябе». У 1922 годзе, калі яна стане яго жонкай, гэты эпізод Зоф'я возьме для заканчэння «Рамана Тэрэзы Хенарт».

З аднаго боку, яна ў яго закаханая. А з іншага, як пісьменніца яна адчувае яго натуру. І вось у рамане паўстае беспрынцыпны прыгажун і драпежнік палкоўнік Омскі. А перад тым у рамане «Граф Эміль» яна таксама ўвасабляе свайго мужа — у каменданце Жэляве, прыгажуне, і, як яна яго назаве, мілітарысцкай асобе. Ён падпарадкоўваўся тым, хто вышэй за яго, не задумваючыся, і камандаваў тымі, хто ніжэй, таксама не задумваючыся. Вось што гэта быў за чалавек. І ён быў не дурак, ён пазнаваў сябе ў яе тэкстах. Таму скандал быў непазбежны. А тады, калі яны пачалі сустракацца, яна запісала ў дзённіку яго словы: «Я цябе кахаю так, як прагнуў свежага паветра, калі сядзеў у адзіночнай камеры ў турме». І яшчэ адно прызнанне, самае рамантычнае, яна запісала ў свой дзённік: «Калі б мы жылі ў Сярэднявеччы, — казаў ён ёй, — ты была б дамай майго сэрца, і я прыйшоў бы да цябе, запырсканы крывёю, паклаў бы галаву табе на калені, а ты б гладзіла мае валасы». Хто ж не пойдзе за такім чалавекам? Яна была свабодная жанчына.

Тут, сярод экспанатаў, ёсць і першая частка яе рамана «Жанчыны». Першапачаткова гэта быў твор «Ледзяныя палі», але потым яна напісала яшчэ дзве часткі і стварыла такім чынам трылогію. Ужо тут у яе пачынае складвацца стэрэатып нешчаслівых узаемаадносін: паміж



Эдмунд Шаліт, які натхніў Зоф'ю Налкоўскую на напісанне п'есы «Дом жанчын».



інтэлектуалкай-жанчынай і эгаістычным нячулым мужчынам. Такая па́ра заўсёды расходзіцца, часам нехта ў ёй памірае, часцей мужчына: яна не хоча, каб памерла інтэлектуалка-жанчына.

Яе можна лічыць, хоць і ўскосна, удзельніцай рэвалюцыі 1905 года. Гэтую рэвалюцыю яна, канечне, не з вінтоўкай сустрэла, але адлюстравала ў невялікім апавяданні, назва якога ў перакладзе добра гучала б так: «Замак на пяску». У ім расказваецца пра апошнюю ноч рэвалюцыянера, перадаецца яго душэўны стан. Пазней будзе напісаны раман пад назвай «Князь». Князь — рэвалюцыйная мянушка. Але я табе скажу, што гэты самы князь — не хто іншы як рэальная асоба Стэфан Пагажэльскі, удзельнік рэвалюцыі 1905 года. У 1942 годзе ён расказваў таварышам у фашысцкай камеры, як яму ў маладосці падабалася Зоф’я Налкоўская. Другі ўдзельнік рэвалюцыі — вядомы ў Польшчы паэт Людвік Станіслаў Ліцініьскі, які быў моцна закаханы ў Зоф’ю Налкоўскую. Яна зрабіла яго героем наступнага твора пад назвай «Нарцыза». Тут яна ўжо іначай апісала рэвалюцыянера, які памірае. Людвік Станіслаў Ліцінскі, прататып гэтага героя, сапраўды паміраў, але не ў адзіноце. Налкоўская сядзела ля яго ложка, ён прызнаваўся ёй у каханні, а калі яна вечарам сыходзіла дамоў, то пісаў ёй лісты, поўныя кахання. Яна паспявала прачытваць іх вечарам і ранкам зноў ішла да яго. Увесь апошні месяц жыцця Ліцінскага яна не адыходзіла ад яго ложка і закрыла яму вочы. Не ведаю, куды падзеліся гэтыя лісты, бо захаваліся толькі да іншых людзей, але яны мелі ўжо іншы змест. Вось гісторыі двух мужчын, закаханых у яе ў маладосці. А пасля ўзнікла рамантычная гісторыя з другім мужам. Яны жэняцца і пасяляюцца спачатку пад Вільняй, а пасля ў Гродне.

Першы запіс пра наш горад зроблены ў яе дзённіку ў лістападзе 1922 года. Што такое Гродна ў лістападзе? Не дай Бог каму прыехаць сюды ў гэтым месяцы першы раз. Хмары носам закранаеш, неба шэрае, шэрыя і будынкі. Трэба ўявіць драўлянае, неадбудаванае пасля Першай сусветнай вайны, вельмі бруднае Гродна, у якім 26 тысяч жыхароў. Яна піша, што прыгожа размешчаны гэты горад на беразе цудоўнай ракі Нёман, але такі безгустоўны і так засмечаны людзьмі, што не хочацца ні на што глядзець.

Дзверы засталіся тыя самыя, хоць дом перабудавалі тысячу разоў.
Фота зроблена настаўнікам гісторыі сярэдняй школы № 12 горада Гродна Ігарам Храмчанкавым.

Яны пасяліліся ў доме, які я мела шчасце знайсці. Сфатаграфавала яго і тут жа памчала ў Варшаву, да Станіслава Земака, — упэўніцца, што знайшла правільна. Ён кажа: «Так, гэты дом, ты правільна знайшла. А як ты знайшла?» Я кажу: «У нас ёсць стары архівіст Плешавеня, ён дапамог». — «А хто там быў гаспадаром?» — «Вальтэр». — «Так. Дом Вальтэра, ён тады яго толькі пабудаваў». Яна апісала гэты дом у рамане «Нядобрае каханне». Цяпер на доме, дзякуючы мне, вісіць памятная дошка. Сучасны адрас — Акадэмічная, 15, а ў той час — Кірховая, 5. Яна з мужам фатаграфавалася ў садзе за гэтым домам, цяпер на месцы сада — адзінокае дрэва. Сям'я наймала кватэру на другім паверсе, з балконам. Зоф'я Налкоўская пісала пра два ўваходы, адзін з якіх з вуліцы, з разнымі дзвярыма. Гэтыя дзверы і засталіся, хоць дом перабудавалі тысячу разоў. А насупраць стаяў такі ж дом, і калі сабака Зоф'і Налкоўскай брахаў, то адгукаўся сабака на балконе насупраць. Ёй падабалася гэтая сабачая музыка. З боку кухні людзі прыходзілі да яе па дапамогу: яна займалася грамадскай працай. Да параднага пад'язджалі на тройках і на машынах. Дарэчы, першы аўтамабіль у Гродне меў муж Зоф'і Налкоўскай Ян Юр-Гажахоўскі. Прыбліжаны да Пілсудскага, ён тут, у Гродне, адбываў ганаровую ссылку. Кіраваў палявой жандармерыяй на памежжы з савецкай Расіяй, на ўчастку ад Украіны да Літвы.

Гродна адкрываецца перад ёй паступова. І паступова яна пачынае яго любіць. Спачатку выязджае за горад. Але не тым шляхам, дзе цяпер бульвар Ленінскага Камсамола цягнецца да ўрочышча Пышкі, а іншым — па вуліцы, якая праходзіць за стадыёнам, якога тады, безумоўна, яшчэ не было, — на тым месцы размяшчаліся яўрэйскія могілкі. Час мяняецца — мяняецца і горад. Тады ў Гродне налічвалася 26 тысяч жыхароў, 12 касцёлаў і цэркваў, адна кірха і — хто кажа 60, хто 48 сінагог. Вось такім было Гродна тады.

Акадэмічная, 15. Зоф'я Налкоўская жыла ў гэтым доме на другім паверсе, у кватэры з балконам.
Фота зроблена настаўнікам гісторыі сярэдняй школы № 12 горада Гродна Ігарам Храмчанкавым.





Скульптура Яна Багдана Хмялёўскага.




Тумба з афішамі.

*Святлана Мусіенка звяртае маю ўвагу на здымкі з выявамі Гродна таго часу і на дзве паштоўкі, прысланыя пісьменніцай са Швейцарыі, куды яна ездзіла з мужам, які меў хваробу ног. Бясцэнныя рэчы. Арыгіналы. Вось фота Станіслава Земака, таксама арыгінал. А гэта мэр Гродна, блізкі знаёмы Зоф'і Налкоўскай, і яго жонка. Пасля яна яго кіне, будзе называцца Надзеяй Друцкай і напіша нібы ўспаміны пра Зоф'ю Налкоўскую — але па сутнасці гэта былі старонкі рамана Налкоўскай «Мяжа», у тым ліку пра мужа самой Друцкай. Святлана Мусіенка вядзе аповед так, што не застаецца без увагі ніводзін, нават самы цёмны, куток.*

— Калі Зоф'я Налкоўская пісала эсэ «Гродна», яна ўжо вельмі любіла наш горад. Яна любіла яго вуліцы, яго гісторыю, і першая сказала пра тое, што Стары замак — не самы стары. Існуе частка брамы больш старога замка. Апошні раз Зоф'я Налкоўская ўспамінала Гродна за тыдзень да сваёй смерці. Гэты ўспамін зафіксаваны ў дзённіку. Мяне гэтая акалічнасць асабліва ўражвае. Яна жыла ў Гродне з 1922-га па 1927 год, прыязджала на некалькі дзён у 1929-м на адкрыццё помніка Элізе Ажэшцы і ў 1931-м ехала праз Гродна ў Навагрудак на юбілей «Пана Тадэвуша», дзе прысутнічала з кампазітарам Шыманоўскім. І ўсё жыццё ўспамінала гэты горад. Эсэ, напісанае ёю пра Гродна, мае адразу некалькі вартасцей: мастацкую — як вельмі эмацыйны твор, дакументальную — бо падрабязна апісвае Гродна таго часу, маральную — бо паказвае сваё стаўленне да гісторыі горада. Акрамя таго, у гэтым эсэ Зоф'я Налкоўская дэманструе такое веданне гісторыі, якое не заўсёды маюць гісторыкі. Вось што такое яе эсэ «Гродна». Яно тут прадстаўлена таксама ў арыгінале, у першадруку.

А гэта яе творы, у якіх дзеянне адбываецца ў Гродне або неяк звязана з ім. «Дом над лугамі» апісвае дом у Гурках Валоменскіх, але да апісання гэтага дома яе падштурхнула знаходжанне ў Гродне. «Сцены свету» — зборнік з васьмі апавяданняў, аб'яднаных пад гэтай назвай у 1931 годзе, — вынік яе працы ў Гродзенскай турме. «Раман Тэрэсы Хенарт» — раман, які, калі яна сюды прыехала, быў ужо напісаны, але калі яна ўбачыла, як жывуць у Гродне, то дапісала яшчэ дзве трэці старонкі — пра тое, як малады герой Лятэрна едзе на ўсходнія крэсы. Ёй важна было сказаць, што тут з палітыкай у дачыненні да нацыянальных меншасцей не ўсё ў парадку. За раман «Нядобрае каханне» — тут прадстаўлена яго супервокладка — яна атрымала прэмію горада Лодзь. Акрамя таго, у гонар гэтага твора быў адчаканены медаль з яе профілем. А вось раман «Мяжа» — у 1935 годзе ён быў абвешча-

ны лепшым раманам года. Больш за тое, яго паставілі на Тэат-ральнай плошчы, на хаду ператварыўшы ў драму. Гэта быў другі выпадак у гісторыі польскай літаратуры. Для чаго так зрабілі? Каб народ асудзіў ці апраўдаў галоўнага героя, якому за крыўду і падман адпомсціла «кухаркіна дачка Крысціна». Дзеянне, апісанае ў гэтым рамане, адбывалася ў рэальнасці ў Гродне ў 1925 годзе, пісьменніца была сведкай трагедыі.

*Вось старонка дзённіка, на якой почыркам Зоф'і Налкоўскай напісана, што яна вельмі чакае Яна, а ён такі непастаянны, што няма для яго нічога лягчэй, чым пакінуць яе. Святлана Мусіенка дае каментарый: «Ён прыйшоў, сунуў нос у яе дзённік і напісаў зялёнымі чарніламі, яны захаваліся лепш: «Аднак я вярнуўся і кахаю вельмі». Вось фота Стэфаніі Семпалоўскай, якая пакінула свае ўспаміны пра Элізу Ажэшку з урачыстасцей з нагоды яе юбілею 1892 года. «Семпалоўская была блізкім сябрам сям'і Налкоўскіх. У яе трагічная біяграфія, я не буду яе паўтараць», — кажа Святлана Мусіенка, а я адсылаю чытача да №5 часопіса «Маладосць» за мінулы год, у якім надрукавана наша размова пра Элізу Ажэшку і ўспамін пра яе з вуснаў Стэфаніі Семпалоўскай.*

*Побач з фотаздымкам Семпалоўскай — фотазды-*




Творы, у якіх дзеянне адбываецца ў Гродне або неяк звязана з ім.





Тыя самыя замкі і лесвіцы, толькі камеры былі адзіночныя..

*мак Тадэвуша Урублеўскага. З тым, які прымаў удзел у Парыжскай камуне, нічога агульнага ён не мае. Гэтая сям'я Урублеўскіх жыла ў Гродне, Тадэвуш вывучыўся на адваката і пераехаў у Вільню, але супрацоўнічаў з гродзенскім «Патранатам». З яго альбома ўзяты арыгіналы здымкаў Гродна, таксама прадстаўленыя тут, у музеі. Тадэвуша Урублеўскага запрашалі на самыя цяжкія судовыя справы, калі была ў тым патрэба.*

— Польскія даследчыкі зрабілі памылку. У падручніку для школ і ліцэяў, выдадзеным Евай Пянькоўскай, напісана, што Зоф'я Налкоўская жыла ў Гродне ў 1924—1926 гадах, а я знайшла, што ў 1922-м—1927-м. Што было прычынай памылкі? У той час у Еўропе існавала арганізацыя «Патранат», якая абараняла правы вязняў у турмах. Лічылася, што ў Польшчы ёсць тры страшныя турмы: Гродзенская, Лукішкі ў Вільнюсе і Павяк у Варшаве. Быў яшчэ і першы вопыт канцлагера — «Бяроза Картузская». Дык вось, Стэфанія Семпалоўская, якая з'яўлялася членам Інтэрнацыянала, была камуністкай міжнароднага значэння, захацела, каб у самых страшных турмах былі створаны самастойныя арганізацыі «Патраната». Я знайшла прозвішчы ўсіх, хто ўваходзіў у гродзенскі «Патранат». Старшынёй яго быў Матушэвіч, мясцовы суддзя, а Зоф'я Налкоўская выступала як член праўлення. Уяві сабе: муж яе ў гэты час кіруе справамі на мяжы. Калі ён «улазіў» у яе запісы, ён яе ў тыя моманты ненавідзеў, хоць быў слепа ў яе закаханы. Ён прасіў яе не займацца тым, што разбурае яго працу. А яна абараняла ў тым ліку і камуністаў. Спачатку не магла запісваць у дзённік іх прозвішчы і ўпісвала іх толькі тады, калі яны паміралі.

У архіве гродзенскай турмы ў 1986 годзе я знайшла пяць дакументаў, якія сведчаць пра тое, што Зоф'я Налкоўская жыла ў Гродне з 1922-га па 1927-ы год. У турму я хадзіла тры дні запар, зрабіла там здымкі, якія вазіла ў Варшаву, да Земака. Ён пацвердзіў: тыя самыя замкі і лесвіцы, толькі камеры раней былі адзіночныя. У дзённіку Налкоўскай яе грамадская служба вылучана асобна як «Więzienie 1924—1926» — вось адкуль ідзе памылка польскіх даследчыкаў.

А вось якія дакументы мне ўдалося знайсці. Першы — фрагмент ананімнага ліста, аўтарства якога я пасля лёгка ўстанавіла. Тут апісваюцца жахі Гродзенскай турмы і заклік нейкім чынам выправіць становішча. Маючы ксеракопію гэтага дакумента, я паехала ў Польшчу, а там мне ўдалося прачытаць брашуру Семпалоўскай, адрасаваную Пілсудскаму і міністру справядлівасці. Фрагмент гэтай брашуры якраз і распавядае пра Гродзенскую турму, слова ў слова як у тым дакуменце. Другі дакумент — фрагмент артыкула палітыка і журналіста Баляслава Вянявы-Длугашэўскага для тыднёвіка «Валька», дзе ён піша, што нельга, каб такія скаты, як Мечыслаў Кабылецкі, узначальвалі турму, бо гэта разбурае ўяўленні пра Польшчу як краіну справядлівасці. Наступны дакумент — адкрыты данос на імя міністра справядлівасці ад начальніка турмы Мечыслава Кабылецкага. Тут Зоф'ю Налкоўскую ён бярэ сабе ў абаронцы (а дзённік сведчыць пра зусім іншае). А вось яго ліст да Налкоўскай, у якім ён просіць, каб яна абараніла яго ад паклёпаў. Яна вельмі асцярожна дала яму адказ, каб гэты адказ не адбіўся на лёсах вязняў: каб начальніку турмы выкарыстоўваць жонку начальніка такога высокага ўзроўню, трэба атрымаць дазвол Яна Юра-Гажахоўскага. Вялікі скандал разгарэўся з-за падземнай часткі турмы, дзе быў карцэр, куды павінны былі змяшчаць вязняў на кароткі час, а сядзелі там пастаянна, прычым жанчыны, у тым ліку і цяжарныя. І вось загадка для сучасных навукоўцаў: хто вынес на волю ліст тых жанчын, надрукаваны пасля ў тыднёвіку «Валька»? Гэтых пяці дакументаў хопіць, каб напісаць кнігу.



GRODNO

GRODNO

(Zdjęcia J. Wołyńskiego)

Ze wszystkich szos, jakiemi z wędró-
wek naszych powracamy do Grodna,
ukazuje nam się ono zawsze naprzód
ślicznemi wieżami swoich kościołów.
Czasami wyrośnie pierwsza przejrzysta
o dwóch kondygnacjach wież kościoła po-
bernardyńskiego, czasami są to dwie wspa-
niałe wieże Fary, czasami długi grzbiet za-
niemeńskiego kościoła Franciszkanów, cza-
sami znów za niska i za gruba wieża ko-
ścioła garnizonowego, niedokończona jesz-
cze, chociaż to jest właśnie najstarszy ko-
ściół w Grodnie.
To ukazywanie się wież najdziwniejsze
wydało mi się kiedyś, gdy wracaliśmy we-
sołą, krętą szosą ze wsi, która, nie wiem
dlaczego, nazywa się Bala Solna i leży
w ślicznem miejscu, na trójkącie ziemi mię-
dzy Niemnem i małą rzeczką, która do
Niemna tu wpada.
Pojechaliśmy tam po gwałtownej letniej
burzy i wpoprzek tej małej rzeki leżała
olbrzymia stara wierzba zwalona. A wo-
da, idąca do Niemna, opływała tę wierzbę,
myła ją, ciągnęła za sobą i wlokła, jak
grzebieniem, jej miękkie utopione gałę-
zie. Starała się jakby na wszelkie sposo-
by załagodzić tę bolesną sprawę.
Otóż, wracając szosą z tej Bali Solnej,
krainą w tem miejscu zieloną i bezleśną,
zobaczyłam w jasnej zieleni jednego wzgó-

tykaine, że mogłam poprostu wychylić
się z samochodu i sięgnąć po nie ręką,
jak po zabawki. A przecież wiedziałam,
że są to wielkie, wspaniałe, o wiele ki-
lometrów oddalone odemnie wówczas
wieże Fary.
Ale zaraz zasunęły się na to widzenie
nowe zielone wzgórza i wieże znikły, jak
miraż. By później wyrosnąć przed nami
za jakimś załomem drogi wraz z całem
białem, rozległem, oprawnem w pola
i gaje, świecącem się w słońcu miastem.
Widzenie tych małych wież wśród tra-
wy było tak niespodziewane i urocze, że

parę razy po drodze miałam ochotę po-
wrócić jeszcze na tamto miejsce — by je
zabrać.
Z różnych naszych powrotów, z mostu
na Niemnie, z wielu punktów miasta
można też było widzieć zawsze dziwny,
poczerniały klejnot z XI czy XII wieku —
małą świątynkę po-bazyljańską na Ko-
łoży. Stoi wysoko na cyplu wybrzeża,
panując nad okolicą — wczepiona mocno
w samą krawędź przepaści niemeńskiego
jaru.
Prawa jej ściana zwaliła się raz zgóry
do płynącej wody Niemna z całem zbo-

Most kolejowy na Niemnie

Эсэ «Гродна».

*Наступны стэнд з экспанатамі звязаны з другім прыездам Зоф'і Налкоўскай у Гродна — у 1929-м, для адкрыцця помніка Элізе Ажэшцы. Фотаздымак з адкрыцця помніка, на якім добра відаць, дзе ён стаяў, бо цяпер ён займае іншае месца. Тут Зоф'я Налкоўская трэцяя ад помніка, з белым каўнерыкам. «Я ў вялікую лупу яе разглядзела», — кажа Святлана Мусіенка. Вось здымак з пахавання Элізы Ажэшкі. Вось яна яшчэ жывая, у сваім салоніку. Вось яе дом — сапраўдны, яшчэ не знесены. «А гэта прадмет зайздрасці ўсіх маіх*



Фота зроблена ў Гурках Валоменскіх. Зоф'я — у белай сукенцы злева..

*калег-даследчыкаў — першая паштоўка з выявай Элізы Ажэшкі і фотаздымак пісьменніцы, атрыманыя ад нашчадкаў яе ўрача. Калі Януш Одрованж- Пенёнджэк, дырэктар музея літаратуры ў Варшаве, прыехаў пaглядзець мой музей, ён сказаў: «Takiego nie mam». Першы артыкул-даследаванне пра тое, як Эліза Ажэшка ратавала Рамуальда Траугута, таксама можна ўбачыць тут.*

— Ад'езд Зоф'і Налкоўскай з Гродна быў страшны. Па сутнасці, пра гэта апавядаецца ў «Нядобрым каханні», дзе паказана трагедыя галоўнай гераіні Агнешкі і яе мужа Паўла, іх развод. У канцы 1926 года ў дзённіку Зоф'я Налкоўская піша: «Я ў адчаі, таму што самы блізкі чалавек замест таго, каб ратаваць, нібы штурхаў мяне ў бездань, а калі я рукамі хапалася за яе край, то ён таптаў мне пальцы, каб я звалілася». Вось так яна фігуральна апісала сваю сітуацыю. Далей піша так: «Я пакідаю тут усё: мае любімыя кнігі, прадметы, нават сваю Дзіяну». Так звалі яе сабаку. Станіслаў Земак расказваў, што было так: прыехала яе мама, скруціла пасцель, схапіла рэчы, якія трапілі ў рукі, і загадала з'язджаць. Бо ўбачыла, што гэта за эгаіст і як ён даводзіць яе да грані. Ён страшна раўнаваў — і ў той жа час сам ёй здраджваў. Жыццё яе ператварылася ў сапраўдную пакуту. Па ўспамінах яе сяброў-літаратараў, калі яны прыходзілі да яе ў госці і нехта пытаў у Гажахоўскага: «Вы так не любіце літаратараў?», ён адказваў: «Не тое што не люблю — ненавіджу». Уяўляеш, госці ў доме, а гаспадар пра іх так выказваецца. Вось так ёй з ім жылося. Адной з тых, з кім ён ёй здраджваў, была яе сяброўка па творчасці, з якой яны напісалі кнігу, — Ванда Мельцэр.

У шафе сабраны кніжкі, выдадзеныя пры яе жыцці. Філіжанка для кавы не яе, яна належала маёй бабулі, але гэта прадмет з таго часу. А вось будзільнік зроблены ў Гродне — тут некалі быў гадзіннікавы завод. Пішучая машынка… Машынку падарыў прафесар з Кракава Лешак Беднарчук. Яна не друкавала на машынцы, гэта Марыя Дамброўская друкавала. Але я ўзяла сюды

машынку, бо гэта 1920-я гады, як я магла яе не ўзяць? Не хапае толькі тэлефона 1920-х гадоў. Патрэбны хатні, вытанчаны, з вензелямі.

А цяпер наступная старонка яе творчасці, таксама звязаная з Гродна. На плошчы перад Вялікім тэатрам у Варшаве ігралі сцэну з яе рамана «Мяжа». Першы падобны выпадак датычыцца рамана Стэфана Жэромскага «Гісторыя граху» і датуецца 1912 годам. І тут, і там адбылося апраўданне гераінь з народу.

*Праграмкі яе п'ес. Газета, дзе яна апісвае падзеі 1905-га. Кушэтка… «Яна любіла пісаць на кушэтцы, як да́мы перыяду Дырэкторыі, — каб ногі былі не на падлозе. Крэслы належаць да таго часу». Доўгія вузкія палоскі паперы… «Мода» таго часу. «Гэта яе манера пісаць».*

— А гэта быццам тумба для афіш. Фотаздымак яе сустрэчы з акцёрамі, афішы п'ес «Дом жанчын» і «Дзень яго вяртання», узятыя з розных гадоў, бо і п'есы пастаўлены рознымі рэжысёрамі. Яна напісала тры п'есы. Адна з іх — «Дом жанчын» — абышла сямнаццаць краін адразу пасля напісання, мела неверагодны поспех і шмат перакладаў на мовы свету. Яна яе пісала пра сябе, але важны тут не так сюжэт, як псіхалогія: калі дзеянне замяняецца станам душы і глядач гэтага не заўважае. Вось такая гэта была п'еса. Быццам чэхаўскі варыянт, але напісана не па-чэхаўску, а па-свойму. Прадмет натхнення — вусаты мужчына са стэнда насупраць, звалі яго Эдмунд Шаліт. На час сустрэчы з Налкоўскай меў жонку, якая чакала дзіця. Гэта было напярэдадні Першай сусветнай. Ён, канечне, прызнаўся ў каханні Налкоўскай, але яна адказала яму словамі Элізы Ажэшкі: «Ніколі не будзе на гэтым свеце нашага дома». Яна не хацела рабіць нешчаслівай яго жонку. Ён загінуў на той вайне. Дачка нарадзілася пасля смерці бацькі.

Другая п'еса, «Дзень яго вяртання», напісана ў 1930-м. Тут яна паказала псіхалогію чалавека, які прысвойвае сабе права быць суддзёй. Малады чалавек выхоўваецца ў шляхецкай сям'і, дзе пануе дастатак, але няма любові. Ксаверый вырастае эгаістам. Пачынаецца Першая сусветная вайна. Можа, калі б яна не пачалася, ён застаўся б эгаістычным дзіцём правінцыі. Але на вайне ён атрымаў права забіваць. І першы выбар, які ён зрабіў на карысць забойства, датычыўся двух палонных, якіх ён мог адпусціць, — гэта было ў яго волі. Але ён іх забіў. З гэтага і пачалося. З вайны ён вяртаецца жывым і здаровым. Жонка яму здрадзіла — ён вырашае забіць яе. Здрадзіла з яго сябрам — ён забівае і сябра. І ўсё ў адзін дзень. Яна пісала гэтую гісторыю па матэрыялах гродзенскай турмы, бо мела, безумоўна, доступ да ўсіх спраў. Ёй было важна паказаць псіхалогію чалавека з распаразанымі інстынктамі, які распараджаецца лёсамі іншых людзей, чалавека, выхаванага ў «сценах свету», але свету бязлітаснага і жорсткага, чалавека вайны. Першы раз яна занялася гэтым, калі яшчэ ў 1924—1925 гадах пісала турэмныя навелы, аб'яднаныя ў зборнік «Сцены свету». Там яна выкарыстала мастацкі прыём, да якога вярнулася ў 1946—1947 гадах пры напісанні зборніка «Медальёны», сусветна вядомага, перакладзенага нават на мову эсперанта. У гэтым зборніку аўтар нібы адсутнічае, а яго ролю выконваюць самі героі, яны апавядаюць пра навакольны свет і адкрываюць сваю душу. Пазней гэты мастацкі прыём выкарыстаў Адамовіч, таксама Брыль, Калеснік і Алексіевіч, а першай была Зоф'я Налкоўская.

Вось яшчэ адна цікавая рэч. Копія яе партрэта пэндзля Віткацыя, 1930 год. Яна піша, што Віткацый зрабіў тры яе партрэты, а ён сцвярджаў, што адзін. Дзе праўда? Не ведаю. Я спецыяльна ездзіла ў Пултуск. У мясцовай карціннай галерэі знаходзіцца больш за дваццаць жаночых партрэтаў, намаляваных Віткацыем, але партрэта Налкоўскай там не было.

Цяпер падыдзем да новага стэнда. Гэта апошняе дзесяцігоддзе яе жыцця. Пасля Другой сусветнай вайны яна паспела атрымаць усе магчымыя ўзнагароды. Была кіраўніком польскай місіі міжнароднай арганізацыі па расследаванні фашысцкіх злачынстваў. Вось карта, але не геаграфічныя назвы на ёй пададзены, а назвы канцэнтрацыйных лагераў у Польшчы. Паглядзі, як засеяна. Іх больш за дзве тысячы — 2160, здаецца. Пазней у некаторых адкрывалі музеі пакут людзей, якія прайшлі праз гэтыя выпрабаванні.

А гэта першае выданне кнігі «Вузлы жыцця». Тут упершыню яна называе Гродна. Да гэтага рамана пісьменніца пазбягала гэтай назвы, а тут у аснову пакладзены гродзенскія дзённікі. І тут дзве, я б сказала, часовыя катэгорыі: мінулае — гродзенскі перыяд, і сучаснае — 1939 год, напярэдадні Другой сусветнай.





А тут яе легітымацыі: і дэпутат, і кіраўнік розных камісій, вось яна з піянерамі, вось з пісьменнікамі. Вось Вільгельм Мах, таксама ў яе закаханы. Ён напісаў захапляльную прадмову да яе выбраных твораў, і яна яшчэ паспела іх убачыць.

*Святлана Мусіенка паказвае эскізы шыльды, прымацаванай цяпер на доме, дзе жыла Налкоўская, фотаздымак з яе адкрыцця, скульптуру, зробленую Янам Багданам Хмялёўскім, прафесарам Акадэміі мастацтваў. «Ён падарыў яе ў дзень адкрыцця нашай кафедры». Скульптура зроблена на падставе фотаздымка пісьменніцы з гродзенскага перыяду яе жыцця.*

***

— Нешта ёсць незвычайнае ў гэтай зямлі. Яна прыцягвае людзей. Як піша Станіслаў Земак у кнізе, прысвечанай Элізе Ажэшцы, ад яе, з яе няяркай, затуманенай прыгажосцю, адысці немагчыма. А гэта ж была правінцыя. І яна, вядомая пісьменніца, «вытанчаная дама літаратуры», з'язджае ў гэтую глуш з мужчынам, дзеля яго, бо стала яго жонкай. Калі я спытала ў Земака, якой была Налкоўская ў жыцці, ён адказаў так: «Чытала «Нядобрае каханне»? Памятаеш, як яна пісала пра Агнешку, якая пасля сябе пакідала нейкую блакітную аўру? Вось такая была і Налкоўская. Яе нельга было ўспрымаць абыякава. Яна пакідала след у душы кожнага». Земак меў жонку і дачку. Жонка, дарэчы, памерла ў Гродне і тут пахавана, таму ён прыязджаў сюды неаднаразова. Ён быў сведкай, як муж Налкоўскай груба размаўляў з ёю. Тады закаханы Земак сказаў: «Пані Зоф'я, давайце ўсё кінем і ўцячом». Яна паглядзела на яго без здзіўлення і стомлена: «У мяне столькі праблем, а тут яшчэ і вы са сваім каханнем». Гэта я ад Земака пачула. Яго гісторыя таксама цікавая. Я табе калі-небудзь яе раскажу…

***

*P.S. ад Святланы Мусіенкі.*

Размова вялася на рускай мове. Мая вельмі ўдзячная слухачка, галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» спадарыня Святлана Воцінава зрабіла цудоўны пераклад гэтай размовы на сакавітую і прыгожую беларускую мову, за што «прамоўца» выказвае ёй сардэчную ўдзячнасць.

**Леанід Лаўрэш**

# Лідская павятовая вучэльня

Пасля паўстання 1831 года ў нашым краі адбыліся моцныя змены ў сістэме адукацыі. Пасля закрыцця Віленскага універсітэта Лідскай павятовай вучэльняй, падрыхтоўчым класам і казённай прыходскай 2-х класнай вучэльняй у Шчучыне кіравала Віленская дырэкцыя вучэбнай акругі[1].

Указам ад 3 студзеня 1834 года была заснавана вучэльня для мяшчан у Лідзе[2] і зацверджаны штаты[3]. Але ўжо 22 лістапада 1835 года вучэльня была скасавана і ператворана ў *«пяцікласную павятовую для шляхты вучэльню»*[4]. Чаму гэта адбылося, становіцца зразумелым з рапарта міністра адукацыі Пратасава цару Мікалаю І «Аб рэвізіі... вучэбных установаў Беларускай акругі». Міністр пісаў: *«У Лідзе і Пружанах мяшчанскія вучэльні з дастаткова добрымі настаўнікамі, але маюць вельмі мала вучняў. ... Так званыя мяшчанскія вучэльні ў заходніх губернях павінны звярнуць на сябе асаблівую ўвагу начальства. У гэтых губернях сярод мяшчан вельмі мала хрысціян, гэты клас амаль што цалкам прадстаўлены яўрэямі, шляхта ж, нават самая дробная, чужаецца мяшчанскіх вучэльняў, лічачы, што колькасць вучэбных прадметаў надта абмежаваная, бо сярод іх няма сучасных моў. Таму вучэльні ў Кейданах, Лідзе, Пружанах застаюцца амаль што цалкам без вучняў, і яны бескарысныя ў гэтым краі. Таму я прапаную... пераўтварыць іх у пяцікласныя павятовыя вучэльні, якія ў Заходнім краі завуцца шляхецкімі, але ў якіх з даўніх часоў вучыліся мяшчане і нават яўрэі»*[5]. Са штату Лідскай пяцігадовай павятовай вучэльні бачна, што ў ёй працавала большая колькасць настаўнікаў і вывучалася французская і нямецкая мова[6]. Таму ў 1843 годзе ўказам Сената быў пацверджаны штат павятовых вучэльняў[7].

Ліквідацыя ўніі закранула і павятовую вучэльню. Выкладчык гісторыі і геаграфіі Нестар Асоўскі пры скасаванні уніяцкай царквы спрабаваў перайсці ў рыма-каталіцтва. 24 студзеня 1840 года губернскія ўлады даручылі лідскаму гараднічаму, каб ён *«для вяртання настаўніка лідскай гарадской вучэльні Нестара Асоўскага з лацінства ў прыроднае праваслаўе, паступіў адпаведна з цыркулярным прадпісаннем ...»*[8]. У сакавіку 1840 года настаўнік Асоўскі пісьмова засведчыў, што ён *«прызнае прыродны праваслаўны абрад і ў рымскае веравызнанне не пераходзіў»*[9].

У нядзелю, 23 жніўня 1842 года, пажар знішчыў дах і купал касцёла піяраў, значна пашкодзіў жылыя будынкі і знішчыў усе драўляныя пабудовы, непашкоджанымі засталіся толькі рэчы, якія знаходзіліся ў сакрыстыі. Былы рэктар піярскага вучылішча Вайшвіла пісаў, што пажар адбыўся з-за таго, што прагарэла печ у лазні аднаго з лідскіх яўрэяў. Каб не плаціць штраф, яўрэі самі паціху пачалі тушыць пажар. Каталікі горада якраз былі на службе ў касцёле піяраў і Фарным. Пасля службы яны, *«склаўшы рукі, назіралі за тым, як гарыць лазня»*. Аднак агонь хутка перакінуўся на дахі суседніх дамоў, а потым загарэліся лёхі з гарэлкай. Пажар хутка ахапіў горад, знішчыў піярскія будынкі і каля 80 яўрэйскіх і 40 хрысціянскіх дамоў[10]. Згарэла

[1] Материалы для географии и статистики Росиии, собранные офицерами генерального штаба. /Сост. П. Бобровский. — Часть II. — Санкт-Петербург, 1863. — С. 182—184.

[2] Сборник постановлений по Министерству народного просвещения, 1825—1839. — Т. 2. Ч. 1. — С-Петербург, 1864. — С. 503.

[3] Гадавым штатам прадугледжваліся: штатны наглядчык (аклад 243 руб. у год), тры *«настаўнікі навук»* (194 руб. кожнаму), настаўнік польскай мовы (194 руб.), два настаўнікі рэлігіі (136 руб. кожнаму), на навучальныя дапаможнікі — 55 руб. у год, на ўзнагароды вучням — 14 руб., утрыманне школы і інш. — 243 руб. у год. — Гл.: Сборник постановлений по Министерству народного просвещения, 1825—1839. — Т. 2. Ч. 1. Штаты и приложения. — С-Петербург, 1864. — С. 21.

[4] Сборник постановлений по Министерству народного просвещения, 1825—1839. — Т. 2. Ч. 1. — С-Петербург, 1864. — С. 790.

[5] Дополнение к сборнику постановлений по Министерству народного просвещения, 1803—1864. — С-Петербург, 1867. — С. 488—489.

[6] Штаты павятовай пяцікласнай шляхецкай вучэльні ў 1839 г.: штатны наглядчык (аклад 500 руб. у год), два выкладчыкі рэлігіі (150 руб. кожнаму), два старшыя настаўнікі: рускай і лацінскай моў (400 руб. кожнаму), тры малодшыя настаўнікі: матэматыкі, гісторыі і геаграфіі ў дапамогу старшым настаўнікам ў малодшых класах (300 руб. кожнаму), два настаўнікі французскай і нямецкай моў (240 руб. кожнаму), настаўнік малявання, чарчэння і чыстапісання (150 руб.), на навучальныя дапаможнікі — 80 руб., на ўзнагароды вучням — 20 руб., на утрыманне школы, служыцеляў і інш. — 250 руб. — Гл: Сборник постановлений по Министерству народного просвещения, 1825—1839. — Т. 2. Ч. 1. Штаты и приложения. — С.-Петербург, 1864. — С. 56.

[7] Сборник постановлений по Министерству народного просвещения, 1825—1855. — Т. 2. Ч. 2. Штаты и приложения. — С.-Петербург, 1864. — С. 25; 325.

[8] Лідскі гісторыка-мастацкі музей. — Ф. 2741. — Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэну за 1840 г. — Загад ад 24 студзеня 1840 г.

[9] Тамсама. — Загад ад 8 сакавіка 1840 г.

[10] Kurkowski Jarosław. Pijarzy w Werenowie i Lidzie // Z dziejów Ziemi Lidzkiej. — Warszawa, 1997. — S. 80.



Прыкладна 1899 год.
Вучні і настаўнікі Лідскай павятовай вучэльні.
У цэнтры: штатны наглядчык, выкладчык матэматыкі і геаграфіі, надворны саветнік Фёдар Ануфрыевіч Ахрыцкі, каля яго: протаіерэй Іосіф Восіпавіч Каяловіч (настаўнік праваслаўнага веравызнання), ксёндз-дэкан Іосіф Сянкевіч (настаўнік каталіцкага веравызнання), настаўнік рускай мовы і гісторыі Іван Марцінавіч Палу, настаўнік чыстапісання, чарчэння і малявання Якаў Прохаравіч Кашын.

вялікая бібліятэка, якая ў 1830 годзе налічвала 1464 тамоў, а пасля пераносу ў 1841 годзе сюды кніг з калегіумаў Воранава і Вільні (якія месціўся на Сніпішках) — 1787 тамоў.

Нягледзячы на намаганні рэктара Язафата Вайшвілы губернскія ўлады, каб апраўдаць набыццё разбураных будынкаў, не дазволілі пачаць рэканструкцыю. У 1843 годзе гродзенскі губернатар загадаў передаць касцёл праваслаўнай царкве, прылеглае крыло кляштара — пад праваслаўную плябанію, а асноўную частку (усходняе крыло) — пад павятовую дваранскую вучэльню і жытло настаўнікаў[11].

Памятная кніга Віленскай губерні за 1845 год сведчыць: ганаровым наглядчыкам за павятовай дваранскай вучэльняй быў губернскі сакратар Аляксандр Ленскі, а штатным наглядчыкам (дырэктарам) — надворны саветнік Фелікс Падэрыя (узнагароджаны ганаровым знакам за 20 гадоў беззаганнай службы). Рэлігію ў вучэльні выкладаў праваслаўны святар Ігнат Нямшэвіч і ксёндз Клемент Лінкін, рускую мову — Канстантын Багданаў, лаціну — Карл Заблоцкі (надворны саветнік), матэматыку — Норберт Доўнар, гісторыю і геаграфію — Нестар Асоўскі (калежскі сакратар), нямецкую мову — Фрыдрых Гільберт (губернскі сакратар), французскую мову — Іван Масіні, маляванне і чыстапісанне — Іосіф Урбановіч, настаўнікам падрыхтоўчага класа быў Ануфры Сасно, штатным ўрачом — Рафал Садоўскі (тытулярны саветнік)[12]. Са спіса выкладчыкаў бачна, што лідская дваранская вучэльня мела дастаткова грунтоўную праграму і была сапраўдным спадкаемцам выдатнай сістэмы піярскай адукацыі. Менавіта ў тыя часы атрымоўваў адукацыю сын вялікага гісторыка Теадора Нарбута і лідар паўстання на Лідчыне 1863 года Людвік Нарбут. Ён пачаў вучыцца ў Лідскай павятовай вучэльні і, скончыўшы яе каля 1846 года, паступіў ў Віленскую гімназію[13].

У 1858 годзе Лідская дваранская пяцікласная вучэльня была рэфармавана ў трохкласную. 9 чэрвеня 1858 года цар Мікалай I паставіў рэзалюцыю на запісцы «Аб пераўтварэнні павятовых шляхецкіх вучэльняў Віленскай вучэбнай акругі», сярод іншага ў запісцы было напісана: «*... Да 1850 г. шляхецкія вучэльні адпавядалі ... пяці ніжэйшым класам гімназіі. Са з'яўленнем у гімназічным курсе законазнаўства і прыродазнаўчых навук і спыненнем выкладання лацінскай мовы ў шляхецкіх вучэльнях ... страчана неабходная сувязь гэтых навучальных устаноў з гімназіямі ... самыя ж вучэбныя ўстановы страцілі мэту, для якой былі заснаваныя, а менавіта даць магчымасць сваім выхаванцам беспяшкодна пераходзіць у вышэйшыя класы гімназіі. Каб ... выйсці з такога становішча ... трэба было змяніць курсы навук, зрабіўшы іх закончанымі і ... узгодненымі з курсамі гімназій. Каб выканаць гэта ... недастаткова сродкаў. Таму Папячыцель Віленскай вучэбнай акругі прапануе: ... 2) Замест існуючых ... 19 шляхецкіх павятовых вучэльняў заснаваць 7 гімназій ... і 12 трохкласных павятовых вучэльняў. [...] Закрыць шляхецкія вучэльні ў ... Лідзе*

[11] Kałamajska-Saeed Maria. Kościół p.w. Sw. Jozefa Kalasantego i klasztor Pijarow w Lidzie // Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa wileńskiego. — T. 2., cz. III. — Kraków, 2008. — S. 143—144.

[12] Памятная книжка Виленской губернии на 1845 г. — Вильно, 1845. — С. 108—109.

[13] Karbowski W. Ludwik Narbutt. Życiorys wodza w powstaniu styczniowem na Litwie. — 1935. — S. 35—41.

*... замяніўшы іх трохкласнымі вучэльнямі з захаваннем назвы «шляхецкія», бо з-за значнай колькасці беднай шляхты ў краі вучыцца ў іх будзе ў асноўным шляхта, а жыхары ўжо звыкліся з гэтай назвай. [...] Заснаванне шляхецкіх павятовых вучэльняў у складзе 5 класаў, роўных ніжэйшым класам гімназіі, выклікана было значнай колькасцю вучняў у гэтым краі ... і той акалічнасцю, што пасля адабрання ў 1831 г. выхавання юнацтва з рук Рымакаталіцкага духавенства ... урад меў на ўвазе адкрыццё ў краі ўстаноў, якія б суадносіліся з былымі вучэльнямі духавенства, якія па большай часткі адпавядалі гімназіі»*[14]. Такім чынам, павятовая вучэльня да 1858 года давала адукацыю, якую ўмоўна можна было назваць няпоўнай сярэдняй. Пасля ж 1858 года павятовыя вучэльні перасталі ўпісвацца ў агульную сістэму адукацыі.

Спробы пераўтварыць былы касцёл піяраў у царкву былі адкладзеныя сама меней да 1855 года. У гэтым годзе быў складзены каштарыс, як аказалася, замалы, таму ў 1862 годзе быў прадстаўлены новы каштарыс на 4313 рублёў. У выніку перабудовы ў 1863 годзе было знесена ўсходняе, найвялікшае крыло будынка, дзе месцілася павятовая вучэльня[15], і ў жніўні 1863 года будынак былога касцёла быў асвечаны як праваслаўная царква[16].

З Памятнай кнігі Віленскай губерні за 1862 год відаць, што ў апошні год існавання ўжо трохкласнай вучэльні ў былых піярскіх мурах штатным наглядчыкам (дырэктарам) і выкладчыкам гісторыі геаграфіі быў Людвіг Ігнатовіч. Рэлігію выкладаў праваслаўны святар протаіерэй Іосіф Каяловіч і ксёндз Ян Свірскі, рускую мову — Фларыян Штарк, матэматыку — Нікіфар Голуб, маляванне і чыстапісанне — Восіп Урбановіч, настаўнікам падрыхтоўчага класа быў Сямён Рудзінскі, урачом вучэльні — Рафал Садоўскі[17]. У адрозненне ад пяцікласнай вучэльні, у трохкласнай не выкладаліся замежныя мовы, а агульны узровень адукацыі выпускнікоў вучэльні — знізіўся.

[14] Сборник постановлений по Министерству народного просвещения, 1855—1864. — Т. 3. Штаты и приложения. — С-Петербург, 1865. — С. 277—279, 281.

[15] Kałamajska-Saeed Maria. Kościół p.w. Sw. Jozefa Kalasantego i klasztor Pijarow w Lidzie // Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa wileńskiego. — T. 2., cz. III. — Kraków, 2008. — S. 145.

[16] Литовские епархиальные ведомости. — 1863. — № 17. — С. 629—632.

[17] Памятная книжка Виленской губернии на 1862 г. — Вильно, 1862. — С. 61.




Лідская гарадская вучэльня (злева) каля замка.

Рускі афіцэр Любарскі, які служыў у Лідзе перад паўстаннем, пісаў: «*Рускія людзі ў цывільнай адміністрацыі краю сустракаліся вельмі рэдка, большай часткай толькі ў губернскіх гарадах, у павятовых рускі чалавек уяўляў сабой выключную з'яву. Прытым тутэйшы рускі службовы люд быў зусім адмысловага гатунку. Карэнных выхадцаў з Расіі заносіла сюды якая-небудзь выпадковасць, у большасці ж рускія службоўцы былі рускімі толькі па сваёй афіцыйнай прыналежнасці да праваслаўнай рэлігіі, але нарадзіліся ў краі ад змешаных шлюбаў і першыя ўражанні дзяцінства ўспрынялі ад маці ... . Такія назіранні я вынес з вельмі многіх гарадоў Паўночна-Заходняга Краю, куды мяне кідаў лёс. Даўжэй за ўсё мне прыйшлося пражыць з батальёнам нашага палка ў горадзе Лідзе, Віленскай губерні. Тут у цывільнай адміністрацыі, пачынаючы з гараднічага, усе былі тутэйшыя. Праўда, знайшоўся адзіны рускі, наглядчык павятовай вучэльні, званы па польскай тэрміналогіі «панам прэфектам», ды і той быў горкі п'яніца*[18]. *Гэта быў карэнны русак, але ў маральных адносінах зусім безасабовы. Відаць, яго схавалі ў гэтую глухмень за п'янства. Да сваёй вучэльні ён амаль не меў дачынення, і ... настаўнікі выкладалі так, як хацелі, без усякага кантролю; балазе ў той час яшчэ не была ўсталявана, як зараз, сістэматычная рэвізія выкладання з боку акруговых начальнікаў. У «присутственных» месцах паперы пісаліся па-руску з перакручанай граматыкай, але ў паветры канцылярый не чутно было ніводнага рускага слова*»[19].

[18] Наглядчыкам трохкласнай павятовай дваранскай вучэльні ў Лідзе ў 1860 годзе быў надворны саветнік Аляксандр Аляксеевіч Шахаў (гл.: Памятная книжка Виленской губернии на 1860 г. — Вильно, 1860. — С. 39.), з 1861 года пасаду заняў калежскі асэсар Людвіг Людвігавіч Ігнатовіч. (гл.: Памятная книжка Виленской губернии на 1861 г. — Ч. 1. — Вильно, 1861. — С. 59.)

[19] Любарский И. В. В мятежном крае. (Из воспоминаний) // Исторический вестник. — 1895. — Март. — С. 818.




Лідская гарадская вучэльня з вучнямі.

Удзельнік паўстання 1863 года і выпускнік Лідскай павятовай вучэльні Мірон Бранiслаў Нарбут так апісваў адносіны лідчан перад паўстаннем да справы адукацыі і выхавання сваіх дзяцей: «*Выхаванне гарадской моладзі доўга было ў заняпадзе, абмяжоўвалася навучаннем сына ў гімназіі*[20] *альбо ў павятовай школе, а пасля заканчэння гэтых устаноў адпраўлялі ў войска ці чыноўнікам у якую-небудзь установу. Сыны больш заможных бацькоў пасля заканчэння школ асядалі пры бацьках альбо асобна і, навучыўшыся граць у прэферанс, гандляваць коньмі на ярмарках ці трохі паляваць, лічыліся сталымі людзьмі. Рэдкі лідзянін пасылаў сына ва ўніверсітэт. Толькі з 1855 года настаў больш шчаслівы час для набыцця адукацыі. Найперш засценкавая шляхта, а за ёй і ўсе астатнія гараджане пачалі выхоўваць сваіх дзяцей ва ўніверсітэтах і вышэйшых навучальных установах, а некаторыя вучылі нават на інжынераў і тэхнікаў. Дзяўчынкі ў большасці выхоўваліся дома пад наглядам матак альбо ў прыватных пансіёнах Вільні, і па сутнасці іх выхаванне было заўжды больш практычным, чым у мужчын, над якімі яны часта стаялі вышэй з пункту гледжання маралі і розуму. З 1860 года, калі ў цэлым краі пачаў абуджацца інтэлектуальны рух, актыўна клапаціліся аб заснаванні народных школ і лідзяне, а духавенства пашырала дзейнасць таварыства цвярозасці вельмі паспяхова, так што побыт лідзян значна палепшыўся, і ў 1862 годзе спаткаць п'янага лідзяніна было ўжо рэдкасцю*»[21].

Параза паўстання 1863 года выклікала чарговы інтэлектуальны заняпад у нашым краі і справакавала далейшую ўніфікацыю сістэмы адукацыі. У 1864 годзе ў Лідзе яшчэ існуе трохкласная дваранская вучэльня[22], але ў «Памятнай кніжцы Віленскай вучэбнай акругі» за 1866 год у Лідзе ўжо фігуруе двухкласная павятовая вучэльня[23]. Вырак цара па справе «Скасаванне адных і пераўтварэнне іншых вучэбных устаноў Віленскай вучэбнай акругі» адбыўся 15 чэрвеня 1865 года і гэтым выракам чарговы раз быў паніжаны ўзровень адукацыі ў нашым горадзе[24].

Пасля забойства народавольцамі цара Аляксандра II шмат дзе ў імперыі збіраліся грошы на імянныя стыпендыі для навучальных устаноў. 20 кастрычніка 1883 года была прынята пастанова «Аб заснаванні пры Лідскай павятовай вучэльні стыпендыі ў памяць дваццаціпяцігоддзя царствавання ... спачыўшага гасудара імператара Аляксандра II»: «*... жыхары Ліды і Лідскага павета сабралі, па добраахвотнай падпісцы, 400 руб., каб на працэнты з гэтага капіталу была заснавана стыпендыя ў памяць ... нябожчыка ... імператара Аляксандра II*»[25].

Мемуары лідчаніна Януша Сегеня ўказваюць, што ў другой палове XIX стагоддзя ў горадзе месцілася павятовая вучэльня: «*Прыходская школа размяшчалася насупраць царквы ў доме пані Крахельскай. ... . Павятовая вучэльня была на вуліцы Каменскай у доме пана Рудніцкага*»[26].

З адрас-календара Віленскага генерал-губернатара на 1868 год мы даведваемся, што Ганаровым наглядчыкам павятовага вучылішча быў граф фон Гутэн-Чапскі. У вучылішчы працавалі наступныя выкладчыкі: штатны наглядчык (дырэктар) і выкладчык рускай мовы Пратасевіч Ілья Усцінавіч (скончыў Пецярбургскі ўніверсітэт, праваслаўнага веравызнання, на пасадзе з 1867 года, жалаванне — 750 рублёў і казённая кватэра); протаіерэй Каяловіч Іосіф Восіпавіч,

[20] Бліжэйшай гімназіяй была Віленская.

[21] Narbutt M. Lida i Lidziane // Ziemia Lidzka. — 1997. — № 26—27.

[22] Памятная книжка Виленской губернии на 1864 г. — Вильно, 1864. — С. 66.

[23] Памятная книжка Виленской губернии на 1864 г. — Вильно, 1864. — С. 90—91.

[24] Сборник постановлений по Министерству народного просвещения, 1865—1870. — Т. 4. — С.-Петербург, 1871. — С. 183.

[25] Сборник постановлений по Министерству народного просвещения, 1881—1883. — Т. 8. — С.-Петербург, 1892. — С. 183, 1615—1616.

[26] Януш Сегень. Успаміны пра Ліду канца XIX ст. // Лідскі летапісец. — 2002.— № 4(20). — С. 26.

настаўнік праваслаўнага веравызнання (скончыў Літоўскую духоўную семінарыю, жалаванне — 225 рублёў); ксёндз Вікенці Раецкі, настаўнік каталіцкага веравызнання (скончыў Рыма-каталіцкую семінарыю, жалаванне — 190 рублёў); настаўнік матэматыкі Голуб Ніканор Данілавіч, калежскі сакратар (скончыў Пецярбургскі ўніверсітэт, жалаванне — 575 рублёў); настаўнік малявання і чыстапісання Пятроў Аляксей Пятровіч (скончыў Строганаўскую школу малявання, жалаванне — 510 рублёў[27]).

З вышэйсказанага відаць, што ў вучэльні выкладалася толькі руская мова, арыфметыка, маляванне і рэлігія — узровень адукацыі апусціўся да ўзроўню пачатковай школы.

У канцы 1860-х — пачатку 1870-х у Лідскай павятовай вучэльні пачаў сваю адукацыю будучы генерал ад інфантэрыі і міністр абароны БНР Кіпрыян Антонавіч Кандратовіч[28]. У 1874—1876 гадах тут вучыўся таксама вядомы біёлаг Зыгмунт Макрэцкі[29].

Лепшы знаўца гісторыі Лідчыны XX стагоддзя, аўтар шэрагу выдатнейшых, не страціўшых сваёй навуковай каштоўнасці да нашага часу артыкулаў па гісторыі Лідчыны Міхал Шымялевіч каля 1890 года таксама скончыў Лідскую павятовую вучэльню[30]. Падчас яго вучобы выкладалі: штатны наглядчык (дырэктар), выкладчык матэматыкі і геаграфіі, надворны саветнік Сцяпан Сямёнавіч Свідэрскі, протаіерэй Каяловіч Іосіф Восіпавіч — настаўнік праваслаўнага веравызнання, ксёндз Іосіф Дэксніс — настаўнік каталіцкага веравызнання, настаўнік рускай мовы і гісторыі Уладзімір Паўлавіч Юзафовіч, настаўнік чыстапісання, чарчэння і малявання Мікалай Канстанцінавіч Кастанцінаў[31].




Атэстат Адольфа Малеўскага аб заканчэнні Лідскай чатырохкласнай гарадской вучэльні ў 1905 годзе. Вывучаліся: Закон Божы, руская і царкоўнаславянская мовы, арыфметыка, геаметрыя, прыродазнаўства і фізіка, гісторыя і геаграфія, чыстапісанне, чарчэнне і маляванне. У атэстаце адзначана, што Малеўскі можа атрымаць першы клас чыноўніка без іспытаў і карыстаецца льготамі на падставе закона аб воінскай павіннасці.

А вось што пісаў пра вучобу ў павятовай вучэльні 1890-х гадоў былы вучань гэтай установы і сябар Шымялевіча Караль Ёдка: «*Ліда была ў тыя часы ціхім малым павятовым горадам, у якім не было аніводнай крамы з кніжкамі, паперу для пісьма можна было дастаць толькі ў некалькіх шапіках, а фарбы для малявання толькі у аптэчнай краме Эпштэйна. Вучні ... набывалі неабходныя кніжкі ў самой школе. Зрэшты, падручнікі — напрыклад, «Детский мир» ці «Родное слово» — нязменна выкарыстоўваліся на працягу некалькіх гадоў і служылі ажно да поўнага знішчэння некалькім генерацыям вучняў, пераходзячы ад старэйшага брата да малодшага*

[27] Адрес-календарь Виленского генерал-губернаторства на 1868 год. — С.-Петербург, 1868. — С. 64—65.

[28] Jodko Karol. Psie lata. Pamiętnik lidzianina z przed 50 laty // Ziemia Lidzka. — 1937. — №10. — S. 113.

[29] Макрэцкі Зыгмунт Анастазы (Zygmunt Anastazy Mokrzecki) нарадзіўся 2 мая 1865 года ў маёнтку Дзітрыкі Белагрудскай воласці Лідскага павета. Выхоўваўся ў бабкі ў маёнтку Вінкаўцы пад Лідай. Вучыўся ў павятовай школе ў Лідзе (1874—1876) і ў рэальнай школе (гімназіі) ў Вільні (1879—1884). Пасля заканчэння гімназіі паступае ў Лясны інстытут у Пецярбурзе (1884—1890), дзе становіцца вучнем выбітнага расейскага заолага і энтамолага М. Халадкоўскага. Пасля заканчэння інстытута атрымаў дыплом лесніка другой ступені. У студзені 1890—1892 гг. працаваў памочнікам лясніча ва Ўправе дзяржаўных маёмасцей у Харкаве, атрымоўваў адначасова спецыяльнасць энтамалогіі і заалогіі ў Харкаўскім універсітэце. Утвораная ў 1893 годзе пры Таўрычскім губернскім земстве першая ў Расіі пасада губернскага энтамолага была прапанавана Макрэцкаму. На наступныя 28 гадоў застаўся ў Крыме, ажыццяўляючы там дзейнасць навуковую, папулярызатарскую і арганізацыйную у галіне аховы раслін. Галоўны губернскі энтамолаг Таўрычскай губерні (1893—1917). Зыгмунт Макрэцкі стварыў у Сімферопалі Прыродазнаўчы гістарычны музей. У 1920 годзе, калі Чырвоная Армія ўварвалася ў Крым, З. Макрэцкі разам з дачкой, як і тысячы іншых людзей, уцёк з Крыма праз Севастопаль у Канстанцінопаль. Ад пачатку 1921 года — энтамолаг і інспектар аховы лясоў у Сафіі. Пасля прыезда ў Польшчу 1 студзеня 1922 года быў прызначаны надзвычайным прафесарам, а з 1 красавіка 1922 года — прафесарам звычайным і кіраўніком кафедры і інстытута энтамалогіі і аховы лесу ў Галоўнай сельскагаспадарчай школе ў Варшаве. Памёр 3 сакавіка 1936 года ў Варшаве.

[30] Памятная книжка Виленской губернии на 1902 г. — Вильно, 1901. — С. 271.

[31] Памятная книжка Виленской губернии на 1890 г. — Вильно, 1889. — С. 240—241.




Першы выпуск Лідскай вышэйшай пачатковай вучэльні, 1914 год. Выпускнікі і выкладчыкі: інспектар П. С. Труцько, Г. А. Грыньцэвіч, І. Ц. Аўсяннікаў, І. В. Більдзюк, падпаручнік А. С. Аляксееў, Н. А. Мансарт, Н. В. Сямёнаў.

*ці да малодшага школьнага сябра. У кожным класе і службовым памяшканні на сцяне вісеў партрэт цара Аляксандра III і таблічка з надпісам «Говорить по-польски воспрещается»*[32].

Караль Ёдка заўважаў, што мінімальнай адукацыяй для атрымання першага дзяржаўнага чыну — калежскага рэгістратара была якраз двухкласная павятовая школа: *«Хто меў пасведчанне аб заканчэнні такой школы, мог смела лічыць, што носіць у ранцы маршальскую булаву»*[33].

Аўтары цытаваных тут успамінаў Януш Сегень і Караль Ёдка, гісторык Міхал Шымялевіч і дзед маёй жонкі Юзаф Хруль былі аднакласнікамі-выпускнікамі Лідскай павятовай вучэльні, якія сябравалі і захоўвалі добрыя асабістыя стасункі на працягу ўсяго жыцця.

«Памятная кніжка Віленскай вучэбнай акругі» за 1896 год дае нам наступную інфармацыю пра вучэльню: на наём памяшкання з казны выдзяляецца 500 рублёў у год, на ўтрыманне настаўнікаў — 1925 рублёў 5 капеек у год. У 1895—1896 навучальным годзе тут вучыліся 63 вучні.

У вучылішчы выкладалі: штатны наглядчык (дырэктар), выкладчык матэматыкі і геаграфіі, надворны саветнік Сцяпан Сямёнавіч Свідэрскі, на службе з 1870 года, на пасадзе — з 1884 года, узнагароджаны ордэнамі Анны і Станіслава 3-й ступені, жалаванне — 500 рублёў у год і кватэрныя грошы; протаіерэй Іосіф Восіпавіч Каяловіч, настаўнік праваслаўнага веравызнання, на службе з 1857 года, на пасадзе — з 1860 года, узнагароджаны ордэнамі Уладзіміра 4-й ступені, Анны 2-й і 3-й ступені, «наперстным крестом», медным медалём у памяць аб уціхамірванні польскага мяцяжу 1863-64 гг., камілаўкай, скуф'ёю і г. д., жалаванне — 150 рублёў, дадаткова 75 рублёў і пенсія 180 рублёў; ксёндз Казімір Станіоніс, настаўнік каталіцкага веравызнання, на службе і пасадзе з 1895 года, жалаванне — 150 рублёў; настаўнік рускай мовы і гісторыі, чыноўнік 12 класа (губернскі сакратар) Уладзімір Мікалаевіч Сірачынскі, скончыў Віленскі настаўніцкі інстытут, жалаванне — 350 рублёў і 40 рублёў кватэрных; настаўнік чыстапісання, чарчэння і малявання, чыноўнік 14 класа (калежскі рэгістратар) Якаў Прохаравіч Кашын, жалаванне — 300 рублёў і 40 рублёў кватэрных[34].

У пачатку XX стагоддзя вучэльня была рэарганізавана ў гарадскую чатырохкласную вучэльню. Прэса паведамляла, што Лідская *«існуючая павятовая вучэльня ў 1900/1901 навучальным годзе, згодна з пастановай гарадскіх упаўнаважаных ад 30 верасня*

[32] Jodko Karol. Psie lata. Pamiętnik lidzianina z przed 50 laty // Ziemia Lidzka. — 1937. — №10. — S. 114.
[33] Там жа. — S. 113.

[34] Памятная книжка Виленской губернии на 1896 г. — Вильно, 1895. — С. 259.

*1899 г., пераўтворыцца ў гарадскую вучэльню, ... за наём памяшкання выдаткоўваецца 1000 руб. у год»*[35]. Новы будынак для вучэльні быў арандаваны на 6 гадоў у Мардуха Пупко[36]. Але падобна, што гарадская вучэльня пачала працаваць толькі з 1 ліпеня 1902 года[37].

Гарадскія вучэльні ў Расійскай імперыі існавалі на падставе Палажэння, зацверджанага 31 мая 1872 года. На думку заканадаўцы, гэтыя ўстановы павінны быць агульнаадукацыйныя, прызначаныя «*для гарадскога насельніцтва, і пераважна для яго беднай часткі*». Іх мэта — даць закончаную агульную элементарную адукацыю і тыя веды, якія могуць быць найбольш карысныя ў практычным жыцці. У чатырохкласнай вучэльні навучанне працягвалася шэсць гадоў: курс першых двух класаў — 4 гады, а 3 і 4 класаў — 2 гады.

Рэарганізацыя павятовых вучэльняў у гарадскія пачалася ў імперыі з другой паловы 1874 года, але рухалася павольна. Паводле справаздачы міністра народнай асветы за 1884 год, на працягу 10 гадоў з 402 павятовых вучэльняў, якія падлягалі пераўтварэнню ў гарадскія, былі ператвораныя толькі 184. У Беларусі такая рэарганізацыя практычна пачалася толькі з канца XIX стагоддзя і закончылася на пачатку XX стагоддзя. У гарадскія вучэльні прымалі дзяцей, старэйшых за 7 гадоў з усіх станаў грамадства. Гадавая плата хісталася ад 8 да 18 руб. Вучні, якія паспяхова закончылі курс першых чатырох гадоў, маглі без экзаменаў паступаць у першы клас гімназіі ці рэальнай вучэльні[38] і атрымаць сярэднюю адукацыю.

Двухпавярховы цагляны дом Мардуха Пупко, дзе месцілася гарадская вучэльня, стаяў на поўнач ад Лідскага замка, у некалькіх дзясятках метраў ад яго. Фасадам будынак быў павернуты да дзвюх соснаў на паўночным схіле замка, тут жа быў і галоўны ўваход у вучэльню. Яшчэ калі павятовая вучэльня знаходзілася на вуліцы Каменскай, вучні часта прыходзілі менавіта сюды, да замка, як быццам акружанага аўрай легенд і паданняў. Міхал Шымялевіч успамінаў пра часы вучобы: «... *на месцы ... сучаснага мураванага дома (у Гедымінаўскім завулку ў Лідзе), у якім знаходзіцца агульнаадукацыйнай школа № 5*[39], *стаяла старое драўлянае гумно — склад усялякай вайсковай старызны, а завулак Гедзімінаўскі — вузкі, балоцісты і цёмны — усімі месцічамі абмінаўся. Тут не раз здаралася, што жаўнер, які ўначы стаяў на варце, стрэлам з карабіна ўздымаў трывогу, тлумачачы, што сярод старых таямнічых сосен яму нешта здалося і настрашыла. У той час на вуліцах не толькі электрычнасці не было, а нават і звычайнай алеевай лямпы на слупе. Старыя бабы, лежачы на цёплых ляжанках, умелі апавядаць і вельмі цікава расказвалі пра розныя страшныя рэчы, якія рабіліся ў замку і пад замкам: пра замкнутага у замкавай вежы невінаватага чалавека, пра скрыні на ланцугу са скарбам, пра страшнага сабаку, які пільнуе ўваходы ў замкавыя падзямеллі, пра замкавыя лёхі і ходы, якімі можна ехаць чацвёркай коней да Вільні і Наваградка, пра каралеву, якая раз у год выходзіць з замкавых падзямелляў і просіць ў першага сустрэтага ёю лідзяніна, каб замовіў набажэнства за ўратаванне яе пакутнай душы — набажэнства павінна адбыцца толькі ў замку, і ксёндз павінен не забыць прынесці ўсё патрэбнае з касцёла, але ксёндз заўсёды нешта забываў, ці яму перашкаджала паліцыя, пра зачараваных у тых соснах дзвюх каралеў і г.д. У тыя часы лідзяне свята верылі, што ў пэўны дзень, у 12 гадзін апоўдні, а можа, уначы, калі зрабіць насечкі на кары сосен, з іх будзе пырскаць кроў. Хто з нас не спрабаваў гэта на практыцы? Колькі на кары нічым невінаватых сосен засталося знакаў ад нашых сцізорыкаў?*»[40]

У тыя часы лідзяне свята верылі, што ў пэўны дзень, у 12 гадзін апоўдні, а можа, уначы, калі зрабіць насечкі на кары сосен, з іх будзе пырскаць кроў. Хто з нас не спрабаваў гэта на практыцы? Колькі на кары нічым невінаватых сосен засталося знакаў ад нашых сцізорыкаў?

---

[35] Виленские губернские ведомости. — 2 августа 1900г. — № 61.
[36] Виленские губернские ведомости № 45. — 9 июня 1904г.
[37] Виленские губернские ведомости № 85. — 26 октября 1902г.
[38] http://dic.academic.ru/dic.nsf/brokgauz_efron/31428/Городские

[39] Гэты будынак каля замка сёння не існуе, да 1915 года ў ім месцілася павятовая вучэльня, а з 1920-х гадоў агульнаадукацыйная школа № 5 імя Людвіка Нарбута.
[40] Szymielewicz Michał. Nasze drzewa. Sosna // Ziemia Lidzka № 1 —1938. — S. 8.

«Литовские Епархиальные Ведомости» ў 1901 годзе надрукавалі справаздачу аб ушанаванні 40-гадовай педагагічнай дзейнасці аднаго са старэйшых выкладчыкаў вучэльні протаіерэя Іосіфа Каяловіча[41]: *«27 ... лютага ў цесным педагагічным кружку было арганізавана сціплае, але вельмі сардэчнае ўшанаванне найстарэйшага педагога ... вучэльні, законавучыцеля, протаіерэя І. Каяловіча ў сувязі з 40-годдзем яго педагагічнай дзейнасці. Пасля ўрокаў у актавай зале вучэльні на чале са штатным наглядчыкам Ф. Л. Навіцкім сабраліся ўсе навучэнцы хрысціянскіх вучэльняў г. Ліды. Збор ўшанавалі сваёй прысутнасцю спадарства участковы інспектар А. І. Ланачэўскі і прадвадзіцель дваранства І. Р. фон Віт. Набажэнства спяваў хор вучэльні на чале з дасведчаным кіраўніком, настаўнікам І. М. Палу. Пасля набажэнства ад імя прысутных юбіляру быў паднесены абраз Выратавальніка. Падносячы гэты дарунак, штатны наглядчык Ф. Л. Навіцкі вітаў юбіляра прамовай. ... Расчулены выступам, а. Каяловіч падзякаваў за аказаны яму гонар і сказаў, што ... ён ад душы цешыцца значнаму павелічэнню колькасці навучэнцаў праваслаўнага спавядання ... (бо) быў час, калі ў гэтай школе даводзілася выкладаць слова Божае аднаму вучню»*[42].

З 1899 года інспектарам (ці дырэктарам па-сучаснаму) і выкладчыкам старэйшых класаў у павятовай вучэльні быў прызначаны Фёдар Людвігавіч Навіцкі (закончыў Віленскі настаўніцкі інстытут, на пасадзе з 3 лістапада 1899 года). Рэлігію выкладаў протаіерэй Іосіф Каяловіч і ксёндз-дэкан Сянкевіч (на пасадзе з 26 студзеня 1894 года). Настаўнікі пачатковых класаў Фёдар Лявонцьевіч Даўгапол (на пасадзе з 1 ліпеня 1903 года) і Гаўрыіл Іванавіч Катлінскі (на пасадзе з 1 кастрычніка 1902 года), настаўнік гімнастыкі паручнік 172-га Лідскага пяхотнага палка Уладзімір Іванавіч Грэцкі (на пасадзе з 3 сакавіка 1900 года)[43].

Згодна з пастановай гарадскіх упаўнаважаных ад 31 студзеня 1906 года, на арэнду памяшкання для гарадской вучэльні выдаткоўваецца 800 рублёў. З 29 студзеня 1903 года гарадскія ўлады гатовы плаціць за меркаванае вывучэнне нямецкай мовы ў гарадской вучэльні 50 рублёў у год[44].

Вучыцца ў Лідскай гарадской вучэльні было складана, пра што ў 1907 годзе пісала «Наша Ніва»: «*Ліда. Нам пішуць, што тут вельмі ціснуць вучняў гарадскога вучылішча. Інспектар несправядліва выгнаў вучня Б. За нейкае глупства настаўнікі калечаць усё жыццё маладому хлопцу»*[45].

З Памятнай кніжкі Віленскай губерні за 1914 год бачна, што Лідская гарадская чатырохкласная вучэльня была рэарганізавана ў Лідскую вышэйшую пачатковую вучэльню, якая таксама складалася з чатырох класаў з гадавым курсам навучання ў кожным. У Лідскай вышэйшай пачатковай вучэльні працавалі: *«Інспектар — калежскі асэсар А. Ф. Дубкоў. Законавучыцелі: праваслаўнага веравызнання а. І. І. Каяловіч, рымакаталіцкага — вакансія. Настаўнікі: В. В. Шыла, Д. Д. Матусевіч, Г. А. Грынцэвіч, Н. В. Сямёнаў, спеваў — І. І. Нядбайлік. Штатны ўрач Э. Ф. Рэнерт, дантыст М. В. Стукатар, настаўнік гімнастыкі падпаручнік Аляксееў»*[46]. Хутка калежскага асэсара Дубкова на пасадзе інспектара змяніў тытулярны дарадца Павел Сцяпанавіч Труцько[47], які да гэтага выкладаў у другой Віленскай вышэйшай пачатковай вучэльні і ў прыватнай чатырохкласнай прагімназіі С. А. Кавалюка[48].

У адрозненне ад папярэдняга перыяду праграма вышэйшых пачатковых вучэльняў давала больш шырокую агульнаадукацыйную падрыхтоўку і была набліжана да сярэдняй адукацыі. Пачала выкладацца алгебра, геаметрыя, фізіка. Маляванне, чарчэнне, спевы і гімнастыка з прадметаў пазакласных заняткаў сталі класнымі.

Лідская вышэйшая пачатковая вучэльня праіснавала да 1915 года і перад уступленнем нямецкіх войскаў у горад была эвакуіравана на ўсход.

[41] Пра І. Каяловіча гл. Протаіерэй Іосіф Каяловіч // Лідскі летапісец. —2009. — № 1—2 (45—46). — С. 23.

[42] Литовские Епархиальные Ведомости. — 1901. — №12. — С. 95—96.

[43] Памятная книжка Виленской губернии на 1904 г. —Вильно, 1904. — С. 211.

[44] Виленские губернские ведомости. — 26 сентября 1907г. — № 76.

[45] Nasza Niwa. — 30 marca 1907. — №13.

[46] Памятная книжка Виленской губернии на 1914 год. — Вильно, 1914. — С. 197.

[47] Памятная книжка Виленской губернии на 1915 год. — Вильно, 1915. — С. 185.

[48] Памятная книжка Виленской губернии на 1914 год. — Вильно, 1914. — С. 70, 58.

Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання

# праект «ВАРШТАТ»

**Стагоддзі:** XIX

**З’ява:** кнігарня «Эліза Ажэшка і С-ка»

**Асобы:** Эліза Ажэшка, Вінцэнт Хэлмінскі, Вацлаў Макоўскі

**У выпуску:**

- Святлана Воцінава. Рэтраспектыўны рэспект.
  На адрас кнігарні «Эліза Ажэшка і С-ка»
- Рэха Францыска Скарыны ў сучасным свеце.
  *Конкурсныя сачыненні навучэнцаў каледжаў ГрДУ і яго студэнтаў*



жмвзд аюте пафы

**Святлана Воцінава**

# Рэтраспектыўны рэспект

## На адрас кнігарні «Эліза Ажэшка і С-ка»

**У час, блізкі да святкавання пяцісотгоддзя друкавання кніг на нашай зямлі, ці ў час, ад гэтага святкавання аддалены — больш або менш, з аднолькавым імпэтам гаворыцца пра адных і аднолькава нічога — пра іншых. Прынамсі, імёны такіх мужоў, як Будны, Сматрыцкі, Базылік, Зізаній, Цяпінскі, Мсціславец і іншыя (не кажучы пра Скарыну, але ніяк яго ў памяці не абыходзячы), маюць у гэтай тэме нашмат болей шанцаў на згадкі, чым імя адной мужнай жанчыны (і з прозвішчам моцным: Ажэшка — Арэшак), якая таксама імкнулася ў справе кніжнай і асветніцкай нешта ды перайначыць: удасканаліць, паправіць, прыўзняць. Хоць гэта нядзіўна.**

Полька па нацыянальнасці, але грамадзянка Расійскай Імперыі. Пісала і пра яўрэяў, і пра беларусаў, але па-польску. Ну, як тут вызначыць культурную прыналежнасць… Дагэтуль не ведаем, вывучаць яе творчасць у школе глыбока ці так, толькі «прабегчыся», дагэтуль рашаем, свая яна ці не шкода яе «аддаць». А між тым…

«Хачу, каб па доўгім, магільным маўчанні Літва падала голас. Хачу, каб гэты голас яна падала на той мове, на якой ішлі да яе стагоддзямі дабрадзейныя промні цывілізацыі. Хачу, каб зацвердзілася незнішчальнасць вузла, зацягнутага ў далёкім мінулым. Хачу, каб тыя з нас, хто застаўся далёка ад сучаснага свету, і тыя, хто, знудзіўшыся рэхамі чужых старонак, ступілі на бездарожжа, якое вядзе да нікчэмнасці, знаходзілі тут, пад рукою, каля сябе, з таго грунту, які нарадзіў іх, натхненне, падказкі і перасцярогі».

Гэтыя словы Эліза Ажэшка напіша ў лісце да Леапольда Меета, свайго, бадай, найлепшага ў жыцці сябра (прынамсі, з ім можна падзяліцца чым захочаш), 1 кастрычніка 1879 года, калі ўрачыстасці з нагоды адкрыцця кнігарні «Эліза Ажэшка і С-ка» ўжо адбудуцца, а хваляванні яшчэ не адпусцяць.

Увогуле, уцягнуць сябе ў гэтую справу — «абдумваць і ўпарадкоўваць выданні» — Эліза Ажэшка мела шанец і на тры гады раней, у 1876-м, па запрашэнні аднаго выдаўца з Варшавы па прозвішчы Наскоўскі. Але тады ідэя не атрымала развіцця з прычын хутчэй палітычных, чым якіх іншых, — калі дакладней, то з-за паўстання сербаў і руска-турэцкай вайны. Не ўсім такія акалічнасці былі перашкодай, але адбылося як адбылося: Эліза Ажэшка аказалася спачатку падбухторанай, а пасля незапатрабаванай. А мы ж ведаем, што такое ідэя, пасеяная ў прыдатную глебу: яна пускае парасткі ў выглядзе прагі да дзеяння, і нават калі іх наўмысна ці ненаўмысна абломваць, дасягнуць гэтым можна аднаго — умацавання кораня. Цяпер пані Эліза атрымала прапанову заняцца такой самай справай — толькі ў Вільні, «яшчэ поўнай павеваў даўно прамінулага шчасця». Канечне, яна пагадзілася без сумненняў.

Чаму ў Вільні? Трэба думаць, што без Божага промыслу не абышлося. Але і паводле меркавання самой пані Элізы, новая кнігарня ў Вільні была неабходная. Зрэшты, гэтаксама, як і ў Гродне, і ў іншых гарадах той мясцовасці, дзе ў культурным жыцці людзей склаліся, як пісала яна, два напрамкі, дзве з'явы, якія на першы погляд не могуць існаваць побач, а вось жа не толькі існуюць, але і ствараюць адно аднаму прычыны.

З'явы гэтыя — зацяты клерыкалізм і моцны ўхіл у бок нігілізму. Прыроду такога супрацьстаяння Эліза Ажэшка апісвае вельмі вобразна і нават дасціпна (хоць гэта не тая дасціпнасць, якая выклікае ўсмешку замілавання, а тая дасціпнасць, скрозь якую прабіваецца прыняцце (ад безвыходнасці) і ўнутраны боль). «Кансерватызм, які першапачаткова ідзе ад патрыятызму, — піша пані Эліза ў лісце да Тэадора Томаша Ежа, — сустракае тут скептыцызм,

### Пра незразумелыя літаркі на вокладцы праекта «Варштат»

*З нумара ў нумар, ад студзеня да снежня 2017-га на вокладцы сур'ёзнага праекта, прысвечанага значнай даце, размяшчаецца абракадабра?!*

*Ніякая не абракадабра, а… арбадакарба. Баарракадрба. Аьматацаьма. F,hfrflf,hf. Бвсблбебвсб. Што мы выкарысталі для зашыфроўкі такога простага слова «абракадабра» — тарабарскую грамату, мудрую літарэю, шыфр пад назвай ROT1, іншыя перастановачныя ключы?*

*На вокладцы нашага праекта размяшчаецца не абракадабра, а зашыфраваная частка выказвання. Займець цэлы зашыфраваны выраз магчыма толькі пры чытанні ўсіх нумароў «Маладосці» за год. Сабраўшы часткі ў парадку, які супадае з нумарацыяй часопіса, знайшоўшы ключ і расшыфраваўшы выказванне, можна атрымаць ад «Маладосці» шыкоўны прыз!*

*Месца выдачы прызоў — рэдакцыя «Маладосці». Тэрмін выдачы: 25—31 снежня 2017 года.*



які, у сваю чаргу, ідзе ад касмапалітызму і ад нянавісці да самога сябе адскоквае ў два процілеглыя канцы, на якіх патрыятызм ужо цалкам змяняе сваю прыроду і ператвараецца ў клерыкалізм, а скептыцызм кідае шукаць праўду, бо знаходзіць яе ва ўсім, з чым спрачаецца процілеглае». І адбываецца такая неспадзяванка: «Клерыкалізм узносіць і пашырае нігілізм, а той штурхае кансерватызм да мяжы, дзе пануюць абсурд і ідыятызм».

У звычайным, нармальна арганізаваным грамадстве, кажа Ажэшка, у такіх выпадках паміж «канцавымі фракцыямі» ўзнікае трэцяя, сярэдняя, якая не толькі штурхае першую, але і стрымлівае другую, і так улагоджвае кантрасты, што «схільнасць да акрабатычных скокаў у бок мінуўшчыны або будучыні неяк сама сабой памяншаецца». Такая фракцыя-пасрэднік, разважае далей яна, знайшлася б мо і ў гэтай мясцовасці, але як ёй сябе тут абвясціць і сцвердзіць? Праз прэсу гэта, маўляў, немагчыма, праз катэдру — тым больш, а клубы, згуртаванні і іншыя сродкі прапаганды здаюцца зусім ужо неверагоднымі. Умераныя, хоць і прагрэсіўныя людзі цвярозай думкі, зважаючы на час, месца і чалавечую натуру, — сядзяць і маўчаць, кажа пані Эліза.

Што застаецца?

Чытанне.

«Сродак гэты тым лепшы, што ў Вільні, як і ўвогуле на Літве, чытаюць шмат і ўсё болей», — піша Ажэшка. А што чытаюць? Перыёдыку польскую і расійскую, адна выдаецца ў Варшаве, другая — у Пецярбургу, і тая, і тая пра справы правінцыі або не піша зусім, або піша «пабежна» ці нават няправільна.

«Што да кнігарні і выдавецкага руху, — працягвае пані Эліза, — то гэтыя справы трымае ў сваіх руках фірма Юзафа Завадскага». Але якую літаратуру ён прапануе? Пісьменніца называе яе скандальнай. І кажа, што трэба, каб з'явілася ў Вільні кнігарня, якая вынайшла б і прапанавала грамадству нешта трэцяе паміж «Ісусам Хрыстом» і «Ізабэлай Іспанскай».

Яна хацела, каб кнігарні служылі справе прапаганды новых паглядаў і каб гэта рабілася праз выданне новых кніг. Такое празрыстае, патрэбнае з усіх бакоў жаданне.

На той час у Вільні, калі верыць канцыляры тамтэйшага губернатара, існавала насамрэч не адна толькі кнігарня Юзафа Завадскага, а 6 кнігарань, 24 дробныя кніжныя лаўкі і 2 бюро па продажы перыёдыкі. Юзаф Завадскі гандляваў кніжкамі польскімі і замежнымі, а таксама газетамі. Іншыя кнігарні былі зарэгістраваны на некага Сыркіна (кнігі расійскія), прускага падданага Lambecka (кнігі замежныя), Sory Ass (кнігі расійскія і іншыя), Краснасельскага (кніжкі старыя і новыя на розных мовах) і Шэвела Неймана (кніжкі расійскія і польскія для набажэнстваў).

Была, праўда, яшчэ адна кнігарня — закладзеная ў 1876-м выпускніком універсітэта Густавам Воўкам і настаўнікам музыкі Стэфанам Раманоўскім. Абодва не мелі ні адпаведнага досведу, ні хоць якога патрэбнага знаёмства ў гэтай сферы, ні дастатковай колькасці грошай, каб трымаць хоць які персанал. Сваю маленькую кнігарню размясцілі пры вуліцы Дамініканскай, у доме пад нумарам 11. Як успамінаў Вацлаў Макоўскі, тэхнічны кіраўнік кнігарні «Эліза Ажэшка і С-ка» (на той час 25-гадовы малады чалавек, якога пані Элізе параілі ў выдавецтве «Гебетнер і Вольф», дзе яна пастаянна друкавалася), праз брудныя і закураныя шыбкі кнігарні Воўка і Раманоўскага тытулы кніг разабраць было нельга. За прадаўшчыцу там сядзела, дэманструючы «бураковы румянец», Аляксандра Манюшка, швагерка вядомага кампазітара. На пытанне Макоўскага, ці ёсць у продажы кніжка «Пан Тадэвуш», пасля шматразовага ўдакладнення з яго боку, што аўтарам з'яўляецца Адам Міцкевіч, адказ быў такі: «Няхай возьме пан лесвічку, прыставіць яе да печкі і там, уверсе, на палічцы, мо пан і знойдзе, што яму трэба».



Эліза Ажэшка.

Пакінем пакуль гэтую кнігарню і звернем увагу на маладога чалавека «з галавою і сэрцам» — Вінцэнта Хэлмінскага. Ідэя ўтварэння кнігарні належала менавіта яму — 29-гадоваму «запалёнаму літаратару, які навязваў кантакты з дэмакратычнымі сферамі ў Вільні». Спачатку ён вучыўся медыцыне, пасля, з-за эканамічных праблем у сям'і (бацька яго браў удзел у паўстанні 1863 года і быў высланы ў Сібір, засталіся сястра і маці), «перакінуўся» на атрыманне бухгалтарскай адукацыі, і яго прынялі на працу ў Слуцк, да князя Вітгенштэйна. У 1878 годзе тое ўпраўленне, у якім ён працаваў, было перанесена да Вэрак, ад якіх Вільня зусім ужо блізка. Тут і ўзнікла ідэя стварэння кнігарні.

Але пан Вінцэнт разумеў, што «пацягнуць» такую справу магчыма толькі разам з кімсьці вельмі смелым і вельмі неабыякавым да культурнага жыцця мясцовасці. Хто гэта мог быць? Чаму б



Вацлаў Макоўскі.

не пані Эліза Ажэшка, аўтарка на той час ужо надрукаваных і чытаных «Марты», «Пана Грабы», «Сям'і Брохвічаў», «Пампалінскіх»?

Неўзабаве яны сустрэліся, і пані Эліза з вялікай ахвотай прапанавала пану Вінцэнту свой не толькі маральны, але і матэрыяльны крэдыт — частку грошай ад прададзенага маёнтка. Справу, якой запалілася не на жарт, якую палічыла вартай увагі і рызыкі, яна звязала, яе словамі кажучы, з найдаражэйшай і бадай адзінай мэтай свайго жыцця, з гонарам свайго існавання. Да таго ж яна мела сувязі ў свеце літаратурным і юрыдычным — сувязі, без якіх наўрад ці атрымалася б зладзіць нешта сапраўды паспяховае.

Каб, што называецца, «празандзіраваць глебу» на прадмет магчымасці адкрыцця ў Вільні новай кнігарні, яна звярнулася ў Пецярбург — да адваката Спасовіча, Уладзіміра Данілавіча. Асоба яго цікавая, дзеля яе можна нават адступіць ад асноўнай лініі. Уладзімір Данілавіч нарадзіўся ў Рэчыцы, у сям'і доктара медыцыны. Вучыўся ў Мінскай гімназіі, пасля паступіў у Пецярбург вучыцца на юрыста. Стаў там прафесарам, пачаў выкладаць. За адну і тую ж кніжку — «Падручнік крымінальнага права» — атрымаў ступень доктара права і адначасова быў абвінавачаны ў распаўсюджванні «варожых тэорый» (такое бывае). Спасовіч лічыў, што злачыннасць ідзе ад недасканаласці грамадства і дзяржаўнай улады. Выступаў супраць смяротнага пакарання, крытыкаваў чыноўнікаў за няведанне народа і яго мовы, прапагандаваў павагу да чужых меркаванняў. Дастаеўскі спісаў з яго абаронцу правоў Міці Карамазава, а Рэпін напісаў яго партрэт.

Гэты самы Спасовіч высветліў, што новую кнігарню ў Вільні адкрыць нельга. Але можна павесці справу інакш: пані Эліза проста можа набыць, перааформіўшы на сябе, якую-небудзь ужо існуючую кнігарню. Такой і стала кнігарня Воўка і Раманоўскага — тая самая, з бруднымі шыбкамі.

Разам з назвай памянялі і адрас: выбралі памяшканне на Святаянскай, у доме Вебера, больш выгоднае, з лепшымі вокнамі, якія маглі стаць вітрынамі. Ад старой фірмы засталіся, аднак, два супрацоўнікі — Стэфан Раманоўскі і Аляксандра Манюшка (апошняя, праўда, трошкі пазней недзе знікне — у далейшых успамінах фігураваць ужо не будзе).

24 ліпеня 1879 года Эліза Ажэшка атрымлівае пасведчанне аб адкрыцці (у супольнасці з названымі асобамі) не толькі кнігарні, але і бібліятэкі: кнігарні з правам гандлю кніжкамі на ўсіх мовах, акрамя яўрэйскай, і бібліятэкі з правам трымання ў ёй кніжак на ўсіх мовах, акрамя польскай.

Але чым была кнігарня ў тагачасным разуменні слова і з'явы? Прынамсі, у Элізы Ажэшкі і суполкі? Гэта дакладна не кніжная крама, як можна падумаць. З улікам бібліятэкі можна сказаць, што гэта была кніжная крама, чытальная зала, бібліятэка, рэдакцыя і выдавецтва — пяць у адным. Пані Эліза працавала як заснавальнік, дырэктар, рэдактар, выдавец, маркетолаг і рэкламны агент адначасова: трэба было замаўляць творы, мастацкія і публіцыстычныя, пішучы рэгулярна лісты розным аўтарам, дадаючы ім натхнення і штурхаючы іх напамінамі; усталёўваць стасункі з друкарнямі і гандлярамі, дамаўляючыся пра друкаванне кніг і набываючы для продажу не толькі чужыя выданні, але і фотаздымкі, рэпрадукцыі; складаць спісы будучых уласных выдавецкіх серый, даваць рэкламныя публікацыі ў прэсу, замаўляць друк рэкламных праспектаў і распаўсюджваць пры дапамозе розных часопісаў (пры гэтым улічваючы, што, напрыклад, у Літве лепшая пара́ для рэкламы — гэта вясна з яе кірмашамі, «а ў Каралеўстве — час па вакацыях»); а яшчэ — сачыць за канкурэнтамі і адбівацца ад крытыкаў, абараняючы ўласнае імя, рэгуляваць прыбыткі і расходы, і ўсё гэта — не выязджаючы з Гродна. «Я жыць у Вільні не магу, — пісала пані Эліза ў чарговым лісце, — але Хэлмінскі ўвесь час там, мае бухгалтарскую адукацыю і дасведчаны ў літаратуры, значыць, кантроль над адміністрацыйным бокам прадпры-

емства і карэкцыяй выданняў будзе належаць яму. Мая справа — абдумваць і ўпарадкоўваць выданні». Ад партнёраў у Вільні яна будзе атрымліваць кожны тыдзень справаздачы і раз на месяц — фінансавыя падрабязнасці.

Трохі непакоілі яе гэтыя партнёры — «адзін экстрафлегматычны, другі ультрахалерычны, адзін паўзе, як чарапаха, другі нясецца, як лакаматыў». Здагадваецца чытач, пра каго гэта? Першы — безумоўна, настаўнік музыкі Раманоўскі, не дзіва, што ў папярэдняй кнігарні ў яго нічога не атрымалася. Другі — канечне, Хэлмінскі. На здымак гэтага чалавека хочацца глядзець доўга: глядзець і ўяўляць яго жывым, дынамічным. На шчасце, быў у кнігарні трэці — «міратворац» Макоўскі. На здымку ён  выглядае больш «сціплым», чым пан Вінцэнт. Дарэчы, сястра Вінцэнта Хэлмінскага Апалонія пойдзе замуж за Вацлава Макоўскага, стане Апалоніяй Макоўскай і шмат што пра ўсю гэтую гісторыю з кнігарняй раскажа Стэфану Росяку, польскаму гісторыку, які народзіцца праз пятнаццаць гадоў пасля гэтых падзей і за даследаванне ўсіх акалічнасцей атрымае ступень доктара навук. Я ж пішу гэты артыкул, зазіраючы ў тэкст пана Росяка, зайздрошчу яго дасведчанасці і мару пра сябе, каб раптам высветлілася, што пан Росяк даследаваў не ўсё.

У нядзелю, 16 (28) верасня, адбылося ўрачыстае адкрыццё кнігарні, на якое былі запрошаны (каб не выклікаць ніякіх падазрэнняў — ні ў нелегальнасці выдавецкіх мэт, ні ў атэістычным ухіле суполкі) ніяк не меней за тры сотні гасцей: акрамя «цывільных асобаў», якія прыйшлі, бо прытрымліваліся такіх самых паглядаў, як і заснавальнікі кнігарні, прысутнічала шмат асоб афіцыйных — ад цэнзара да членаў гарадской управы, ад шэфа губернатарскай канцылярыі да ксяндза. Падчас урачыстага сняданку (трэба хіба высветліць, што там падавалі) пані Эліза сядзела паміж інспектарам друкарняў Мухіным і паліцмайстрам Власоўскім, насупраць — прэзідэнт мяста Ястржэмбскі, які нават прамовіў афіцыйныя словы. Прысутнічала і прэса, у прыватнасці, варшаўскія «Навіны» прыслалі карэспандэнта Антонія Лапатэцкага, які нарабіў трошкі шкоды, рэзюміраваўшы выступленне Ястржэмбскага словамі, у якіх паміж іншымі зычэннямі было выказана і такое: каб разумовы пажытак, якім будзе сілкаваць сваіх кліентаў новая кнігарня, паслужыў збліжэнню абодвух народаў. Канечне, гэта выклікала хваляванне.

У панядзелак, 17-га (29-га), быў распачаты гандаль, які паказаў недахоп (у параўнанні з запытамі) кніжак польскіх і выданняў на музычную тэму. Музычны аддзел стварылі хутка — ужо ў лістападзе. Увогуле, справы пайшлі. Пачалася звычайная праца, дзе больш удачлівая, дзе «з прабуксоўкай» — бізнес ёсць бізнес, у XIX ці ў XXI стагоддзі — вялікай розніцы тут няма.

Хацелася далучыць да сваёй працы як мага больш аўтараў, блізкіх духам і думкамі. Для прэстыжу замаўляліся тэксты ў пісьменнікаў з гучнымі імёнамі, і з гэтай мэтай пані Эліза звярталася нават да Юзафа Крашэўскага, на кніжках якога вырасла. Сябра Тэадор Томаш Еж абяцаў работу пра камунізм і сацыялізм, сяброўка Вільгельміна Зындрам-Касцялкоўская — пра гісторыю прамысловасці ў Літве, «аднакашніца» Марыя Канапніцкая — паэзію. Ад знаёмых навелістаў чакаліся навелкі, ад паэтаў — паэмы і вершы, ад драматургаў — камедыйкі, ад публіцыстаў — артыкулы на актуальныя тэмы. Нехта з іх меў гатовае і высылаў тэксты адразу, нехта сумленна спяшаўся пісаць, нехта або толькі меў гэта ў планах, або доўга збіраўся па прычынах занятасці іншымі справамі, або прамаруджваў з-за недахопу веры ў патрэбнасць справы… Усё, як сёння, — ні горш ні лепш.

У 1880-м задумалі выдаваць каляндар на наступны 1881-ы. Календары такога кшталту (набываюцца яны, як піша пан Росяк, нават тымі, хто нічога больш для чытання не набывае) можа памятаць кожны, хто ў апошнія гады існавання СССР меў ужо ўзрост свядомы: выпускаўся тады «Каляндар школьніка», «Маладзёжны каляндар», «Сельскі каляндар», «Жаночы каляндар», «Настольны каляндар» (я называю толькі тыя, якія з імпэтам набываліся і чыталіся ў доме маіх бацькоў (яны сапраўды прываблівалі нечым такім, што цяпер немагчыма вытлумачыць). У Літве пасля паўстання 1863 года такія календары выпускаць перасталі — гэта было забаронена распараджэннем Мураўёва. І, на думку Элізы Ажэшка, варта было аднавіць такія выданні: атрымаць на іх дазвол і пачаць друкаваць. Але перш чым друкаваць, трэба было распрацаваць змест і тэматыку, прыцягнуць аўтараў і дачакацца ад іх матэрыялаў. Пані Эліза займалася гэтым і ў час адпачынку (летняга адпачынку на Свіслачы), верачы ў тое, што праект і з камерцыйнага, і з іншых пунктаў гледжання таго варты.

Адразу, праўда, не атрымалася: праца, распачатая з мэтай выпусціць каляндар на 1881-ы, увесь час прыпынялася не з адной прычыны дык з іншай. Але на 1882-і каляндар выдалі, і не адзін, а два — «Віленскі» і «Літоўскі».

Збіраліся прасіць улады дазволіць трымаць у бібліятэцы кніжкі на польскай мове. Марылі і пра сваю друкарню — каб зусім ужо быць самастойнымі і ад друкароў незалежнымі. Хацелі, увогуле, «абплесці правінцыю сеткай дарог, па якіх плылі б пісьменнасць і мова наша пры дапамозе створаных у розных месцах кнігарскіх філій». Такое жаданне (а найбольш такая яго фармуліроўка) магло азначаць толькі адно: справа рухаецца, а тыя, хто яе рухае, пачуваюць сябе ўпэўнена і бадзёра.



Вінцэнт Хэлмінскі.

Але хмары ўжо пачалі збірацца…

Надрукавана была тым часам першая ўласнымі сіламі падрыхтаваная кніжка — публіцыстычная праца Элізы Ажэшкі «Патрыятызм і космапалітызм».

Ідэя гэтай працы ўзнікла яшчэ да існавання кнігарні. Пані Эліза шмат думала пра тое, як і чаму паняцце патрыятызму пачало абрастаць сумненнямі. Як дух крытыцызму, уласцівы часу, у сукупнасці з недахопам адукацыі і выхавання нарадзіў так званых касмапалітаў, «дзяцей свету», якія насамрэч усяму свету чужыя і сэрцамі, і сумленнем. Яны пытаюць сябе, ці не было б больш выгодна і разумна абыходзіцца без пачуццяў, і адказваюць: так, сапраўды, больш выгодна і разумна, а пачуцці маюць толькі дурні. Пачуццё абавязку яны тлумачаць прымхлівасцю. Прыводзячы шмат іншых прыкладаў, пані Эліза называе сітуацыю роспачнай для кожнага, хто гэта разумее, і лічыць сваім абавязкам «дакрануцца да праблемы пяром маім, як атрымаецца».

«Патрыятызм і космапалітызм», на які рабіліся вялікія стаўкі (выпусцілі 2000 экзэмпляраў, коштам невысокім — 1 рубель 20 капеек на звычайнай паперы і 1 рубель 30 капеек на мелаванай) — «не ішоў». Як ні рэкламавалі (і Макоўскі пісаў, што праца гэтая «не толькі дае сябе чытаць, але і думаць прымушае», і Крашэўскі хваліў) — грамадскасць не прымала гэты твор Ажэшкі так, як яна на тое разлічвала. Зняўшы з пісьменніцы арэол заслуг перад гісторыяй, грамадствам і літаратурай (толькі на час прачытання бліжэйшага сказа), скажам так: нават вельмі разумныя і таленавітыя асобы часам прытрымліваюцца памылковых пазіцый і выдаюць самыя пасрэдныя думкі за звышпатрэбныя; а яшчэ яны могуць свята верыць у геніяльнасць тых, хто, увогуле, ніякія не геніі, і ў сваім імкненні абараняць іх ад злоснай крытыкі не спыняюцца перад тым, перад чым не варта было і «разганяцца». Колькі было спісана паперы, колькі зламана пёркаў на той адкрытай палеміцы, якую пані Эліза распачала ў форме ліставання з Меетам і Макоўскім, каб «наехаць» на ўсіх крыўдзіцеляў (насамрэч аб'ектыўных крытыкаў) прац сваіх і іншых аўтараў. Ці варта было абараняць, напрыклад, працу Валерыя Прыбароўскага «Сяляне ў нас і ў іншых месцах», якую прэса (словамі самых розных аўтараў, незалежных адно ад аднаго) назвала навуковым скандалам, працай спрэчнай і з памылкамі, працай, не вартай друку і ўвагі, працай, у якой невядома чаго больш — убоства ведаў, легкадумнасці, пыхі ці святой наіўнасці.

Праўда, прычынай, па якой кнігарня «Эліза Ажэшка і С-ка» пачала выклікаць падазрэнне ўлады, было не гэта. «Разышоўшыся», адчуўшы моц, яна пачала займацца тым, што пан Росяк, чорным па белым пішучы, называе «аднаўленнем на Літве сурагату прэсы».

Праз кніжкі актуальную думку не вельмі перадасі, ці не так? Гэта заўсёды лепш атрымлівалася з дапамогай перыёдыкі. Што, калі пачаць выдаваць перыядычнае выданне, схаваўшы яго пад нявінным тытулам сатырычна-гумарыстычнага сшытка?

Першы раз атрымалася: цэнзар прапусціў, публіка раскупіла. І тым самым падбадзёрыла. Другі раз такі самы сшытак назвалі іншым слоўцам — не «Argus», а «Bodziec», хоць і з тым самым прыпісам: «Карткі сатырычна-гумарыстычныя». Трэцім разам прыпіс трэба было мяняць. Напрыклад, даць ужо «Дробязі літаратурна-мастацкія» пад назвай «Cerber». Наступным падрыхтаваны быў «Dzwonek», далей — «Eureka». Ці паспеў чытач зразумець, у чым справа? Цэнзар усё зразумеў, калі яго рука завісла над выданнем «Eureka». A, B, C, D, E… (Усё разам называлася «Alfabet»). Перыёдыка!

Генерал-губернатар Татлебен, Эдуард Іванавіч, асабіста рабіў шпацыры да кнігарні «Эліза Ажэшка і С-ка» — быццам так сабе, раз на тыдзень прыкідваўся госцем. Насамрэч зрабіў выснову, што «фірма зашмат сабе дазваляе». А гэтым часам пані Эліза пісала Ежу, што ў вечаровы час пад вокнамі яе дома ў Гродне «цягаюцца розныя падазроныя тыпы з натапыранымі вушамі». І гэта тады, калі фірма дасягнула сапраўднага росквіту, калі бывала, што паміж дзясятай раніцы і пятай вечара не здаралася ні секунды (як Хэлмінскі піша ў справаздачы пані Элізе) без пакупніка. Улады зрабілі ў кнігарні рэвізію. Іншыя віленскія кнігарні рэвізаваліся таксама. Вывучылі «генезіс» фірмы, высветлілася, што

дазвол на перарэгістрацыю кнігарні ў 1879 годзе выдаў віцэ-губернатар, што, акрамя кніг, прадаюцца тут розныя выявы, абразкі і адбіткі, калі не антыдзяржаўныя проста, то такія, што адназначна прыгадваюць «даўно мінёныя часы, калі на Літве панавалі парадкі польскія». Значыцца, фірма стала пасрэднікам у справах, якія служаць прапагандзе ранейшых парадкаў. Да таго ж «Ажэшка, упарта ідучы да сваёй мэты, абмінаючы распараджэнні мясцовых генерал-губернатараў, …здолела з дазвалення цэнзуры выпусціць у свет на 1882 год «Каляндар Літоўскі» з рознымі дадаткамі выключна на польскай мове. Акрамя таго, ёю выдадзены — насуперак параграфу 4 прадпісання пра перыядычныя выданні — літаратурна-гумарыстычны часопіс пад псеўданімам «Alfabet»…»

Так кнігарню «Эліза Ажэшка і С-ка» прызналі шкоднай і прапанавалі закрыць яе з правам распродажу кніг за межамі краю. Хэлмінскага належала выслаць на Радзіму (з якой яго нічога ўжо не злучала), над Ажэшкай — усталяваць паліцэйскі нагляд на тры гады.

23 мая 1882 года кнігарня перастала існаваць.

«Нават і падумаць не магла, што такім будзе канец нашага прадпрыемства», — пісала Эліза Ажэшка Вацлаву Макоўскаму. Зрэшты, ніякі «цёс», якім бы балючым ні быў, не дазваляў ёй «сядзець на пажарышчы мараў». І мы ведаем, што Эліза Ажэшка будзе рабіць далей, што напіша, што надрукуе, што яшчэ зрушыць з месца, каму будзе свяціць, быццам сонца ці факел.

Найболей шкода (і разумееш жа, што падзеі адбываліся за малым паўтара стагоддзя таму, а шкода літаральна да болю, як сучасніка і нават добра знаёмага) пана Вінцэнта Хэлмінскага, маладога чалавека з высакародна прыгожым тварам і незвычайным розумам у вачах. За дзень да закрыцця кнігарні ён выехаў з Вільні. Паліцыя наведвалася ў яго кватэру, дзе сустракала кожны раз толькі жонку і старэнькую маці. Сэрца апошняй ужо перажыло адну разлуку з роднай душой: яе муж, бацька Вінцэнта, быў, як я ўжо пісала, закуты ў кайданы і ў абразлівым убранні катаржніка вывезены на поўнач. Цяпер з'явіліся жандары, каб… Сэрца маці не вытрывала. Сыну дазволілі затрымацца толькі для таго, каб пахаваць яе. «А як толькі насыпана была новая магіла, — піша Стэфан Росяк, — выехаў за кошт улады да месца, адкуль вярнуўся, каб ужо толькі памерці». Гэта адбылося 28 жніўня 1887 года.

А што Макоўскі? Калі ўсе апусцілі рукі, ён працягваў дзейнічаць. Кнігі трэба было прадаць, але як? «Прадаць оптам, вывезці, утапіць, — саркастычна пералічвае Ажэшка ў лісце да Ежа магчымыя варыянты, — я была за тое, каб утапіць. Прынамсі, без клопату». А Макоўскі… «З усёй нашай грамадкі ён адзіны захаваў асабістую вольнасць і імкнецца ратаваць усё, што толькі можна», — пісала яна, называючы яго «дзельным хлопцам».

Ажэшка падахвочвала Макоўскага адкрыць новую кнігарню — на яго імя. Не атрымалася. Тады пан Вацлаў паступіў на работу да Юзафа Завадскага і працаваў у яго да 1893-га, пакуль не змог адкрыць нарэшце ўласную кнігарню. Росяк піша, што Макоўскі як мог выконваў духоўны запавет той першай для яго кнігарні.

Звычайна да любога артыкула патрабуецца завяршэнне. Што напісаць у якасці апошніх сказаў у гэтай гісторыі? Не прыдумваецца.



Karta tytułowa pierwszego numeru „Alfabetu"

Тытул першага нумара выдання «Alfabet».



Karta tytułowa ostatniego numeru „Alfabetu"

Тытул апошняга выдання «Alfabet».

# Рэха Францыска Скарыны ў сучасным свеце

*Эсэ навучэнцаў каледжаў ГрДУ і яго студэнтаў, аздобленыя фотаздымкамі помнікаў Францыску Скарыне, сабранымі выкладчыкам ГрДУ Сяргеем Марозавым*

**Вікторыя Смолка**

## Паэт і падзвіжнік

Рускі пісьменнік першай паловы ХХ стагоддзя Міхаіл Прышвін у арыгінальнай кнізе мініяцюр «Незабудкі» напісаў: «Паэзія — гэта душа подзвіга, якая ператварае прыгажосць у дабро…». І справа не толькі ў тым, што паэзія разумеецца як філіграннае вершаскладанне. Найперш паэзія выступае як наватарства — усё тое адметнае, свежае, прагрэсіўнае, што мае здольнасць адрадзіць «найдаражэйшыя скарбы — чалавечыя словы, натхнёныя Богам і выслаўленыя для Бога». Асацыятыўна паэзія і подзвіг звязаны не толькі знешне-гукавым, але і ўнутрана-сэнсавым аблiччам. Таму наогул правільна лічыць, што паэт-наватар — гэта падзвіжнік, а паэзія — падзвіжніца. Якраз падзвіжнікам у беларускім і сусветным мастацтве і паўстае Францыск Скарына, паўстае «ў добрых справах і любасці», паглыбляючыся «ў затоеную мудрасць» і раскрываючы яе моц, золата, ядро.

Але згадваць пра Скарыну-паэта выключна створанымі акравершамі-акафістамі і перайсці да наступнага напрамку дзейнасці майстра недастатковa ды, напэўна, немэтазгодна. Бо як забыцца на паэта-філосафа, што «падымае пытанне і на пытанне шукае адказ», на паэта-лекара, што вынайшаў раней не вынайдзенае, а менавіта «лекі душэўныя і цялесныя», паэта-праваабаронцу, што сабраў пад кніжнай вокладкай «усе законы і правы, якімі карыстаюцца людзі ў зямным жыцці», паэта-ювеліра, што бачыць «золата ў зямлі» і, нарэшце, мудрага паэта-настаўніка, пасланага да людзей паспалітых для добрага навучання. Цікава яшчэ, што паэт, думаючы пра сваё і разважаючы па-свойму, умее клапаціцца пра развагі і думкі іншых, бо менавіта ў чалавеку знаходзіць «сялібу сваёй любові». Ды нават не проста клапоціцца, а марыць мець такі клопат навечна. Інакш як можна пракаментаваць вершаваны твор «Мара Скарыны» славутага Ніла Гілевіча, дзе лірычны герой адчыняе брамку да так званай сялібы любові, паказваючы сапраўдны неабмежаваны дыяпазон скарынаўскай мары: «простаму люду ў роднай краіне зрабіць даступнай мудрасць вякоў».



Помнік Ф. Скарыне ў Вільнюсе.

Але чаму ж так спяшаецца геній спраўдзіць подзвіг сваёй мары, чаму ж яна «б'ецца роспачна птушкай у клетцы» і губляецца ў цемры? А менавіта таму, што «канец чакае і добрых людзей, і благіх, і праведных, і ліхадзеяў»... Але ці можа быць канец памяці народнай, калі «душа подзвіга», як і кожная іншая душа на свеце, бессмяротная?!

*Друкарскі подзвіг Францыска Скарыны, праз які ўсходняе славянства сягнула вышынь еўрапейскай культуры, ушанаваны, акрамя іншага, у вечных матэрыялах — камені і бронзе. Помнікі і мемарыяльныя шыльды яму ўстаноўлены ў Беларусі (Полацку, Мінску, Лідзе), а таксама ў гарадах і краінах, з якімі беларускага асветніка звязаў лёс (Вільні, Празе, Кракаве, Падуі, Калінінградзе). Устаноўленыя на працягу 1970-х — 1990-х і першай паловы 2000-х гадоў помнікі перадаюць наступным пакаленням інтэлектуальны пасыл асветніка XVI стагоддзя: «Бярыце кнігу, чытайце!» Гэтыя месцы памяці выклікаюць пачуццё гонару за Беларусь, якая праз асобу Скарыны была ўключана ў агульнаеўрапейскую культурную прастору, і злучаюць народы.*

*Сяргей Марозаў*

**Кацярына Садкоўская**

# Пачаткі ўсіх нашых пачаткаў



Помнік у Калінінградзе.

Тытан эпохі Адраджэння, заснавальнік кнігадрукавання ва Усходняй Еўропе, Скарына не толькі наш першы доктар навук — ён першы беларускі ўніверсітэт. У яго творчай спадчыне — пачаткі ўсіх нашых пачаткаў, бо ён і філосаф, і філолаг, і гісторык, і эстэтык, і педагог, і батанік, і медык.

У тым, што мы ёсць сёння як нацыя і грамадзяне, вялікая заслуга Францыска Скарыны. Без яго ўсведамленне нас як нацыі і народа ў свеце было б праблематычным.



Помнік у Лідзе.

Скарына стварыў і пакінуў сваім нашчадкам кнігі, у якіх засталіся яго глыбокія думкі. Яны не страцілі сваёй актуальнасці і ў наш час. Ідэі вялікага вучонага-асветніка сталі нашай нацыянальнай рэліквіяй, духоўным скарбам, сведчаннем магутнасці нашай старажытнай культуры. «Любіце кнігу, бо яна — крыніца мудрасці, ведаў і навукі, лекі для душы», — такі запавет пакінуў нам Францыск Скарына.

Мне думаецца, што мы яго так і не ацанілі па-сапраўднаму. Хто ў гэтым вінаваты? Гісторыкі, літаратуразнаўцы, культуролагі, якія закрывалі вочы на тое, што менавіта на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага з'явілася першая друкаваная кніжка на ўсходнеславянскіх землях. А хто ведае дакладна, па якой прычыне ён пакінуў свой край, Полацк, Радзіму назаўсёды? Па сутнасці, Скарына стаў эмігрантам. Мы не думаем, што ён мог бы зрабіць значна больш, калі б жыў у краі сваім, працаваў прафесарам-лектарам або лекарам, складаў дзяржаўныя законы. Чаму так сталася, што многія дні яго прайшлі за мяжой, на чужыне, пры двары чэшскага караля? Выдатны




Помнік у Празе.



Помнік у Мінску каля будынка БДУ.



Помнік у Мінску каля Нацыянальнай бібліятэкі.



Помнік у Полацку.

асветнік займаўся вырошчваннем ружаў. Вядома, гэтая справа таксама патрэбная і карысная, але на той час Францішак Скарына мог зрабіць значна болей. Нагадаю, што свае кнігі вялікі асветнік адрасаваў «людзям паспалітым дзеля добрага навучання», нам з вамі. І мы павінны пра гэта помніць. Па 150 псалмах дзеці беларусаў у старажытныя часы дзякуючы Скарыне вучыліся грамаце. «Малая падарожная кніжыца» вяла вандроўнікаў у дарогу, узбагачала іх звесткамі пра месяцы, дні, зорнае неба, розныя прыродныя з'явы. Так кнігі Скарыны сталі настольнымі для народа. Праз іх людзі спазналі свет шырэй і глыбей. Таму і завём мы Скарыну асветнікам. Асветнік — ад слова «святло». Святло ў нашым паходзе наперад запаліў некалі Францыск Скарына са слаўнага горада Полацка.

А сэрца шчыміць: як так здарылася, што слаўны сын беларускага народа і ўсяго ўсходняга славянства сёння не з намі — не на нашых могілках? Чаму дагэтуль мы не перанеслі яго прах на Бацькаўшчыну, як і прах іншых слаўных сыноў Беларусі?

**Дар'я Бандарук**

## Рэха — адлюстраванне гуку

Рэха — адлюстраванне гуку, адна з самых загадкавых з'яў у свеце. Месцам свайго з'яўлення яно выбірае прастору, дзе можа праявіць сябе на поўную моц. Ці не дзіва гэта, калі з ледзь чутнага гуку нараджаецца гук магутны і шматгалоссе, якое чуваць далёка? Рэха, як любая прыродная з'ява, валодае і стваральнай, і разбуральнай энергіяй. Усё залежыць ад мэты.

Наш славуты зямляк Скарына падобны да рэха. Маленькі чалавек жыў і займаўся любімай справай. Але яго дзейнасць атрымала шырокі рэзананс у свеце, маштабы рэха творчасці нашага продка дакаціліся і да нашых дзён. І, напэўна, гэтым яны не абмяжуюцца.

Чаму ж гэты чалавек, які жыў у эпоху Адраджэння, зрабіў са свайго імя легенду, а яго дасягненні сталі не проста рэхам-гукам, але рэхам матэрыяльным?

Першапачаткова ён вучыўся ў Полацку, у школе манахаў-бернардынцаў, потым атрымаў адукацыю ў Кракаўскім універсітэце, здаў экзамен на званне доктара медыцыны ў Падуанскім універсітэце. У актавых запісах апошняй адукацыйнай установы

значыцца, што Францыск Скарына «вельмі вучоны бедны чалавек», аднак годна вытрымаў іспыт. Старонка-рэха гэтай часткі яго біяграфіі дазваляе паставіць яго прыкладам для сучаснай моладзі. Яго шлях да адукацыі быў доўгім і ў прасторавым, і ў часавым вымярэнні.

Наступная важная старонка дзейнасці Скарыны — кнігадрукаванне. Тут рэха нашага продка набывае новыя маштабы. Гэта звязана з многімі фактарамі. Францыску, сыну Лукі з Полацка, пашчасціла нарадзіцца і дзейнічаць у эпоху Адраджэння — час развіцця навук, мастацтва і рамёстваў, аднаўлення цікавасці да Антычнасці, увагі да чалавека, яго свабоды і магчымасцей, развіцця ідэй асветніцтва і гуманізму. Рэха яго імя гучыць побач з рэхамі імён Магелана, Калумба, Мікеланджэла і Петраркі.

У кнігавыдавецкай скарбонцы Скарыны — дваццаць тры кнігі «Бібліі». У той час кнігадрукаванне было наватарскай, складанай дзейнасцю, якая патрабавала грунтоўных ведаў, вялікіх сродкаў і надзвычайнай смеласці. У гэтай сферы наш суайчыннік стаў сапраўдным майстрам сваёй справы. Рэха яго ўзорных выданняў набывала моц гучання адразу пасля іх з'яўлення, пра што сведчаць арнаментальныя матэрыялы Віленскай друкарні Скарыны да 1652 года, якія выкарыстоўваліся ў выданнях найбуйнейшай беларускай друкарні — Віленскай брацкай друкарні і яе філіяла — Еўеўскай друкарні, а некаторыя пражскія ініцыялы сустракаюцца ў выданнях Астрожскай друкарні ва Украіне ў канцы XVI стагоддзя.

Доўгі час у сферы лінгвістыкі вялася дыскусія наконт мовы твораў беларускага першадрукара. Зноў выразна гучыць скарынаўскае рэха: пераклады Бібліі напісаны ў беларускай рэдакцыі царкоўнаславянскай мовы, дзе бачны пэўны ўплыў гутарковай беларускай, чэшскай і польскай моў. Наша краіна мае поўнае права ганарыцца, бо Скарына стаў першым на ўсходнеславянскіх землях друкаром, а значыць, беларускія словы былі надрукаваны першымі.

Рэха патрыятычных поглядаў Скарыны здзіўляе і сёння сваёй пранікнёнасцю і глыбінёй: «Понеже от прирождения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя, птици, летающие по воздуху, ведаюць гнёзда своя; рибы, плавающие по морю и в реках, чують виры своя; пчёлы и тым подобная боронять ульев своих, — тако ж и люди, и где зродилися и ускормлены суть по Бозе, к тому месту великую ласку имають». Менавіта гэтымі радкамі можна патлумачыць палкае жаданне Скарыны служыць свайму народу.

Рэха асобы Францыска Скарыны мы знаходзім і ў літаратурнай дзейнасці. Ён значна пашырыў межы і магчымасці традыцыйных літаратурных жанраў — прадмоў, сказанняў і пасляслоўяў. Са старонках яго прадмоў і сказанняў перад чытачом паўстаюць яркія і запамінальныя вобразы рэальных гістарычных асоб — цара Саламона, Юдзіфі, Аляксандра Македонскага, філосафа Філона, апосталаў Пятра і Паўла. Скарына акцэнтаваў увагу пераважна на дзейнасці гістарычных персон, паказваў значнасць іх спраў і веліч учынкаў. Узорам сапраўднага асветніка стаў створаны Скарынам вобраз егіпецкага цара Пталамея Філадэльфа: «Таковый убо был милосник наукы и мудрости, иже болей избрал оставнти в науце и в книгах вечную славу и паметь свою, нежели во тленных великих царскых сокровищах».

Беларускі першадрукар выявіў сябе і на ніве паэзіі. Ён аўтар вершаў, гімнаў, акравершаў. Паэтычныя радкі стваралі ўзнёслае ўспрыманне ўсёй кнігі, абуджалі эмоцыі і глыбокія пачуцці, рыхтавалі чытача да сустрэчы з незвычайным, таямнічым, прыгожым. Яго паэтычныя радкі не губляюць актуальнасці і сёння:

Богу въ Троици единому ко чти и ко славе,
Матери его Пречистой Марии к похвале.
Всем небесным силам и святым его к веселію,
Людем посполитым к доброму научению.

Рэха Францыска Скарыны чуецца ў розных кутках планеты. Яго імя, як рэха, паўтараюць нашчадкі. Помнікі яму ўстаноўлены ў Полацку, Лідзе, Мінску, Вільнюсе, Калінінградзе і Празе. Імем Францыска Скарыны названа малая планета Сонечнай сістэмы. Дзяржаўныя ўзнагароды Беларусі — медаль Францыска Скарыны (1989) і ордэн Францыска Скарыны (1995) — таксама носяць яго імя. Жыццё і дзейнасць Скарыны вывучае комплексная навуковая дысцыпліна — скарыназнаўства. І гэта ўсё сведчыць, што рэха Францыска Скарыны будзе гучаць вечна.

Ірына Клышэўская

# Гартаючы старую прэсу

У 1910 годзе «Гродненские Епархиальные Ведомости» у чатырох нумарах надрукавалі артыкулы, прысвечаныя барацьбе з п’янствам. Тры «Поучения о вреде пьянства» надрукаваны ў Вялікі пост, артыкул «Пора это оставить!» — у Калядны. Тэксты гэтыя выдатна самі сябе дапаўняюць: павучанні свяшчэнніка, які падпісаўся літарай Б, і аналітычны артыкул галоўнага рэдактара газеты «Сельский Вестник».

Я перачытваю «Поучения о вреде пьянства», і здаецца мне, чую праз стагоддзе мяккі голас невядомага мне бацюшкі. Пачынае ён свае развагі з пытання, ад чаго варта ўстрымацца хрысціяніну падчас посту: ці толькі ад скаромнай ежы? Не, не толькі. Ёсць яшчэ і напой, ад якога сапраўднаму хрысціяніну варта ўстрымлівацца ўвесь час. Віно і водка нараджаюць п’янства — «этот страшный омут, эту ужасную болезнь, от которой гибнут тысячи человеческих жизней. Ни в одном море, ни в одной реке не погибло столько жертв, как в нём; ни одна самая ужасная болезнь – оспа, чума, даже холера не унесла в могилу столько жизней, как эта страшная болезнь – пьянство. Тонут в этом омуте, *гибнут от этой болезни отцы семейств, заставляя жён и детей своих захлёбываться слезами, тонут старцы,* забывая про вечер своей жизни, про близость суда Божия; тонут юноши, безумно губя цвет и свежесть своих душевных и телесных сил, забывши уважение и благодарность к родителям, свои обязанности пред семьёй, пред отечеством … Но что особенно ужасно – волны этого омута поглощают подростков, даже детей!»

Такія горкія словы, надрукаваныя ў 1910 годзе, можна друкаваць і сёння, ці не так?

А вось са старонак «Ведомостей» гучыць голас чалавека, які прывык абапірацца на лічбы і факты, голас спакойны і цвёрды. Рэдактар «Сельского Вестника» прыводзіць статыстычныя даныя пра тое, колькі і якіх злачынстваў учынена ў нецвярозым стане, паказвае, як п’янства скарачае жыццё і павялічвае колькасць хвароб, як алкагалізм уплывае на патомства.

Добры вясковы бацюшка у трэцім «Поучении» бядуе, што вельмі ўжо шмат выпадкаў для апраўдання сваёй слабасці знаходзяць людзі: «…пьют с горя, пьют с радости, пьют для праздника, пьют при крестинах, свадьбах, похоронах, при встрече с дороги, на дорожку, при покупке, при сходах, с холода, для желудка и тому подобное».

На думку галоўрэда «Сельского Вестника», поспех у барацьбе з п’янствам абумоўлены, перш за ўсё, усведамленнем насельніцтва, што з гэтай заганай трэба заканчваць, што прапіваецца розум, воля, праца, уласная будучыня на зямлі і, па словах апостала Паўла, само Царства Нябеснае. Аўтар падкрэслівае выключную ролю духавенства. «Если наше духовенство не станет во главе движения, если из уст его не польются глаголы, жгущие сердца людей, то явятся другие проповедники; народ, жаждущий живой веры, пойдёт за ними, и слово «трезвенник» сделается однозначащим с сектантством, а духовенство растеряет свою паству».

Гэта цытаты з артыкула 1910 года. Дзеля эксперымента паспрабуйце падчас святочнага застолля адмовіцца ад алкаголю — і вас абавязкова спытаюць: «Ты што, у баптысты запісаўся? Не? Значыць, хварэеш?» П’янства ж не ўспрымаецца як хвароба, а наадварот, поўнае ўстрыманне ад алкаголю лічыцца нечым ненармальным, нездаровым…

Нам цяпер трошкі наіўнымі здаюцца спробы тых барацьбітоў за народную цвярозасць. «Тут нужна лишь твёрдая решимость самому показать пример и навсегда*, сразу отрешиться от употребления водки и вина. Народ, погрязший в ложных понятиях об угощении, сначала будет коситься на непьющего батюшку, но скоро привыкнет и* получит высокое к нему уважение … Поступок поведёт к привычке*, а характер создаст человека в полном* христианском смысле этого слова».

Вось пра што марылі ў 1910 годзе, на што спадзяваліся, дзеля чаго натхнёна працавалі лепшыя грамадзяне краіны. Праз сто гадоў нам варта было б задумацца: што тут пайшло не так?


Гродненскія Епархіальныя Ведомости
Выходятъ по воскресеньямъ.
ЕЖЕНЕДѢЛЬНО
Годъ XII-й. 15-го Іюля 1912 г. №№ 28 и 29.
ОТДѢЛЪ ОФФИЦІАЛЬНЫЙ.
РАЗРЯДНЫЙ СПИСОКЪ
учениковъ Жировицкаго духовнаго училища составленный послѣ годичныхъ испытаній, бывшихъ въ м.м. маѣ и іюнѣ 1912 года.
IV классъ.
Разрядъ I-й.



**«Нашы Руіны»**
**Аўтарскі праект Уладзіміра Цвіркі**

Гродзенская вобласць, Іўеўскі раён, вёска Жамыслаўль.
Палац Умястоўскіх, 1877 год.

У кожным нумары часопісаў «Маладосць» і «Бярозка». Поўны камплект выяў будзе мець той, хто чытае абодва выданні.

